

Мікола Панькоў (1911—1995)

## Зьмест

# *Сувой жыцьця Міколы Панькова*

Калі Народ твой у бядзе
і верных мала разам зь ім —
тады зьявіся — хоць й адзін,
скажы ўсім гучна: „Я Твой сын!“
*Мікола Вольны*[1]

Нашая эміграцыя можа праўна ганарыцца палітыкамі й пісьменьнікамі, мастакамі й навукоўцамі. Але адчувальны прагал, характэрны, бадай, для любога грамадзтва, ня толькі беларускага й ня толькі на эміграцыі, — нястача культурнікаў. Іх праца менш заўважная, пра іх рэдка згадваюць, нават карыстаючы зь іхнага плёну, імёны падмяняюць абагульненым *выдавец, укладач.*

Пра Міколу Панькова (12.06.1911—7.01.1995) лепш за ўсё гавораць абраныя ім псэўданімы: М. Вольны, М. Лістападавец, Летапісец, Ня–Кніжнік, Не–Паэта, Ул. Сакол, М. Крэнь. У іх — ня толькі нацыянальныя пачуцьці, бачаньне сябе ў сусьвеце, вольным сусьвеце, але й разуменьне сябе ў беларускім грамадзтве, сваёй ролі.

Біяграфічных дадзеных пра Міколу Панькова захавалася мала: больш клапаціўся аб захаваньні памяці пра іншых. Ведама, што нарадзіўся ён у Дзьвінску і яшчэ ў школьныя гады далучыўся да нацыянальна–вызвольнага руху — быў сувязным паміж родным горадам і Коўнам, вазіў ліставаньне й друк беларускіх эсэраў.

У той маласпрыяльнай для беларускага выхаваньня атмасфэры Міколу пашанцавала на настаўнікаў — Сяргея Сахарава й Кастуся Езавітава. Менавіта тады пачалося й зацікаўленьне бібліяграфіяй, калі пад кіраўніцтвам С. Сахарава, дырэктара Дзьвінскай беларускай гімназіі, у 1927 годзе быў закладзены гурток, мэтаю якога сталася складаньне каталёгаў, рэгістрацыя выданьняў Заходняе Беларусі. Праца тая, распачаўшыся аднойчы, ужо не спынялася ані вайною, ані лягерамі ДП, ані эміграцыяй. У 1952 годзе Крывіцкім Навуковым Таварыствам Пранціша Скарыны быў надрукаваны „Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945—1950 гг.“[2], укладзены Паньковым. Папярэдне быў падрыхтаваны „Паказчык беларускіх выгнанскіх друкаў: чэрвень 1945 — 1 лістапада 1948 г.“. У рукапісе застаўся паказьнік „Беларуская прэса: 1862—1955 гг.“, дзе была зроблена спроба ўлічыць усе друкі, пачынаючы ад „Мужыцкай Праўды“.

Мікола Панькоў быў адным з арганізатараў і выдаўцоў „Кнігі ахвяраў бальшавізму. Цярністы шлях беларускае культуры. Кніга 1“ (Выданьне СБЖ[3]. 1950) і аўтарам прадмовы:

> *„Кніга гэтая — толькі першая проба ўлажэньня хоць частковага сьпісу ахвяраў бальшавізму ды іншых акупантаў нашае Бацькаўшчыны. Ахвяры гэтыя незьлічальна вялікія й ня мае значаньня падаваць лічбы высланых, закатаваных, расстраляных і загінуўшых бязь сьледу мільёнаў. І гэтыя лічбы стала павялічваюцца, растуць амаль штодня, і мы добра ведаем, як пакутуюць нашыя бацькі, браты й сёстры, засталыя па той бок зялезнае заслоны.*
>
> *Мы сьведамыя, што й па сяньня ноч пануе над нашай Бацькаўшчынай, нязнаныя магілы растуць. Мы поўнасцю сьведамыя незьлічальнасьці ахвяраў і пакутаў нашага народу: мільёны закатаваных, забітых у скляпеньнях МВД, мільёны палёгшых сьмерцю харобрых.*
>
> *Мы сьведамыя, што гэтыя ахвяры прынесеныя ў змаганьні „каб жыла Бацькаўшчына“, і таму заўсёды павінны памятаць аб іх, бо і мы тут апынуліся не дзеля асабістае бясьпекі й дабрабыту, а для барацьбы. Але ў кажнага змагара бываюць хвіліны, калі асабліва балюча адчуваецца палыновасьць гэтых прадчасных стратаў. І тады ўваччу ўстаюць яны — знаныя й нязнаныя сыны Радзімы — з концаў, з турмаў і катавальняў, і сваімі пакутамі–крывёй клічуць да сумленьня сусьвету й помсты катам.*
>
> *Нашае вандраваньне па сьвеце, частыя сустрэчы з чужаземцамі й значная нястача пэўнае інфармацыі аб нашай справе й барацьбе за аднаўленьне вольнае й самабытнае гаспадарственнасьці змусіла нас узяцца за гэтую справу збору матар'ялу аб пакутах нашага народу й яго незьлічоных ахвярах.*
>
> *Заклікаем усё нашае грамадзянства, усіх дзеячаў і працаўнікоў нашага вызвольнага руху ўважліва прагледзіць гэты сьпіс і надаслаць нестаючыя весткі, як аб ужо дадзеных тут ахвярах, так і аб іншых Вам ведамых. Паданыя тут блізу 200 імёнаў. Абавязак перад Бацькаўшчынай і ахвярамі ды адказнасьць перад культурным сьветам патрабуюць зрабіць усё магчымае неадкладна. Верым, што кажны з нас унясе сваю долю й супольнымі сіламі мы хоць часткова выканаем свой абавязак перад нашчадкамі.*
>
> *Разам прапануем прыняць і ўсталіць дзень 21 ліпеня — Днём Памяці Загінуўшых лепшых сыноў Бацькаўшчыны абавязковым для ўсяе нашае сьведамае эміграцыі, па прыкладу ўсіх культурных народаў“.*

Трэба адцеміць, што пераважная большасьць зробленага М. Паньковым распаўсюджвалася або ў рукапісах, або ў 2—3 копіях машынапісу. Напрыклад, чатыры выпускі альманаху „Этапы“ (Oldenburg—Wentorf–Cuxhaven—Lesum—Bremen, 1944—1950), зьместам якога былі творы, артыкулы, зацемкі самога Панькова. Сьпіс пэрыёдыкаў, заснаваных ім, можа зьдзівіць і сёньня, прычым ня толькі колькасьцю, але й сваім

тэматычным багацьцем: „Абежнік Беларускага Дапамаговага/Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне Брытанскае зоны“, „Абежнік Саюзу Беларускіх Журналістых“, „Баявая Ўскалось!“, „Беларус на чужыне“, „Вольнае слова: Бюлетэнь Саюзу Беларускіх Журналістых“, „Выгнанец: Беларускі рукапісны тыднёвік“, „Дакуманты і факты: Архіў беларускага нацыянальнага вызвольнага руху“, „Кагарка: Месячнік крывіцкай думкі“, „Кнігапіс беларускага друку“, „Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі“, „Мэта: Часапіс літаратуры—навукі—грамадзкасьці“, „Нарач: Літаратурна–грамадзкі крывіцкі часапіс“.

Наагул, культурніцтва Панькова праяўлялася найперш у неспатольным жаданьні засяліць эміграцыйную прастору друкамі, самымі разнастайнымі. Гэтаму ўражальнаму даробку ў 1947 годзе (год–паўтара ўсяго, як М. Панькоў быў у Нямеччыне!) газэта „Бацькаўшчына“ прысьвяціла адмысловы артыкул „«На чыстым аркушы» або рэдкі фэномэн «Рукапіснага друку»“[4]:

*„Чытач, пэўна, памятае прыгожы верш Максіма Багдановіча — «Перапісчык»:*

*На чыстым аркушы, прад вузенькім вакном, Прыгожа літары выводзіць ён пяром...*

*...Вось перад намі— прывезенае з ангельскае зоны цэлае бярэмя зусім рукапісных, літаральна ад рукі, сярэднявечным спосабам пісаных і перапісаных беларускіх выданьняў. Сярод іх рукапісныя газэты, якія выходзілі рэгулярна, зьмяняючы толькі часам свой фармат, у залежнасьці ад паперы, і назовы — у залежнасьці ад абставінаў: «Адгалоскі» (3 нумары), «Алярм» (8 нумароў), «Беларус на чужыне» (5 нумароў), «Далі» (2 нумары), «Пералом» (4 нумары), «Раздарожжа» (2 нумары), «Уцякач» (6 нумароў) — усе газэты 1945 г., іхны працяг — «Выгнанец» (16 нумароў за 1945 г. і 23 нумары за 1946 г.), ягоны працяг — «Аглядчык» (44 нумары за 1946 г. і 18 нумароў за 1947 г.). [...] Апрача газэтаў тут жа й рукапісныя часапісы–журналы: «Кагарка — «Месячнік крывіцкае думкі», які арыгінальна выходзіў (лепш у гэтым стылі — «вылятаў») не нумарамі, а «ўзьлётамі», «Нарач» — таксама не нумарамі, а «хвалямі», і нарэшце — таўшчэзнымі сшыткамі — «Мэта», часапіс «літаратуры—навукі—грамадзкасьці» (7 нумароў за 1946 год і 5 за 1947). Тут жа ў маленечкіх «кантычках» — таксама ад рукі — «Бібліятэка сучаснасьці», сярод выпускаў якое — патрэбныя й цікавыя нашаму чытачу рэчы (прыкладам, № 12—13 — «Праўда аб Маскве» — урыўкі зь ведамае кнігі калішняга амэрыканскага пасла ў СССР Уільяма Буліта)*[5].

*Перакідаючы балоны ўсіх гэтых выданьняў, дзівішся багацьцю й разнастайнасьці матар’ялаў у іх. Тут і шырокая ды сыстэматычная інфармацыя і зь міжнароднае палітыкі, і з Бацькаўшчыны, і зь літаратуры, з навукі й тэхнікі, тут і арыгінальныя й цікавыя собскія праблемныя артыкулы, тут і мастацкія творы, найбольш апавяданьні, як арыгінальныя, так і перакладныя, тут і крытыка ды інш. Усё гэта выпісана–перапісана акуратненькімі, добра чытэльнымі, запраўды «прыгожа выведзенымі пяром» літарамі ды наверх — аздоблена ня толькі выразанымі з друкаваных часапісаў ды наляпляныымі ілюстрацыямі, а й собскімі — ізноў ад рукі — арнамэнтацыямі, запраўды па–мастацку выкананымі — зноў жа, як у таго «Перапісчыка», — «усякімі цьвятамі, разнакалёрнымі галоўкамі зьвяроў і птух нябачыных, спляценьнем завіткоў... шматхварбныя застаўкі і канцоўкі, і загалоўкі ўсе». [...]*

*А паспрабуйце цяпер хоць із большага ўявіць сабе, колькі працы мусілі ўлажыць гэтыя рукі — запраўды залатыя рукі, колькі часу й вытрываласьці ў добра знаных усім лягерных абставінах (дый яшчэ ж у чужым і непрыхільным лягеры) гэта патрабавала? Бо рабілася ж яно не ў цішыні кляштарных келятак даўлетных «перапісчыкаў», калі запраўды было, што «няма куды сьпяшыць» і «нячутна дзень праходзіць». [...]*

*«Рукапісны друк» бясспрэчна заляжа ў музэі, як адзін із цікавейшых экспанатаў нашае нядолі й адначасна — нязломнае волі да долі, рэалізаванай ува ўпорыстай і самаахвярнай ды здольнай працы. Але некалі па гарадох нашае Бацькаўшчыны, побач із традыцыйнымі ў цэлым сьвеце помнікамі «невядомаму жаўнеру», трэ было б ставіць і манумэнты «нязнанаму працаўніку культуры». Бо колькі ж іх гэткіх, нязнаных і няведамых, было, ёсьць і, пэўна, будзе яшчэ ў нас — у тым ліку й тых, што сьведама ня пнуцца да ведамасьці й славы, а жывуць толькі тым, каб рабіць і зрабіць. Колькі іх, «невядомых, непрызнаных, неаплаканых нікім», і тых, што навет так і жадаюць «прайсьці свой век, прамарнавацца і невядомымі застацца»“.*

Як выглядае, зробленае Паньковым знаходзіла чытача, чытача ўдзячнага:

*„Паважаны сябру Мікола!*

*Атрымаў Ваш ліст і літаратуру.*

*«Ордэн Двупагоні» я, прачытаўшы яшчэ лістоўку, Статут–дэклярацыю, уявіў усю глыбіню патрыятычнага настрою гэтай арганізацыі. Я поўнасьцю салідарны зь ёю. Цікава, як жмудзіны (летувісы) да гэтага адносяцца? Брашура «Пад такім знакам» — зьмястоўная й навукова апрацаваная.*

*Я хачу больш застанавіцца на літаратурна–мастацкім часапісе «Баявая Ўскалось». У першую чаргу я хачу выпучыць адмоўны бок, як мне здаецца. Сам назоў «Баявая Ўскалось» да мастацкай літаратуры не пасуе. «Ускалось» — рэдкае слова, наватвор. У праграмным артыкуле як бы выпучаецца, што часапіс літаратара–беднаты (як бы пралетарскіх пісьменьнікаў) і скрозь ставіцца нейкім багатым выданьнем ксяндзоўскім часапісам (Так у арыгінале —* Л.Ю.*). Калі быў амаль дзясятак беларускіх ксяндзоў у Заходняй Беларусі, дык яны былі патрыётамі і аддавалі свае заробкі на нацыянальную справу. А цяпер іх няма, бо, здаецца, усе загінулі за Бацькаўшчыну.*

*Гэта дробязь. Галоўнае — нутро часапісу. Такога часапісу ўжо даўно чакаў чытач–эмігрант. Ён адразу стаў больш папулярным, чым папярэднія падобныя часапісы, як „Шыпшына“, нават „Сакавік“. Увесь зьмест рэальны й просты. Амаль усе аўтары новыя, нязнаныя дагэтуль“*[6].

Наагул, М. Панькоў быў актыўным у грамадзкім жыцьці: з’яўляўся сябрам Рады БНР, сябрам Крывіцкага (Беларускага) Навуковага Таварыства Пранціша Скарыны, заснаванага ў Рэгенсбургу 23.06.1947 з ініцыятывы Лява Акіншэвіча (разам з Антонам Адамовічам, Янкам Станкевічам, Аляксандрам Багдановічам), сябрам Інстытуту Кастуся Каліноўскага, ачольваў Саюз Беларускіх Журналістаў у ЗША, кіраваў Беларускім Інфармацыйным Бюро.

Мікола Панькоў быў ня толькі перапісчыкам, ня толькі выдаўцом, бібліёграфам, архівістам, але й пісьменьнікам. Ён належаў да літаратурнай арганізацыі „Баявая Ўскалось“: *„У 1949 годзе ажывае дзейнасьць групы «Ўскалосі», на гэты раз дужа папоўненай сябрамі зь іншых частак Беларусі, як Усходняй (БССР), так падлатвійскай і падпольскай. Сябрыны «Ўскалосі», якая цяпер прыняла назоў «Літаратурнай Сустані „Баявая Ўскалось“», паўсталі ў Нямеччыне (Мікола Вольны, Ніна Змагарка*[7] *і іншыя), у Канадзе (С. Хмара, В. Вярбіна, Кастусь Навіцкі, Васіль Вір, Машчонскі і іншыя), у Аўстраліі (Анатоль Сумны, Макарэвіч), у Францыі (Алесь Змагар, Аўген Кавалеўскі), у Англіі (А. Дрыгвіч, Язэп Таўпека), у Паўднёвай Амэрыцы (д–р Галейка, Ул. Дудзіцкі). У Нямеччыне ў тым жа годзе пачынае выходзіць літаратурны часапіс пад радакцыяй М. Панькова «Баявая Ўскалось», дзе па–за ўспомненымі пісьменьнікамі зьмяшчаюць свае творы і іншыя“*[8].

Аднак пісьменьніцтва не было тым, што валодала думкамі й часам Міколы Панькова. Больш творчай радасьці прыносіла, відаць, складаньне іменных паказьнікаў да кніг, выдрукаваных на Беларусі — добра напісаных, але нядбайна выдадзеных і таму нязручных да карыстаньня. Атрымліваючы стала зь Менску газэту „Літаратура і мастацтва“, з кожнага нумару выпісваў „Хроніку літаратурнага жыцьця на Беларусі“, маючы на ўвеце пазьней выдаць асобнаю кнігаю.

Яшчэ напрыканцы 40–х гадоў у Нямеччыне М. Панькоў заснаваў Усебеларускі архіў, які зь пераездам заснавальніка і дырэктара перамясьціўся ў ягоную ньюёркскую кватэру. Там сама ж знаходзілася й Беларуская бібліяграфічная служба, таксама закладзеная Паньковым, які зьбіраў беларускае слова. Вядома, перавага аддавалася эміграцыйным выданьням, прынамсі таму, што на набыцьцё савецкіх кніг патрэбны былі немалыя выдаткі. Затое пад эміграцыйны архіў — кнігі, часапісы, газэты, брашуры, улёткі, паштоўкі, лісты — была адведзена ўся падвальная частка двухпавярховага дому й амаль цалкам першы паверх.

Ідэяй збору было ня проста бібліяфільскае, бібліяманскае апантанае захапленьне. Меркавалася, што згаданая вышэй праца „Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне“ будзе працягнута, будзе напісана гісторыя эміграцыйнага пэрыядычнага друку, будзе складзена энцыкляпэдыя „Хто ёсьць хто на эміграцыі“, будзе працягнута праца над „Беларускай народнай энцыкляпэдыяй“, дзе ўжо меўся некаторы плён — выдрукаваныя ў 1948 годзе на машынцы ў сямі сшытках матар’ялы да энцыкляпэдыі, рэдагаваў якія Антон Адамовіч; будзе зроблены й „Мартыралёг“ як працяг выдрукаванай на ратататры „Кнігі ахвяраў бальшавізму“: у 1956 г. Панькоў разам зь Яўхімам Кіпелем, Антонам Адамовічам, Сымонам Кандыбовічам пачалі складваць англамоўны сьпіс беларускіх інтэлектуалаў і палітыкаў, зьнішчаных Саветамі[9]. Думалася пра тэарэтычныя працы („Шляхі новае беларускае літаратуры“[10], „Шляхі разьвіцьця новае беларускае літаратуры“[11], „Кароткі начырк да гісторыі беларускага часапісьменства“[12]). Думалася пра гісторыю эміграцыі.

Ідэя гісторыі ці не найбольш займала М. Панькова, прычым ня толькі ў ЗША. У адным з нумароў „Летапісу“[13] быў зьмешчаны пачатак хронікі падзей беларускай эміграцыі ў Аргентыне з даваеннага часу (1934—1941 гг.) У 1945—1953 гадох ён пісаў „Успаміны зь мінулага для будучага“ пад назовам „На раздарожжы“ — хроніка, камэнтары эміграцыйнага жыцьця. Праўда, напісалася толькі 15 старонак.

Затое другі праект, таксама зьвязаны з гісторыяй эміграцыі, выявіў значна большую жыцьцяздольнасьць — „Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі“ (часам назоў мяняўся на „Летапіс беларускай эміграцыі“). Мала якое выданьне на эміграцыі паклікала да жыцьця столькі эмоцый!

Да таго ж, Панькоў ня быў пасіўным назіральнікам. Ён ня толькі занатоўваў падзеі, а часта браў удзел у іх сам, актывізаваў ці нават ствараў.

Гэтак, пры ягоным непасрэдным актыўным удзеле і ў супрацы зь Юрыем Сабалеўскім, Леанідам Галяком, Анатолем Плескачэўскім, Іванам Касяком, Міколам Шчорсам, Лявонам Савёнкам і Віктарам Чабатарэвічам быў заснаваны Камітэт Незалежнай Беларусі:

*„Камітэт Незалежнай Беларусі заснаваны ў Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі групай беларусаў, якія падпісалі гэты Статут арганізацыі 29 кастрычніка 1955 году.*

*Мэтай дзейнасьці КНБ зьяўляецца дапамога беларускаму народу ў справах:*

*– вызваленьня Беларусі з–пад акупацыі яе савецкай Расеяй;*

*– недапушчэньне да акупацыі Беларусі іншымі дзяржавамі;*

*– адбудова незалежнай беларускай дэмакратычнай дзяржавы на ўсіх этнаграфічных абшарах расьсяленьня беларускага народу на асновах дэмакратычных ідэалаў заходняга сьвету з ЗША на чале;*

*– абарона інтарэсаў беларускага народу, які пазбаўлены магчымасьці волевыяўленьня акупацыйнай уладай савецкай Расеі ды яе сатэлітаў;*

*– аб’яднаньне ўсіх беларускіх сілаў для нацыянальна–вызвальнай справы“*[14].

Другая адметнасьць „Летапісу“ й сакрэт увагі да выданьня хаваліся ў разуменьні рэдактарам такіх паняткаў, як *архіў, дакумэнт, праўда*. Словы–тэрміны самі па сабе звычайныя, простыя да разуменьня і ўжытку — аж да таго самага часу, калі не пачынае заходзіць пра вышэйшыя ідэі ды ідэалы, пра „нячасавасьць“ ці нават шкоднасьць праўды, калі распачынаюцца размовы „аб праўдзе нашай і вашай“.

Мікола Панькоў і ў 80–х — пачатку 90–х гадоў рабіў свой „Летапіс“ — калі сам, калі зь нешматлікімі паплечнікамі (аднаго варта назваць — гэта Васіль Шчэцька, сталы памагаты ў выданьні часопісу) па тых, звыклых яму з часоў лягераў ДП, тэхнічных працэсах: на аркушы паперы наклейваў загаловак, малюнкі–ілюстрацыі, што браліся звычайна з савецкіх выданьняў, ды наклейваў дакумэнты, што мелі складаць зьмест выданьня: тэксты статутаў, перадрукі з рарытэтных выданьняў, лісты. Так, неад’емнаю часткаю — і ці не найбольш карыснаю, прынамсі з гледзішча сучаснага часу — былі лісты. Прыватныя лісты зь перададзеных ва Ўсебеларускі архіў прыватных архіваў (а значыць адкрытыя для грамадзтва), зьмешчаныя факсіміле — без аніякіх правак, купюраў, цэнзуры. Праўда, часам, калі лісты былі напісаныя нечытэльным почыркам, рэдактар мусіў іх передрукоўваць нанава, што дазволіла непрыхільным да выданьня гаварыць аб падробках. Раіса Галяк, удава Леаніда Галяка, чалавека блізкага да „Летапісу“, так пісала аб гэтым у лісьце да Яна Пятроўскага:

> *„Мэта «Летапісу» — ад пачатку выданьня (1948 г. і да сяньня[15]) — захаваць для наступных гісторыкаў Беларусі дакладную дакумэнтацыю жыцьця й дзейнасьці нашай эміграцыі. Якія мы ёсьць, такія і ёсьць, без самарэклямы й самашуканства. А імкнуцца быць лепшымі — абавязак кожнага чалавека й беларуса. Падаваць фальшыўкі дакумэнтаў, толькі з карыснымі для нас ці некага «выбрыкамі», не адпавядае людзкому гонару. Праўда заўсёды выйдзе наверх. [...] Я пэўная, што Вы, паважаны айцец Ян, не хацелі б, каб і з нашымі архівамі сталася тое ж, што сталася з багатым Беларускім архівам у Празе, архівам БНР М. Абрамчыка, а магчыма й з архівам ды ўспамінамі Ю. Сабалеўскага“[16].*

„Летапіс“, гэтыя звычайныя аркушы паперы з наклеенымі лістамі й надрукаванымі на машынцы матар’яламі, памножанымі на капіявальнай машыне, мае гадавы паказьнік зьместу, што дазваляе арыентавацца ў гэтым багацьці інфармацыі: перадрукі ведамага па лягерах ДП часапісу „БІС“[17], рэдагаванага Юркам Віцьбічам; дапаўненьні да аўтабіяграфіі Радаслава Астроўскага, напісаныя Сяргеем Віленскім; артыкул Кастуся Езавітава „Слуцкае народнае змаганьне“; хроніка жыцьця Янкі Станкевіча; дакумэнты Рады БНР, БЦР, Беларускай Аўтакефальнай Царквы, Беларускага Праваслаўнага Аб’яднаньня, Беларускай Народнай Грамады, Беларускага Вызвольнага Фронту, Беларускага Дапамаговага Камітэту, Сусьветнага Аб’яднаньня Беларускай Эміграцыі; і ліставаньне: Антона Адамовіча, Радаслава й Віктара Астроўскіх, Часлава Будзькі, В. Васілеўскага–Войтанкі, Юркі Віцьбіча, Леаніда Галяка, Язэпа Гладкага, Антона Даніловіча, Мікалая Дзямідава, Людвіка Зарэчнага, а. Мікалая Лапіцкага, Вацлава Пануцэвіча, Алеся Салаўя, Аляксандра Стагановіча, Янкі Станкевіча, Сяргея Хмары, Антона Шукелойца.

„Летапіс“ дазваляе зарыентавацца ў царкоўных праблемах, расколе праваслаўнай царквы на эміграцыі; зразумець прычыны лягерных закалотаў, у тым ліку гісторыю з „крывічамі“ й „зарубежнікамі“; ацаніць няпростую „трэцюю сілу“... Сапраўды, „Летапіс“ стаўся найбагацейшаю крыніцаю нутраной, неафіцыйнай, непадфарбаванай гісторыі эміграцыі.

Праўда, выданьне няшмат інфармацыі падае пра самога рэдактара — хіба толькі ўскосна, у зьвязку зь іншымі гісторыямі і асобамі. Гэтак зь лістоў Стася Станкевіча даведваемся, што М.Панькоў ініцыяваў і браў удзел у складаньні зборніка Вацлава Ластоўскага „Творы“[18]:

> *„Дарагі Сябру Панькоў!*
>
> *Вельмі перапрашаю, што трохі спазьніўся з адказам на Твой апошні да мяне ліст. Віна: усё тое ж перагружаньне ў рабоце.*
>
> *А цяпер да справы: што тычыцца зборніка Ластоўскага, дык вельмі добрая ідэя. Я ўжо маю да яго часьць уступнага артыкулу Адамовіча, частка загубілася па дарозе, а частку яшчэ дашле. Толькі трохі трэба пасьпяшацца, бо «Нядолю Заблоцкіх» я канчаю друкаваць ужо ў калядных нумарах і там падвал вольны. Ня ведаю толькі, ці ўдасца Табе сабраць тут усё лепшае Ластоўскага, календару «Сваяка» пэўне ж ня знойдзеш, таму ня ведаю, наколькі ён будзе рэпрэзэнтаваць Ластоўскага. Я ўсё–ж радзіў бы Табе спачатку паканфэраваць у гэтай справе з Адамовічам, бо ён ведае Ластоўскага «назубок»“[19].*

> *„Вельмі Паважаны й Дарагі Сябру Панькоў!*
>
> *Ваш ліст з трыма апавяданьнямі Ластоўскага й адным Вашым атрымаў. За ўсё вялікае дзякуй. Вось жа творы Ластоўскага пачну друкаваць адразу ж пасьля дэфінітыўнага заканчэньня «Нядолі Заблоцкіх», г. зн. прыблізна за два тыдні. Але, Браце, такое прысыланьне мне машынапісаў твораў Ластоўскага працы не кране зь месца. Каб пачаць друкаваньне, я мушу мець даслоўна ўсю цэласьць, пры гэтым творы павінны быць расплянаваныя ў такой чарговасьці, у якой яны будуць у выдадзенай кніжцы. Я мушу мець усё адразу па тое, каб зарыентавацца ў характары твораў, іхным разьмеры і пад., каб здэцыдавацца, ці друкаваць іх пэтытам ці гармондам і г. п. Пры гэтым прасіў бы пісаць іх на машынцы цераз радок, каб можна было адразу аддаваць у друкарню. Справа перапісваньня на машыне — гэта для мяне вялізарная праблема, бо перапісваць мушу асабіста я. Паколькі ж там наагул перапісваецца, дык ужо само толькі пісаньне цераз радок ня можа дабавіць лішніх клопатаў. Дык рэасумую: творы Ластоўскага друкаваць пачнём хутка, але спачатку просьба прысьлаць увесь зборнік і ў такой чарговасьці твораў, у якой яны*

*пойдуць у кніжцы. А можа прыйдзецца іх дзяліць на паасобныя разьдзелы. Радзіў бы перад гэтым пакансультавацца з Адамовічам, які прыгатаваў вельмі салідны й глыбокі ўступны артыкул аб Ластоўскім. Можа таксама варта было б падаць пры кажным творы ці ў зьмесьце пры іхным пераліку, адкуль дадзены твор перадрукоўваецца. Шкода, што не знайшлі прыгожага апавяданьня «Дзень рожавай кветкі». Гэты твор звычайна друкаваўся ў школьных чытанках. Дык калі такія ёсьць у ньюёрскіх бібліятэках, дык варта яшчэ там яго пашукаць. Пры гэтым я зусім не арыентуюся, ці ў зборнік Ластоўскага маюць увайсьці ягоныя празаічныя толькі творы, ці таксама й вершаваныя.*

*Што тычыцца працы Вашай «Ахвяры бальшавізму», дык, бясспрэчна, такая кніжка асабліва патрэбная і яе трэба выдаць абавязкова. Але перад тым, як друкаваць яе ў «Бацькаўшчыне», трэба было б зрабіць усе спробы, каб знайсьці на яе спэцыяльнага выдаўца, бо гэта тэма, якой павінны цікавіцца некаторыя амэрыканскія ўстановы. У сувязі з гэтым у бліжэйшы час я пайду тут да прафэсара Бэйліса — амэрыканскага дырэктара Інстытуту для дасьледаваньня гісторыі й культуры народаў СССР, каб ён выдаў яе сваім коштам. Ня выключана, што справа будзе палагоджана пазытыўна, бо гэты Інстытут цяпер трохі нас «заісківает». Калі ж аднак такога выдаўца на баку знайсьці ня ўдасца, тады, зразумела, махнём цераз «Бацькаўшчыну»[20]“.*

Панькоў быў ведамы ў грамадзе як кніжнік, архівіст, які нямала каго дзівіў у лягерах ДП тым, што замест уладкаваньня ўласнага дабрабыту займаўся пошукам старых папераў:

*„Выбачайце, Сп. Панькоў, ніяк не зьбяруся нарысаваць. Аб гэтых малюнках Хмара прасіў мяне яшчэ перад выездам маім і ягоным у пераходны лягер. Безумоўна, тады я ня мог і думаць аб рысаваньні: пакаваньне, зборы, дэнэрваваньне, выезд, правал на камісіі, паварот назад у лягер, страта памешканьня, каля месяца жыцьцё ў цесным прахадным пакоіку — усё гэта абставіны, пры якіх немагчыма было й думаць аб маляваньні, дадаўшы да гэтага вельмі аграніченыя здольнасьці да гэтага мастацтва. Цяпер ізноў прыгатаўленьне на выезд у пераходны лягер, дэнэрваваньне, а тут жонка стала нібыта працаваць і на маёй галаве лягло гадаваньне дзіцяці й гатаваньне ежы. Апрача таго, я дакладна не разумею, якія малюнкі патрэбныя і што яны павінны характарызаваць, бо Хмара так рвана й хаатычна падаў тэмы, што я не магу выразна ўявіць.*

*Што да архіву Езавітава, дык Шкутка можа наймениш ускубнуў зь яго. «Парадкавалі» яго Астроўскі, др. Манькевіч і Пётра Орса, можа трохі Сянькевіч, а памагалі ім хлопцы, якія там жылі: Занкавіч, Маеўскі, Ігнатовіч і Алег (прозьвішча ня ведаю). Ужо ў Ватэнштэце ў гэтых хлапцоў я знайшоў на стале пару журналаў з архіву й пасьля пераслаў Вам. На маё пытаньне ў гэтай справе яны вельмі неахвотна й вымінаючы адказвалі. Аб тым, што архіў «парадкавалі», сказаў мне ў свой час П. Орса. Каб была магчымасьць, дык Шкутка яго, напэўна, забраў бы, бо ў 1946—1947 гг. ён часта ўспамінаў пра яго й пару разоў езьдзіў туды.*

*Моцна цісну руку. З пашанаю А. Васіленя. 25.08.1949“[21].*

*„Даражэнькі Мікола!*

*У справе архіву К. Е. [Кастуся Езавітава], дык мне яшчэ не зусім ясна. У каго й дзе ён фактычна знаходзіцца, пад чыёй апекай і хто на гэта мае правы? Хто такі Шкутка? Якое простае ці пабочнае дачыненьне ён мае да архіву?*

*Я думаю, што ніякай абвесткі ў газэту ня трэба даваць. Ці ня можна было б проста напісаць ад імя тут пражываючых беларусаў з Латвіі ўпаўнаважаньне, нават подпісы зацьвердзіць у натарыюса, з просьбай перадаць нам гэты архіў на перахову, аж пакуль, магчыма, ня зьявіцца сам К. Е. (бо аб долі яго яшчэ дакумэнтальна ня сьцьверджана, магчыма, ён яшчэ й жыў). І мы, як землякі, маем на гэта маральнае права. Пры гэтым скласьці акт, у якім стане мы яго пераняслі, за што мы нясем адказнасьць. Аб гэтым пры сустрэчы пагутарым дакладней.*

*Пака будзь здароў! Твой Б. Юрэвіч. 17.10.1948“[22].*

Не, нельга сказаць, што дзейнасьць Міколы Панькова ў эміграцыйным асяродзьдзі не знаходзіла паразуменьня, падтрымкі й спрыяньня. Ён вёў актыўнае ліставаньне, меў аднадумцаў, калегаў па фаху:

*„Паважаны Мікола!*

*Ваш ліст дастаў у мінулым тыдні і адпісваю звычайнаю поштаю, бо ўкладаю для архіву пару фотаздымкаў і мой прымітыўны абразок, за які палескі ваявода Костэк–Бэрнацкі хацеў мяне «давесьці да шыбеніцы» — як ён казаў аб гэтым самому біскупу.*

*Разумею Вашы клопаты са зборамі архіву, бо Спадара ведаю аж лішне добра, каб трэба было тлумачыць аб ягоных адносінах да грамадзкае справы. Адзіная рада на ўсе цяжкасьці — вытрываць на добрым шляху. Ёсьць добрая турэцкая прыказка, якая кажа, што выйшаўшы ў дарогу, няма калі адбрэхвацца ад сабакаў, бо іх ніколі не перабрэшаш, а трэба йсьці ўперад, дык сабакі самі перастануць брахаць. Гэта сапраўды залатая рада ў нашых адносінах з брахунамі й пустамелямі. Твой а. Леў [Гарошка]“[23].*

Але ішоў час, адныя сябры паміралі, іншыя займаліся ажыцьцяўленьнямі ўласных праектаў, часам надта ж далёкіх ад збору папераў. Калі ж і зьбіралі архівы, дык — свае ўласныя, ня маючы намеру даваць іх у

карыстаньне каму–небудзь ці перадаваць ва Ўсебеларускі архіў. Праз гэта было страчана нямала па–сапраўднаму вартага — спарахнела, зьнікла, было выкінута.

Марнасьць высілкаў на працягу 40 гадоў, нябачаньне плёну прыгнятала Панькова. Ён усё радзей выбіраўся на людзі, усё часьцей сыходзіў у сваю кніжніцу ня з новаю кнігаю, а з напоем, бо ня меў разуменьня й ва ўласнай сям'і: жонка даўна адышла ад беларускай дзейнасьці, кінула пісаць, затое палюбіла катоў, якіх у хаце было ня менш за тузін — розната веку катоў і котак, чыім улюбёным заняткам было адпачываць на папяровых скарбах „ларніка вучонага". І праз год па сьмерці Міколы Панькова кнігі, камплекты часапісаў, газэтаў, тэчкі з архіўнымі матар'яламі, нават мэбля, нават сьцены, здавалася, мелі той спэцыфічны пах, што нагадваў пра сапраўдных гаспадароў хаты.

Як пісаў у газэце „Беларус" В. Шчэцька,

> *„Калі М. Панькоў памёр, паўстала пытаньне, куды перадаць зборы М. Панькова? Меркавалася перадаць на Беларусь, але рэфэрэндум Лукашэнкі (14.05.1995) паказаў, што гэтага кроку рабіць няможна. Тады Ніна Тэсла (дачка М. Панькова) і прыяцелі Нябожчыка Васіль Шчэцька й Канстанцін Мярляк пастанавілі перадаць архіў і бібліятэку ў Фундацыю П. Крэчаўскага, што ў Квінсе. Кіраўніцтва Фундацыі прыняло прапанову й матар'ялы былі перавезеныя ў іх памешканьне 9.12.1995.*
>
> *Хочацца спадзявацца, што калекцыі Міколы Панькова ўпарадкуюцца, што дасьць магчымасьць дасьледчыкам гэтыя матар'ялы вывучаць і выкарыстоўваць для гісторыі беларускай эміграцыі"*[24].

Верыцца, што гэтая кніга і стане тым першым ўпарадкаваным матар'ялам, які будуць вывучаць і выкарыстоўваць гісторыкі беларускае эміграцыі.

Лявон Юрэвіч

[1] „Баявая Ўскалось", № 14. Таронта (Канада), 1974. С. 8.
[2] Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945—1950 гг. Нью Ёрк, 1952. 62 с.
[3] Саюз Беларускіх Журналістаў.
[4] „Бацькаўшчына", 17 лістапада 1947 г. С. 2—3.
[5] Вядомыя яшчэ выпускі „Чалавек і дзяржава", № 1; „Сьвет і людзі", № 2. Выйшла каля 30 выпускаў, шрыфт — лацінка.
[6] „Летапіс беларускай эміграцыі", № 76, красавік 1991. С. 29.
[7] Ніна Змагарка — жонка М. Панькова Марыя Панькова (дзявочае прозьвішча Найдзюк) (21.06.1904, Дзьвінск—15.09.1991, Нью Ёрк).
[8] Васіль Вір. Беларуская літаратура за мяжой. Першая частка дакладу, чытаная на канфэрэнцыі славістаў у Манрэалі ў Канадзе ў 1971 г.//„Баявая Ўскалось", № 11. Таронта, Канада, 1971. С. 24. Сяброўства ў гэтай арганізацыі — тэма асобнай гаворкі. Тут трэба толькі зазначыць, што Ўладзімер Дудзіцкі ніколі не належаў да яе.
[9] Abridged list of some Byelorussian intelectuals liquidated by Soviet Russia. New York. Committee for Independence of Byelorussia. Dec. 7, 1956. 15 p. Edited by Jury Sabaleuski.
[10] Шляхі новае беларускае літаратуры. Кароткі агляд беларускае літаратуры паміж дзьвюх войнаў і сяньня. Ватэнштэт. Выдавецтва Беларускага Дапамаговага Камітэту на Ангельскую зону. 1947 г. 16 с.
[11] Шляхі разьвіцьця новае беларускае літаратуры. Нямеччына.
[12] Кароткі начырк да гісторыі беларускага часапісьменства. Нямеччына. Выданьне Саюзу Беларускіх Журналістаў, 1950 г. 32 с.
[13] „Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі", № 68, верасень 1989. С. 119—120.
[14] Тамсама, № 37, 1955 г. С. 91.
[15] „Летапіс" выходзіў практычна да самай сьмерці М. Панькова. У ягоным архіве засталіся напрацоўкі, якія сьведчаць, што існаваў намер працягваць выданьне й надалей.
[16] „Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі", № 68, верасень 1989. С.119.
[17] „Беларуская Служба Інфармацыі".
[18] Власт (Вацлаў Ластоўскі). Творы. Выдавецтва „Бацькаўшчыны". Мюнхэн, 1956.
[19] Ліст ад 6.12.1953.
[20] Ліст ад 4.01.1954.
[21] „Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі", № 64, сакавік 1989. С. 23.
[22] Тамсама, № 64, сакавік 1989. С. 23—24.
[23] Тамсама, № 67. 1989 г. С. 85.
[24] „Беларус", № 436, ліпень 1996, С. 5.

*Выдаўцы выказваюць вялікую падзяку за дапамогу ў працы над кнігай: айцу Міхаілу Бурносу (Адэляіда, Аўстралія), Паўлу Гузу (Мэльбурн, Аўстралія), Раісе Жук–Грышкевіч (Таронта, Канада), Віктару Кавалеўскаму (Адэляіда), Віялеце Кавалёвай (Таронта), архіяпіскапу Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мікалаю (Таронта), усім супрацоўнікам беларускага аддзелу Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і асабістая падзяка Віктару Камінскаму (штат Нью Джэрзі, ЗША) без дапамогі якога ўсе высілкі засталіся б марнымі.*

## 1945 год

**Студзень**

1 — Навагодні загад кіраўніка Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР палкоўніка Канстанціна Езавітава.

7 — Ліст епіскапату Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (далей — БАПЦ) да Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі (старшыня генэрал Андрэй Уласаў). Падпісаны мітрапалітам Панцеляймонам (Ражноўскім), япіскапамі: Вэнэдыктам (Бабкоўскім), Сьцяпанам (Сеўбам), Грыгорам (Барышкевічам). (Адсутны ў лісьце япіскап Апанас (Мартас) паслугоўваў тады ў казакоў генэрала Пятра Краснова.)

14—17 — першы на эміграцыі (X) пленум Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) у Бэрліне прымае новы Статут арганізацыі.

15 — мэмарандум да прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, у якім патрабуецца пашырыць склад БЦР. Ад грамадзянства дакумэнт падпісалі: ген. Кастусь Езавітаў, Пётра Бакач, Б. Бужынскі, Хведар Ільляшэвіч, Мікола Клінцэвіч, Сяргей Хмара (Сіняк), Аляксей Анішчык (Чэмер) і Піражкова.

24 — адозва прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага „Да зброі!“

**Люты**

23 — япіскапы зь Беларусі падалі просьбу ў Сынод Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы (РЗПЦ) у Бэрліне аб прыняцьці іх пад яе апеку.

Выйшаў № 1 „Ведамасьцяў Беларускага Інфармацыйнага Бюро“; рэд. Сяргей Хмара–Сіняк (Бэрлін).

**Сакавік**

15 — мэмарандум да прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ад групы 11 асобаў, якія дамагаюцца фармаваньня складу Рады з прадстаўнікоў беларускіх палітычных партыяў.

18 — на паседжаньні Прэзыдыюму ўнесены зьмены ў Статут БЦР; яго публікацыя ў газэце „Раніца“.

25 — парад Беларускага Нацыянальнага Вайсковага Аддзелу ў Гіршаў (Нямеччына), які прымае прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі ў атачэньні афіцэраў.

**Красавік**

7 — у Балтыцкім моры, блізу Кёнігсбэргу, савецкай авіяцыяй зьнішчаны параплаў, на якім знаходзіліся 295 юначак–беларусак, што плылі ў Нямеччыну.

**Травень**

Выезд з Бэрліну беларускіх выгнанцаў, што не пажадалі паўторна апынуцца пад савецкай акупацыяй, у акупацыйныя зоны заходніх альянтаў (Англіі, Францыі, ЗША).

**Чэрвень**

6 — у Рэгенсбургу (Амэрыканская зона акупацыі Нямеччыны) створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК): Аляксандар Русак, Васіль Жданюк, Дэмша, Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Васіль Кендыш, Тодар Шыбут, Ксэнафонт Вайцяхоўскі, Язэп Дакіневіч, Алесь Вініцкі, Аляксандар Банкет.

12 — у Кірхгайме (Аўстрыя) створаны Беларускі Камітэт Непаваротцаў у складзе: Алесь Салавей (сапр. Альфрэд Радзюк, на эміграцыі Альфрэд Кадняк), Аляксандар Яцэвіч (псэўд. Алесь Змагар).

**Ліпень**

У Ватэнштэце (Ангельская зона акупацыі Нямеччыны) ствараецца аселя беларускіх выгнанцаў.

15 — у Браўншвайгу пачало працаваць Беларускае Бюро на Ангельскую Зону Акупацыі Нямеччыны: Анатоль Шкутка, Леанід Галяк, Раіса Евец.

15 — першы ліст прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага „Да ўсіх беларускіх камітэтаў, бюро і г. д.“

27 — другі ліст Радаслава Астроўскага „Да ўсіх беларускіх камітэтаў, бюро і г. д.“ з паданьнем імёнаў знойдзеных асобаў.

30 — першыя 48 выгнанцаў пасяляюцца ў лягеры для ДП (*displased persons* — перамешчаныя асобы) *ABC* у Ватэнштэце.

**Жнівень**

10 — Эдвард Будзька арганізуе беларускую пачатковую школу ў лягеры ДП АВС у Ватэнштэце.

**Верасень**

23—24 — XI пленум БЦР у Ашэрсбэкене (Баварыя) прымае пастанову пра самароспуск.

**Кастрычнік**

15 — пачала першы год працы Беларуская гімназія ў ДП–лягеры *ABC* у Ватэнштэце (Нямеччына); дырэктар Вацлаў Пануцэвіч.

26 — выйшаў № 1 часапісу Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў у Мюнхэне „Студэнцкія весткі“; рэд. Міхась Рагуля.

### Сьнежань

10 — адчынена Беларуская гімназія ў Рэгенсбургу; дыр. Аляксандар Орса.

10 — першы літаратурны вечар беларускіх пісьменьнікаў у Рэгенсбургу.

18 — канцэрт беларускай опэрнай сьпявачкі Ларысы Александроўскай у Парыжы (Францыя).

25 — № 1 „Беларускіх навінаў“; рэд. Лявон Рыдлеўскі (Парыж).

У Чыкага (ЗША) ствараецца Беларуска–Амэрыканская Нацыянальная Рада (БАНР). Закладчыкі: айцец Ян Тарасэвіч, Ігнат Лабач, Язэп Варонка, Янка Чарапук–Змагар, Макар Аблажэй.

## 1946 год

### Студзень

16 — зьезд былых беларускіх вайскоўцаў у Лёндане (Вялікабрытанія) і закладзіны на ім Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Першы старшыня — Вінцэнт Жук–Грышкевіч.

27 — у Рэгенсбургу, у беларускім лягеры ДП, БНК ладзіць сьвяткаваньне ўгодкаў паўстаньня 1863 г. на беларускіх землях.

Выйшаў № 1 часапісу Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў у Мюнхэне „Крывіцкі сьветач“.

### Люты

15—21 — побыт былога япіскапа зь Беларусі Філафея (Нарко) у беларускім лягеры ДП у Ватэнштэце (Нямеччына).

23 (10 лютага па старым стылі) — у Тырсгайме (Нямеччына) РЗПЦ выдала паведамленьне аб „прыняцьці ў сваё лона“ былых япіскапаў зь Беларусі.

25 — у Рэгенсбургу праходзіць зьезд прадстаўнікоў беларускіх мясцовых лягераў ДП, на якім ствараецца Беларускі Цэнтральны Дапамаговы Камітэт (БЦДК) у Нямеччыне.

Выйшаў № 1 часапісу Беларускага Праваслаўнага Аб’яднаньня ў Рэгенсбургу „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі“; рэд. Юрка Віцьбіч.

### Сакавік

10 — выйшаў № 1 часапісу Згуртаваньня Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне (ЗКСЧ) „Скаўт“; рэд. Вацлаў Пануцэвіч (Ватэнштэт).

17 — II сход сяброў Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў у Мюнхэне.

24 — высьвячэньне скаўцкіх сьцягоў у цэрквах і скаўцкая прысяга першых зьвязаў ЗКСЧ у Рэгенсбургу і Ватэнштэце.

25 — урачыстае сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі — Акту 25 Сакавіка 1918 г. з набажэнствамі, прамовамі і мастацкай праграмай:

— у Італіі: у Рыме, са сьвяточнай імшой айца Пётры Татарыновіча;

— у Нямеччыне: у Ватэнштэце, Рэгенсбургу (служыў япіскап Апанас (Мартас)), Ольдэнбургу;

— у Францыі: у Парыжы, з прамовай прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, імшу служылі а. Францішак Чарняўскі і а. Уладзімер Фінькоўскі.

### Красавік

1 — выйшаў № 1 часапісу Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту „Шляхам жыцьця“; рэд. Хведар Ільляшэвіч (Ватэнштэт).

9 — закладзіны Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня „Шыпшына“ ў Міхэльсдорфе (Нямеччына); ініцыятары Юрка Віцьбіч і Натальля Арсеньнева.

23 — Дзень скаўта ў Ватэнштэце; пастаноўка мастацкай самадзейнасьцю камэдыі Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча „Пінская Шляхта“.

24 — у Мюнхэне япіскап Вэнэдыкт (Бабкоўскі) падпісвае акт далучэньня да РЗПЦ япіскапаў зь Беларусі.

25 — высьвячэньне і першая багаслужба ў беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу. Службу вядзе япіскап Апанас (Мартас).

28 — велікодная багаслужба ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу з удзелам япіскапаў зь Беларусі.

30 — удзел беларускіх артыстых (В. Філіповіч і Лідзія Янушкевіч) у міжнародным паказе–канцэрце ў Мюнхэне.

### Травень

2 — першы літаратурны чацьвер „Шыпшыны“ пры ўдзеле Юркі Віцьбіча, Масея Сяднёва, Янкі Золака і госьця Глеба Альгердзіча (Антона Адамовіча).

5 — зьезд беларускіх культурных прадстаўнікоў для дыскусіі „Крывічы ці беларусы?“ пад старшынствам д–ра Янкі Станкевіча ў Рэгенсбургу і падзел беларускага руху на дзьве групы: „крывічы“ і „зарубежнікі“.

5 — закладзена Беларускае Праваслаўнае Аб’яднаньне (БПА). У склад Управы ўвайшлі: Натальля Арсеньнева, Аляксандар Асіпчык, Мікола Ігнатовіч, Іван Касяк, а. Мікалай Лапіцкі, Юрка Стукаліч (Юрка Віцьбіч), Масей Сяднёў і Тодар Шыбут.

6 — зьезд беларускіх прадстаўнікоў літаратуры і мастацтва ў Рэгенсбургу заклаў Беларускі (Крывіцкі) Фронт Літаратуры і Мастацтва.

7 — арганізацыйны сход Літаратурнага Аб’яднаньня „Шыпшына“ ў Рэгенсбургу. Бяруць удзел: Юрка Віцьбіч, Натальля Арсеньнева, Уладзімер Сядура (Глыбінны).

7 — у Мюнхэне Сынод РЗПЦ прымае пад сваю апеку кіраўніцтва япіскапаў зь Беларусі.

25 — надзвычайны зьезд беларускіх студэнтаў у Мюнхэне выносіць пастанову: зьмяніць назоў арганізацыі з „Крывіцкага Студэнцкага Згуртаваньня“ на „Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне“ і часапісу „Крывіцкі сьветач“ на „Беларускі Сьветач“.

**Чэрвень**

1 — жалобнае адзначэньне ў Парыжы прадчаснай сьмерці народнага песьняра Беларусі Янкі Купалы.

1—2 — зьлёт беларускіх скаўтаў (зьвязы „Зялёны дуб“ і „Сёстры вогнішча“) у Госьляры (Ангельская зона акупацыі Нямеччыны); кіраўнікі: Вацлаў Пануцэвіч, Валянціна Жукоўская.

15 — зьезд сяброў Саюзу Беларусаў у Льежы (Бэльгія); арганізатар і старшыня Ўладыслаў Рыжы–Рыскі.

17—24 — курсы малодшых кіраўнікоў скаўтаў у Ватэнштэце.

18 — удзел беларускай дзіцячай самадзейнасьці ў Міжнародным дзіцячым фэсьце ў Галендорфе (Нямеччына).

23 — закладзіны Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны ў Рэгенсбургу; старшыня д–р Янка Станкевіч.

23 — дзіцячы паказ „У Купальскую ноч“ паводле сцэнарыю С. Залужнага (Хведара Ільляшэвіча) у Ватэнштэце.

28—29 — сьвяткаваньне Купальля ў Рэгенсбургу.

29 — паніхіда па Янку Купалу ў беларускай праваслаўнай царкве ў Рэгенсбургу.

**Ліпень**

6 — пастаноўка „Купальля“ мастацкай самадзейнасьцю скаўтаў у Ватэнштэце.

6—8 — І зьлёт крывіцкіх скаўтаў у Заходняй Нямеччыне (кір. Вацлаў Пануцэвіч) з прысутнасьцю япіскапа Філафея (Нарко), у Ватэнштэце.

8 — літаратурны вечар Натальлі Арсеньневай, Хведара Ільляшэвіча, Масея Сяднёва ў Ватэнштэце.

21 — жалобнае мерапрыемства па беларускім народным песьняру Янку Купалу зь вялікай музычна–мастацкай праграмай зь яго твораў, наладжанае беларускай грамадзкасьцю ў Мюнхэне.

27 — пярэбары беларускага селішча з Рэгенсбургу ў Міхэльсдорф каля Каму (Нямеччына).

29 — Мэмарыял Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) да Мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы.

Дэклярацыя Сярэдне–Эўрапейскага Фэдэрацыйнага Клюбу ў Рыме (Італія) пры ўдзеле беларускае арганізацыі.

**Жнівень**

10 — Міжнародны студэнцкі баль студэнтаў Унівэрсытэту гораду Марбург (Нямеччына) на заканчэньне сэмэстру з праграмай беларускіх студэнтаў.

**Верасень**

11—12 — побыт а. Мікалая Лапіцкага ў Ватэнштэце.

12 — ІІ зьезд Беларускага Праваслаўнага Аб’яднаньня адбыўся ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу. Старшынёй абіраецца япіскап Філафей (Нарко).

21 — беларускі канцэрт Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Шварцэнборне (Нямеччына).

22 — пачаліся курсы беларусаведы і францускай мовы, ладжаныя Арганізацыяй Беларускіх Работнікаў у Францыі (АБРФ) у Парыжы; лектары інж. Мікола Абрамчык і інж. Лявон Рыдлеўскі.

25 — побыт былога беларускага япіскапа Апанаса (Мартаса) у Ватэнштэце.

26 — 1–ы выпуск матурыстых у Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу: Яраслаў Вініцкі, Алеся Заруцкая, Анатоль Занковіч, Лявон Малевіч і Алесь Трусэвіч.

30 — закладзіны Студэнцкага Зьвязу Крывіцкіх Скаўтаў у Мюнхэне.

30 — ІІІ Канфэрэнцыя Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП). Месца ня вызначанае.

**Кастрычнік**

10 — удзел беларускіх скаўтаў у супольным скаўцкім вогнішчы з скаўцкімі гульнямі і практыкаваньнямі ў Вонгайме (Нямеччына).

13 — прысяга новых скаўтаў І сьцягу ў Ватэнштэце.

16 — агульны кангрэс беларускіх студэнтаў у Нямеччыне і закладзіны Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (ЦБСА) у Мюнхэне; старшыня Барыс Рагуля.

20 — выйшаў № 1 органу Галоўнага Кіраўніцтва ЗКСЧ у Ватэнштэце „Скаўцкая Інфармацыйная Служба“; рэд. Вацлаў Пануцэвіч.

25 — у Парыжы адчынена Беларуская Каталіцкая Місія на чале з рэктарам а. Лявом Гарошкам.

Выйшаў № 1 органу Сябрыны Беларускіх Мэтадыстых за мяжой „Хрысьціянскі сьветач“ (Ватэнштэт).

**Лістапад**

3 — гасьцяваньне беларускай мастацкай самадзейнасьці лягеру ДП Ватэнштэту ў Госьляры (Нямеччына).

8 — дэлегацыя беларускіх каталікоў (а. Леў Гарошка, а. Францішак Чарняўскі і інж. Лявон Рыдлеўскі) сустрэлася ў Ватыкане з Папам Піем XII.

11 — літаратурны вечар Масея Сяднёва ў лягеры ў Міхэльсдорфе.

16 — агульны сход Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне.

29 — Народны дом у лягеры *ABC* у Ватэнштэце адчыняецца мастацкай праграмай самадзейнасьці. Пры адкрыцьці прысутнічаюць ангельскія госьці.

30 — сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну ў лягерах Рэгенсбургу, Міхэльсдорфе, Ватэнштэце (Нямеччына).

30 — выйшаў № 1 часапісу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі „На Шляху“; рэд. Ян Амор (Лёндан).

Лягерную ўладу ў лягеры Міхэльсдорф пераняла група „Зарубежнікі“.

**Сьнежань**

1 — сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з інсцэніроўкай паэмы Міхася Машары „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“ ў Ватэнштэце.

2—3 — канцэрт Беларускага Тэатру Эстрады пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Куліковіча ў Марбургу.

7—8 — побыт япіскапа Філафея (Нарко) у Марбургу.

15 — сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ў Госьляры.

18 — зьезд сяброў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Марбургу.

Адбыўся аб’езд беларускіх лягераў і групаў у Нямеччыне япіскапам Апанасам.

Выйшаў № 1 часапісу Аб’яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне „Мэдычная думка“; рэд. д–р Вітаўт Тумаш (Ватэнштэт).

## 1947 год

**Студзень**

1 — легалізацыя Саюзу Беларусаў у Бэльгіі (СББ): Уладыслаў Рыжы–Рыскі, Васіль Юркоўскі, Адольф Субота і Валянцін Завадзкі.

8 — канцэрт беларускай песьні, ладжаны студэнтамі–беларусамі ў Эгінгене (Нямеччына).

9 — урачыстасьць першых угодкаў 1-га сьцягу крывіцкіх скаўтаў у Ватэнштэце; галоўныя кіраўнікі Вацлаў Пануцэвіч, Валянціна Жукоўская.

18—19 — адбываецца І зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ) у Лёндане: бяруць удзел Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Янка Буяк, Віктар Сянкевіч, Часлаў Кукель, Канстанцін Нор, Мікола Арцюх, Сымон Серафіновіч, Тадэвуш Бартуль, Кастусь Акула, Аляксандар Надсан; рэвізійная камісія: Максім Рудзь, Генрых Сянкевіч, Вэнэдыкт Кляйноў, Тодар Цімафейчык. У ліку сяброў да 5000 беларускіх жаўнераў.

25 — сымбалічнае вогнішча ў Народным доме з мастацкай праграмай у Ватэнштэце; кіраўнік Валянціна Жукоўская.

26 — вечарына з паказам п’есы „Міхалка“ і вакальна–музычнай праграмай самадзейнасьці ў Ватэнштэце.

27 — беларускі канцэрт самадзейнасьці для ангельскіх гасьцей *IRO* (*International Refugee Organization* — Міжнародная Арганізацыя Ўцекачоў) ды *YMCA* ў Ватэнштэце.

**Люты**

1 — выйшаў № 1 часапісу СББ „Беларуская Праўда“; рэд. Уладыслаў Рыжы–Рыскі (Шарлеруа).

9 — сход сяброў Аб’яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі (АБРФ) у Парыжы; інж. Лявон Рыдлеўскі.

14 — біскуп Баляслаў Слосканс адведаў беларускія лягеры ДП у Нямеччыне.

16 — І зьезд сяброў СББ у Шарлеруа; старшыня Ўладыслаў Рыжы–Рыскі, сакратар Адольф Субота.

24 — жалобна–ўрачыстыя ўгодкі дня нараджэньня і сьмерці беларускага народнага паэты Янкі Купалы з дакладам Валянціны Жукоўскай у Ватэнштэце.

27 — канцэрт з батлеечнымі паказамі ў беларускім лягеры *ABC* у Ватэнштэце.

**Сакавік**

**3** — ІІ зьезд сяброў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Марбургу; старшыня Барыс Рагуля.

16 — 1–ы выпуск матурыстых ватэнштэцкай беларускай гімназіі зь вечарынай і канцэртам вучняў.

23 — урачыстасьць памяці Кастуся Каліноўскага, ладжаная ЗКСЧ у Ватэнштэце.
23 — маленьне за Беларусь у касьцёле Сьв. Сэрца ў Шарлеруа, ладжанае СББ.
24 — вечар памяці загінуўшых за волю Беларусі і высьвячэньне 1–га штандару Жаночага Зьвязу ў Ватэнштэце, кіраўнік Валянціна Жукоўская.
25 — урачыстыя сьвяткаваньні дня абвяшчэньня БНР з набажэнствамі ды адпаведнымі праграмамі:
— Англія: Лёндан;
— Бэльгія: Шарлеруа;
— Нямеччына: Мюнхэн, Остэргофэн, Ватэнштэт, Міхэльсдорф, Госьляр і ва ўсіх лягерах, дзе былі беларускія групы.
25—27 — выстава беларускага народнага мастацтва ў Остэргофэне.
29 — I зьезд беларускіх лекараў у Марбургу і стварэньне Аб’яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне (АБЛЧ); старшыня д–р Вітаўт Тумаш.

**Красавік**
2 — закладзена беларуская каталіцкая парафія ў Ватэнштэце; пробашч а. Міхась Маскалік.
6 — выйшаў № 1 „Беларускай думкі“, часапісу беларусаў–каталікоў, выдаванага Беларускім Каталіцкім Парафіяльным Камітэтам у Ватэнштэце, рэд. Вацлаў Пануцэвіч.
9 — зьезд скаўцкіх кіраўнікоў ЗКСЧ у Міхэльсдорфе і арганізацыя 1–га Сьцягу ЗКСЧ у Амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны; кіраўнік Алесь Бута.
9 — прыезд а. Часлава Сіповіча на сталае жыцьцё ў Лёндан.
13 — даклад а. Часлава Сіповіча „Беларусы ў Італіі і Францыі“ ў памяшканьні ЗБВБ у Лёндане; пасьля дакладу наладжаная вечарына.
14 — першая беларуская багаслужба айца Часлава Сіповіча на чужыне ў Лёндане.
19 — 2–і выпуск матурыстых у міхэльсдорфскай Беларускай гімназіі (Юзэфа Брэчка, Кастусь Вайцяхоўскі, Янка Жучка, Янка Запруднік, Натальля Кулікович, Уладзімер Цьвірка і Васіль Шчэцька).
27 — 1–я партыя беларусаў Ангельскай зоны Нямеччыны ад’яжджае ў Вялікабрытанію (19 асобаў, у іх ліку беларускі гісторык Часлаў Будзька).
30 — прамова беларускай дэлегаткі Ніны Абрамчык (Ляўковіч) на Кангрэсе матак людзкога прагрэсу па міжнародным радыё з Парыжу.

**Травень**
1 — прамова Ніны Абрамчык (Ляўковіч) на Міжнародным кангрэсе жанчын у Парыжы.
2 — нарада скаўцкіх кіраўнікоў і скаўцкія курсы ЗКСЧ у Ватэнштэце.
4 — сход жыхароў лягеру *ABC* у Ватэнштэце выбірае Беларускі Дапамаговы Камітэт лягеру ў складзе: д–р Вітаўт Тумаш, Хведар Ільляшэвіч і Леанід Галяк.
7 — лекцыя д–ра Янкі Станкевіча ва Ўкраінскім унівэрсытэце ў Мюнхэне.
14 — беларускі прадстаўнік на паседжаньнях Міжнароднага Каардынацыйнага Бюро Выгнанцаў у Мюнхэне.
20 — выйшаў № 1 „Дзёньніка загадаў і пастаноў Галоўнае Кватэры ЗКСЧ“; рэд. Вацлаў Пануцэвіч (Ватэнштэт).
21 — арганізацыя Студэнцкага Скаўцкага Зьвязу ЗКСЧ у Марбургу.
25 — 30–я ўгодкі сьмерці паэты Максіма Багдановіча ладзіла ЗБВБ у Лёндане з рэфэратам Аляксандра Надсана.
25 — тая ж самая імпрэза з рэфэратам Хведара Ільляшэвіча наладжаная БЦДК у Ватэнштэце.
25 — пастаноўка лягернай самадзейнасьцю п’есы Францішка Аляхновіча „На вёсцы“ ў Ватэнштэце.
29 — 2–я партыя беларускіх ДП выехала на працу ў Англію з Ангельскае зоны Нямеччыны.

**Чэрвень**
1 — паніхіда і жалобная ўрачыстасьць у 5–я ўгодкі сьмерці беларускага народнага паэты Янкі Купалы ў Парыжы.
1 — беларускія багаслужбы і рэфэраты на надзённыя тэмы беларускага жыцьця кожнае нядзелі ладзіла ЗБВБ у Лёндане.
8 — рэфэрат айца Часлава Сіповіча „Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая — апосталка і асьветніца Беларусі“, чытаны ў Лёндане.
13 — сход беларускіх настаўнікаў і закладзіны Аб’яднаньня Беларускіх Настаўнікаў у Ангельскай зоне Нямеччыны: Аляксандар Крыт, Язэп Гладкі, Кастусь Сіткоўскі.
14—15 — побыт япіскапа Апанаса (Мартаса) у беларускім лягеры *ABC* у Ватэнштэце.
15 — II зьезд сяброў СББ у Шарлеруа. Прысутнічалі: Уладыслаў Рыжы–Рыскі, Я. Даменчык, А. Гэрцік, Я. Гаронскі, Я. Ліборна.
15 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка „Жыцьцё і дзейнасьць беларусаў у БССР у 1918—1929 гг.“ у Парыжы.
22 — курсы беларусаведы і францускае мовы ў Шарлеруа, ладжаныя Ўправай СББ.

23 — паказ „У Купальскую ноч“ (літмантаж С. Залужнага (Хведара Ільляшэвіча)) у Народным доме ў Ватэнштэце.
24 — вечарына ў Ватэнштэце (паказ п’есы Элізы Ажэшкі „Прадка пад крыжам“).
27 — сход беларусаў і закладзіны Беларускага Дабрадзейнага Таварыства ў Заўльгаў (Француская зона акупацыі Нямеччыны); старшыня д–р Віктар Войтанка.
27 — сход групы беларусаў у Міхэльсдорфе ўтварае Міжлягерную Раду: У. Ігнатовіч і І. Мілевіч.
Выйшаў № 1 „Голасу беларуса“; рэд. Сяргей Хмара–Сіняк (Шлезвіг–Гальштэйн, Нямеччына).

**Ліпень**
6 — сход сяброў АБРФ у Парыжы зь перавыбарамі Ўправы; старшыня інж. Лявон Рыдлеўскі.
6 — зьезд беларусаў у Остэргофэне і выбары Беларускага Нацыянальнага Камітэту (БНК): Васіль Кендыш, Антон Адамовіч, Алесь Вініцкі, Францішак Кушаль, Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Леў Гарошка, Барыс Рагуля, А. Міхноўскі, Юры Попка, д–р Станіслаў Грынкевіч, Станіслаў Станкевіч, Аляксандар Стагановіч, Б. Сташкевіч.
6 — нарада прадстаўнікоў беларускіх лягераў, беларускіх нацыянальных групаў і прадстаўнікоў у Остэргофэне прыняла пратэст супраць дывэрсійнае расейскае акцыі г. зв. Міжлягернае Рады.
8.VII—8.VIII — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Англіі.
13 — канфэрэнцыя прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка зь беларускім актывам у Лёндане.
13 — жалобная імпрэза–паніхіда па чарговых угодках сьмерці беларускага народнага паэты Янкі Купалы ў Лёндане.
15 — літаратурны вечар паэты Масея Сяднёва ў Ватэнштэце.
20 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка „Нашыя сілы і нашыя недахопы“ грамадзтву ў Лёндане.
23 — літаратурны вечар Масея Сяднёва ў Гановэры (Нямеччына).
29—30 — сьвяткаваньне 2–й гадавіны існаваньня беларускага лягеру *ABC* у Ватэнштэце з паказам мастацкай самадзейнасьці і выставай працаў лягерных умельцаў.
30 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка „Эканамічныя багацьці Беларусі“ для грамадзкасьці ў ЗБВБ у Лёндане.
Выдадзены першы на эміграцыі „Беларускі лемантар“ Апалёніі Савёнак (Радкевіч) для беларускіх школаў на чужыне.

**Жнівень**
5 — удзел беларускіх скаўтаў у міжнародным вечары памяці Бодуэн–Паўэла ў Браўншвайгу (Нямеччына).
8—10 — II зьлёт скаўтаў ЗКСЧ у Остэргофэне і раскол у кіраўніцтве беларускага скаўтынгу ў Нямеччыне.
15 — пачаліся заняткі ў ватэнштэцкай беларускай гімназіі; дырэктар Вацлаў Пануцэвіч, пэдагогі Раіса Галяк, Аляксандар Крыт, Часлаў Будзька, Валянціна Жукоўская і інш.
23—24 — зьезд прадстаўнікоў беларускіх асяродкаў Ангельскае зоны ў Ватэнштэце і выбары Зоннага Беларускага Нацыянальнага Камітэту (Мікола Панькоў, П. Ніжнік, Васіль Камароўскі, Сяргей Хмара–Сіняк і Ўладзімер Сенька, гасьцямі прысутнічалі япіскап Апанас (Мартас), прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі, Станіслаў Станкевіч і інш.).
23—25 — побыт япіскапа Апанаса (Мартаса) у лягеры *ABC* у Ватэнштэце.
27 — закладзіны ў Госьляры Беларускай Харытатыўнай Службы ў Нямеччыне; айцец Міхась Маскалік, Уладзімер Падагель.
30—31 — гастролі Беларускага Тэатру Эстрады пад кіраўніцтвам Міколы Куліковіча ў Ватэнштэце.

**Верасень**
1 — пачатак школьнага году ў беларускіх пачатковых школах у Нямеччыне.
1—2 — зьезд сяброў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Марбургу; старшыня Барыс Рагуля.
3 — ствараецца Беларуская Народная Партыя ў Графэншаў (Нямеччына); старшыня Яўхім Кіпель.
4—10 — праца адмысловай камісіі дзеля палагоджаньня разьбежнасьцяў паміж кіраўніцтвам скаўцкага руху і адміністратарам лягеру *ABC* у Ватэнштэце Сьвятаславам Каўшом. Скончылася безвынікова.
8 — пачаліся заняткі ў Беларускай гімназіі ў Ватэнштэце.
13 — сход у Остэргофэне сяброў Беларускага Навуковага Таварыства з рэфэратам д–ра Янкі Станкевіча „Адміністрацыя Вялікага Княства Літоўскага“.
14 — лекцыя а. Часлава Сіповіча „Крывічы“, наладжаная ў Лёндане ЗБВБ.
15 — выйшаў № 1 сындыкальнага органу СББ у Льежы „Змаганьне за Волю і за Існаваньне“; рэд. Уладыслаў Рыжы–Рыскі.
16 — адзначаліся 2–я ўгодкі беларускага скаўцкага руху ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны.
19—30 — турнэ Беларускага Тэатру Эстрады пад кіраўніцтвам Міколы Куліковіча па Ангельскай зоне Нямеччыны.
20 — канцэрт Тэатру Эстрады ў Ангельскім афіцэрскім клюбе ў Фленсбургу.

21 — сход сяброў лёнданскага аддзелу ЗБВБ і выбары камісіі дому; а. Часлаў Сіповіч, Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Францішак Бартуль, Сымон Серафіновіч і Воўна.

21 — закладзіны Беларускага Сындыкату Работнікаў у Льежы; кіраўнік Уладыслаў Рыжы–Рыскі.

25—26 — канцэрт у ДП–лягерах у Кілі (Нямеччына).

27—29 — канцэрт БТЭ у ДП–лягерах у Нэйштэце (Нямеччына).

30 — адчынена беларуская бібліятэка пры АБРФ „Хаўрус“ у Парыжы.

**Кастрычнік**

7 — выйшаў № 1 двухтыднёвіка ЗБВБ „Беларус на чужыне“; рэд. Аляксандар Надсан (Лёндан).

8 — удзел беларускага прадстаўніка Леаніда Галяка ў Міжнародным зьезьдзе юрыстаў у Блёмбэргу (Нямеччына).

12 — адзначэньне беларускай грамадзкасьцю ў Остэргофэне 35–годзьдзя працы кампазытара Міколы Равенскага.

19 і 26 — лекцыі Вінцэнта Жук–Грышкевіча „Беларуская народная творчасьць“ ладзіла ЗБВБ у Лёндане.

25 — выйшаў № 1 часапісу беларускай рэлігійнай думкі „Божым шляхам“; рэд. а. Леў Гарошка (Парыж).

30 — пачаліся заняткі ў беларускай пачатковай школе ў Мітэнвальдзе (Нямеччына); настаўнікі Анатоль Валошка, Сымон Шаўцоў.

31 — выйшаў № 1 тыднёвай беларускай газэты „Бацькаўшчына“; рэд. Лявон Савёнак (Остэргофэн).

**Лістапад**

1 — сход беларускіх студэнтаў у Лёндане і закладзіны Беларускага Акадэмічнага Аб’яднаньня „Жыцьцё“: а. Часлаў Сіповіч, Аляксандар Надсан, Францішак Бартуль.

1—2 — агульны сход беларускіх студэнтаў у Марбургу і закладзіны Цэнтральнага Беларускага Студэнцкага Аб’яднаньня на Чужыне (ЦБСАЧ); старшыня Барыс Рагуля.

13 — жалобны сход з паніхідай памяці беларускага народнага песьняра Янкі Купалы ў Ватэнштэце.

15 — прысяга „Пралесак“ скаўцкаму сьцягу ў Ватэнштэце; кіраўнічка Валянціна Жукоўская.

16 — лекцыя а. Часлава Сіповіча „Месца беларускай мовы сярод моваў сусьвету“ ў Лёндане.

16 — сьвяткаваньне 2–х угодкаў існаваньня беларускага скаўцкага руху ў Міхэльсдорфе і Ватэнштэце.

21 — зьяўляецца № 1 насьценнай газэты Аб’яднаньня Беларускіх Жанчынаў у Францыі „Беларуска“; рэд. Ніна Раса (Абрамчык).

23 — паніхіда па палеглых змагарох і ўрачыстасьць угодкаў Слуцкага паўстаньня з дакладам удзельніка паўстаньня Лявона Рыдлеўскага ў Парыжы.

23 — скаўцкая прысяга IV сьцягу ЗКСЧ і канцэрт беларускай песьні ў Майнлёйзе (Нямеччына).

24 — адкрыцьцё беларускай бібліятэкі ў лягеры *ABC* у Ватэнштэце (300 кніг).

29 — канцэрт беларускай народнай песьні, зладжаны Беларускім Студэнцкім Згуртаваньнем у Мэнхэгофе (Нямеччына).

30 — урачыстасьць, прысьвечаная ўгодкам Слуцкага паўстаньня з скаўцкім вогнішчам, паходам у Ватэнштэце.

Выйшаў № 1 органу Беларускай Народнай Партыі „Беларуская воля“; рэд. Яўхім Кіпель (Графэншаў).

**Сьнежань**

13—14 — скаўцкі сход і ўтварэньне апазыцыйнага Галоўнаму Кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў на Чужыне; М. Маеўскі, Міхась Сенька, Уладзімер Сенька, Юрка Сянькоўскі, Сьвятаслаў Коўш у Ватэнштэце.

23—26 — 4 канцэрты БТЭ ў Ватэнштэце.

25 — канцэрт беларускай песьні, ладжаны Беларускім Студэнцкім Згуртаваньнем у Мітэнвальдзе (Нямеччына).

30 — урачыстасьць угодкаў І Усебеларускага Кангрэсу з дакладам Антона Адамовіча ў Остэргофэне (Нямеччына).

30 — канцэрт мастацкай самадзейнасьці для хворых лягернага шпіталю на прапанову ўрадоўцаў *IRO* ў Ватэнштэце.

31 — 1–ы паказ багатай і разнастайнай праграмы Беларускай Драматычнай Студыі Аўгена Кавалеўскага ў Остэргофэне.

31 — сустрэча Новага году ў Ватэнштэце.

31 — адозва прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага аб утварэньні Цэнтральнага Беларускага Прадстаўніцтва.

На працягу году выдадзена:

Міхась Кавыль. Ростань: вершы. Рэгенсбург;

Масей Сяднёў. Спадзяваньні: вершы. Рэгенсбург;

Д–р Янка Станкевіч. Падручнік крывіцкае мовы. Рэгенсбург;

Робэрт Люіс Стывэнсан. Чортава бутэлька. Пераклад Б. Г. (Баляслаў Грабінскі) і В. Т. (Вітаўт Тумаш). Ватэнштэт;

Я. Г. (а. Язэп Германовіч). Родны палетак: чытанка для 2 і 3 клясы. Выдавецтва „Заранка“. Ватэнштэт.

## 1948 год

### Студзень

3 — Генэральная Рада СББ утварыла ў Льежы Кіруючы Цэнтар.

3 — рэфэрат Вінцэнта Жук–Грышкевіча „Ўсход і Захад“, ладжаны Беларускай Рэлігійнай Місіяй у Парыжы.

9 — выезд зь Міхэльсдорфу 11 беларускіх юнакоў (Алесь Бута, Міхась Вострыкаў, Піліп Дзехцяр, Янка Жучка, Янка Запруднік, Леанід Карась, Алесь Маргові, Павал Урбан, Уладзімер Цьвірка, Леанід Швайчук, Васіль Шчэцька) на работу ў капальнях Англіі. У Мюнстэры да іх далучыўся Павал Дымітрук. Пачатак існаваньня славутай „Дванаццаткі“.

10 — выйшаў № 1 „Наперад“, органу тады яшчэ „Адзінаццаткі“, выдадзены „на рэйках у Англію“.

11 — удзел кіраўніцтва АБРФ у гадавым сходзе Сындыкату Работнікаў у Парыжы.

11 — правакацыйны выступ „тоже белоруссов“ супраць назову „крывічы“ ў лягеры ДП Мэнхэгоф (Нямеччына).

26 — выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня „Апошнія весткі“, выдаванага лягерам *ABC* у Браўншвайгу, рэд. Хведар Ільляшэвіч.

28 — інтэрвію прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў „Апошніх вестках“.

28 — закладзіны Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне (ЗБА) у Буэнас Айрэсе. Старшыня Кастусь Мярляк.

31 — вечар вэтэранскіх успамінаў з канцэртам, ладжаны Згуртаваньнем Беларускіх Вэтэранаў у Остэргофэне.

### Люты

1 — даклад Вінцэнта Жук–Грышкевіча аб жыцьці і дзейнасьці беларусаў у Францыі ў ЗБВБ у Лёндане.

1 — лістоўка–паведамленьне аб аднаўленьні дзейнасьці БЦР, якую падпісалі Васіль Рагуля, Юры Сабалеўскі, Мікалай Сьцяпанаў, Мікола Шыла і Сьвятаслаў Коўш.

2 — сход сяброў ЗБВБ у Лёндане прымае пастанову аб прызнаньні галоўным беларускім прадстаўніцтвам Рады БНР і прэзыдэнта Міколы Абрамчыка.

2 — раскол сярод сяброў ЗБВБ у Лёндане.

4—5 — сход беларусаў у горадзе Існы (Француская зона Нямеччыны) і закладзіны Згуртаваньня Беларусаў у Францускай зоне. Старшыня д–р Віктар Войтанка.

8 — вечар памяці Максіма Багдановіча, наладжаны скаўтамі, з праграмай ягонай творчасьці ў Міхэльсдорфе.

9 — у Мюнхэне памёр мітрапаліт палескі і пінскі Аляксандар (Іназемцаў).

14—29 — турнэ па лягерах ДП па Амэрыканскай зоне Нямеччыны БТЭ пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Куліковіча зь беларускай праграмай.

14 — сход беларусаў лягеру ДП у Рыдзе, закладзіны Згуртаваньня Беларусаў у Аўстрыі. Старшыня Аляксандар Яцэвіч.

15 — выйшаў № 1 „Камунікату Кіруючага Цэнтру Беларускага Нацыянальна–Незалежніцкага Хрысьціянскага Руху (БННХР)“ (Лёндан).

20 — беларуская каталіцкая дэлегацыя зычліва прынятая ў Лёндане кардыналам Грыфінам.

22 — у газэце „Бацькаўшчына“ апублікаваная Дэклярацыя Рады БНР, прынятая на сэсіі Рады 29.XII.1947.

27 — рэфэрат пра Слуцкае паўстаньне, ладжаны беларускім згуртаваньнем у Рыдзе (Аўстрыя).

29 — II зьезд Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў (ЗБВ): Францішак Кушаль, Мікола Скабей, Аляксандар Калодка ў Віндзішбэргердорфе (Нямеччына).

29 — група былых афіцэраў Беларускай Краёвай Абароны (Юрка Весялкоўскі, Уладзімер Курыла, Тодар Цімафейчык, Павал Навара, Аркадзь Варава) арганізуе спатканьне вэтэранаў на 2 траўня 1948 г. у Лёндане.

Аднавіла дзейнасьць Беларуская Нацыянальная Рада ў Чыкага ў складзе: Павал Чапко, Ігнат Лабач, Макар Аблажэй.

Выйшаў № 1 месячніка „Беларускі эмігрант“ (Таронта, Канада); рэд. Кастусь Акула (Таронта).

Выйшла брашура Н. Недасека (Антон Адамовіч) „1917—1918“ (Остэргофэн).

### Сакавік

2 — створана „выбарчая камісія“ ў Цэнтральнае Прадстаўніцтва Беларускай Эміграцыі Ангельскае зоны Нямеччыны ў складзе: Уладзімер Сенька, Раіса Евец, Віктар Літаровіч, Васіль Пунтус, Анатоль Занковіч, А. Міляшкевіч.

2 — выйшаў № 1 беларускага дэмакратычна–незалежніцкага тыднёвіка „Вызваленьне“; рэд. Ксэнафонт Вайцяхоўскі (Міхэльсдорф).

7 — сход і закладзіны Беларускага Культурнага Таварыства ў Заўльгаў (Француская зона Нямеччыны); старшыня д–р А. Шудзейка.

7 — сход аддзелу ЗБВБ у Ковэнтры (Англія) пастанаўляе падпарадкоўвацца Радзе БНР.

9 — удзел а. Міхася Маскаліка ў Канфэрэнцыі каталіцкіх ксяндзоў ДП у Бад–Дуйсбургу (Нямеччына).
12 — Беларускую гімназію імя Максіма Багдановіча ў Ватэнштэце закончыла 9 матурыстых.
14 — група адкалоўшыхся сяброў ЗБВБ у Лёндане стварыла Хрысьціянскае Аб’яднаньне Беларускіх Работнікаў (ХАБР). Управа: Мікола Буляк, Барыс Суравы, Юрка Весялкоўскі, Павал Бударкевіч, Аркадзь Варава, Сымон Серафіновіч, Аляксандар Жданковіч, Аляксандар Малаха, Канстанцін Нор і Васіль Завадзкі.
20 — сьвяткаваньне ўгодкаў абвяшчэньня БНР — Акту 25–га сакавіка — і IV зьезд сяброў СББ у Льежы.
20 — Беларускую гімназію ў Міхэльсдорфе скончылі: Галіна Ганчарэнка, Леанід Карась, Вітаўт Кіпель, Віктар Лябёдкін, Васіль Панаў, Зора Савёнак, Павал Урбан і Вольга Харытончык.
20 — 3–ці зьезд ЗБВБ у Лёндане. Абранае кіраўніцтва: Францішак Бартуль, Аляксандар Крыт, Аляксандар Надсан, Ян Садоўскі, Вера Богдан, Вэнэдыкт Кляйноў, Адольф Буката; рэвізійная камісія: Мікалай Гумен, Рыгор Воўна, Янка Запруднік, Часлаў Кукель.
25 — выданы Маніфэст Рады БНР.
25 — дэкрэт Радаслава Астроўскага аб рэарганізацыі самазьліквідаванай Беларускай Цэнтральнай Рады.
25 — урачыстае сьвяткаваньне абвешчаньня БНР — Акту 25 сакавіка — з адпаведнымі праграмамі:
— Англія: Лёндан, Брэдфард;
— Аўстрыя: Рыд;
— Нямеччына: Остэргофэн, Міхэльсдорф, Ватэнштэт, Віндзішбэргердорф, Мітэнвальд і меншыя беларускія групы лягераў ДП;
— Францыя: Парыж.
25 — выйшаў № 1 органу ХАБР „Аб’яднаньне“; рэд. Юрка Весялкоўскі (Лёндан).
27 — закладзены БНК на Францускую зону Нямеччыны ў складзе: д–р Віктар Войтанка, Мікола Дзямідаў, Каранеўская, Чыжык, Н. Краўцэвіч, Казлоўскі.
28 — I зьезд сяброў БННХР у Лёндане ў складзе: Вэнэдыкт Кляйноў, Аляксандар Надсан, Аляксандар Лашук, Ян Мазура, Уладзімер Курыла, Тодар Цімафейчык; рэвізійная камісія: Часлаў Кукель, Павал Асіповіч, Сыльвэстар Буткевіч.
28 — Беларуская Драматычная Студыя Аўгена Кавалеўскага паставіла п’есу Тодара Лебяды „Загубленае жыцьцё“ ў Міхэльсдорфе.
28 — рэфэрат кампазытара Міколы Куліковіча „Беларускія песьні і музыка“ ў Ватэнштэце.
28 — зьезд сяброў АБРФ у Парыжы; старшыня інж. Лявон Рыдлеўскі.
28 — выйшаў № 1 „Беларускага Весткавага Лістка на Францускую зону Нямеччыны“, лацінкай; рэд. Віктар Войтанка (Заўльгаў).
29 — IV зьезд СББ у Льежы, старшыня Ўладыслаў Рыжы–Рыскі.
У сакавіку выйшлі:
№ 1 часапісу беларускіх каталікоў „Адраджэньне“; рэд. Станіслаў Грынкевіч (Остэргофэн);
Музыка і чэрці: беларуская народная казка; выдаў Вітаўт Тумаш (Госьляр);
Н. Недасек. 1917—1918 (Остэргофэн);
Масей Сяднёў. У акіяне ночы: Вершы (Міхэльсдорф);
Рыгор Крушына. Лебядзь чорная: Вершы. Выдавецтва „Пагоня“;
Мікола Шыла. А што далей? (выд. 1–е) (Ватэнштэт).
Апрача таго выйшла многа адозваў, зваротаў, лістовак розных „партыяў“ і групаў.

**Красавік**
6 — памёр Мікола Шыла, стары беларускі сацыяліст–рэвалюцыянэр, у шпіталі ў Госьляры.
7 — сход сяброў ЗБА ў Буэнас Айрэсе; старшыня Кастусь Мярляк.
10 — музычна–сцэнічны паказ Беларускай Драматычнай Студыі Аўгена Кавалеўскага ў Остэргофэне.
11 — сход сяброў АБРФ у Парыжы: інжынэр Лявон Рыдлеўскі, Міхась Наўмовіч, Арсен Монід.
15 — выйшаў № 1 бюлетэня СББ „За незалежнасьць“; рэд. Уладыслаў Рыжы–Рыскі (Льеж).
15 — выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня Беларускага Культурнага Таварыства „За еднасьць“; рэд. А. Шудзейка (Заўльгаў).
15 — выйшаў № 1 беларускага дэмакратычнага двухтыднёвіка „Голас Беларуса“; рэд. Парфен Бразгуноўскі, супрацоўнікі: Гаваркоўскі, А. Ушаль, В. Патароча, А. Кавальчук, Клязовіч, Аляксандар Калько (Мэнхегоф, Нямеччына).
20 — удзел беларускіх дэлегацыяў у Канфэрэнцыях прэсы ДП у Мюнхэне (Васіль Кендыш і Пётра Манькоўскі) і ў Гановэры (Леанід Галяк і Мікола Панькоў).
24—25 — зьезд дэлегатаў (57) БНК у Остэргофэне і выбары Ўправы: Уладзімер Тамашчык, Аляксандар Стагановіч, Мікола Кунцэвіч, д–р Станіслаў Грынкевіч, д–р Пётр Гайдзель, Леанід Галяк, Алесь Махноўскі, Часлаў Ханяўка, Натальля Арсеньнева, Яраслаў Чыжык, Віталь Кажан, Уладзімер Бортнік, Уладзімер Русак, Мечыслаў Рачыцкі, Міхась Тулейка; рэвізійная камісія: Алесь Вініцкі, Сымон Кабыш (Кандыбовіч), Ян Чарнецкі.
Выйшла „Белая кніга“, выпуск 1–ы, пад рэдакцыяй Антона Адамовіча (Остэргофэн).

**Травень**

1 — 1–я сустрэча вучняў–кадэтаў Менскае афіцэрскае школы ў Лёндане; прэзыдыюм: Канстанцін Нор, Аляксандар Надсан, Віталь Цярпіцкі.

2 — 2–і зьезд ЗБВБ у Лёндане: Алесь Бута, а. Часлаў Сіповіч, Алесь Марговіч, Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Мікола Нікан, Аляксандар Лашук, Аляксандар Надсан, Францішак Бартуль; наглядная рада: Міхась Мароз, Мікола Арцюх, Вэнэдыкт Кляйноў, Уладзімер Курыла; сяброўскі суд: Пётр Саўчыц, Віктар Сянкевіч, Леанід Карась, В. Швэд.

6 — зьневажэньне штандараў беларускіх скаўцкіх зьвязаў у беларускай праваслаўнай царкве (актыўна „дзейнічалі“ Міхаіл Запольскі, Апанас Алехнік, Міхаіл Парэцкі) у Міхэльсдорфе.

8 — сход у Эльвангене і стварэньне Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва ў Нямеччыне: Васіль Рагуля, Юры Сабалеўскі, Аляксандар Русак, Аляксей Сянькевіч, Мечыслаў Рачыцкі, Ксэнафонт Вайцяхоўскі. Прадстаўнікі на Амэрыканскую зону Нямеччыны: Аляксандар Русак, Тодар Шыбут, Ксэнафонт Вайцяхоўскі, Мікола Ігнатовіч, а. Усевалад Родзевіч, Уладзімер Лазарэвіч, Янка Кудрык.

8 — сход ЗБВ у Віндзішбэргердорфе прыймае рэзалюцыю, ганьбячую дзейнасьць людзей, апаганіўшых сьцягі беларускіх скаўтаў.

8—9 — XII пленум БЦР у Эльвангене. Прэзыдыюм: Юры Сабалеўскі, Анатоль Шкутка, Аляксандар Русак, Іван Касяк, Сымон Шнэк, Юрка Віцьбіч, Мікола Сьцяпанаў, д–р Мікалай Мінкевіч, Часлаў Найдзюк, Ксэнафонт Вайцяхоўскі.

9 — паказ і канцэрт самадзейнасьці беларускіх скаўтаў у Віндзішбэргердорфе.

9 — нарада і закладзіны Саюзу Беларускіх Журналістых на Чужыне (СБЖ) у Остэргофэне: Мікола Панькоў, Антон Адамовіч, Ян Чарнецкі, Станіслаў Станкевіч.

15 — зьезд сяброў акруговага аддзелу ЗБВБ у Ёрку (Англія), прысутнічалі: Міхась Мароз, Сяргей Шчэрба, П. Паўлоўскі.

15 — сход і закладзіны Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Вялікабрытаніі: Мікола Нікан, Пётра Сыч, Вэнэдыкт Кляйноў, Тодар Цімафейчык, Уладзімер Курыла, Часлаў Кукель.

15 — сход ЗБВ у Шляйсгайме (Нямеччына) патрабуе „пакараньня злодзеяў, падняўшых рукі на нашыя сьвятыні“.

29 — легалізацыя СББ у Бэльгіі.

30 — зьезд сяброў ЗБВБ акругі Ковэнтры: Сыльвэстар Буткевіч, Станіслаў Радкевіч, Генрых Сянкевіч, Леанід Карась, Янка Запруднік; рэвізійная камісія: Алесь Бута, Ю.Дабравольскі, Васіль Шчэцька.

**Чэрвень**

4—5 — саборык у Канстанцы, Французская зона Нямеччыны, аднаўляе Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

5 — II зьезд Аб’яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне ў Марбургу: д–р Вітаўт Тумаш, д–р Анатоль Бразоўскі.

13 — арганізацыя аддзелу ЗБВБ у Лёндане: Янка Пілецкі, Рыгор Воўна, Вера Богдан.

20 — пратэстацыйны сход сяброў Беларускага Незалежніцкага Аб’яднаньня Моладзі ў Парыжы супраць патаптаньня беларускіх скаўцкіх сьцягоў у Міхэльсдорфе: Янка Філістовіч, Валянцін Міцкевіч, Арсен Монід.

23—24 — Сэсія Рады БНР у Нямеччыне прымае пастанову аб беларускай вонкавай палітыцы Ўраду БНР.

27 — жалобныя ўгодкі з паніхідай (служыў а. Леў Гарошка) па сьмерці беларускага народнага песьняра Янкі Купалы з дакладам Янкі Філістовіча, ладзілі АБРФ і БНАМ у Парыжы.

27 — нарада і закладзіны Рэспубліканска–Рэвалюцыйнага Ўсебеларускага Хаўрусу (РУХ) у Остэргофэне: Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Мікола Панькоў.

У чэрвені выйшлі:

№ 1 „Змаганьня“, органу РУХу, рэд. Антон Адамовіч (Остэргофэн);

С. Юстапчык (Антон Адамовіч). Каханы горад: Завязка раману (Остэргофэн).

**Ліпень**

3 — зьезд сяброў ЗБВБ акругі Ёркс: Сяргей Шчэрба, Янка Міхалюк, Мікола Ягоўдзік, Шпаковіч, Вінаградаў, К. Янцэвіч.

20 — закладзіны аддзелу ЗБВБ у Гамптан Лёвэце (Англія), упаўнаважаны Тодар Цімафейчык.

21 — V зьезд сяброў СББ у Льежы, пачаты багаслужбай (а. Францішак Чарняўскі) у прысутнасьці прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка. Генэральная Рада СББ: Уладыслаў Рыжы–Рыскі, Я. Лабоўка, М. Кумейша, Д. Кажура, Мікола Шуст; аддзелы СББ у Ліёне, Ціёнвілі.

У ліпені выйшлі:

№ 1 органу БНАМ „Моладзь“; рэд. Янка Філістовіч (Парыж).

Мікола Шыла. А што далей? (2–е выданьне) (Лёндан).

**Жнівень**

12—17 — удзел беларускай дэлегацыі ў зьезьдзе *Pax Romano* (міжнародная каталіцкая арганізацыя — **рэд.**) у Лёндане: а. д–р Часлаў Сіповіч і Аляксандар Надсан.

15 — закладзіны аддзелу ЗБВБ у Манчэстэры (Англія): Я. Гуцька, Ш. П.

22 — I зьезд БХАА „Жыцьцё“ ў Лёндане: а. д–р Часлаў Сіповіч, Аляксандар Надсан, Янка Пілецкі, Уладзімер Цьвірка, Франіцшак Бартуль, Янка Запруднік, Павал Навара.
25 — сход беларусаў у Стакгольме (Швэцыя) і закладзіны Беларускае Грамады ў Скандынавіі.
28—29 — выстава беларускага друку і здымкаў у Віндзішбэргердорфе.

**Верасень**
2 — закладзіны Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Лювэне (Бэльгія); старшыня Барыс Рагуля.
6 — прыбыла першая група беларусаў у Аўстралію (28 сем’яў).
11 — V зьезд аддзелу ЗБВБ у Ёрксе: Міхась Мароз, Вінаградаў, Янка Сяўковіч, Шпакоўскі, Мікола Ягоўдзік; рэвізійная камісія: Янка Міхалюк, М.Галоўка, Ганна Марцінкевіч; культурна–асьветніцкая камісія: Сяргей Шчэрба, Б. Ляшчонак, А. Ражанец, М. Райцэўскі, М. Галоўка.
18 — удзел беларусаў у Міжнацыянальным канцэрце ў лягеры Батгурэй (Аўстрыя).
28 — сход сяброў акругі Ковэнтры: С. Будкевіч, Леанід Карась, Л. Хвалько.
29 — сход сяброў аддзелу ЗБВБ у Манчэстэры (Англія).
30 — пачатак школьнага году ў беларускіх школах у Нямеччыне.

**Кастрычнік**
14 — пастаноўка п’есы Тодара Лебяды „Загубленае жыцьцё“ скаўцкай самадзейнасьцю ў Міхэльсдорфе.
16 — арганізацыйная сходка новапрыбылых беларусаў у Канбэры (Аўстралія): Уладзімер Клуніцкі.
24 — удзел беларускай грамады ў Міжнародным антыкамуністычным вечы ў Рэгенсбургу.
Выйшаў № 1 месячніка „Беларус у Амэрыцы“; рэд. Сьвятаслаў Коўш (Саўт Рывэр, штат Нью Джэрзі, ЗША).

**Лістапад**
1 — памёр Павал Сьвірыд, грамадзка–культурны працаўнік у Равэнсбургу (Нямеччына).
2 — ЗБВБ сьвяткавала ўлазіны ў собскі дом арганізацыі, набыты грамадзкай складчынай у Лёндане.
6 — загінуў у аўтакатастрофе Хведар Ільляшэвіч, пісьменьнік і грамадзкі працаўнік у Ватэнштэце.
8 — легалізацыя Злучанага Беларуска–Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту ў Саўт Рывэры (штат Нью Джэрзі): Іван Ермачэнка, Барыс Кіт, М. Філіповіч, Джын Скуба.
14 — сход сяброў лёнданскага аддзелу ХАБР: Аляксандар Жданковіч, М. Залога, П. Юнах, П. Ігнацік, А. Петраш.
14 — закладзіны Касы Самапомачы (ХАБР) у Лёндане: А. Аўсейчык, Я. Балабановіч, Уладзімер Ваўчок, К. Стасевіч, М. Шпакоўскі.
15 — сьвяткаваньне 3–й гадавіны існаваньня беларускага скаўтынгу на чужыне ў Віндзішбэргердорфе.
21 — I зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Лёндане: Пётра Сыч, Мікола Нікан, Янка Пілецкі, Б. Варган, Уладзімер Курыла; рэвізійная камісія: Мікола Арцюх, Пётр Асіповіч, Ян Амор, Алесь Бута, Л. Хвалько; сяброўскі суд: Ян Клыбік, Часлаў Кукель, Аляксандар Лашук, Янка Запруднік.
21 — паніхіда япіскапа Савы (Саветава) па Хведару Ільляшэвічу, Міколу Шылу і Паўлу Сьвірыду ў Лёндане.
27 — арганізацыйны сход беларусаў Таронта (Канада) і закладзіны Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК): Кастусь Акула, Барыс Аранскі, Міхась Пашкевіч, Язэп Пітушка; рэвізійная камісія: Тамаш Курбат, Мікола Сільвановіч, Т. Салановіч.
27 — удзел беларусаў у Міжнародным зьезьдзе журналістых Сярэдняй Эўропы ў Парыжы; бярэ ўдзел Лявон Рыдлеўскі.
27 — урачыстае адкрыцьцё помніка палеглым за волю Беларусі ў Мітэнвальдзе–Люэнзэе (Нямеччына).
27.XI—2.XII — праходзілі сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ва ўсіх асяродках, дзе больш–менш пражываюць купіны беларусаў з паніхідамі і ўрачыстасьцямі ў:
— Англія: Лёндан (падвойна), Ковэнтры, Лідс;
— Аўстрыя: Рыд;
— Аўстралія: Канбэра;
— Канада: Таронта (падвойна);
— Нямеччына: Мюнхэн, Міхэльсдорф, Ватэнштэт, Остэргофэн;
— Францыя: Парыж.
28—29 — зьезд беларускіх дэлегацыяў у Парыжы і закладзіны Сусьветнага Аб’яднаньня Беларускай Эміграцыі (САБЭ) з цэнтрам у Парыжы: Лявон Рыдлеўскі, Уладзімер Шыманец, Уладзімер Тамашчык, Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Янка Сурвіла, Мікола Нікан, Пётра Манькоўскі, яп. Сергій (Ахатэнка), а. Францішак Чарняўскі, а. Леў Гарошка; рэвізійная камісія: Аўген Кахаоўскі (Калубовіч), Барыс Рагуля, Аляксандар Лашук, Часлаў Кукель, Юстын Мурашка; суд: Леанід Галяк, Францішак Кушаль, Міхась Міцкевіч, Сташкевіч, Мечыслаў Рагажэцкі.

**Сьнежань**
1 — адчынена беларуская пачатковая школа ў лягеры ДП у Рыдзе (Аўстрыя).
4 — „міжпартыйная“ канфэрэнцыя, скліканая БЦР у Міхэльсдорфе.

7 — рэфэрат а. Яна Пятроўскага „Падставы вольнасьці асабістай і грамадзкай“ у Рыдзе.
17 — выйшаў № 1 „Беларускага Слова“; рэд. Юрка Віцьбіч, Юры Сабалеўскі, выд. Аляксандар Русак.
24 — легалізацыя ЗБВБ у Вялікабрытаніі.
25 — заклік БНК да грамадзкасьці ахвяраваць на Фонд Беларускай Кнігі.
25 — надзвычайны зьезд БННХР у Лёндане: Павал Навара, Ян Амор, Павал Асіповіч, Аляксандар Лашук, Павал Дварэцкі, Часлаў Кукель, Аляксандар Надсан, Уладзімер Курыла; рэвізійная камісія: Вэнэдыкт Кляйноў, Лаўрын Клыбік, Генрык Юзэфовіч.
26 — сьвяткаваньне 3–гадовага існаваньня гімназіі імя Янкі Купалы ў Віндзішбэргердорфе, Нямеччына.
26 — I зьезд ХАБР у Лёндане: Барыс Суравы, Сымон Серафіновіч, Юрка Весялкоўскі, Павал Бударкевіч, Канстанцін Нор, Павал Варава, Аляксандар Жданковіч, Максім Рудзь, А. Гатковіч, Аляксандар Малаха, Васіль Завадзкі, Т. Бобік, А. Аўсейчык, А. Хахолка, С. Дубіна.
29 — прыняты Маніфэст Рады БНР да Беларускага Народу.
30 — арганізацыйны сход Беларускага Камітэту Сяброўства ў Лідсе (Англія): Янка Міхалюк, Янка Сяўковіч, М. Галоўка, А. Койка, І. Шклянік, Сяргей Шчэрба.

## 1949 год

### Студзень
1 — літаратурны вечар трох паэтаў (Міхась Кавыль, Масей Сяднёў, Янка Золак), наладжаны „Шыпшынай“ у Міхэльсдорфе (Нямеччына).
2 — зьезд сяброў БКНТ імя Пранціша Скарыны ў Остэргофэне (Нямеччына): д–р Янка Станкевіч, Антон Адамовіч, Васіль Кендыш.
10 — памёр Міхаіл Сазыка ў Міхэльсдорфе.
15 — выходзіць Абежнік Галоўнай Кватэры ЗБСЧ у Маервіку (Нямеччына): Вацлаў Пануцэвіч.
16 — сход сяброў парыскага аддзелу АБРФ: Арсен Монід, В. Сьпічанак, Валянцін Міцкевіч, Мікола Лысуха, Уладзімер Дудышка, В. Бут–Гусаім, Міхась Наўмовіч, Я. Чыгір, Язэп Казак, Язэп Высоцкі; сяброўскі суд: а. Леў Гарошка.
18 — рэфэрат а. Яна Пятроўскага „Вартасьць беларуса“ ў ДП–лягеры Рыд (Аўстрыя).
18—24 — побыт у Парыжы д–ра Вітаўта Тумаша, д–ра Б. Гагалінскага, Уладзімера Тамашчыка.
23 — сустрэча д–ра Вітаўта Тумаша і д–ра Б. Гагалінскага зь беларускім актывам і даклад „Становішча беларусаў у Нямеччыне“ ў Парыжы.
30 — сустрэча прэзыдэнта Рады БНР зь беларускімі студэнтамі і работнікамі ў Лювэне (Бэльгія).

### Люты
1 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка „Мінулае і сучаснае Беларусі“ на грамадзкім сходзе ў Лювэне (Бэльгія).
1 — зварот да беларускіх мастакоў, падпісаны Вячаславам Сэлях–Качанскім, Юркам Віцьбічам і М. Кругловым.
12 — рэфэрат Янкі Філістовіча „Жыцьцё беларускага паэты Андрэя Зязюлі“ ладзіла БНАМ у Парыжы.
19 — вечар беларуска–ўкраінскай прыязьні ладзіла АБРФ у Парыжы.
19 — удзел беларускай дэлегацыі ў закладзінах Саюзу Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы у Стакгольме (Швэцыя).
24 — удзел беларускіх студэнтаў у антыкамуністычнай маніфэстацыі ў Брусэлі (Бэльгія).
27 — створаны Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Парыжы ў складзе: Мікола Абрамчык, а. Леў Гарошка, Янка Філістовіч, Мікола Наўмовіч.
27 — створаны Бэльгійска–Беларускі Камітэт Апекі над Беларускімі Студэнтамі ў Бэльгіі зь сядзібай у Лювэне (а. д–р Робэрт дэ Кавэлярт і Барыс Рагуля).

### Сакавік
9—10 — III зьлёт скаўтаў ЗКСЧ у Шляйсгайме (Нямеччына) і падзел скаўцкае арганізацыі на дзьве плыні. Адкалолася частка моладзі (пад націскам зарубежнікаў): Юрка Сянькоўскі, Міхась Белямук, Расьціслаў Завістовіч, Міхась Сенька, Кастусь Вайцяхоўскі, Уладзімер Пялеса, Вітаўт Кіпель, Кастусь Калоша, а. Мікалай Лапіцкі.
12 — III скаўцкая канфэрэнцыя (у справе пагадненьня) з прадстаўніком Міжнароднай Скаўцкай Цэнтралі ў Шляйсгайме (Нямеччына). Скончылася безвынікова.
13—14 — зьезд дэлегатаў замежнага сэктару БНЦ у Остэргофэне (Нямеччына).
14 — паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР у Нямеччыне.
20 — III зьезд ЗБВБ у Лёндане: Францішак Бартуль, Аляксандар Надсан, Вера Богдан, Аляксандар Крыт, Б. Буката, Ян Садоўскі, Вэнэдыкт Кляйноў; сяброўскі суд: Рыгор Воўна, Янка Запруднік, Мікалай Гумен, Часлаў Кукель. Выкінутыя з арганізацыі: Сяргей Шчэрба, М. Хахолка, Янка Сяўковіч.

23 — дэлегацыя БНК на Нямеччыну адведала Аўстралійскую місію па справе затрыманьня выезду беларускіх ДП у Аўстралію. Палагодзіла выдатна (аўстралійскія ўлады не давалі дазвол на прыезд у Аўстралію расейцаў, да якіх адносілі і беларусаў. Беларускія прадстаўнікі патлумачылі, што беларусы і расейцы дзьве розныя нацыі **— рэд.)**.
25 — зварот па радыё прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка да беларускага народу.
25 — сьвяткаваньне Акту 25 сакавіка — абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі — з урачыстымі Багаслужбамі і акадэміямі адбывалася ўва ўсіх асяродках, дзе жывуць беларусы:
— Англія: Лёндан, Лідс, Літл Адынгтон, Бістр ды інш., ладжаныя ЗБВБ і ХАБР, часьцей падвойна;
— Аўстрыя: Рыд;
— Аўстралія: Сыднэй, Канбэра;
— Бэльгія: Лювэн;
— Данія: Тыстэд;
— ЗША: Нью Ёрк, Саўт Рывэр;
— Канада: Таронта;
— Нямеччына: Остэргофэн, Бакнанг, Розэнгайм, Віндзішбэргердорф, Ватэнштэт, Маервік, Мітэнвальд ды інш.;
— Францыя: Парыж, Ліён, Ля Крэзо;
— Швэцыя: Стакгольм;
26 — І зьезд беларускай моладзі ў Парыжы і закладзіны Беларускай Незалежніцкай Арганізацыі Моладзі (БНАМ) у Парыжы: Янка Філістовіч, Аўген Кавалеўскі, Міхась Наўмовіч, Віктар Жаўняровіч; рэвізійная камісія: Ніна Абрамчык, Мікола Лысуха, Мікола Абрамчык (мал.); сяброўскі суд: Арсен Монід, Янка Сурвіла, Міхась Хоміч.
28—31 — удзел беларускай групы ў канфэрэнцыі YMCA–YWCA ў Прыне (Нямеччына).
30 — выйшаў № 1 „Праваслаўны Беларус“ (пазьней „Белая Русь“, па–расейску), фінансаваны япіскапамі зь Беларусі, рэд. Кастусь Якуб (Білефэльд, Нямеччына).

## Красавік

5 — пачатак трансьляцый беларускіх паўгадзінных радыёперадачаў з радыёстанцыі ў Лімбургу (Бэльгія), арганізаваных Уладыславам Рыжым–Рыскім.
8—9 — пленум БЦР у Міхэльсдорфе (Нямеччына).
10 — літаратурны вечар паэты Міколы Вярбы ў Гібэльштаце (Нямеччына).
15 — Беларускую гімназію ў Міхэльсдорфе (Нямеччына) закончылі Янка Заруцкі, Аляксандар Ігнатовіч, Сяргей Кайка, Тамара Карповіч.
15 — прыезд прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Англію.
17—18 — сход сяброў БННХР у Лёндане перавыбраў Кіруючы Цэнтар: Павал Навара, Мікола Арцюх, М. Булыга, Аляксандар Лашук, Павал Дварэцкі, Часлаў Кукель, Сыльвэстар Буткевіч, Уладзімер Курыла, Францішак Бартуль, Павал Асіповіч, Язэп Пазьняк, Ян Амор.
18 — пачатак рэтрансьляцый беларускіх радыёперадачаў з радыёстанцыі ў Брусэлі.
23 — адозва сэзоннага Беларускага Міжпартыйнага Каардынацыйнага Камітэту ў Нямеччыне.
24 — арганізацыйны сход аддзелу ЗБК у Гамільтане (Канада): І. Танасэвіч, Я. Іваноўскі, Д. Вабішэвіч.
24 — краёвая канфэрэнцыя Беларускай Нацыянальна–Дэмакратычнай Партыі (БНДП) у Лёндане.

## Травень

1 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Беларускім доме ў Лёндане пра стан сучаснага беларускага вызвольнага руху.
1 — закладзіны аддзелу АБРФ у правінцыі Сэн (Францыя); упаўнаважаны Георгі Касьцюкевіч.
5 — пачатак дзейнасьці Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны ў Нью Ёрку (ЗША); кіраўнік Янка Станкевіч.
10 — Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Віндзішбэргердорфе скончылі: Уладзімер Бакуновіч, Кастусь Калоша, Сьцяпан Кісель, Леанід Мурог, Галіна Орса, Гэртруда Чарнэцкая.
20 — выйшаў № 1 „Інфармацыйнага бюлетэня САБЭ“; рэд. Лявон Рыдлеўскі (Парыж).
22 — сход сяброў парыскага аддзелу БНАМ: Мікола Лысуха, Р. Юрчык, Г. Касьцюк, Міхась Хоміч.
28 — літаратурны вечар, прысьвечаны ўгодкам сьмерці Янкі Купалы, ладзіла ЗБК у Таронта (Канада).
28 — I зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе (ЗБК) у Таронта: Кастусь Акула, Алесь Грыцук, Язэп Пітушка, Валер Навіцкі, Міхась Пашкевіч, Мікола Ганько.
28—29 — беларускі стэнд на Міжнацыянальнай выставе ручных працаў былых ДП у Канбэры (Аўстралія).
29 — II зьезд ЗБА ў Буэнас Айрэсе: Кастусь Мярляк, Фока Фамін, Іван Гейхрах, Мікалай Лінкевіч, Часлаў Юзэфовіч.
30 — выйшаў № 1 бюлетэня беларусаў у Брэдфардзе (Англія) „Патрыёт“.

## Чэрвень

3 — жыхары беларускай аселі Остэргофэну (Нямеччына) перавезены ў Розэнгайм.

5 — створаны Беларускі Гурток Фэдэральнай Моладзі (БГФМ) у Лёндане: Ян Амор, Ян Садоўскі.
18—19 — сход беларусаў і стварэньне Беларуска–Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту ў Саўт Рывэры (ЗША): Мікалай Сьцяпанаў.
19 — сход сяброў Беларускага Выдавецкага Фонду пастанавіў набыць уласную друкарню ў Парыжы.
21 — літаратурны вечар (Рыгор Крушына, Міхась Кавыль, Янка Золак) у Бакнангу (Нямеччына).
23 — выйшаў № 1 часапісу Саюзу Беларускіх Журналістых на Чужыне „Вольнае Слова“; рэд. Мікола Панькоў (Ольдэнбург, Нямеччына).
23 — лекцыя прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка пра жыцьцё дзяржавы ў БНАМ у Парыжы.
25 — сход сяброў лёнданскага аддзелу ЗБВБ: Янка Пілецкі, Павал Дварэцкі і Кастусь Смайкевіч.
25—26 — пленум БЦР у Бакнангу (Нямеччына); старшыня Юры Сабалеўскі.
26 — сьвяткаваньне Купальля беларускай моладзьдзю ў Мэдонскім лесе ў Парыжы.
26 — украінска–беларуская сустрэча ў Беларускім доме ў Лёндане.
27 — угодкі ІІ Усебеларускага Кангрэсу ладзілі ў Ватэнштэце і Бакнангу (Нямеччына) ды ў Саўт Рывэры (ЗША).

**Ліпень**
1 — выйшаў № 1 „Камунікату Беларускага Праваслаўнага Брацтва ў Вялікай Брытаніі (БАПЦ)“; рэд. Мікалай Гумен (Лёндан).
2 — пастанова Ўправы САБЭ ў Парыжы аб заснаваньні Беларускага Нацыянальнага Фонду: Міхась Наўмовіч.
2 — створаны аддзел ХАБР у Манчэстэры: А. Чыжэўскі, С. Дубіна, Вячаслаў Конан, А. Петраш.
3 — угодкі ІІ Усебеларускага Кангрэсу ладзілі аддзелы ХАБР у Лёндане і Брэдфардзе.
5 — пачатак (уступная лекцыя) курсу беларусаведы распачало ЗБВБ у Лёндане.
17 — зьезд сяброў ЗББ у Лювэне.
17 — удзел беларускай групы ў супрацьбальшавіцкім мітынгу ў Манчэстэры.
21—25 — удзел беларускай групы ў паломніцтве ў Люрд (Францыя).
24 — арганізацыйны сход і стварэньне аддзелу ХАБР у Манчэстэры і акрузе Ёркшыр: Віталь Цярпіцкі, Юрка Хахолка, Янка Сяўковіч, Янка Міхалюк.

**Жнівень**
6 — высьвячэньне беларускай праваслаўнай царквы ў беларускай аселі Розэнгайм япіскапам Сергіем Ахатэнкам.
8 — удзел у зборцы Цэнтральна–Эўрапейскага Фэдэратыўнага Руху Моладзі ў Лёндане; дэлегат Аляксандар Надсан.
11 — арганізацыйная група закладае Хрысьціянскае Аб'яднаньне Беларусаў у Рыме; сябры С. Карысэвіч, Тодар Мазура.
15 — сход і закладзіны Беларуска–Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы ў Нью Ёрку (БАЗА): д–р Янка Станкевіч, Мікола Гарошка, Янка Ніхаёнак.
19—28 — удзел беларускіх скаўтаў у Міжнародным скаўцкім зьлёце ў Фішбэку (Нямеччына).

**Верасень**
4 — ІІ зьезд сяброў БХАА „Жыцьцё“ ў Лёндане: а. Часлаў Сіповіч, Аляксандар Надсан, Часлаў Кукель, Ян Мазура, Тодар Цімафейчык.
4 — закладзіны ў Таронта Беларускага Выдавецкага Фонду Згуртаваньня Беларусаў Канады: Мікола Ганько, Валер Навіцкі, Міхась Пашкевіч, Валянціна Жукоўская; наглядчая рада: Васіль Разановіч, Алесь Грыцук.
4 — памёр Францішак Паўлоўскі, актыўны сябра БНАМ у Парыжы.
10 — побыт Барыса Рагулі ў Англіі.
11 — спатканьне прадстаўнікоў Радаў БНР і Ўкраінскай Народнай Рэспублікі ў Беларускім доме ў Лёндане дзеля ўзгадненьня палітычнай дзейнасьці.
16—22 — ІІІ агульны зьезд сяброў ЦБАА ў Лювэне (Бэльгія); старшыня Барыс Рагуля.
21 — даклад Барыса Рагулі „Беларускае студэнцтва на чужыне“ на сходзе беларускага грамадзтва ў Лёндане.
25 — сход сяброў ХАБР у Манчэстэры: С. Дубіна, В. Сідаровіч, А. Журомскі, Вячаслаў Конан, С. Жданковіч, М. Фалітар.

**Кастрычнік**
1 — выйшаў „Беларускі эмігрант“ — першы нумар часапісу беларускай эміграцыі газэтнага фармату; рэд. Сяргей Хмара (Таронта).
2 — адначасна стварэньне Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня і Беларускага Акадэмічнага Таварыства ў Парыжы: Міхась Наўмовіч, Янка Сурвіла.
9—10 — IV сэсія Рады БНР у Нямеччыне.
16 — сход сяброў аддзелу ЗБВБ у Кэмбрыджы (Англія): Ян Гралеўскі, Ян Пекарскі, Случчак.

16—22 — III зьезд ЦБСА ў Лювэне: Барыс Рагуля, Аўген Смаршчок, М. Жылік, Алесь Вініцкі, Уладзімер Цьвірка, Уладзімер Набагез; студэнцкі фонд: а. Часлаў Сіповіч, Мікола Нікан, Аляксандар Надсан, Часлаў Кукель, Янка Філістовіч, Лявон Трусэвіч, Янка Жытка, Зоя Жэлязоўская.

17 — Мэмарыял паняволеных народаў Эўропы ў ААН у Парыжы. Ад беларусаў падпісалі Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі.

21 — інтэрвію прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка ў газэце *„La libre belgique“*.

21 — *IRO* прызнала прадстаўніцтвам ад беларусаў Беларускі Нацынальны Камітэт і прызначыла сувязнымі: з цэнтрам *IRO* — старшыню БНК Міколу Кунцэвіча; зь сябрамі *IRO*: Мікалай Сьнежка, Пётра Манькоўскі, Антон Шукелойць, Сьцяпан Стаськевіч, Людвіг Галубовіч.

22 — I зьезд Беларускага Акадэмічнага Аб’яднаньня „Рунь“ у Лювэне: Аляксандар Надсан, Францішак Бартуль, Вітаўт Рамук, Янка Філістовіч, Антон Бяленіс, а. Часлаў Сіповіч.

23 — сход сяброў ЗБАДК у Саўт Рывэры: Барыс Кіт, Пётр Орса, Сьвятаслаў Коўш, Часлаў Найдзюк, Юрка Віцьбіч, Віктар Чабатарэвіч, М. Філіповіч.

23 — зьезд сяброў Касы Самапомачы (ХАБР) у Лёндане: Б. Жэлязоўскі, Уладзімер Ваўчок, Я. Балабановіч, Ф. Жынгель.

27 — угодкі Слуцкага паўстаньня зладзіла ЗБВБ у Лёндане.

31 — пратэст БЦР да ўкраінскіх ярархаў УАПЦ супраць хіратанізацыі ў япіскапы Васіля (Уладзімера Тамашчыка) і аднаўленьня БАПЦ.

**Лістапад**

12 — Беларускую гімназію ў Розэнгайме скончылі: Янка Раковіч і Канстанцін Семянчук.

12 — прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык адбыў зь Вялікабрытаніі ў ЗША.

27 — угодкі Слуцкага паўстаньня з паніхідамі і ўрачыстасьцямі адбыліся ў беларускіх аселях па ўсім сьвеце:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Лідс;

— Аўстралія: Сыднэй, Канбэра, Мэльбурн;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр;

— Канада: Таронта;

— Нямеччына: Маервік, Розэнгайм, Бакнанг, Ватэнштэт, Шляйсгайм;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

Пры „Хаўрусе“ пачала працаваць беларуская школа ў Парыжы.

**Сьнежань**

8 — удзел беларусаў у антысавецкім мітынгу, ладжаным Саюзам Вольных Журналістаў у Лёндане.

11 — удзел беларускай групы ў супрацькамуністычнай дэманстрацыі ў Галіфаксе (Англія).

18—20 — урачыстае багаслужэньне і прыняцьцё на аднаўленьне дзейнасьці БАПЦ.

19 — хіратонія іераманаха Васіля (Тамашчыка) у япіскапы з тытулам Віленскага ў Розэнгайме.

20 — I сабор япіскапаў і міранаў у Розэнгайме.

24 — пачатак сталых радыёперадачаў на Беларусь з радыёстанцыі Ватыкану а. Пятра Татарыновіча.

У сьнежні 1949 году:

выйшаў № 1 „Бюлетэню ЗБА“, рэд. Кастусь Мярляк (Буэнас Айрэс);

у Бібліятэцы ўсходніх моваў у Парыжы адчынены беларускі аддзел;

склаўся Камітэт перакладу Бібліі на беларускую мову ў Нямеччыне;

выйшла кніга Максіма Багдановіча „Творы“. Пераклад на нямецкую мову Аўгена Энгельгарта. Выдаў д–р Вітаўт Тумаш, Госьляр (Нямеччына).

## 1950 год

**Студзень**

7 — арганізаваны Беларускі клюб у Сыднэі.

8 — II зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Лёндане: Пётра Сыч, Уладзімер Курыла, Тодар Цімафейчык, Ян Гралеўскі, Ян Амор, Ян Пекарскі.

20 — сход беларусаў і закладзіны ЗБК у Манрэалі (Канада); часовы кіраўнік Пётр Чопчыц.

21 — канцэрт–вечарына, ладжаная пад кіраўніцтвам Аўгена Кавалеўскага ў Парыжы.

22 — сход сяброў Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны ў Нью Ёрку: д–р Янка Станкевіч, д–р Аўген Вярбіцкі, д–р Мітрафан Смаршчок, Янка Юхнавец, Янка Шакун.

27 — побыт прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка ў Чыкага.

28 — закладзіны аддзелу Беларускага Аб’яднаньня ў Аўстраліі (БАА) у Сыднэі.

28 — нарада беларускага актыву ў Чыкага, на якой пастаноўлена актывізаваць дзейнасьць Беларуска–Амэрыканскай Нацыянальнай Рады (БАНР): Павал Чапко, Макар Аблажэй, Іван Лобач, Язэп Варонка, Янка Чарапук–Змагар, Мікола Дзямідаў.

29 — II зьезд ХАБР у Лёндане (Управа — бязь зьменаў).

**Люты**

5 — надзвычайны зьезд сяброў СББ у Лювэне (Бэльгія): Янка Жытка, Вітаўт Рамук, Аляксей Арэшка, Барыс Рагуля, А. Мастакоўская; адхілены ад кіраўніцтва Ўладыслаў Рыжы–Рыскі.

5 — зьезд Беларуска–Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту ў Саўт–Рывэры; старшыня д–р Мікола Шчорс.

5 — зварот прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка да беларускай эміграцыі ў ЗША праз радыёстанцыю ў Чыкага.

12 — сход сяброў АБРФ у Парыжы: Аляксандар Яцэвіч, Валянціна Кавалеўская, Валянцін Міцкевіч.

12 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Кліўлэндзе аб сучасным становішчы беларускага вызвольнага руху.

19 — IV канфэрэнцыя ЗБСЧ у Розэнгайме (кір. Вацлаў Пануцэвіч) вызначыла кіраўнікоў беларускага скаўтынгу: у Англіі — Алесь Бута, Аўстраліі — Уладзімер Бакуновіч, Аргентыне — Генрык Юзэфовіч, Бэльгіі — Барыс Рагуля, ЗША — Міхась Белямук, Бразыліі — Антон Бакуновіч, Канадзе — Раіса Жукоўская, Нямеччыне — Пётра Манькоўскі, Францыі — Міхась Наўмовіч.

26 — угодкі сьмерці Цёткі (Алаізы Пашкевіч) ладзіла ЗБК у Таронта.

28 — закладзіны аддзелу БАА ў Аўстраліі: Уладзімер Клуніцкі.

У лютым:

выйшаў № 1 часапісу „Беларускае слова ў Амэрыцы“, рэд. Сьвятаслаў Коўш (Саўт Рывэр);

адноўлены двухтыднёвік „На шляху“; рэд. Ян Амор (Лёндан).

**Сакавік**

1 — багаслужба за Беларусь у Замежнай Кангрэгацыі ў Мадрыдзе (Гішпанія) захадамі Ўладыслава Рыжага–Рыскага.

5 — зьезд праваслаўных беларусаў і закладзіны свайго прыходу ў Брэдфардзе; кіраўнік Аляксандар Крыт.

13 — на студыі ў Лювэнскі ўнівэрсытэт выехалі з Англіі дзевяць „шахцёраў“ (працавалі на капальнях) са славутае „дванаццаткі“.

25 — урачыстае сьвяткаваньне Акту 25 Сакавіка — Абвешчаньня БНР — з Багаслужбамі і выступамі мастацкае самадзейнасьці адбываліся ў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр (усюды падвойна, ладжаныя асобна ЗБВБ і ХАБР);

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн, Мэльбурн;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;

— Нямеччына: Розэнгайм, Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо, Страсбур.

25 — І зьезд у Сыднэі сяброў Беларускага Аб’яднаньня ў Аўстраліі (БАА): Уладзімер Клуніцкі, Анатоль Шкутка, Я. Макарэвіч, Аляксандар Раманоўскі, д–р Пётр Гайдзель, Язэп Шкода, Мікола Ціхан; рэвізійная камісія: Я. Маеўскі, Аляксей Воўк–Левановіч, Міхась Зуй.

25 — выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня БАА „Новае Жыцьцё“; рэд. Уладзімер Клуніцкі (Сыднэй).

26 — IV зьезд ЗБВБ у Лёндане; удзельнікі: Аляксандар Крыт, Аляксандар Лашук, Мікола Нікан, Павал Асіповіч, Кастусь Смайкевіч, Вера Бартуль, Станіслаў Мак, Сыльвэстар Буткевіч, А. Дзямідзек, Янка Крушына; рэвізійная камісія: Уладзімер Курыла, Аляксандар Лашук, а. Часлаў Сіповіч.

26 — сход сяброў АБРФ у Парыжы: інж. Лявон Рыдлеўскі, Аляксандар Міцкевіч, А. Рэцко, Арсен Монід, В. Бут–Гусаім.

26 — закладзіны аддзелу АБРФ у Страсбуры; упаўнаважаны Раманчук.

26 — адкрыцьцё Беларускага Грамадзка–Культурнага Клюбу ў Мэльбурне.

27 — зварот палкоўніка Людвіга Зарэчнага да сяброў Беларускага Вызвольнага Руху (БВР).

28 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва новых аўстралійцаў у Сыднэі.

28 — ускладаньне вянка на магілу невядомага жаўнера беларускай дэлегацыяй у Брусэлі.

**Красавік**

1—2 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе–кірмашы ў Парыжы.

10 — IV надзвычайны зьезд сяброў БННХР „Рунь“ у Лёндане: Аляксандар Надсан, Ян Амор, М. Булыга, Тодар Цімафейчык.

11 — зьезд сяброў і прыхільнікаў Беларускага Праваслаўнага Брацтва ў Англіі ў Лёндане; кіраўнік Аляксандар Крыт.

19.IV—4.V — побыт япіскапа Васіля (Уладзімера Тамашчыка) у Бэльгіі.

21 — сход сяброў літаратурнага аб’яднаньня „Шыпшына“ ў Саўт Рывэры: Юрка Віцьбіч, Уладзімер Клішэвіч, Масей Сяднёў.

29 — дзьве вялікія калёны беларусаў з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці на 5–й авэню ў Нью Ёрку.
30 — II зьезд сяброў БНАМ у Парыжы: Міхась Наўмовіч, В. Забаўскі, Валянцін Міцкевіч, С. Бэўс (пазьней адкліканы).

**Травень**
6 — першая грамадзкая вечарына ЗБВБ у Лёндане.
7 — даклад Язэпа Арцюха „Ці зарубежніцтва зьяўляецца чужацкай агентурай?“ у Беларускім доме ў Лёндане, імпрэза ладжаная ЗБВБ.
14 — II зьезд БНАМ у Парыжы: Міхась Наўмовіч, В. Забаўскі, Валянцін Міцкевіч, С. Бэўс, Аўген Кавалеўскі, Арсен Монід, Аляксандар Міцкевіч, Францішак Ганкевіч, Міхась Хоміч; рэвізійная камісія: Валянціна Кавалеўская, Ніна Сьпічонак, Мікола Лысуха; сяброўскі суд: І. Дударэвіч, В. Юрлевіч, Ніна Кузьміна.
19 — закладзіны Беларуска–Амэрыканскага Каталіцкага Таварыства ў Нью Ёрку: д–р Станіслаў Грынкевіч, Вацлаў Пануцэвіч, Барыс Даніловіч, Андрэй Попка.
26—29 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі Фэдэрацыі Народаў Сярэдне–Ўсходняе Эўропы ў Лёндане.
27—28 — нарада старшыняў, сакратароў і скарбнікаў аддзелаў ЗБВБ у Лёндане; даклады: Яна Амора, а. Часлава Сіповіча, Янкі Пілецкага.
27—28 — II зьезд ЗБК у Таронта: Алесь Грыцук, Мікола Ганько, Марыя Мікуліч, Валер Навіцкі, Язэп Пітушка, Кастусь Акула, Васіль Камароўскі (Вярбіна), Кастусь Станюш, рэвізійная камісія: Барыс Сладкоўскі, Міхась Пашкевіч, Аўген Протас; сяброўскі суд: Валянціна Пашкевіч, Элеанора Пітушка, Раіса Жукоўская, Надзея Акула.
27 — першы канцэрт беларускай песьні, наладжаны ЗБК у Таронта.
28 — III зьезд ЗБА ў Буэнас Айрэсе: Кастусь Мярляк, Зоф’я Карповіч, Мікалай Ланкевіч, Уладзімер Другавец, рэвізійная камісія: Вольга Гейхрах, Алесь Карповіч, М. Наліўка.
29 — удзел беларусаў з нацыянальнымі сьцягамі і плякатамі ў працэсіі „За волю Беларусі!“ у Манчэстэры.
Сход сяброў БАА ў Мэльбурне: Янка Кудрык, Адам Жураўлевіч, Сымон Шнэк.

**Чэрвень**
1—4 — побыт яп. Васіля (Уладзімера Тамашчыка), сьвятара БАПЦ у Англіі.
7 — адозва прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага да былых беларускіх вайскоўцаў запісвацца добраахвотнікамі на Карэйскі фронт.
11—14 — удзел беларускай дэлегацыі ў Кангрэсе Антыбальшавіцкага Блёку Народаў у Эдынбургу (Шатляндыя).
18 — беларуская група ў супрацькамуністычнай маніфэстацыі ў Таронта.
21 — пастаноўка п’есы Каруся Каганца „Модны шляхцюк“ драматычным гуртком Беларускага Аб’яднаньня ў Манрэалі.
21 — арганізацыйны сход і закладзіны Беларускага Нацыянальнага Аб’яднаньня (БНА) у Таронта: Барыс Аранскі, Сьцяпан Глебка, Міхась Пашкевіч, Валер Навіцкі, Сяргей Хмара, Язэп Пітушка, Т. Салановіч, а. Міхась Мігай, Грыко, Іван Алешка; рэвізійная камісія: Рыгор Беразоўскі, Віктар Кісель, А. Таранда, Ян Садоўскі; сяброўскі суд: Мікола Кухарчык, Міхась Сьцепановіч, Хведар Высоцкі.
22 — першая беларуская праваслаўная служба ў Таронта; правіў а. Міхась Мігай.
25 — жалобную ўрачыстасьць памяці беларускага народнага песьняра Янкі Купалы ладзіла БНАМ у Парыжы.
25 — канцэрт беларускага хору кампазытара Вячаслава Сэляха–Качанскага ў Саўт Рывэры.
30 — літаратурная вечарына ў „Беларускай хатцы“ ў Брукліне (Нью Ёрк, ЗША): Уладзімер Клішэвіч, Натальля Арсеньнева, Янка Юхнавец, Янка Шакун.
30 — выйшаў „Інфармацыйны бюлетэнь“ беларускай каталіцкай арганізацыі Беларуска–Ангельскага Каталіцкага Аб’яднаньня (БАКА) „Рунь“; рэд. Аляксандар Надсан (Лёндан).

**Ліпень**
1 — легалізацыя БНАМ у Парыжы.
1 — ДП, у тым ліку і беларусы, пераведзеныя на нямецкую эканоміку.
2 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ладзіў ХАБР у Лёндане і Манчэстэры.
5—7 — зьезд сяброў БХАА „Жыцьцё“ ў Лёндане: а. Часлаў Сіповіч, Аляксандар Надсан, Янка Пілецкі.
8 — жалобныя ўгодкі сьмерці беларускага песьняра Янкі Купалы ладзіла БАА ў Сыднэі.
10 — сход і закладзіны Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вініпэгу, Канада: А. Галошын, Мікола Сільвановіч (Вярба).
15 — беларускі канцэрт кампазытара Міколы Куліковіча ў Нью Ёрку.
15 — сьвяткаваньне 425–ых угодкаў беларускага друку з дакладам д–ра Вітаўта Тумаша ў Зэедорфе (Нямеччына).
17 — зацьверджаньне Статуту БАКА духоўнымі ўладамі.

21.VI—1.VIII — побыт прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка ў Таронта.
23 — зьезд сяброў ХАБР акругі Ёркс: Віталь Цярпіцкі, Э. Мацкевіч, А. Гатковіч, А. Назараў.
30.VII—4.VIII — канцэртнае турнэ беларуска–латыскай песьні па лягерах ДП: Гановэр, Ольдэнбург, Зэедорф, кампазытар Алесь Карповіч, Юрка Сянькоўскі, Мікола Панькоў і іншыя.

У Марбургу студыі скончылі: Лявон Трусэвіч (дант.), Пётр Маркоўскі (дант.), Міхась Сокал (мэд.), Язэп Сажыч (мэд.), Аўген Смаршчок (псых.).

**Жнівень**

6 — сход сяброў Беларускага Выдавецкага Фонду ў Таронта: Кастусь Акула, Міхась Пашкевіч, Т. Салановіч.
13 — адчынена беларуская каталіцкая парафія ў Брэдфардзе (Ёркс) інаўгурацыйным набажэнствам а. Р. Матуліса і прамовай а. Часлава Сіповіча.
19—26 — удзел беларускай дэлегацыі ў Кангрэсе *Pax Romano* ў Амстэрдаме (Галяндыя).
20 — сход былых вайскоўцаў і закладзіны аддзелу ЗБВ у Таронта: Васіль Камароўскі, Валер Навіцкі, Кастусь Акула.
20 — закладзіны Беларускай Студэнцкай Арганізацыі ў Нью Ёрку: кіраўнік Міхась Тулейка.
23 — сход сяброў СББ у Лювэне: М. Жылік, Часлаў Кукель, Васіль Шчэцька, Уладзімер Цьвірка, Янка Запруднік.
23 — надзвычайны сход АБРФ у Парыжы.
26 — нарада беларускай інтэлігенцыі ў Нью Ёрку ў справе стварэньня ў ЗША Беларускай Вольнай Акадэміі Навук і Мастацтваў.
26 — сход праваслаўных беларусаў і выбары царкоўнага камітэту БАПЦ у „Беларускай хатцы“ ў Брукліне: а. Хведар Данілюк.
27 — закладзіны Беларускага Студэнцкага Таварыства ў ЗША ў Нью Ёрку: Міхась Тулейка, Лявон Трусэвіч, Васіль Русак.
27 — выйшаў № 1 органу беларускай незалежнай думкі „Беларуская трыбуна“, рэд. Язэп Ляшчынскі (Міхась Кавыль), Нью Ёрк.
29 — закладзіны БНК у лягеры ДП у Эльвангене (Нямеччына): Людвіг Галубовіч, М. Лосенкаў, В. Вершык, С. Міленцеў, І. Барсукоў, Аркадзь Рымша.
30 — утварэньне аддзелу ЗБК у Таронта: Язэп Чорны, В. Шкапараў, Янка Баран
Прыезд былога япіскапа БАПЦ Апанаса (Мартаса) у Брысбэн (Аўстралія).

**Верасень**

10 — закладзіны аддзелу ЗБК у Садбуры (Канада): Уладзімер Курыловіч.
20 — выйшаў № 1 часапісу беларусаў у ЗША „Беларус“; рэд. Леанід Галяк (Нью Ёрк).
21 — літаратурны вечар у Крывіцкім Навуковым Таварыстве ў Нью Ёрку: Антон Адамовіч, Мікола Целеш, Уладзімер Клішэвіч, Янка Юхнавец, Янка Шакун.
21 — сход былых вайскоўцаў і закладзіны Таварыства Беларускіх Вайскоўцаў у Сыднэі: Данат Яцкевіч, Міхась Зуй, Сымон Шнэк.
24 — сход і закладзіны Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА) у Кліўлэндзе.
24 — сход і закладзіны Аб’яднаньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы (АБМА) у Саўт Рывэры: Міхась Сенька, Кастусь Вайцяхоўскі, Анатоль Шурак.
У верасьні:
выйшаў № 1 рэлігійна–адраджэнскага часапісу „Зьніч“, рэд. ксёндз Пётр Татарыновіч (Рым);
закончылі студыі ў Лювэнскім унівэрсытэце: Людміла Рагуля (фармац.) і Янка Жытка (інж. хіміі).

**Кастрычнік**

1 — арганізацыйны сход і закладзіны аддзелу БАЗА ў Кліўлэндзе: Кастусь Калоша, Т. Ламака, Міхась Белямук, М. Шылюк; рэвізійная камісія: а. А. Лічко, А. Харытончык.
5 — Мэмарыял аб ахвярах беларускага народу пад акупацыяй Масквы падаў у ААН прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык і вечарам выехаў з ЗША.
8 — зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Лювэне: Тодар Цімафейчык.
8 — канцэрт беларускай песьні Беларускага Студэнцкага Хору пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Равенскага ў Лювэне.
15 — створана Аб’яднаньне Праваслаўных Беларусаў у Саўт Рывэры: а. Мікалай Лапіцкі, Сьвятаслаў Коўш.
15 — створаны Саюз Беларускіх Патрыётаў у Людвіксбургу (Нямеччына) у складзе: Юры Попка, Антон Даніловіч, У. Клуніцкі.
20 — закладзена беларуская праваслаўная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры: а. Мікалай Лапіцкі.
22 — даклад прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка пра жыцьцё беларусаў у Амэрыцы ў Парыжы.
25 — паніхіда па палеглых змагарох у Слуцкім паўстаньні ў Рыме: адпраўляў а. Пётр Татарыновіч.

27 — агульны сход сяброў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Лювэне: старшыня М. Жылік.
28 — закладзіны аддзелу БАА ў Брысбэне; кіраўнік Анатоль Шкутка.

**Лістапад**

3—8 — побыт прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка ў Бэльгіі.
12 — пачатак сталых багаслужбаў для праваслаўных беларусаў у Лювэне: а. Аўген Смаршчок.
13 — створаны Ўкраінска–Беларуска–Грузінскі Клюб у Мюнхэне: праф. А. Шчэрбакіўскі, праф. А. Мэтравэлі, яп. Васіль (Тамашчык) і пісар О. Каньнік.
23 — створаны Беларускі Праваслаўны Камітэт у ЗША на зьезьдзе праваслаўных у Саўт Рывэры: Уладзімер Брылеўскі, Сьвятаслаў Коўш, Міхась Сенька, В. Літвіновіч, Хведар Высоцкі.
25—27 — урачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох адбываліся ў беларускіх аселях па ўсім сьвеце:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн;
— Бэльгія: Лювэн, Льеж, Шарлеруа;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр;
— Італія: Рым (малітвай і канцэртам Пётры Конюха);
— Канада: Таронта, Вініпэг;
— Нямеччына: Розэнгайм, Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
26 — беларуская калёна на антыкамуністычным мітынгу ў Таронта.
28 — створаны аддзел ЗБАДК у Норт Галівудзе (Каліфорнія): Часлаў Найдзюк, Алесь Міціс, а. Леанід Стаднікаў, Барыс Кіт.
У лістападзе:
выйшаў № 1 органу нацыянальна–патрыятычнай думкі „Беларускі патрыёт“; рэд. Антон Даніловіч (Ліндзіх, Нямеччына);
побыт старшыні БСА Барыса Рагулі ў Рыме і яго сустрэча зь Яго Эксцэленцыяй кардыналам Эжэнам дэ Тысэранам.

**Сьнежань**

18 — канцэрт беларускай народнай песьні Беларускага Студэнцкага Хору кампазытара Міколы Равенскага ў Лювэне.
23 — сьвяткаваньне 425–годзьдзя беларускага друку з рэфэратам д–ра Вітаўта Тумаша ладзілі Крывіцкае Навуковае Таварыства і Аб’яднаньне Беларускіх Лекараў на Чужыне ў Нью Ёрку.
24 — III зьезд ХАБР у Лёндане: Аркадзь Варава, Васіль Завадзкі.
25 — перавыбары ў БАНР у Чыкага: Ігнат Лабач, Міхась Шастакоўскі, Вацлаў Пануцэвіч, А. Волах, Мікола Дзямідаў, Янка Чарапук–Змагар, Янка Ліманоўскі.
31 — сустрэча Новага году беларускаю грамадою ў Нью Ёрку.
У 1950 годзе выдадзеныя друкам:
Сымон Брага (Вітаўт Тумаш). Балцкі элемэнт: Дасьледаваньне беларускай нацыянальнай праблемы. Нямеччына;
Леў Гарошка. Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая: нарыс. Парыж;
В. Друя (Язэп Германовіч). Ты і Яна (рэлігійны нарыс), адбітак з „Божым Шляхам“. Парыж;
Пр. Каваль. Беларусь у датах і ліках. Гістарычна–геаграфічны даведнік. Выд. „Моладзь“, Парыж.

## 1951 год

**Студзень**

1 — выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня „Весткі БНР“; рэд. Вацлаў Пануцэвіч (Чыкага).
9 — радыёперадача беларускай народнай песьні ў выкананьні сьпевака Пётры Конюха зь Міжнароднага канцэрту Ватыканскага радыёцэнтру.
13 — літаратурны вечар, ладжаны Крывіцкім Навуковым Таварыствам у бруклінскай „Беларускай Хатцы“. Удзельнікі: Антон Адамовіч, Янка Юхнавец, Уладзімер Клішэвіч, Янка Шакун.
21—27 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Канбэры; гіды: Ю. Мілевіч і Г. Парэцкая.
21 — выстава беларускага выгнанскага друку ў залі гарадзкой управы гор. Куксгафэн (Нямеччына) з рэфэратам немкі Г. Бэрнард.
29 — удзел беларускай калёны ў маніфэстацыі 50–годзьдзя Команвэлту ў Сыднэі (*Commonwealth* — тут: Аўстралійскі Саюз. — **рэд.).**

Выйшаў № 1 навукова–гістарычнага часапісу Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны „Веда“; рэд. Янка Станкевіч (Нью Ёрк).

**Люты**

4 — зьезд сяброў СББ у Лювэне: Янка Жытка, Вітаўт Кіпель, Тодар Мазура, Вітаўт Рамук, апякун а. Аўген Смаршчок.

11 — сход сяброў АБРФ у Парыжы: Аляксандар Яцэвіч, М. Бялькевіч, Аляксандар Міцкевіч, Я. Чыгір.

11 — І кангрэс Беларуска–Амэрыканскага Кангрэсовага Камітэту ў Саўт Рывэры: д–р Мікола Шчорс, Ігнат Лабач, Барыс Кіт, Сьвятаслаў Коўш, д–р А. Сабалеўская, Аляксандар Русак, Міхась Сенька, Н. Філіповіч, Сымон Жамойда.

17 — удзел беларусаў у Міжнацыянальным канцэрце новааўстралійцаў у Сыднэі.

17 — надзвычайны сход Беларускага Выдавецкага Фонду ў Таронта. Прысутныя: А. Шпакоўскі, Язэп Арцюх, Я. Сладкоўскі, Сяргей Хмара, А. Таранда, І. Мішкоў.

17 — закладзены праваслаўны прыход Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Царкоўны камітэт: а. Міхась Мігай, Васіль Разановіч, Кастусь Станюш, Кісель, А.Шпакоўскі, Ян Садоўскі, Аркадзь Харавец, Асоцкі, Карпінчык.

17—18 — І кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку: Мікола Гарошка, Натальля Арсеньнева, Міхась Тулейка, Язэп Арцюх, Мікола Дарашэвіч, Янка Ніхаёнак, Аляксандар Орса.

18 — закладзены Беларускі Выдавецкі Фонд у Нью Ёрку: Міхась Міцкевіч, Лявон Трусэвіч, Натальля Арсеньнева, Леанід Галяк, Міхась Рагуля.

24 — II зьезд ХАБР у Лёндане: В. Конан, С. Дубіна, М. Шыш, Т. Сабіла, Н. Пратасэвіч.

**Сакавік**

12—17 — беларускі стэнд на Міжнароднай выстаўцы народнага мастацтва новааўстралійцаў у Брысбэне.

13 — закладзены Інстытут Беларусаведы імя Лява Сапегі ў Мадрыдзе; заснавальнік Уладыслаў Рыжы–Рыскі.

18 — сход ЗБАДК у Саўт Рывэры: а. Мікалай Лапіцкі, Лянгіна Брылеўская, Леанід Высоцкі, Міхась Кавыль, Г. Махнюк, Аляксандар Шурак, Ігар Шчорс.

20 — канцэрт беларускай народнай песьні сьпявачкі Марыі Мяленцевай у Лос Анджэласе (Каліфорнія).

23 — сход аддзелу БАА ў Мэльбурне: Сяргей Розмысл, Адам Жураўлевіч, Міхась Шэка, Уладзімер Камароўскі, Павал Гуз, С. Шэка, Лявон Говар.

25 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе агульнааўстралійскага сьвята ў Сыднэі, Мэльбурне, Брысбэне.

25 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Хору кампазытара Міколы Равенскага ў Лювэне.

25 — III зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Лёндане: Пётра Сыч, Янка Крушына, Аляксандар Лашук, Павал Навара, Уладзімер Курыла, М. Галоўка, Мікола Ягоўдзік, Шацько; рэвізійная камісія: Мікола Нікан, Павал Асіповіч, М. Булыга, Л. Хвалько, Ян Амор; сяброўскі суд: Сыльвэстар Буткевіч, Генрых Сянкевіч, Янка Пілецкі.

25 — № 1 незалежнага часапісу беларускае эміграцыі „Беларускі голас“; рэд. Сяргей Хмара (Таронта).

26 — удзел Беларускага Студэнцкага Хору кампазытара Міколы Равенскага ў Міжнародным канцэрце ў Льежы (Бэльгія).

31.III—1.IV — І канфэрэнцыя хрысьціянскіх вольных сындыкатаў Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы ў Парыжы; 1–ы намесьнік старшыні — Лявон Рыдлеўскі.

Выйшаў № 1 „За волю“, часапісу беларускай вызвольнай думкі, рэд. Лявон Рыдлеўскі (Парыж).

**Красавік**

7 — створаны Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Вялікабрытаніі ў Лёндане: а. Часлаў Сіповіч, Аляксандар Надсан, Міхаіл Мацукевіч.

8 — III зьезд БНАМ у Парыжы, сярод удзельнікаў: Міхась Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, Г. Касьцюк.

8 — пленум ньюёрскага сэктару БНР, на якім большасьцю галасоў была прынятая прапанова ў справе Вільні, што выклікала зацяжное апазыцыйнае змаганьне да адмены прапановы.

14—15 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе–кірмашы, ладжанай Хрысьціянскім Сындыкатам у Парыжы.

15 — зьезд Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны ў Нью Ёрку: д–р Янка Станкевіч, А. Федуковіч, Антон Адамовіч, Янка Шакун, Антон Шукелойць, Алесь Махноўскі, Янка Юхнавец, Янка Ліманоўскі, Мікола Кунцэвіч.

19 — канцэрт Лювэнскага Беларускага Студэнцкага Хору па францускай тэлевізіі зь Ліля.

22 — сход апазыцыі БАА ў Сыднэі: Міхась Зуй, Язэп Шкода, Мікола Ціхан, Я. Макарэвіч, а. Аляксандар Кулакоўскі, а. Усевалад Родзевіч.

27 — сход аддзелу БАА ў Сыднэі: Міхась Лужынскі, Уладзімер Клуніцкі, Язэп Малецкі, Аляксандар Смаль, Уладзімер Бакуновіч.

28 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці на 5–й авэню ў Нью Ёрку.

**Травень**

3 — ад імя беларусаў на мітынгу Антыбальшавіцкага Блёку Народаў (АБН) прамаўляе ў Мюнхэне д–р Станіслаў Станкевіч.

3—17 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Рыме.

12 — вечарына зь беларускай нацыянальна–патрыятычнай праграмай, зладжаная ў Лёндане ЗБВБ.

13—14 — зьезд сяброў ЗБВБ у Лёндане: Аляксандар Надсан, Аляксандар Лашук, а. Часлаў Сіповіч, Кастусь Смайкевіч, Павал Навара, Янка Пілецкі.

19—20 — III зьезд ЗБК у Таронта: Алесь Грыцук, Язэп Пітушка, Т. Салановіч, Мечыслаў Рачыцкі, В. Кісель; рэвізійная камісія: Я. Шапараў, Ніна Залеўская, І. Мішкоў; сяброўскі суд: Аўген Протас, Каладзейчык, Міхась Кондрас, Кастусь Станюш.

20 — зьезд сяброў ЗБА ў Буэнас Айрэсе: Уладзімер Другавец, Аляксандар Літвінскі, Васіль Казлоўскі, Анатоль Грынкевіч, Аляксей Карповіч, Кастусь Мярляк, Мікалай Ланкевіч, Мікалай Лазюк.

20 — прыбыў з Эўропы на сталае жыцьцё ў Нью Ёрк япіскап БАПЦ Васіль (Тамашчык).

20 — першая багаслужба а. Сьцяпана Войтанкі ў новай парафіі БАПЦ у Нью Брансьвіку (Нью Джэрзі).

21 — памёр у Лёндане архіяпіскап Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (ПАПЦ) Сава (Саветаў).

26 — сьвяткаваньне ўгодкаў Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня „Ўзвышша“ з дакладам Антона Адамовіча, ладжанае Беларускім Студэнцкім Таварыствам у Нью Ёрку.

27 — Дзень маткі з патрыятычнай праграмай ладзіла ЗБВБ з удзелам д–ра Т. Руткоўскага, Яна Амора, А. Шашылоўскай, Пётры Сыча ў Лёндане.

**Чэрвень**

3 — сход сяброў ЗБВБ акругі Ёркс у Брэдфардзе: Б. Бутрымовіч, Янка Міхалюк, Янка Сяўковіч, Мікола Ягоўдзік.

10 — сход сяброў Беларускага Выдавецкага Фонду ў Парыжы: Уладзімер Шыманец, Мікола Лысуха, С. Бэўс, Валянцін Міцкевіч.

14—18 — удзел беларускіх студэнтаў у II зьезьдзе *ICSO* (Міжнародны Цэнтар Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне); намесьнік старшыні Янка Запруднік.

15—21 — тыдзень каталіцкіх студыяў у кляштары Шэвэтонь (Бэльгія) з рэфэратамі: біскупа Баляслава Слосканса, а. Лява Гарошкі, а. Часлава Сіповіча, а. Міхася Маскаліка, Аляксандра Надсана, Вітаўта Рамука, Міхася Наўмовіча, Тодара Мазуры.

24 — удзел беларускай групы ў антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Вініпэгу.

27 — адозва прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага да беларусаў гуртавацца ў шэрагі вакол БЦР.

28 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці на 5–й авэню ў Нью Ёрку.

30 — жалобная ўрачыстасьць угодкаў сьмерці Янкі Купалы ладзіла Беларускае Студэнцкае Таварыства ў Нью Ёрку.

У чэрвені выйшаў № 1 царкоўна–грамадзкага часапісу, органу Беларускага Праваслаўнага Камітэту „Царкоўны сьветач“ (Саўт Рывэр).

**Ліпень**

1 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ў Сыднэі.

7 — жалобная ўрачыстасьць з паніхідаю памяці Янкі Купалы, ладзіў Беларускі Кангрэсовы Камітэт у Саўт Рывэры.

8 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ладзіў аддзел ХАБР у Манчэстэры.

10 — удзел БНК у Цэнтральнай Радзе Нацыянальных Камітэтаў у Мюнхэне.

15 — спартовае сьвята Беларускага Спартовага Аб’яднаньня ў Саўт Рывэры.

15—19 — удзел беларускай дэлегацыі ў зьезьдзе студэнтаў краінаў, акупаваных СССР (беларускі прадстаўнік Янка Запруднік).

28 — даклад Антона Адамовіча „Трагедыя Янкі Купалы“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

28 — канцэрт Беларускай Тэатральнай Групы Мяленцева ў Саўт Рывэры.

28—29 — удзел беларускай дэлегацыі ў зьезьдзе *Pax Romano* ў Рэймсе (Францыя).

30 — сход сяброў БАА ў Мэльбурне: Адам Жураўлевіч, Міхась Шэка, Янка Кудрык, Віктар Гладкі, Павал Гуз.

У ліпені выйшаў № 1 скаўцкага часапісу „Рада кругу“, рэд. Вацлаў Пануцэвіч (Чыкага).

**Жнівень**

2 — канцэрт Беларускага Гуртка Самадзейнасьці на запрашэньне самаўраду г. Вініпэгу на гарадзкім пляцы.

26 — зьезд сяброў Беларускага Студэнцкага Таварыства ў Нью Ёрку: Барыс Данілюк, Васіль Русак, Галіна Ганчарэнка.

26 — рэпрэзэнтацыйны прыём–вечарына Ўправы ЗБА ў Буэнас Айрэсе.

27 — раскол у сыднэйскім аддзеле БАА. БЦР: Міхась Зуй, Аркадзь Качаноўскі, а. Усевалад Родзевіч, Мікола Ціхан, Анатоль Шкутка, Сымон Шнэк, Г. Чурыла; і БНР: Міхась Лужынскі, Аркадзь Качан, Уладзімер Клуніцкі, д–р Язэп Малецкі, Аляксандар Смаль, Кастусь Сіткоўскі.

**Верасень**

2 — закладзіны аддзелу ЗБВ у Бэльгіі; кіраўнік Барыс Рагуля.

2 — памёр ў Мюнхэне былы япіскап Горадзенскі і Беластоцкі Вэнэдыкт (Бабкоўскі).

3, 10, 17 і 24 — канцэрты беларускай народнай песьні ў выкананьні сьпевака Міколы Радчанкі па радыё *CBC* зь Вініпэгу.

8 — сход сяброў СБЖ на Чужыне ў Нью Ёрку: Мікола Панькоў, Часлаў Ханяўка і інш.

12 — выйшла ўлётка новай беларускай групоўкі „Авангард Беларусі“, рэд. Вінцэнт Жук–Грышкевіч (Таронта).

15 — рукапалажэньне Аляксандра Крыта ў сьвятары БАПЦ пад імем Андрэй і высьвячэньне Беларускага дому ў Брэдфардзе.

15 — даклад Антона Адамовіча „Месца Янкі Купалы ў гістарычна–літаратурным працэсе“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

16 — арганізацыйны сход і закладзіны Згуртаваньня Беларусаў у Манрэалі (Канада).

Нарада і закладзіны Беларускага Выдавецкага Фонду ў Саўт Рывэры: д–р Мікола Шчорс, а. Мікалай Лапіцкі, Міхась Сенька.

23 — пратэстацыйны мітынг беларусаў і ўкраінцаў супраць „Савету Вызваленьня Народаў Расеі“ ў Бад–Айблінгу (Нямеччына).

**Кастрычнік**

15 — адчынены лектарат беларусаведы ў Таронцкім унівэрсытэце; лектар Вінцэнт Жук–Грышкевіч.

20 — літаратурны вечар у бруклінскай „Беларускай хатцы“: Натальля Арсеньнева, Уладзімер Клішэвіч, Янка Юхнавец, Янка Шакун.

22 — у Нью Ёрк прыбыў прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык.

28 — пачалася VI сэсія Рады БНР у Нью Ёрку.

28 — удзел Беларускага Гуртка Мастацкай Самадзейнасьці ў Міжнародным мастацкім вечары ў Вініпэгу.

29 — куплены Беларускі народны дом (ЗБВБ) у Лёндане.

**Лістапад**

1 — на Дзяды беларуская грамада адслужыла паніхіду па ўсіх палеглых у змаганьні за волю бацькаўшчыны і памерлых на выгнаньні беларусах над магілаю сябра Францішка Паўлоўскага на могілках у Парыжы (імшу правіў а. Леў Гарошка).

7 — удзел беларускай групы ў пікетаваньні прадстаўніцтва СССР разам з БССР у ААН у Нью Ёрку.

8 — перавыбарчы сход СБЖ у Нью Ёрку: Мікола Панькоў, Антон Адамовіч, Леанід Галяк, Часлаў Ханяўка, д–р Янка Станкевіч, Пётра Манькоўскі.

11 — удзел беларускай групы ў парадзе і складаньні вянкоў да помніку ахвяраў вайны ў Ля Крэзо (Францыя).

15 — сход сяброў аддзелу БАЗА ў Нью Брансьвіку: Філарэт Родзька, Пётра Кулеш, Васіль Стома, Пётра Кажура, Часлаў Ханяўка; рэвізійная камісія: Васіль Русак, Уладзімер Кабушка, Марыя Войтанка.

22 — арганізацыйны сход і закладзіны Нацыянальнага Блёку Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі ў Нью Ёрку: Антон Адамовіч, Янка Юхнавец, д–р Янка Станкевіч, Антон Шукелойць, Леанід Галяк, Янка Шакун, Мікола Панькоў.

25 — паніхіда па палеглых змагарох за волю Беларусі ля помніка барацьбітам у Мітэнвальдзе (Нямеччына).

25 — урачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі і жалобнымі акадэміямі адбыліся:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, ладжаныя ЗБВБ і ХАБР;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн, Мэльбурн, Адэляіда, Канбэра, Ньюкасл;

— Бэльгія: Лювэн, Льеж;

— Гішпанія: Мадрыд;

— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Дэтройт;

— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо;

— Швэцыя: Стакгольм.

28 — аддзел ЗБВБ набыў будынак для царквы БАПЦ і Беларускага народнага дому ў Брэдфардзе.

28 — зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Лёндане: Пётра Сыч, Янка Крушына, Аляксандар Лашук, Павал Навара, Уладзімер Курыла, М. Галоўка, Мікола Ягоўдзік, А. Шацько, Мікола Нікан, Павал Асіповіч, М. Булыга, Ян Амор, Л. Хвалько, Сыльвэстар Буткевіч, Віктар Сянькоўскі, Янка Пілецкі.

30.XI—2.XII — візытацыя Ўладыкі БАПЦ Сергія (Ахатэнкі) прыходу ў Брысбэне.

**Сьнежань**

1 — першая радыёперадача, прысьвечаная ўгодкам Слуцкага паўстаньня з радыёстанцыі Нью Ёрку.

2 — сход сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Манрэалі: Віктар Ждан, Я. Кузьміч, Я. Фін, Б. Валодзя, Арсен Монід, Пётр Чопчыц; рэвізійная камісія: М. Паўловіч, М. Чаша, Васіль Мірановіч.

8 — даклад Уладыслава Рыжага–Рыскага „Беларусь учора і сёньня“ ў Мадрыдзкім унівэрсытэце.

8 — даклад Міколы Вярбы (Міколы Сільвановіча) „Сучасная беларуская літаратура на эміграцыі“ ва Ўкраінскай Вольнай Акадэміі Навук у Вініпэгу.

8—10 — побыт прэзыдэнта Міколы Абрамчыка ў Канадзе.

9 — сход ЗБАДК у Пасэйку (Нью Джэрзі): Анатоль Плескачэўскі, І. Калоша, Т. Карповіч, Сымон Жамойда; рэвізійная камісія: Бэрнард Букатка, Аляксандар Русак, д–р А. Шудзейка.

11 — Мэмарыял ад імя VI сэсіі Рады БНР прадстаўніцтвам некамуністычных краінаў у ААН у Нью Ёрку, пададзены прэзыдэнтам БНР Міколам Абрамчыкам.

16 — сход і закладзіны Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью Ёрку: Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч, Натальля Арсеньнева, Мікола Дарашэвіч, Мікола Гарошка, япіскап Васіль (Тамашчык), Мікола Панькоў.

17 — удзел у парадзе нацыянальнай вопраткі 20 нацыянальнасьцяў у Вініпэгу; ад беларусаў — Валя Гарох.

23 — беларускія песьні ў выкананьні Міколы Радчанкі праз радыёстанцыю *CBC* зь Вініпэгу.

24 — легалізацыя ЗБВБ у Англіі.

24 — беларускія калядкі ў выкананьні беларускага ансамбля Міхася Радчанкі праз Усеканадыйскае радыё.

29 — удзел беларускай калёны ў супрацькамуністычным мітынгу ў Брэдфардзе.

30 — I сход беларускай моладзі і закладзіны Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА) у Кліўлэндзе: Міхась Тулейка, Міхась Белямук, Васіль Русак, І. Шыкалюк, Уладзімер Дунец.

Спатканьне і перамовы прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка з д–рам Міколам Шчорсам аб каардынацыі дзейнасьці БНР і БЦР. Скончылася безвынікова.

У 1951 г. у Парыжы выйшла кніга інж. Лявона Рыдлеўскага „Беларусь“ з мапаю Беларусі, апрацаванай Уладзімерам Шыманцом на францускай мове.

## 1952 год

**Студзень**

6 — зьезд ЗБВ і закладзіны аддзелу ў Брысбэне: М. Раецкі, Н. Лейка.

13 — сход сяброў БАНР у Чыкага: Янка Чарапук–Змагар, А. Салавей, Вацлаў Пануцэвіч, Антон Бяленіс, Янка Ліманоўскі, А. Якімовіч, Уладзімер Скарына, Аляксандар Багдановіч; рэвізійная камісія: Эдвард Будзька, Мікола Дзямідаў, І. Багдановіч (73 сябры).

24 — у Мэльбурне памёр палкоўнік БКА Сымон Шнэк.

28 — выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня Згуртаваньня Беларускіх Вайскоўцаў „Лучнік“; рэд. Данат Яцкевіч (Сыднэй).

У студзені выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня „Бээнэравец“; рэд. Кастусь Акула, выдавецтва „Авангард Беларусі“ (Таронта).

**Люты**

2 — літаратурны вечар, ладжаны Крывіцкім Навуковым Таварыствам у Нью Ёрку: Янка Юхнавец, Уладзімер Клішэвіч, Янка Шакун.

3 — сход сяброў СББ у Лювэне: а. Аўген Смаршчок, Вітаўт Кіпель, Павал Урбан, Мікола Ягоўдзік, М. Смалонскі.

9 — 1–ы беларускі канцэрт–паказ п’есы Францішка Аляхновіча „Заручыны Паўлінкі“, ладзіў ЗБК у Манрэалі.

10 — сход Беларускага Выдавецкага Фонду і разлом на два крылы.

10 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Хору кампазытара Міколы Равенскага ў Брусэлі.

10 — удзел самадзейнасьці ЗБМА ў Міжнародным мастацкім фэстывалі ў Кліўлэндзе.

14 — радыёперадача беларускай народнай песьні з радыёстанцыі *„Home Service*“ (Лёндан).

14 — два канцэрты Беларускага Студэнцкага Хору кампазытара Міколы Равенскага ў Брусэлі.

14—18 — побыт Барыса Рагулі ў Мадрыдзе. Стварэньне Беларускага Акадэмічнага Згуртаваньня; кіраўнік Янка Сурвіла.

23 — канцэрт беларускай сьпявачкі Надзеі Грандэ пры акампанэмэнце кампазытара Міколы Куліковіча ў Нью Ёрку.

24 — сход сяброў АБРФ у Парыжы: Аляксандар Яцэвіч, Міхась Хоміч, Валянцін Міцкевіч, Я. Чыгір, Міхась Наўмовіч.

24 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА: Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Міхась Белямук, А. Ярашэвіч, Кацярына Чэрнік, Сяргей Карніловіч, Уладзімер Дунец, Янка Лукашэвіч.

24 — закладзіны беларускага праваслаўнага прыходу БАПЦ у Сыднэі.
29 — выйшаў № 1 „Бюлетэня Беларускага Злучанага Камітэту ў Кліўлэндзе“; рэд. Міхась Белямук.

**Сакавік**

1—2 — III кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку: Францішак Кушаль, Часлаў Ханяўка, Б. Дуброўскі, Аляксандар Валюшка, Уладзімер Русак, Натальля Арсеньнева.
8 — рэфэрат д–ра Вітаўта Тумаша „Беларускія культурныя ўплывы на Польшчу“, ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
8 — канцэрт і пастаноўка п’есы Францішка Аляхновіча „Заручыны Паўлінкі“ ў Манрэалі; кір. Пётр Чопчыц.
9 — нарада беларускіх вайскоўцаў у Манчэстэры і закладзіны Беларускага Вызвольнага Руху (БВР); нач. штабу Людвіг Зарэчны (Галубовіч).
9 — сход беларускіх жанчынаў і аднаўленьне дзейнасьці Беларускага Жаночага Згуртаваньня (БЖЗ) у Мюнхэне; кір. Юзэфа Брэчка.
15 — аўтарскі вечар Натальлі Арсеньневай з рэфэратам д–ра Вітаўта Тумаша, ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
16 — закладзіны Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Кліўлэндзе; кір. Клаўдзія Каляда.
20 — памёрла беларуская грамадзкая дзяячка Аўгеня Кажан у Стэмфардзе.
24 — зварот Язэпа Варонкі і Янкі Чарапука–Змагара (былых міністраў Ураду БНР) да беларусаў сьвету.
24 — афармлена існаваньне й дзейнасьць Інстытуту Беларусаведы імя Лява Сапегі ў Мадрыдзе; кір. Уладыслаў Рыжы–Рыскі.
25 — беларуская аўдыенцыя са зваротам прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка „Да беларускага народу“ праз гішпанскую радыёстанцыю з Мадрыду.
25 — урачыстасьць высьвячэньня і ўваходзіны ў Беларускі студэнцкі дом у Лювэне (Бэльгія).
25 — урачыстасьці абвяшчэньня незалежнасьці БНР з Багаслужбамі і прыняцьцямі адбыліся ў:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем, Кэмбрыдж, Шэфілд;
— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн, Мэльбурн, Адэляіда, Кельмэкот;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Бэльгія: Лювэн, Льеж;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг, Садбуры, Гамільтан;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо, Ліль;
— Швэцыя: Стакгольм.
25 — прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі загадам па БКА надае наступныя вайсковыя ступені: генэрала: д–р Галіна Мінкевіч, інж. Іван Касяк, мгр. Леанід Галяк; палкоўніка: Людвіг Зарэчны; капітана: Базыль Сушко, Палікарп Яўневіч, Аўген Будзька, Тодар Рамцоў, Міхась Вярбіцкі; ст. лейтэнанта: Павал Паўловіч, Янка Краўчук, Барыс Вайцяхоўскі; лейтэнанта: Базыль Рэўтовіч, Алесь Касацкі, Пятрусь Дуб, Міхась Конанаў і інш.
25 — выйшаў № 1 органу Беларускай Народнай Грамады ў Канадзе „Народным шляхам“; рэд. Сяргей Хмара–Сіняк (Таронта).
25—26 — інфармацыя пра Акт 25 сакавіка і беларускіх студэнтаў на бэльгійскай радыёстанцыі і ў друку.
26 — інфармацыя пра сьвяткаваньне Акту 25 сакавіка на Ватыканскім радыё.

**Красавік**

3 — загад № 1 Генэральнага Штабу БВР. Прызначаюцца ў Генэральны Штаб БВР: маёр Уладзімер Сенька — намесьнік начальніка; капітан Базыль Сушко — ад’ютант; праф. Б. Рыбак — кіраўнік палітыкі і прапаганды; лейтэнанты: Юрка Касьцюкевіч, Н. Ніканораў, Юрка Весялкоўскі, А. Грыб, Пятрусь Дуб — рэфэрэнты. Прадстаўнікі штабу: у Англіі — капітан Сымон Серафіновіч, лейтэнант Я. Лебядзінскі, падафіцэры Ўладзімер Ваўчок, Уладзімер Шыш, Аляксандар Жданковіч, Ю. Дабравольскі, А. Гатковіч, А. Назараў, Я. Талочка, М. Пратасэвіч, П. Юнах, В. Шпакоўскі.
5 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Хору кампазытара Міколы Равенскага ў Брусэлі.
6 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА: Уладзімер Белямук.
6 — малебен у беларускай праваслаўнай царкве за Беларусь і беларускі народ у Брэдфардзе адслужыў а. Міхась Макарэвіч.
12 — II нарада аўстралійскага сэктару Рады БНР у Сыднэі: д–р Пётр Гайдзель, Аляксандар Калодка, Аляксей Васіленя, д–р Язэп Малецкі, Мікола Скабей.
13 — выйшаў № 1 „Абежніка Літаратурнай Сустані «Баявая Ўскалось»“; рэд. Сяргей Хмара–Сіняк (Таронта).
15 — зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Лювэне (Бэльгія): Тодар Цімафейчык, Алесь Марговіч, Юрка Сянькоўскі.
16—21 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка з жонкаю (Нінай Абрамчык) у гасьцёх у лювэнскіх студэнтаў.
20 — адчыненьне Беларускага народнага дому ў Кліўлэндзе.

21—22 — удзел беларускай мастацкай групы ў Міжнародным фэстывалі музыкі і танцу ў Кліўлэндзе і Вініпэгу.
24 — удзел беларускай калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў Парадах ляяльнасьці ў Нью Ёрку і Чыкага.
25—26 — беларуская дэлегацыя на III кангрэсе вольных журналістых на чужыне ў Заходнім Бэрліне.
26—27 — канцэрты Беларускага Студэнцкага Хору кампазытара Міколы Равенскага ў Парыжы.
26—27 — VI зьезд ЗБВБ у Лёндане, удзельнікі: Аляксандар Надсан, Павал Асіповіч, Павал Навара, Францішак Бартуль, Лаўрын Клыбік, Кастусь Смайкевіч, а. Чеслаў Сіповіч, Янка Пілецкі; рэвізійная камісія: а. Андрэй (Крыт), Аляксандар Лашук.
27 — арганізацыйны сход і закладзіны аддзелу ЗБВ у Шляйсгайме (Нямеччына): Аляксандар Стагановіч, Колас.
27 — зьезд Крывіцкага Навуковага Таварыства ў Нью Ёрку: д–р Янка Станкевіч, В. Федуковіч, Антон Адамовіч, Янка Ліманоўскі, Антон Шукелойць; рэвізійная камісія: Мечыслаў Чатырка, Янка Юхнавец, Марыя Войтанка.
28 — III сход сяброў аддзелаў БАА ў Сыднэі.
28 — сход і закладзіны Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Брысбэне: Эўлялія Яцкевіч, Ганна Раецкая.

**Травень**
4 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыі паняволеных Масквою народаў, ладжанай Антыбальшавіцкім Блёкам Народаў у Нью Ёрку.
10—19 — побыт беларускага кампазытара Алеся Карповіча ў Беларускім студэнцкім доме ў Лювэне.
11 — канцэрт беларускай народнай песьні ў Нью Ёрку: сьпявачкі Надзея Градэ і Барбара Вержбаловіч, кампазытар Мікола Куліковіч.
11 — сход сяброў арганізацыі „Моладзь“ у Нью Ёрку пастанаўляе далучыцца да ЗБМА: Мікола Заморскі, Хведар Беразоўскі, Юрка Станкевіч, Галіна Орса, Валянціна Пашкевіч.
17 — даклад Аляксандра Надсана „Жыцьцё і творчасьць Максіма Багдановіча“ ў Лёндане.
17 — вечар беларускай музыкі кампазытараў Міколы Куліковіча і Алеся Карповіча ў Лювэне.
17—18 — IV зьезд ЗБК у Таронта: Яўхім Скурат, Я. Ананіч, Мікола Ганько, Мечыслаў Рачыцкі, Баранкевіч, Раіса Жукоўская, Язэп Арцюх; рэвізійная камісія: Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Чыркун, Валер Навіцкі; сяброўскі суд: Аўген Протас, Кастусь Станюш, Генрык Барановіч, Янка Баран.
18 — даклад а. Часлава Сіповіча аб сучаснай беларускай літаратуры на Бацькаўшчыне і на эміграцыі ў Бірмінгеме.
18 — рэфэрат а. Андрэя (Крыта) у Манчэстэры аб жыцьці сьв. Еўфрасіньні Полацкай.
18 — жалобная ўрачыстасьць угодкаў сьмерці Максіма Багдановіча з рэфэратам Міхася Белемука ў Кліўлэндзе.
18 — інфармацыйны даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Парыжы пра жыцьцё і дзейнасьць беларусаў ЗША і Канады.
25 — сход аддзелу ЗБВБ у Кэмбрыджы; А. Дзямідзек, Лоньскі, Гойшык.
25 — рэфэрат М. Баяроўскага з гісторыі Беларусі ў Кэмбрыджы.
25 — зьезд сяброў ЗБВБ у Брэдфардзе. Удзельнікі: Алесь Бута, Янка Міхалюк, Францішак Паўлоўскі, А. Койка, Мікалай Гумен.
29 — жалобная ўрачыстасьць з паніхідаю ўгодкаў сьмерці Янкі Купалы з рэфэратам Аўгена Каханоўскага (Калубовіча) у Кліўлэндзе.
30 — тое ж з рэфэратам Антона Адамовіча ў Нью Ёрку.
31 — сход і закладзіны Беларускага Нацыянальнага Аб’яднаньня ў Таронта. Удзельнікі: Міхась Пашкевіч, Васіль Камароўскі, Сяргей Хмара.
31.V—2.VI — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

**Чэрвень**
1 — V зьезд сяброў ЗБА ў Буэнас Айрэсе: Уладзімер Другавец, Аляксандар Літвінскі, Л. Петраш, Мікалай Лінкевіч, Васіль Казлоўскі; рэвізійная камісія: Янка Вайшчыловіч, Мікалай Кейзік, Кастусь Мярляк.
6 — урачыстасьць угодкаў нараджэньня Язэпа Пушчы і жалобныя ўгодкі сьмерці Янкі Купалы з рэфэратамі Янкі Філістовіча ладзіла БНАМ у Парыжы.
6 — урачыстыя ўгодкі гадавіны II Усебеларускага Кангрэсу з рэфэратамі Сьвятаслава Каўша ладзіў Беларускі Кангрэсавы Камітэт у Саўт Рывэры.
6 — памёр у Чыкага былы прэм’ер ураду БНР Язэп Варонка.
8—10 — жалобная паніхіда па Янку Купалу і акадэмія з дакладам пра творчасьць Язэпа Пушчы ў Парыжы.
15 — беларуская група з нацыянальным сьцягам на дэманстрацыйным мітынгу „Свабода перадусім“ у Манчэстэры (ЗБВБ і БВР).
19—21 — удзел беларускай дэлегацыі ў Штарынбэрскай канфэрэнцыі Амэрыканскага Камітэту: Барыс Рагуля, Янка Жытка, Станіслаў Станкевіч, Уладзімер Цьвірка.
20—28 — тыдзень студыяў БАКА „Рунь“ у Лёндане. Удзельнікі: а. Часлаў Сіповіч, а. Леў Гарошка, Аляксандар Надсан, Францішак Бартуль, Янка Пілецкі, Вітаўт Рамук, Дамінік Аніська.

21 — жалобная ўрачыстасьць гадавіны сьмерці Янкі Купалы ў Нью Брансьвіку.
22 — даклад а. Часлава Сіповіча „Сучасная беларуская літаратура на Бацькаўшчыне і на эміграцыі“ ў Лёндане.
22 — канцэрт у гонар 70–годзьдзя нараджэньня Янкі Купалы ладзіў мясцовы БНК у Вініпэгу.
22 — урачыстае высьвячэньне і адкрыцьцё клюбу Беларускага Згуртаваньня ў Манрэалі.
24 — зьезд сяброў БАКА „Рунь“ у Лёндане: Аляксандар Надсан, Вітаўт Рамук, Дамінік Аніська, Францішак Бартуль.
28 — сход сяброў БАА ў Сыднэі: інж. П. Нарушэвіч, д–р Язэп Малецкі, Аркадзь Качан, Кастусь Сіткоўскі, П. Паўлоўскі.
28 — жалобная ўрачыстасьць 10–годзьдзя сьмерці Янкі Купалы ў Брысбэне.
29 — жалобныя ўгодкі 10–годзьдзя сьмерці Янкі Купалы ў Нью Ёрку з дакладам Янкі Ліманоўскага і багатай мастацкаю праграмаю з творчасьці народнага паэты.
29 — паніхіда і жалобная акадэмія па Янку Купалу ў Брэдфардзе: праводзіў а. Андрэй (Крыт).
У чэрвені:
створаны штучны Беларускі Антыбальшавіцкі Фронт (БАФ) у Мюнхэне: Янка Жытка і Ўладзімер Цьвірка;
выйшаў № 1 часапісу маладога пакаленьня *Vici*; рэд. Міхась Тулейка (Нью Ёрк—Клівулэнд);
выйшаў № 1 часапісу „Змаганьне“, органу БАФ; рэд. Янка Жытка (Мюнхэн);
выйшаў № 1 незалежнага месячніка гумару і сатыры „Шарсьцень“; рэд. Пётра Сыч (Мюнхэн).

**Ліпень**
4—6 — сустрэча беларусаў ЗША і Канады, ладзілі БАЗА і ЗБК у Канадзе.
6 — сход сяброў аддзелу ЗБВБ у Бірмінгеме: М. Баяроўскі, Л. Хвалько, Бэрнард Букатка.
19—23 — побыт япіскапа Васіля (Тамашчыка) у Кліўлэндзе.
20 — жалобныя ўгодкі сьмерці Янкі Купалы ў Саўт Рывэры.
26 — абарона доктарскай дысэртацыі Вінцэнтам Жук–Грышкевічам на тэму „Лірыка Янкі Купалы“ ў Атаўскім унівэрсытэце (Канада).
26.VII—2.VIII — тыдзень студыяў БАКА „Рунь“ у Доме марыянаў у Лёндане: восем адчытаў на тэму „Хрысьціянскі элемэнт у беларускай культуры“. Зьезд сяброў БАКА: д–р Вітаўт Рамук, Аляксандар Надсан, Д. Анушка, Францішак Бартуль; апякун а. Часлаў Сіповіч.

**Жнівень**
2 — высьвячэньне абраза „Сьвятыя заступнікі беларускага народу“ (Еўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі, Аўрамі Смаленскі, Язафат Кунцэвіч і Казімір Ягайлавіч) у Лёндане.
3 — IV зьезд сяброў ХАБР у Лёндане: Аркадзь Варава, Аляксандар Жданковіч, А. Ваўчок, М. Лабанок, М. Залога; рэвізійная камісія: Б. Жэлязоўскі, Ю. Дабравольскі, Я. Лебядзеўскі.
4 — паніхіда па Язэпу Варонку ў беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта; служыў а. Міхась Мігай.
5 — прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі вярнуўся з Аргентыны; у Гамбургу спатыкалі Людвіг Зарэчны (Галубовіч) і Ўладзімер Сенька.
10 — рэфэрат Міхася Белемука „435 год з дня выхаду друкам кнігі Францішка Скарыны «Апостал»“, чытаны ў Кліўлэндзе.
17 — сьвяткаваньне 5–годзьдзя аддзелу АБРФ у Ля Крэзо.
17—20 — сустрэчы прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага з украінскімі і расейскімі палітычнымі дзеячамі ў Мюнхэне.
20 — прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі прызначыў дэлегатуру БЦР у Нямеччыне: д–р Аркадзь Арэхва, заступнік Л. Вярбіцкі.
22.VIII—I.IX — удзел беларускіх дэлегатаў д–ра Вінцэнта і Раісы Жук–Грышкевічаў у Кангрэсе *Pax Romano* ў Канадзе.
24 — удзел беларускай групы самадзейнасьці і здабыцьцё першага месца ў Міжнародным фэстывалі песьні і танцу „Амэрыканская кавалькада“ ў Дэтройце.
25 — выйшаў № 1 „Інфармацыйнага бюлетэня Галоўнага Штабу БВР“; рэд. Людвіг Зарэчны (Глядбах, Нямеччына).
У жніўні выйшлі:
Якуб Колас. Новая Зямля: Паэма. Выдавецтва „Бацькаўшчына“, 1952 (Мюнхэн);
Мікола Панькоў. Паказьнік беларускіх выданьняў, 1945—1950 (Нью Ёрк);
№ 1 „Дакумэнты і факты: Архіў Беларускага Нацыянальна–Вызвольнага Руху“, рэд. Сяргей Хмара–Сіняк (Нью Ёрк—Таронта).

**Верасень**
1 — пачатак заняткаў у беларускай вячэрняй школе моладзі ў Кліўлэндзе.
2 — II зьезд сяброў Беларускага Студэнцкага Таварыства ў Нью Ёрку: Пётра Манькоўскі, Галіна Ганчарэнка, Юрка Станкевіч.

4 — візыт прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў Брэдфард.
5 — даклад прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага „Нашае сучаснае становішча“ на сходзе сяброў БВР у Манчэстэры.
7 — высьвячэньне месца пад будынак беларускай праваслаўнай царквы ў Саўт Рывэры.
7 — надзвычайны сход сяброў акругі Ляншайр ХАБР у Манчэстэры: Б. Кедрык, М. Вішнеўскі, Аляксандар Шпігановіч, Уладзімер Шыш, М. Пратасэвіч.
16—18 — удзел БАФ у канфэрэнцыі (6 нерасейскіх і 4 расейскія) арганізацыяў, што прынялі Статут Каардынацыйнага Цэнтру Антыбальшавіцкага Змаганьня ў Мюнхэне.
20 — разьвітальная сустрэча сяброў ЗБА з былым старшынём Кастусём Мерляком у Буэнас Айрэсе.
28 — даклад Алеся Салаўя „Каштоўнасьці беларускай народнай культуры“ ў Мэльбурне.
28 — закладзіны аддзелу АБРФ на Паўночную Францыю: Я. Раманоўскі, Янка Лазута, Ульляна Каштэлян, Янка Чэрвінскі, Уладзімер Качан, М. Калесьніковіч.
28 — нарада старшыняў і пісараў аддзелаў ЗБВБ у Манчэстэры.
28 — камунікат замежнага сэктару БНЦ пра свае адносіны да Рады БНР.

**Кастрычнік**

3 — даклад Аляксандра Надсана маладым ангельскім кансэрватыўным палітыкам у Лёндане пра савецкую школу.
5 — урад Францыі прызнаў беларускую нацыянальнасьць.
10 — пачатак беларускамоўных радыёперадачаў з радыёстанцыі ў Дэтройце.
11 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам на парадзе Калюмба ў Кліўлэндзе.
12 — жалобная ўрачыстасьць па палеглых за волю Беларусі ў Лівэрпулі (Аўстралія).
12 — пастаноўкі Беларускай Тэатральнай Студыяй п’есаў Янкі Купалы „Паўлінка“ і Францішка Аляхновіча „Заручыны Паўлінкі“ і „На вёсцы“ ў Нью Ёрку.
19 — сход вэтэранаў Нью Ёрскага аддзелу ЗБВ: Лявон Савёнак, Міхась Тулейка, Барыс Данілюк.
21 — літаратурны вечар Алеся Салаўя ладзіў Мэльбурнскі аддзел ЗБВ.
23 — сход сяброў ЗБС у Лювэне: Анатоль Занковіч, Аляксей Арэшка, Юрка Сянькоўскі, Мікола Ягоўдзік.
26 — зьезд сяброў лёнданскай акругі ХАБР: Міхась Сенька, Ю. Дабравольскі, Б. Жэлязоўскі, С. Ацута, М. Залога.

**Лістапад**

1 — створана Згуртаваньне Мэдыкаў–Чужынцаў у Бэльгіі; старшыня Барыс Рагуля.
6—30 — праходзілі жалобныя ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Лідс, Бірмінгем, Бэрсьлем (у некаторых месцах падвойна ладжаныя ЗБВБ і БВР);
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Брысбэн (паніхіду адправіў а. Сергій (Ахатэнка)), Сыднэй, Мэльбурн, Пэрт, Байрэс;
— Бэльгія: Лювэн, Льеж, Лімбург;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Эдмантан, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо, Рубэ.
9—11 — побыт прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка ў Лювэне.
13 — міжнародны вечар–сустрэча ў Беларускім студэнцкім доме ў Лювэне.
23 — створана Брацтва Сьв. Юрага ў Сыднэі: Юры Яцкевіч, С. Шафаль, А. Галіда; Данат Яцкевіч — адміністратар і пісар БАПЦ у Аўстраліі і Новай Зэляндыі.
27 — беларускамоўныя перадачы пра Слуцкае паўстаньне на радыё „Голас Канады“ і з Дэтройту.
30 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Ансамблю кампазытара Міколы Равенскага ў Мэхелене (Бэльгія).
30 — сход сяброў ЗБВБ у Бэрсьлеме: С. Мажэйка, М. Лазоўскі, М. Шыш, С. Шафаль.
30 — у Канадзе памёр Юстын Мурашка — дзеяч нашаніўскага часу.

**Сьнежань**

6 — рэфэрат д–ра Янкі Станкевіча „Гістарычныя і палітычныя граніцы Беларусі“ ў Нью Ёрку.
8—17 — побыт прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка ў Канадзе.
10 — даклад прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка пра прабег VI сэсіі Рады БНР у Таронта.
14 — зьезд сяброў БІНіМ у Нью Ёрку: Янка Ліманоўскі, д–р Вітаўт Тумаш, Уладзімер Сядура, Натальля Арсеньнева, Мікола Панькоў, Леў Акіншэвіч, япіскап Васіль (Тамашчык), Рыгор Крушына.
14 — сход сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Манрэалі: В. Сьпічонак, Л. Ігнатовіч, Пётр Чопчыц, Віктар Ждан, Б. Б–іч.
15 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Ансамблю кампазытара Міколы Равенскага ў Лювэне.
24—29 — побыт Станіслава Станкевіча ў Лювэне.

27 — пачатак XIII пленуму БЦР у Саўт Рывэры. Прэзыдыюм: Юры Сабалеўскі, Мікола Дзямідаў, Іван Касяк (скончыўся 28.VI.53).

27—28 — II зьезд сяброў ЗБМА ў Нью Ёрку: Міхась Тулейка, Міхась Белямук, Галіна Орса, Галіна Ганчарэнка, Мікола Прускі, Сяргей Карніловіч, Мікола Заморскі; рэвізійная камісія: Кастусь Калоша, Ала Орса, Васіль Русак; сяброўскі суд: В. Літвінка, Уладзімер Дунец, Пётра Манькоўскі.

28 — рэфэрат Паўла Куляша „Абавязкі старой і новай эміграцыі" ў Дэтройце.

## 1953 год

### Студзень

1 — выйшаў № 1 беларускага літаратурна–грамадзкага часапісу „Прамень"; рэд. Я. Ждан, выдавецтва „Гурток беларусаў" (Манрэаль).

1 — выйшаў № 1 рэлігійна–грамадзкага бюлетэня „Лісток да беларусаў"; рэд. а. Ян Тарасэвіч (Чыкага).

3 — сход сяброў Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Пэрце (Аўстралія): П. Лейка, М. Мароз, палк. Хведар Кажановіч, кап. Дамброўскі.

7 — нарада „тоже белоруссов" у Шляйсгайме стварае „Белоруское Представительство": палк. А. Высоцкі, палк. Мікалай Партлезьнік, інж. С. Бузаноўскі, Н. Фонцкі, К. Аўчыньнікаў, Яроменка, Марчэнка, кап. Кісель, В. Любінскі, д–р Г. Нікановіч, лейт. М. Сьцяпанаў, інж. Рэпнін, І. Костка, П. Асадчы, А. Лутохін.

11—14 — удзел беларусаў у канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, а. Леў Гарошка, Станіслаў Станкевіч, Уладзімер Сядура.

14 — сход сяброў Беларускага Згуртаваньня ў Манрэалі: Пётр Чопчыц, Віктар Ждан.

24 — беларускія дэлегаты на канфэрэнцыі „Інтэрнацыянал свабоды" ў Рыме: Станіслаў Станкевіч, а. Пётра Татарыновіч.

25 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Сыднэі.

### Люты

1 — сход сяброў аддзелу АБРФ у Ля Крэзо: Браніслаў Нагорны, Юрка Гасьцееў, М. Булыга, А. Антановіч, Францішак Рашкевіч, К. Лубешка.

14 — канцэрт–баль, ладжаны ЗБМА ў Нью Ёрку.

14—15 — зьезд ЗБКамбатантаў у Лювэне: Мікола Арцюх, А. Шацько, Лявон Вініцкі; рэвізійная камісія: Тодар Цімафейчык, інж. Пагоцкі, Андрэй Стрэчань; сяброўскі суд: Барыс Рагуля, В. Барысевіч, Уладзімер Цьвірка.

14—16 — нарада „нацыянальных меншасьцяў" па супрацы з Амэрыканскім Камітэтам у Карлсруэ.

15 — сход сяброў БАА у Мэльбурне: Сяргей Розмысл, Вячаслаў Конан, Віктар Гладкі, Сьлярэвіч, Аўген Груша; рэвізійная камісія: Уладзімер Сідлярэвіч, а. А. Грыцук, А. Анішчык; сяброўскі суд: Ян Валянцёнак, Адам Жураўлевіч, Янка Гэнцэль.

15 — сход сяброў кліўлэндзкага аддзелу БАЗА: Аўген Каханоўскі (Калубовіч), М. Шыкалюк, Янка Раковіч, Уладзімер Дунец, А. Чэрняк, А. Кананoвіч.

15 — лекцыя Міколы Скабея ў Мэльбурне пра беларускія звычаі і традыцыі.

15—16 — канфэрэнцыя прадстаўнікоў Рады БНР, Грузінскае Нацыянальнае Рады і Ўкраінскае Нацыянальнае Рады ў справе супрацоўніцтва з антыбальшавіцкім цэнтрам і заснаваньне Парыскага Блёку ў Карлсруэ: Азэрбайджан, Армэнія, Беларусь, Крым, Грузія, Ідэль–Урал, Паўночны Каўказ, Туркестан, Украіна; старшыня Мікола Абрамчык, сакратар С. Доўгаль.

21—22 — краёвы зьезд Беларускай нацыянал–дэмакратычнай партыі (БНДП) у Брукліне: Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Антон Адамовіч, Лявон Савёнак, Гіпаліт Паланевіч, Іна Рытар.

23 — закладзіны аддзелу БВР у Мэльбурне: А. Булаўскі, С. Шэка, Уладзімер Сідлярэвіч, Уладзімер Качан, Валанец, Янка Кудрык, Віктар Гладкі.

27.II—1.III — IV кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку: Францішак Кушаль, Часлаў Ханяўка, Барбара Вержбаловіч, Уладзімер Русак, Іна Рытар.

30 (так у арыгінале. — **рэд.**) — I зьезд сяброў СБАМ у Саўт Рывэры: Міхась Сенька, Кастусь Вайцяхоўскі, Валя Дульская, Уладзімер Пялеса, Анатоль Шурак, Валя Вайцяхоўская, Міхаіл Ігнатовіч, Віталь Цярпіцкі; рэвізійная камісія: Уладзімер Траскевіч, А. Лапека, Хведар Беразоўскі.

### Сакавік

1 — канфэрэнцыя „белоруссов" (русафілаў) у Мюнхэне: „Белорусское Демократическое Объединение": інж. Рэпнін, палк. П. Асадчы, дац. Латохін, маёр В. Асмалоўскі.

7—8 — надзвычайны зьезд дэлегатаў і ўпаўнаважаных БАФ у Лёндане.

9 — памёр кампазытар Мікола Равенскі ў Лювэне.

12 — зьезд сяброў СББ у Лювэне: а. Аўген Смаршчок, А. Шацько, Юрка Сянькоўскі, Аляксандар Міцкевіч, Васіль Шчэцька; рэвізійная камісія: Мікола Арцюх, П. Барысік, В. Жыбурт.

14 — рэфэрат кампазытара Міколы Куліковіча „Літоўская рапсодыя" ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

15 — паніхіды па кампазытару Міколу Равенскім: у Нью Ёрку служыў яп. Васіль (Тамашчык), у Нью Брансьвіку а. Сьцяпан (Войтанка), у Таронта заказала ЗБК (усе прыходы БАПЦ).

20—22 — удзел у канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР і даклад Антона Адамовіча ў Нью Ёрку.

22 — дэлегацыя нацыянальных цэнтраў паняволеных народаў СССР у адмірала Стывэнса, кіраўніка Амэрыканскага Камітэту ў Мюнхэне; кір. Мікола Абрамчык.

22.III—2.IV — канфэрэнцыя дэлегатаў „нацменаў“ стварае Кантрольную Камісію ў Парыжы.

22—29 — урачыстасьці ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі — Акту 25 сакавіка — праводзіліся:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Кэмбрыдж, Бірмінгем, Шэфілд;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Адэляіда, Мэльбурн, Брысбэн, Пэрт;

— Бэльгія: Лювэн;

— Гішпанія: Мадрыд;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Дэтройт, Саўт Рывэр;

— Італія: Рым;

— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо, Ліль.

У большасьці ўрачыстасьці праходзілі падвойна, ладжаныя прыхільнікамі БНР, БВР і БЦР.

29 — сход сяброў БАА ў Сыднэі: Станіслаў Нарушэвіч, д–р Язэп Малецкі, Аркадзь Качан, Лявон Рыбнік; рэвізійная камісія: д–р Пётр Гайдзель, Мікола Нікан, Аляксей Васіленя, Ян Чарнецкі.

**Красавік**

3 і 19 — канцэрты беларускай народнай песьні з камэнтарамі сяброў ЗБВ на радыёстанцыі ў Пэрце (Аўстралія).

4 — II зьезд сяброў БАА ў Сыднэі; створаны Беларускі Каардынацыйны Камітэт: Мікола Скабей, д–р Язэп Малецкі, Мікола Нікан, Аляксандар Калодка, М. Бакуновіч, Ян Чарнецкі.

12 — выстава беларускага эміграцыйнага друку ў Буэнас Айрэсе.

12 — закончыўся XIII пленум БЦР у Саўт Рывэры: інж. Аляксандар Русак, д–р Аркадзь Арэхва, інж. Эмануіл Ясюк, маёр Зьміцер Касмовіч, дац. Яўхім Кіпель, Сьвятаслаў Коўш, Барыс Шчорс, Віталь Цярпіцкі, інж. Пётр Орса, інж. Нікандар Мядзейка; дэлегатуры на Нямеччыну: Зьміцер Касмовіч; Англію: Барыс Суравы; Аўстралію: Міхась Зуй; Гішпанію: мгр. Уладыслаў Рыжы–Рыскі; Аргентыну: Пётр Саўчыц.

18 — надзвычайны сход вэтэранаў ЗБВ у Нью Ёрку: Барыс Данілюк, Васіль Юрцэвіч, Даніла Клінцэвіч.

18 — паніхіда па кампазытару Міколу Равенскім у беларускай праваслаўнай царкве БАПЦ у Мэльбурне.

19 — зьезд сяброў АБРФ у Парыжы: Міхась Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, Мікола Лысуха, З. Пузоўскі, Пётра Ельляшэвіч, П. Мятла; выбрана Ўправа парыскага аддзелу: а. Леў Гарошка, Аляксандар Яцэвіч, Цыбульскі.

25 — дыскусія „Вайтрутэнія“ ці „Белоруссія“, актуальная ў той час, праведзеная БІНіМ у Нью Ёрку.

25 — прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі зацьвердзіў склад Калегіі БЦР: Аляксандар Русак, Аркадзь Арэхва, Віктар Чабатарэвіч, А. Шудзейка, Ксэнафонт Вайцяхоўскі, Анатоль Плескачэўскі, Пётр Орса, Людвіг Зарэчны, Уладзімер Сенька, Юры Попка, Віталь Цярпіцкі.

25—26 — VII зьезд сяброў ЗБВБ у Лёндане: Пётр Асіповіч, Павал Навара, А. Быкоўскі, Ян Мазура, Францішак Бартуль, Павал Дварэцкі; рэвізійная камісія: а. Часлаў Сіповіч, а. Андрэй (Крыт), М. Дзямідзек.

26 — перавыбары ў царкоўную раду царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры: Васіль Місюль, С. Прыдбайла, Барыс Плескачэўскі, Рыгор Камянкоў, Цімафей Варанцоў, М. Брылеўскі; рэвізійная камісія: Аўген Кіркевіч, С. Мядзьвецкі, Ксэнафонт Вайцяхоўскі; камітэт пабудовы новае царквы: а. Мікалай Лапіцкі, Уладзімер Брылеўскі, Аляксандар Сянкевіч, Рыгор Камянкоў, Іван Навумчык, Хведар Высоцкі, Іван Касяк, Сьвятаслаў Коўш, Міхась Сенька.

26 — пачатак сталых беларускамоўных перадачаў у Сыднэі.

26 — V зьезд сяброў СББ у Лювэне: а. Аўген Смаршчок, А. Шацько, Юрка Сянькоўскі, Аляксандар Міцкевіч, Васіль Шчэцька.

**Травень**

1 — сход прыхільнікаў Беларускага Нацыянальнага Аб’яднаньня (БНА) у Нью Брансьвіку: Аляксандар Асіпчык, В. Міхалап, Уладзімер Саковіч, І. Еневіч, Станіслаў Дашкевіч, Сяргей Грамыка.

2 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці на 5–й авэню ў Нью Ёрку.

4 — сход саўтрывэрскага аддзелу СБАМ: Грыгоры Арцюшэнка, М. Казакоў, Генрык Яцэвіч, Міхась Палюховіч, Расьціслаў Завістовіч, Сяргей Казакоў; рэвізійная камісія: Мікалай Касьцюк, Станіслаў Шурак, З. Арцюшэнка.

5 і 6 — радыёінфармацыя пра Беларусь і беларусаў на радыёстанцыі ў Брысбэне (Аўстралія).

23 — зьезд сяброў БАА ў Сыднэі: Міхась Зуй, Уладзімер Сідлярэвіч, а. Усевалад Родзевіч, Міхась Шэка, Сяргей Розмысл, Алесь Алехнік, Вячаслаў Конан, Павал Гуз.

24 — канцэрт беларускіх песьняў на радыёстанцыі ў Брысбэне.

25 — зьезд сяброў ХАБР у Лёндане: вынікі выбараў не пададзеныя.

30 — вечар памяці Максіма Багдановіча з мастацкай праграмай па творах паэты ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

30 — рэфэрат а. Лява Гарошкі „Беларуская міталёгія“ ў Міжнароднай Акадэміі Навукі і Літаратуры ў Парыжы.

30—31 — III замежная канфэрэнцыя Аб’яднаньня Беларускіх Нацыянал–Дэмакратаў у Нью Ёрку: Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Антон Адамовіч, Лявон Савёнак.

31 — VI зьезд сяброў ЗБА ў Буэнас Айрэсе: Васіль Казлоўскі, Аляксандар Літвінка, Мікалай Ланкевіч, Л. Петраш, Аляксей Карповіч, Уладзімер Другавец.

31 — ператасоўка ў Каардынацыйным Цэнтры ў Сыднэі: Ян Чарнецкі, д–р Язэп Малецкі, Аўгеньня Каранеўская, Мікола Скабей, Мікола Нікан, Аляксандар Калодка, М. Бакуновіч.

**Чэрвень**

5 — удзел беларусаў у паходзе ў Дзень канадыйскага грамадзяніна ў Вініпэгу.

7 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Ансамблю кампазытара Міколы Равенскага, ладжаны па запросінах *UNESCO* ў Брусэлі.

7 — сход сяброў БАА ў Мэльбурне: Мікола Нікан, Пётра Мікуліч, Уладзімер Аксючыц, А. Казура, Аляксандар Калодка, Мікалай Каранеўскі, Мікола Скабей, Ф. Рамашук; сяброўскі суд: Лідзія Нікан, Аўгеньня Каранеўская, М. Казура.

7 — 5–я ўгодкі аднаўленьня БАПЦ на чужыне сьвяткаваў прыход Жыровіцкай Божай Маці ў Нью Брансьвіку.

14 — створаны ньюёрскі аддзел БАЗА: д–р Вітаўт Тумаш, Міхась Тулейка, Рыгор Казак (Крушына), Яніна Каханоўская, Барбара Вяржбіцкая.

28 — дзень памяці Якуба Коласа з мастацкай праграмай зь яго твораў ладзіў аддзел ЗБВБ у Брэдфардзе (На самой справе Якуб Колас памёр у 1956 г., але адсутнасьць якіх-кольвечы зьвестак зь Беларусі і арэол таямніцы вакол імя паэта спараджалі розныя чуткі. — **Рэд.**).

28 — закладзены чыкагскі аддзел БАЗА: д–р Лявон Трусэвіч, Антон Бяленіс, Вацлаў Пануцэвіч, М. Кучура, А. Якімовіч; наглядчая рада: д–р Баляслаў Грабінскі, Янка Чарапук–Змагар, Міхась Махнач; жаночая сэкцыя: А. Махнач, Ірэна Пануцэвіч, Людвіка Бяленіс, О. і Т. Юрэвіч, Марыя Верабей.

28 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ладзіў БАКК у Саўт Рывэры.

28 — Беларускае Нацыянальнае Аб’яднаньне ў Таронта купіла ўласны будынак для царквы і грамадзкага цэнтру; высьвячэньне дому і першая багаслужба адпраўлена а. Міхасём Мігаем.

**Ліпень**

4 — паніхіда па Якубу Коласу адслужана а. Андрэем (Крытам) у Брэдфардзе.

4 — дзень спартоўца ладзіў СБАМ у Саўт Рывэры.

5 — урачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ладзілі БВР і ХАБР у Лёндане, Брэдфардзе і Манчэстэры.

5 — гадавы сход сяброў Аб’яднаньня Беларуска–Амэрыканскіх Студэнтаў у Саўт Рывэры: Анатоль Шурак, Л. Лапіцкая, Валя Вайцяхоўская; рэвізійная камісія: Сяргей Казакоў, Лідзія Каліноўская, Міхась Палюховіч.

11 — прамова Міколы Дзямідава на радыё ў Чыкага, прысьвечаная II Усебеларускаму Кангрэсу.

17 — канфэрэнцыя прадстаўнікоў КЦАБ і МАКЦ у Мюнхэне: Мікола Абрамчык, д–р Барыс Рагуля, Станіслаў Станкевіч.

18 — сьвяткаваньне Купальля ладзіла беларуская моладзь у Саўт Рывэры.

19 — закладзены аддзел БАЗА ў Спрынгфілдзе (ЗША): а. Васіль Кендыш, Павал Яськевіч, П. Русак.

26.VII—2.VIII — тыдзень студыяў БАКА „Рунь“ у Лёндане: а. Часлаў Сіповіч, а. Леў Гарошка, Антон Адамовіч, Міхась Наўмовіч, Янка Сурвіла.

30 — зьезд сяброў БАКА „Рунь“ у Лёндане: Вітаўт Рамук, Аляксандар Надсан, Дамінік Аніська, Францішак Бартуль.

**Жнівень**

1 — адноўлена дзейнасьць Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Нямеччыне, у гор. Бон: кіраўнік Часлаў Кукель.

2 — даклад Фокі Фаміна „Этнаграфічныя межы Беларусі“ і дыскусію ладзіла ЗБА ў Буэнас Айрэсе.

7—12 — дэлегацыя БАКА „Рунь“ на зьезьдзе *Pax Romano* ў Боне: а. Часлаў Сіповіч, Вітаўт Рамук, Часлаў Кукель.

15—17 — удзел беларусаў у канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне (Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Уладзімер Сядура).

**Верасень**

6 — штучна створанае „Аб’яднаньне Беларускіх Фэдэралістаў“ у Нью Ёрку (Іван Баранцэвіч, а. Мікалай Краўчанка, І. Белы, Кастусь Якуб–Птах).

18 — спатканьне прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка і прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў Мюнхэне (бяз вынікаў).

19 — спатканьне прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага і заступніка прэзыдэнта Міколы Абрамчыка Барыса Рагулі ў Мюнхэне (бяз вынікаў).

20 — зьезд сяброў ЗБК у Таронта. Управа: Алесь Грыцук, Генрык Барановіч, Мікола Ганько, Ніна Слаўка, Р. Ананіч; рэвізійная камісія: Валер Навіцкі, Віктар Касьцюкевіч, д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Язэп Чорны, Чыркун; сяброўскі суд: Мечыслаў Рачыцкі, Аўген Протас.

26 — зварот да грамадзкасьці Нью Ёрку „Аб’яднаньня Беларускіх Фэдэралістаў“ падпісалі: Іван Баранцэвіч, а. Мікалай Краўчанка, А. Кіслы, Кастусь Якуб, І. Белы, Б. Крастовіч, К. Радзевіч, І. Савіцкі, Р. Бжэзінскі.

27 — III зьезд сяброў Беларускага Студэнцкага Таварыства. Управа: Пётра Манькоўскі, Кастусь Калоша, Васіль Русак, Яраслаў Вініцкі.

28 — загінуў журналісты і пісьменьнік, грамадзкі дзеяч Васіль Камароўскі (Вярбіна) у катастрофе ў Таронта.

**Кастрычнік**

14 — высьвячэньне будынку царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі); настаяцель Мікалай Лапіцкі.

14 — прыбыў у Нью Ёрк з Эўропы прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.

17 — супольная канфэрэнцыя беларускіх і ўкраінскіх студэнтаў у Нью Ёрку.

17—19 — IV кангрэс ЦБАА ў Лювэне (Бэльгія). Управа: Уладзімер Цьвірка, Аўген Вярбіцкі, Уладзімер Набагез, Аляксей Арэшка, Анатоль Занковіч, Станіслаў Мак, а. Аўген Смаршчок.

21 — беларуская дэлегацыя на кангрэсе „Касьцёл у бядзе“ ў Кёнігштайне (Нямеччына): а. Леў Гарошка і інш.

22 — памёр галава УАПЦ мітрапаліт Палікарп.

22 — удзел ньюёрскага аддзелу БАЗА ў Міжнародным фэстывалі песьні і танцу ў Нью Ёрку.

24 — памёр беларускі грамадзкі і палітычны дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстаньня інж. Лявон Рыдлеўскі ў Лёндане.

26—30 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Пэрце (Аўстралія).

31 — рэфэрат д–ра Янкі Станкевіча „Вацлаў Ластоўскі“, ладжаны Крывіцкім (Беларускім) Навуковым Таварыствам у Нью Ёрку.

**Лістапад**

1 — афіцыйны пачатак дзейнасьці беларускай студыі Цэнтру Ўсходніх Студыяў у Мадрыдзе, Гішпанія; кіраўнік Уладыслаў Рыжы–Рыскі.

2 — сход сяброў БСЗ у Лювэне, Бэльгія. Управа: Янка Запруднік, Тодар Цімафейчык, Павал Урбан, Лявон Вініцкі, Мікола Ягоўдзік.

7—8 — пачалася VII сэсія Рады БНР у Нью Ёрку.

8 — паніхіда ў вечар гадавіны сьмерці паэты і грамадзкага дзеяча Хведара Ільляшэвіча ў Саўт Рывэры.

11—30 — праходзілі жалобныя ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі і адпаведнымі сходамі ў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Кэмбрыдж;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Пэрт, Брысбэн, Адэляіда;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Бэльгія: Лювэн, Льеж;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Спрынгфілд;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

20 — вечар сустрэчаў зь іншанацыянальнымі студэнтамі ў Беларускім студэнцкім доме ў Лювэне, Бэльгія.

21 — V гадавіна дзейнасьці БАДК у Саўт Рывэры: Іван Ермачэнка, Мікалай Сьцяпанаў, Барыс Кіт, д–р Мікола Шчорс, а. Мікалай Лапіцкі, Ігар Шчорс.

**Сьнежань**

4—5 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі „Псыхалягічная вайна“ ў Вашынгтоне: прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык, Вера Жызьнеўская–Рамук, Пётра Манькоўскі, Аляксандар Русак, д–р Мікола Шчорс, Віктар Чабатарэвіч, а. Мікалай Лапіцкі.

6 — удзел беларусаў у міжнародным мітынгу памяці ахвяраў камунізму ў Таронта.

13 — II зьезд Згуртаваньня Мэдыкаў–Чужынцаў у Лювэне (Бэльгія); д–р Барыс Рагуля, д–р Уладзімер Набагез.

19—20 — зьезд сяброў Беларускага Нацыянальнага Аб’яднаньня ў Таронта. Управа: Барыс Сладкоўскі, Міхась Пашкевіч, Язэп Баброўскі, Сяргей Хмара, Ігнат Камінскі, І. Сазонаў, А. Высоцкі, К. Новік, І. Беразоўскі, М. Бляўскі, П. Шпакоўскі; кіраўнік беларускае нядзельнай школы Т. Салановіч.

26—27 — І зьезд праваслаўных беларусаў–прыхаджанаў БАПЦ у Сыднэі.

## 1954 год

**Студзень**

1 — пачатак сталых радыёперадачаў у беларускай мове на Беларусь на Ватыканскай радыёстанцыі двойчы на тыдзень (па серадах і пятніцах) на кароткіх і сярэдніх хвалях.

9 — традыцыйная супольная вячэра (калядная) сяброў ЗБА і аргентынскіх гасьцей у Буэнас Айрэсе.

17 — створана дэлегатура БЦР у Аўстраліі: Міхась Зуй, Алесь Алехнік — у Сыднэі і Сяргей Розмысл з Уладзімерам Сідлярэвічам у Мэльбурне.

17 — памёр у Мюнхэне Андрэй Лявіцкі — прэзыдэнт Ураду УНР на эміграцыі.

30 — беларуская дэлегацыя на ІІ канфэрэнцыі „Псыхалягічная вайна“ ў Вашынгтоне (Ксэнафонт Вайцяхоўскі, Вера Жызьнеўская–Рамук, Іван Касяк, Вітаўт Кіпель, а. Мікалай Лапіцкі, Аляксандар Русак, Віталь Цярпіцкі, Віктар Чабатарэвіч).

**Люты**

5 — разлад у БВР: загадам Радаслава Астроўскага адхілены ад кіраўніцтва Людвіг Зарэчны (Галубовіч) і прызначаны Ўладзімер Сенька; абодва не прызналі загад і засталіся на сваіх пасадах дзейнічаць самастойна.

10 — ад імя БНП, пасьля зьліквідаваньня якой большасьць сяброў уступіла ў БВР, Зьміцер Касмовіч пры ўдзеле Радаслава Астроўскага выдаў адозву супраць Людвіга Зарэчнага.

14 — сход сяброў АБРФ у Парыжы. Управа: Мікола Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, Мікола Лысуха, С. Дударэвіч, В. Дубяйкоўскі; рэвізійная камісія: а. Леў Гарошка, Я. Касяк, Мікола Абрамчык (мал.).

15 — закладзена Беларускае Асэкурацыйнае Таварыства ў Саўт Рывэры. Управа: М. Стасевіч, Хведар Беразоўскі, Васіль Місюль, Віктар Чабатарэвіч, Л. Кулініч; рэвізійная камісія: А. Кулініч, К. Вішнеўскі.

18 — зварот палкоўніка Людвіга Зарэчнага да сяброў БВР не падпарадкоўвацца загадам БЦР ці ейнаму прэзыдэнту Радаславу Астроўскаму.

20—21 — V Кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку. Управа: Міхась Тулейка, Міхась Міцкевіч, Аўген Протас, Іна Рытар, Пётра Манькоўскі, Ніна Сьпічонак, Ганна Ананіч; рэвізійная камісія: д–р Вітаўт Тумаш, Аляксандар Стагановіч, Янка Ніхаёнак.

23 — 6–я ўгодкі БСЗ у Лювэне; кір. Янка Запруднік.

26 — беларуская дэлегацыя на гадавым сходзе „Інтэрнацыяналу свабоды“ ў Рыме: пралат Пётра Татарыновіч, Станіслаў Станкевіч.

28 — II сход вернікаў беларускай праваслаўнай царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Таронта; царкоўны камітэт: Аркадзь Рымша, А. Шпакоўскі, Міхась Кухарчык, Язэп Баброўскі, Ігнат Камінскі, А. Таранда, Рыжко; рэвізійная камісія: Рыгор Беразоўскі, В. Кісель, І. Мішкоў; сьвятар Міхась Мігай.

28 — адчынены Беларускі клюб у Пасэйку, Нью Джэрзі.

**Сакавік**

6 — удзел беларускай групы ў вечары мастацкае самадзейнасьці народаў Усходняе Эўропы ў Карнэгі Гол у Нью Ёрку: рэфэрат пра Беларусь Л. Лапіцкай, дзявочы ансамбль песьні Пятра Нядзьведзкага.

14 — гадавіну йснаваньня Парыскага Блёку адзначылі прыхільнікі Рады БНР у Нью Ёрку.

14, 22 і 23 — канцэртнае турнэ па гарадох Бэльгіі беларускага сьпевака Пётры Конюха ладзіў СББ.

20 — вечар памяці беларускага кампазытара Міколы Равенскага ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку і ЗБВБ у Лёндане.

21—28 — урачыстасьці ўгодкаў Абвяшчэньня незалежнасьці БНР з багаслужбамі, прыняцьцямі, мастацкімі праграмамі, з урадоўцамі і прадстаўнікамі іншых народаў усе беларускія незалежніцкія арганізацыі ў:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Кэмбрыдж (ЗБВБ і БВР асобна);
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Канбэра, Адэляіда, Брысбэн, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд (радыёперадача на Беларусь);
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас (двойчы);
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо, Рубэ.

23 — азэрбайджанцы, грузіны, татары, каўказцы і туркмэны перадавалі праз радыёстанцыю „Вызваленьне“ зь Мюнхэну ў свае краіны інфармацыю аб сьвяткаваньні Акту незалежнасьці БНР (расейцы адмовіліся).

26 — прамова паўнамоцнага міністра Славакіі, прысьвечаная Акту 25 сакавіка, перадавалася Гішпанскім радыё з Мадрыду.

27 — створана Цэнтральная Камісія для падрыхтоўкі зьезду дэлегатаў БВР у Манчэстэры, Англія: Сяргей Шчэрба, Б. Журбовіч (Юры Попка), а. М. Іскрыцкі, Аляксандар Калько, М. Пратасэвіч, К. Іскрыцкі, Аляксандар Шпігановіч, Іокша, М.Вішнеўскі, Сабіла, Т. Бабік, Віктар Ждан, М. Новік, Б. Драгон, В. Шостак.

28 — паўторны канцэрт ансамблю Беларускага Студэнцкага Хору імя кампазытара Міколы Равенскага ў Вэстмінстэрскай Катэдры ў Лёндане.

28 — сход сяброў філіі АБРФ у Рубэ (Францыя). Управа: Я. Раманоўскі, Б. Прытыцкі, Ульляна Каштэлян.

У сакавіку выйшлі:

№ 1 „Камбатанцкага голасу“, органу беларускіх камбатантаў на чужыне; рэд. Ян Амор (Лёндан).

№ 1 рэлігійнага лістка „Божае слова“, рэд. а. Францішак Чарняўскі (Лювэн).

№ 1 „Сялянскага клічу“, органу Беларускай Сялянскай Грамады; рэд А. Астапчык (Нью Брансьвік).

## Красавік

3—4 — удзел беларускіх навукоўцаў у канфэрэнцыі „Акадэмічная свабода“ ў Нью Ёрку,ладжанай Інстытутам Вывучэньня СССР.

4 — заканчэньне сэсіі Рады БНР у Нью Ёрку.

8 — прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык ад’ехаў зь Нью Ёрку ў Эўропу.

17 — арганізацыйны сход і стварэньне Аб’яднаньня Беларускіх Вайскоўцаў у Саўт Рывэры; кіраўнік палкоўнік Падлезьнік.

17 — сход закладнікаў Беларускага клюбу ў Пасэйку, Нью Джэрзі: Эмануіл Ясюк, Бартасэвіч, Іван Бендзераў, Каранкевіч.

25 — сход сяброў сыднэйскага аддзелу БАА; кір. Кастусь Сіткоўскі.

30 — зварот да ўдзельнікаў Жэнэўскай канфэрэнцыі прадстаўнікоў народаў Цэнтральна–Ўсходняй Эўропы, падпісаны таксама ад імя Рады БНР прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам.

30.IV—2.V — удзел беларускай дэлегацыі ў II кангрэсе ІТСРЕ у Парыжы; да Ўправы ад беларусаў: а. Леў Гарошка, Валянцін Міцкевіч; „Зварот да беларусаў“ ад гэтае арганізацыі ў Беларусь перадаў а. Леў Гарошка.

## Травень

1 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку.

1—2 — VIII зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Павал Навара, Вітаўт Рамук, Язэп Пазьняк, яп. Часлаў Сіповіч, Павал Дварэцкі; рэвізійная камісія: Францішак Бартуль, Аляксандар Лашук, Уладзімер Курыла.

1—21 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

6 — беларуская дэлегацыя ўдзельнічае ў сходзе прадстаўнікоў прэсы ў Нью Ёрку.

6 — рукапалажэньне Міхася Мацукевіча ў сьвятары (пад імем Мікалая) япіскапам Васілём (Тамашчыкам) у Таронта.

6 — сьвятая імша за Беларусь і беларускі народ у Баргэзіянскай капліцы ў Ватыкане; а. д–р Пётра Татарыновіч.

11 — лекцыя Віктара Сянкевіча пра Беларусь у Мадрыдзкім унівэрсытэце.

14 — сход радных нямецкага сэктару Рады БНР у Мюнхэне апрабоўвае дзейнасьць прэзыдэнта Міколы Абрамчыка.

20 — пачатак штодзённых радыёперадачаў на Беларусь беларускай сэкцыяй радыё „Вызваленьне“ зь Мюнхэну.

23 — закладзіны Клюбу Цэнтральна–Эўрапейскіх Студыяў у Лёндане. Управа: д–р К. Лёхэр (чэх), інж. Скібар–Рыльскі (паляк), д–р Вітаўт Рамук.

29—30 — III зьезд ЗБМА ў Нью Ёрку. Управа: Міхась Белямук, Уладзімер Дунец, Юрка Каляда, К. Казлова, Радзюк.

30 — VII сход ЗБА ў Буэнас Айрэсе. Управа: Уладзімер Другавец, Аляксандар Літвінскі, Мікалай Ланкевіч, Л. Петраш, Аляксей Карповіч.

## Чэрвень

5 — VI зьезд сяброў ХАБР у Лёндане. Управа: Барыс Суравы, Аркадзь Варава, Канстанцін Нор, Юрка Весялкоўскі, Аляксандар Малаха, Павал Бударкевіч; рэвізійная камісія: Б. Жэлязоўскі, С. Дубіна, Уладзімер Грамяка.

6 — сход сяброў Беларускага Выдавецкага Фонду ў Нью Ёрку пры БАЗА: Міхась Міцкевіч.

11 — удзел беларусаў у Міжнародным артыстычным вечары Міжнароднага Задзіночаньня Камбатантаў у Парыжы.

13 — зьезд сяброў БВР, апазыцыйных БЦР, у Манчэстэры: Сымон Серафіновіч, А. Гатковіч, Уладзімер Ваўчок, Я. Лебядзеўскі, М. Пратасэвіч, Янка Бунчук, П. Юнах, Аляксандар Жданковіч (12 удзельнікаў актыву).

20 — сход сяброў філіі АБРФ у Ля Крэзо: Юрка Гасьцееў, М. Булыга, Францішак Рашкевіч; рэвізійная камісія: Браніслаў Нагорны, Р. Захарэвіч.

21 — Мэмарыял пра бальшавіцка–маскоўскі генацыд над беларускім народам, закладзены ў Камісіі Амэрыканскага Кангрэсу Керстана ў Мюнхэне.

21 — сход сяброў СБАМ у Саўт Рывэры. Управа: Грыгоры Арцюшэнка, Кастусь Вайцяхоўскі, Лявон Шурак, Міхась Палюховіч, Іван Медзьвядзёк; рэвізійная камісія: Анатоль Шурак, Віталь Цярпіцкі, Алег Махнюк.

23 — памёр грамадзкі дзеяч Янка Лазута ў Ля Крэзо (Францыя).

26 — сход сяброў БАА ў Мэльбурне. Управа: М. Мікуліч, М. Андрэйчык, Уладзімер Аксіўчык, М. Рамашка.
27 — беларуская радыёперадача на радыёстанцыі „Эксцэльсіёр“ у Буэнас Айрэсе.
27 — сход сяброў БАА (апазыцыі) у Мэльбурне. Управа: Аляксандар Калодка, Марыя Кажура, М. Мікуліч.
27 — сьвяткаваньне ўгодкаў ІІ Усебеларускага Кангрэсу ладзілі прыхільнікі БЦР у:
— ЗША: Саўт Рывэр;
— Англія: Лёндан (ХАБР);
— Аўстралія: Сыднэй.
У чэрвені выйшаў № 1 літаратурна–мастацка–навуковага часапісу „Конадні“; рэд. д–р Вітаўт Тумаш (Нью Ёрк).

**Ліпень**

1 — сьведчаньні прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, Янкі Ліманоўскага, д–ра Янкі Станкевіча і іншых у Камісіі Амэрыканскага Кангрэсу ў Мюнхэне пра злачынствы бальшавікоў у Беларусі.
1 — удзел беларускай дэлегацыі ў Асамблеі *Pax Romano* ў Лісабоне, Партугалія: яп. Чеслаў Сіповіч, а. Леў Гарошка, А. Кукель і інш.
3 — беларуская радыёперадача на радыёстанцыі „Дэль Пуэблё“ і „Портэнія“ з Буэнас Айрэсу.
5—7 — удзел беларускай дэлегацыі ў канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, а. Леў Гарошка, прэзыдэнт Мікола Абрамчык, Станіслаў Станкевіч, П. Марговіч.
17 — жалобная гадавіна сьмерці Янкі Купалы з дакладам д–ра Язэпа Малецкага ў Сыднэі.
17—18 — зьезд вернікаў БАПЦ з дакладамі а. Андрэя (Крыта) і Алеся Буты ў Беларускім народным доме ў Брэдфардзе.
25 — сход ЗБКамбатантаў у Мэльбурне; камандзіры: Л. Кажура і Аляксандар Калодка.
26 — памёр Сьцяпан Дарашэвіч, беларускі грамадзкі дзеяч у Сыднэі.

**Жнівень**

1 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка аб прабегу VII сэсіі Рады БНР беларускаму грамадзтву ў Парыжы.
9—24 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Пэрце (Аўстралія).
21 — вечар памяці загінуўшых нацдэмаў з дакладамі Антона Адамовіча і Лявона Савёнка ў Нью Ёрку ладзіла БАЗА.
28—31 — канфэрэнцыя пагадненьня з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня Народаў Расеі і стварэньне Парыскага Блёку ў Парыжы, старшыня Мікола Абрамчык.
29 — І Усеэмігранцкі Зьезд сяброў БВР у Манчэстэры, Англія; Галоўнае Кіраўніцтва: палкоўнік Людвіг Зарэчны (Галубовіч), Уладзімер Сенька, Сяргей Шчэрба, Аляксандар Асіпчык.
У жніўні выйшаў часапіс Беларускай Народнай Грамады ў Вялікабрытаніі „Народны кліч“; рэд. М. Іскрыцкі.

**Верасень**

1—2 — канфэрэнцыя Парыскага Блёку ў Парыжы: старшыня Мікола Абрамчык, С. Тэр–Тумасьян, Акпэр–Ага Шэйх–ул Іслам, С. Доўгаль.
3 — сход сяброў аддзелу БСЗ у Кліўлэндзе. Управа: Кастусь Калоша, Лявон Норык, Л. Харытановіч.
4 — зьезд сяброў БСЗ у Нью Брансьвіку. Управа: Васіль Русак, Язэп Арцюх, Юрка Каляда, Аўген Кудасаў, А. Ярашэвіч.
4 — нарада старшыняў і сакратароў аддзелаў БАЗА ў Нью Ёрку.
4.IX—23.IV.55 — XIV пленум дэлегатаў БЦР, Саўт Рывэр (ЗША). Прэзыдыюм пленуму: Нікандар Мядзейка, Анатоль Занковіч, Сьвятаслаў Коўш; дысцыплінарны суд: Хведар Высоцкі, Барыс Плескачэўскі, Сымон Жамойда; кантрольная камісія: Ксэнафонт Вайцяхоўскі, М. Новік, Мікола Грэбень.
7 — загадкавая сьмерць маладога беларускага грамадзка–палітычнага дзеяча, працаўніка беларускае сэкцыі радыё „Вызваленьне“ Леаніда Карася ў Мюнхэне.
7 — 15–я ўгодкі закладзінаў БАНР у Чыкага; закладчыкі: Макар Аблажэй, Язэп Варонка, Янка Чарапук–Змагар, а. Уладзімер Тарасэвіч, а. д–р Язэп–Атаназы Рэшаць, Ігнат Лабач, Паўлюк Чопка.
11 — пачатак заняткаў у беларускай ндзельнай школе ў Нью Ёрку.
26 — сход вернікаў сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью Ёрку; царкоўны камітэт: інж. Мікола Гарошка, Барыс Данілюк, Язэп Казьлякоўскі, Л. Ляўковіч, Мікалай Тарашкевіч; рэвізійная камісія: Уладзімер Русак, Пятро Мельяновіч, Янка Ніхаёнак.
26 — сход дружыны ХАБР у Бірмінгеме, Англія; кіраўніцтва: Уладзімер Карніловіч, Міхась Еўлеў, Станіслаў Гатоўка.
26.IX—4.X — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

**Кастрычнік**

3 — сход сяброў ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Кастусь Мярляк, Антон Адамовіч, Натальля Арсеньнева, Мікола Целеш, Павал Бунчук; рэвізійная камісія: Вітаўт Тумаш, Рыгор Казак (Крушына), Антон Шукелойць.

3—13 — удзел беларускай дэлегацыі зь беларускім нацыянальным сьцягам у Марыянскім Кангрэсе ў Сарагосе (Гішпанія).
6 — навуковая зборка БІНіМ пазнаёмілася з успамінамі пра жыцьцё і дзейнасьць Цёткі (Алаізы Пашкевіч–Кайрыс) супольнікаў Юльляны Дубейкаўскай і Міколы Кунцэвіча ў Нью Ёрку.
15 — прызначана дэлегатура БЦР у Нямеччыне: Зьміцер Касмовіч, М. Карповіч, Юры Попка, М. Саеўскі, Надзея Касмовіч.
24 — сход сяброў СББ у Лювэне: а. Аўген Смаршчок, Васіль Шчэцька, Андрэй Стрэчань.
27 — загадам БЦР забаронены Беларускі Вызвольны Рух і пераназваны ў Беларускі Вызвольны Фронт пад кіраўніцтвам Зьміцера Касмовіча, П. Дуброўскага, Б. Журбовіча (Юры Попка), М. Мачурскага.
29 — зьезд сяброў БАКА „Рунь“ у Рыме: яп. Часлаў Сіповіч (кір.), Язэп Пазьняк, Віктар Сянкевіч, Тодар Мазура, Францішак Бартуль.
30 — дыскусійны вечар па творчасьці паэты Янкі Юхнаўца ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
30 — зацьверджаны прэзыдэнтам БЦР Радаславам Астроўскім склад выканаўчага органу: Аляксандар Русак — старшыня і кіраўнік вонкавых справаў, Аркадзь Арэхва — віцэ–старшыня, кіраўнік нутраных справаў і праўнага аддзелу, Яўхім Кіпель — інфармацыі і прэсы, Зьміцер Касмовіч — аддзел вызвольнай барацьбы, Ксэнафонт Вайцяхоўскі — фінансаў, Вячаслаў Сэлях–Качанскі — культуры і веравызнаньняў, Віталь Цярпіцкі — праўнай апекі.
31 — удзел беларускай групы са сваімі нацыянальнымі харугвамі ў працэсіі Марыянскага Кангрэсу ў Рыме.

**Лістапад**
2 — сход ЗБС у Лювэне. Управа: Мікола Ягоўдзік, Тодар Цімафейчык, М. Галоўка, Янка Жучка, А. Лазанаў.
6 — канцэрт–баль ладзіла ЗБМА ў Нью Ёрку.
13 — аўтарскі вечар творчасьці Рыгора Казака (Крушыны) ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
14 — канцэрт беларускай песьні хору „Прамень“ пад кіраўніцтвам Казачка ў Манрэалі (20 сьпевакоў).
14—28 — праходзілі ўрачыстасьці з паніхідамі за палеглых з мастацкімі праграмамі і прыняцьцем ва ўсіх беларускіх незалежніцкіх арганізацыях у:
— Ангельшчына: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн, Мэльбурн;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд, у калегіі Сьв. Якуба;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
19 — пачатак цыклю лекцыяў беларусаведы, ладжанага БАЗА ў Нью Ёрку.
20 — урачыстае высьвячэньне сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ і Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Таронта.
25 — загадам БЦР адкліканы ўпаўнаважаны БЦР у Канадзе Віктар Ждан  і прызначаны Язэп Пітушка.
28 — канцэрт беларускай песьні і музыкі ў Мадрыдзе.
У лістападзе выйшаў № 1 часапісу Беларускай Народнай Грамады ў ЗША „Наш шлях“ (Нью Ёрк); рэд. Мікола Вольны (Панькоў).

**Сьнежань**
5 — жаночы сход сэкцыі БАЗА ў Нью Ёрку. Управа: Натальля Орса, Галіна Русак, Вольга Тулейка, Вера Зыбайла.
11 — аўтарскі вечар пісьменьніка Масея Сяднёва ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
11—19 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Англіі.
12 — прамова яп. Часлава Сіповіча на ўрачыстасьці ў гонар мітрапаліта ўкраінскай уніяцкай царквы Андрэя Шэптыцкага ў Лёндане.
18 — зборка літаратурнай сэкцыі БІНіМ разглядала творчасьць В. Бірыча (Антона Адамовіча), які пазнаёміў прысутных зь няведамай у друку пародыяй на паэму Міхася Чарота „Босыя на вогнішчы“ ў Нью Ёрку.
19 — высьвячэньне і адкрыцьцё Беларускага народнага дому манчэстэрскага аддзелу ЗБВБ.

## 1955 год

**Студзень**
6 і 23 — канцэрты беларускай песьні ў каледжах Мадрыду.
9 — зьезд аддзелу беларускіх камбатантаў у Лювэне (Бэльгія), кіраўнік Барыс Рагуля.
20 — памёр у Гданьску Лукаш Дзекуць–Малей (I.X.1888—20.I.1955), беларускі рэлігійна–грамадзкі працаўнік.

**Люты**

5 — на мовазнаўчай зборцы БІНіМ д–р Сымон Брага (Вітаўт Тумаш) рэфэраваў пра найноўшыя досьледы па пытаньнях аканьня ў беларускай мове славістамі Захаду (француз А. Ваян, нарвэг Х. Стронг, украінец Ю. Шэрах ды інш.) у Нью Ёрку.

6 — сход супольнікаў Беларускага народнага дому ў Лёндане. Управа: Аляксандар Жданковіч, Аркадзь Варава, Уладзімер Грамяка, Юнах, Міхась Сенька.

11 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Ансамблю зь Лювэну ў Боне (Нямеччына).

12 — тое ж у Кёльне (Нямеччына).

13 — сход сяброў БАНР у Чыкага. Управа: Мікола Дзямідаў, Тацьцяна Новік, Васіль Пунтус, Кастусь Новік; рэвізійная камісія: А. Рамановіч, Д. Швэд, Шпакоўскі.

13 — сход сяброў кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Аркадзь Сацэвіч, Вольга Лукашэвіч, Астап Яраховіч, Анатоль Лук'янчык.

13 — інфарматыўны даклад д–ра Барыса Рагулі „Асягненьні беларускай эміграцыі“ ў ЗБК ў Таронта.

19 — літаратурны вечар Аляксандры Саковіч (Іна Рытар), чытала аповесьць з часу апошняй вайны, ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

21 — Мэмарыял прэзыдэнту і дзяржаўнаму сакратару ЗША ў справе дэлегацыяў Беларусі і Ўкраіны ў ААН падпісалі Радаслаў Астроўскі і Аляксандар Русак.

21 — удзел беларускай дэлегацыі ў міжнароднай канфэрэнцыі „За спакой і свабоду на сьвеце“ ў Нью Ёрку.

25 — удзел беларускіх студэнтаў у музычна–харавым вечары Міжнароднага Студэнцкага Клюбу Ротгэрс каледжу ў Нью Брансьвіку.

27 — зьезд сяброў Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша. Скарыны ў Нью Ёрку. Управа: Алесь Махноўскі, Вацлаў Пануцэвіч, д–р Станіслаў Грынкевіч, мастак Пётра Мірановіч, Марыя Станкевіч; рэвізійная камісія: Мікола Кунцэвіч, Натальля Орса, Язэп Гладкі.

27 — сход брацтва і сястрыцтва беларускае царквы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Манчэстэры, Ангельшчына; царкоўны камітэт: а. Андрэй (Крыт), К. Шыбіцкі, Міхась Яськевіч, Міхась Віценчык.

Зьмена старшыні сэктару Рады БНР Аляксандра Орсы на Кастуся Мерляка.

**Сакавік**

5 — гадавіна існаваньня Беларускага Выдавецкага Фонду ў Таронта. Управа: Сяргей Хмара, Міхась Пашкевіч, Барыс Сладкоўскі, А.Таранда, Язэп Пітушка.

12 — зьезд сяброў БІНіМ у Нью Ёрку. Управа: д–р Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч, Натальля Арсеньнева, Мікола Гарошка, Антон Шукелойць; рэвізійная камісія: Леў Акіншэвіч, Пётра Манькоўскі, Рыгор Казак (Крушына).

24 — спэцыяльная перадача беларускай сэкцыі радыёстанцыі „Вызваленьне“ (Мюнхэн), прысьвечаная Акту 25 сакавіка.

25 — абвяшчэньнне „Беларускага дня“ ў гарадох і штатах ЗША: горад і штат Нью Ёрк, г. Кліўлэнд і штат Агаё, г. Чыкага і штат Ілінойс, штаты Мічыган, Нью Джэрзі, Пэнсыльванія.

25 — багаслужба за Беларусь і беларускі народ праз Ватыканскае радыё (а. Пётра Татарыновіч) і па гішпанскім нацыянальным радыё з Мадрыду, перададзеныя на Беларусь.

20—27 — праходзілі ўрачыстасьці з багаслужбамі, мастацкімі праграмамі, прыняцьцямі прадстаўнікоў ураду, установў і арганізацыяў, прысьвечаныя абвяшчэньню незалежнасьці БНР:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Кэмбрыдж;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Адэляіда, Сыднэй, Мэльбурн, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо, Рубэ.

27 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі прадстаўнікоў паняволеных народаў зь сябрамі Амэрыканскага Кангрэсу ў Нью Ёрку.

31 — прыняцьцё беларускай дэлегацыі афіцыйнымі прадстаўнікамі ўраду Вялікабрытаніі ў Лёндане.

31 — сход вернікаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта: Аркадзь Харавец — стараста; царкоўны камітэт: А. Шпакоўскі, Міхась Кухарчык, Язэп Бабароўскі, Сьцяпан Тупік, Ігнат Камінскі, І. Мішкоў; кантрольная камісія: Рыгор Беразоўскі, І. Сазонаў, А. Таранда, І. Макарэвіч; сястрыцтва: А. Сладкоўская, Рымша, З. Дуб, Макарэнка, А. Кісель.

**Красавік**

10 — высьвячэньне Кастанціна Маскаліка ў сьвятары ў Ватыкане.

17 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у тэлерадыёдыскусіі актывізуе беларусаў у Калюмбусе (штат Агаё).

17 — гадавіна спартовага клюбу ЗБМА і яго футбольнай каманды „Беларусь“.

23 — VI сход сяброў БАА ў Сыднэі. Управа: Г. Левановіч, Міхась Лужынскі, Я. Гавенка, Язэп Малецкі, М. Кур’янчык; рэвізійная камісія: Аляксей Васіленя, Аляксандар Смаль, Пётр Гайдзель.

23 — закладзіны БНА ў Сыднэі. Управа: Уладзімер Клуніцкі, Булаўскі, Павал Каваль, А.Корзун; кантрольная камісія: А. Корзун, Лапіза, Місько.

23 — даклад Антона Адамовіча „Саветызацыя беларускай літаратуры і яе этапы“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

25—27 — удзел беларускай групы ў V канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, Вінцэнт Жук–Грышкевіч, А. Яловіч, В. Кісель.

27 — закладзіны аддзелу БНА ў Вініпэгу. Управа: В. Гуцька, Мікола Сільвановіч, Мікола Радчанка, Я. Міхневіч, Т. Калашук.

30 — IX зьезд сяброў ЗБВБ у Лёндане. Управа: Пётр Асіповіч, Францішак Бартуль, Тодар Мазура, М. Булыга, Павал Навара; рэвізійная камісія: ял. Часлаў Сіповіч, П. Паўлоўскі, П. Шыркоўскі.

30 — нарада групы былых сяброў БВР (астроўшчыкаў) у Глядбаху (Нямеччына).

У красавіку выйшлі:

„Спадчына“: выбраныя творы Янкі Купалы. В–ва „Бацькаўшчына“ (Мюнхэн);

№1 „Конадні“ — літаратурна–мастацкі часапіс БІНіМ у Нью Ёрку, рэд. Вітаўт Тумаш;

№1 рэлігійна–грамадзкага часапісу праваслаўных беларусаў Нью Ёрку „Голас царквы“; рэд. ял. Васіль (Тамашчык).

**Травень**

1 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці на 5–й авэню ў Нью Ёрку.

5 — сход маспэцкага аддзелу БАЗА. Управа: Мікола Гарошка, Павал Бунчук, Язэп Арцюх.

7 — сход мангэтэнскага аддзелу БАЗА. Управа: Васіль Юрцэвіч, Я. Мельяновіч, Яніна Каханоўская.

7 — дыскусійны вечар пра апошнія зборнікі вершаў Міхася Кавыля, Янкі Юхнаўца і Масея Сяднёва з уступным словам Р. Склюта (Антона Адамовіча), ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

8 — сход бруклінскага аддзелу БАЗА. Управа: Уладзімер Русак, Я. Крэсла, Уладзімер Курыла.

14—15 — удзел беларускіх журналістых у IV кангрэсе Фэдэрацыі Вольных Журналістых у Лёндане: ял. Часлаў Сіповіч, Я. Курага–Скага, Павал Навара.

14—15 — даклад а. Лява Гарошкі аб рэлігійным становішчы ў Беларусі на Міжнароднай Вольнай Акадэміі ў Парыжы.

16 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

21 — рэфэрат д–ра Вітаўта Тумаша „Заходнія элемэнты культуры Беларусі“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

22 — сход сяброў аддзелу ЗБМА ў Кліўлэндзе. Управа: Сяргей Карніловіч, Я. Кузьміцкі, Роза Шыкалюк, Ірэна Каляда, Аўген Кабяка.

28—29 — VI кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку. Управа: Міхась Тулейка, Аўген Вярбіцкі, Уладзімер Курыла, Яніна Каханоўская, Юрка Станкевіч, Аўген Протас, Ніна Сьпічонак, д–р Янка Станкевіч, Часлаў Ханяўка, М. Каранеўскі; рэд. калегія „Беларуса“: рэд. д–р Станіслаў Станкевіч, Міхась Міцкевіч, Антон Адамовіч, Антон Шукелойць. Цэнтраля Беларускіх Жаночых Арганізацыяў у ЗША: Натальля Арсеньнева, Галіна Русак, Ніна Сьпічонак.

У траўні выйшлі:

№ 1 „Беларускага зборніка Інстытуту Вывучэньня Гісторыі і Культуры СССР“, рэд. Станіслаў Станкевіч (Мюнхэн);

зборнікі вершаў Міхася Кавыля „Пад белымі зорамі“, Янкі Юхнаўца „Шорах моўкнасьці“, Масея Сяднёва „Ля ціхай брамы“ ў Нью Ёрку, выдавецтва Ўладзімера Пялесы.

**Чэрвень**

2—8 — зьезд сяброў ЗБА ў Буэнас Айрэсе. Управа: Уладзімер Другавец, Л. Петраш, Мікалай Ланкевіч, Мікалай Лазюк, Сымон Камар; рэвізійная камісія: Васіль Казлоўскі, Вазьняўскі, Аляксей Карповіч.

4 — дыскусійную зборку, прысьвечаную слоўніку беларускай мовы, ладзіла Крывіцкае Навуковае Таварыства імя Пранціша Скарыны ў Нью Ёрку.

5 — сход сяброў АБРФ у Парыжы; склад Управы не пераабіралі.

5 — VII зьезд сяброў ХАБР у Лёндане (склад Управы не пададзены).

11 — рэфэрат Аўгена Каханоўскага (Калубовіча) „Гісторыя Беларусі і беларускай культуры да Люблінскай вуніі“ ў польскай акадэмічнай арганізацыі „Сармацыя“ ў Кліўлэндзе.

У чэрвені выйшлі:

„Сьвятое Эванэльле“ і „Апостальскія дзеі“, пераклад і камэнтары кс. д–ра Пётры Татарыновіча, выдавецтва „Зьніч“ (Рым);

II Усебеларускі Кангрэс: матар’ялы, сабраныя й апрацаваныя на падставе пратакольных запісаў камісіі БЦР пад рэдакцыяй праф. Радаслава Астроўскага (Мюнхэн, 1954).

**Ліпень**

1 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на парадзе з нагоды 88–й гадавіны незалежнасьці Канады ў Таронта.

2—3 — IV зьезд ЗБМА ў Нью Брансьвіку. Управа: Юрка Станкевіч, Ала Орса, М. Калоша, Міхась Казьлякоўскі, Вячка Станкевіч; рэвізійная камісія: Міхась Тулейка, Аляксандар Стагановіч, Мікола Заморскі.

3 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ладзіў БВР у Мэльбурне; кір. Міхась Зуй.

15 — Мэмарыял урадам ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі ў справе суіснаваньня, падпісаны прадстаўнікамі Рады БНР і Рады УНР.

17 — сход сяброў БАА ў Мэльбурне (склад Управы не пададзены).

17 — сход сяброў СБАМ у Саўт Рывэры. Управа: Віталь Цярпіцкі, Зіна Сапанкевіч, Ната Кіркевіч, Віталь Каракулька, В. Канапліцкі, С. Навумовіч; рэвізійная камісія: Васіль Арцюшэнка, Зося Касьцюк, Д. Макапаў.

28—30 —IV канфэрэнцыя Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Павал Урбан.

У ліпені выйшаў № 1 літаратурна–мастацкага часапісу „Палесьсе“; рэд. Пётр Чопчыц (Манрэаль).

**Жнівень**

10—16 — тыдзень студыяў БАКА „Рунь“ у Лёндане з дакладамі: а. Леў Гарошка „Рэлігійная талеранцыя на Беларусі“ і „Палянізацыя на Беларусі“, а. Дамінік Аніська „Заранка“, Тодар Мазура „Хрысьціянскія сьвятыні Беларусі“ і дыскусіі.

15 — зьезд сяброў БАКА „Рунь“ у Лёндане. Управа: Язэп Пазьняк, Віктар Сянкевіч, Тодар Мазура, Францішак Бартуль.

17—25 — удзел беларускай дэлегацыі ў Кангрэсе *Pax Romano* ў Нотынгеме (Англія) і даклад япіскапа Часлава Сіповіча.

21 — зборка беларускіх дэлегатаў у хаце Ўладзімера Капача у Нотынгеме заслухала справаздачы аб дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у Францыі (Міхась Наўмовіч), у Бэльгіі (Станіслаў Мак), у Гішпаніі (Янка Сурвіла), у Нямеччыне (Часлаў Кукель) і ў Англіі (япіскап Часлаў Сіповіч).

21 — сход сяброў Беларускага Спартовага Клюбу ў Нью Ёрку: дружына футбольнай каманды „Беларусь“ — капітан М. Ігнат, Міхась Казьлякоўскі, Вячка Станкевіч, М. Лысы (Нью Ёрк); дружына каманды „Пагоня“ — капітан В. Лукашэвіч (Кліўлэнд).

26 — беларускі стэнд на Канадыйскай нацыянальнай выставе ў Таронта.

27 — літаратурна–мастацкі вечар ладзіў БВР у Манчэстэры.

**Верасень**

3—4 — V зьезд БСТ у Кліўлэндзе. Управа: Кастусь Калоша, Васіль Русак, Ірэна Каляда, Канстанцін Семянчук, Лявон Норык.

10—17 — тыдзень студыяў БАКА „Рунь“ праходзіў без выпрацаванага дзённага парадку.

12—15 — даклад а. Уладзіслава Салаўя на V кангрэсе „Царква ў бядзе“ ў Кёнігштайне (Нямеччына).

13 — пачаліся заняткі ў беларускай школе ў Мэльбурне.

17 — справаздача Антона Адамовіча з падарожжа па Эўропе і прабегу навуковай канфэрэнцыі Інстытуту Дасьледаваньня СССР у Мюнхэне на пашыраным паседжаньні БІНіМ у Нью Ёрку.

18 — зьезд сяброў Аб’яднаньня Беларускіх Студэнтаў у Саўт Рывэры. Управа: Кастусь Вайцяхоўскі, Расьціслаў Завістовіч, Віталь Каракулька; рэвізійная камісія: Анатоль Шурак, Валя Вайцяхоўская, Сяргей Казакоў.

25 — зьезд ЗБВ аддзелу Нью Ёрк: Уладзімер Курыла, Даніла Клінцэвіч, Пётра Манькоўскі.

25 — сход праваслаўных вернікаў з прамовай прэзыдэнта Радаслава Астроўскага „Царква — рэлігійны і нацыянальны дзейнік“; царкоўны камітэт: а. А. Міpановіч, С. Елас, Павал Бударкевіч, Аляксандар Малаха.

30 — выступ беларускай балерыны Н. Буцькі па тэлевізіі ў Канадзе.

У верасьні выйшла з друку: Якуб Колас. Сымон–музыка: Паэма. Выдавецтва „Бацькаўшчына“ (Мюнхэн).

**Кастрычнік**

1—4 — побыт яп. Васіля (Тамашчыка) у Таронта.

4 — створаны аддзел БІНіМ у Мюнхэне: Станіслаў Станкевіч, Сымон Кабыш (Кандыбовіч), Алесь Марговіч, Павал Урбан, Янка Запруднік, Пётра Сыч, Уладзімер Цьвірка.

7—12 — канфэрэнцыя Парыскага Блёку ў Мюнхэне: Мікола Абрамчык, Уладзімер Бортнік.

16 — закладзіны Камітэту Незалежнай Беларусі (КНБ). Управа: Юры Сабалеўскі, Лявон Савёнак, Леанід Галяк, Мікола Шчорс, Іван Касяк, Анатоль Плескачэўскі, Віктар Чабатарэвіч, Мікола Панькоў.

17 — пачатак заняткаў у беларускай школе пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай (БНА) у Таронта.

30 — сход манчэстэрскага аддзелу ХАБР. Управа: С. Дубіна, Уладзімер Адамчук, Уладзімер Басяцкі, Уладзімер Шыш, А. Чыжэўскі, М. Калтуноўскі, М. Шыш.

31 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Міхась Казьлякоўскі, Вячка Станкевіч, Міхась Тулейка, Аўген Лысюк, Каця Мельяновіч; рэвізійная камісія: Павал Алекса, Я. Шыкалюк, М. Дзяркач.

**Лістапад**

8 — разгляд працы Сымона Кабыша (Кандыбовіча) „Бальшавіцкі генацыд у Беларусі“ на зборцы сяброў аддзелу БІНіМ у Мюнхэне.

10 — сход сяброў аддзелу БСЗ у Лювэне. Управа: Станіслаў Мак, Таццяна Родзька, Уладзімер Бакуновіч, А. Лазанаў.

12 — памёр беларускі мастак Аляксандар Раманоўскі ў Аўстраліі.

13 — сьвяткаваньне 10–годзьдзя існаваньня АБРФ у Парыжы.

13 — пачаліся заняткі ў беларускай школе ў Мэльбурне.

19 — зборка сяброў БІНіМ разглядала матар'ялы і ўспаміны аб Усебеларускім Кангрэсе ў Менску ў 1917 годзе; некаторыя пойдуць у друк у Нью Ёрку.

27.XI—7.XII — урачыстасьць угодкаў Слуцкага паўстаньня з багаслужбамі, прыняцьцямі і мастацкімі праграмамі праходзілі ўва ўсіх беларускіх арганізацыях у:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Брысбэн, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Дэтройт, Лос Анджэлас, Спрынгфілд;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн, Штэтэнгофэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

27 — сход сяброў СББ у Лювэне. Управа: а. Аўген Смаршчок, а. Францішак Чарняўскі, Уладзімер Бакуновіч, А. Лазанаў.

29 — сход і закладзіны аддзелу ЗБК у Ашаве (Канада). Управа: Воўна, Ф–н, Іван Курышук (у хаце Юркі Харэвіча).

У лістападзе выйшаў „Ля чужых берагоў", альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў, рэд. д–р Вітаўт Тумаш, выдавецтва „Бацькаўшчына" (Мюнхэн).

### Сьнежань

1 — крытычны разгляд 2–й кнігі „Беларускага зборніка" Інстытуту Дасьледаваньня СССР на зборцы аддзелу БІНіМ у Мюнхэне.

3 — рэфэрат Сымона Брагі (Вітаўт Тумаш) „Адам Міцкевіч і беларуская плынь польскай літаратуры", ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

3—4 — беларуская дэлегацыя на IV міжнароднай сэсіі Хрысьціянскіх Сындыкатаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы ў Парыжы.

6 — стэнд беларускіх эміграцыйных друкаў на канадыйскай выставе этнічнай прэсы ў Таронта.

11 — удзел беларускай самадзейнай групы пад кіраўніцтвам Валянціны Пашкевіч у Міжнародным канцэрце ў Таронта.

11 — адкрыты помнік на магіле грамадзка–палітычнага дзеяча, удзельніка Слуцкага паўстаньня Лявона Рыдлеўскага ў Лёндане.

17 — высьвячэньне на беларускага сьвятара Янкі Садоўскага ў Рыме.

17 — моўная зборка сяброў БІНіМ з галоўным рэфэрэнтам Антонам Адамовічам разглядала слоўнікавы матар'ял слоўнікаў Лаўрэнція Зізанія і Памвы Бярынды ў Нью Ёрку.

## 1956 год

### Студзень

7 — супольная традыцыйная калядная сустрэча беларусаў у Беларускіх дамох у Брэдфардзе і Манчэстэры.

15 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка аб сёньняшнім жыцьці ў БССР у сядзібе АБРФ у Парыжы.

22 — на бачынах „Беларускага голасу" і „Бацькаўшчыны" распачата дыскусія ўдзельнікаў, сяброў і наглядальнікаў дзейнасьці Беларускай Сялянска–Работніцкае Грамады (1925—1927) у Заходняй Беларусі.

29 — купалаўская анкета ў „Бацькаўшчыне".

### Люты

5 — даклад прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага „Міжнароднае палажэньне" ў доме ХАБР у Лёндане.

11 — гадавы баль БАЗА ў Нью Ёрку.

11—19 — канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР у Мюнхэне; удзельнікі: Мікола Абрамчык, Станіслаў Станкевіч, Уладзімер Бортнік, Уладзімер Цьвірка.

12 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Таронта. Управа: Мікола Ганько, Мікола Сільвановіч, Надзя Баран, Слаўка; рэвізійная камісія: Васіль Разановіч, Тамаш Курбат, Алесь Грыцук.

12 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Мікола Латушкін, Аркадзь Сацэвіч, Кастусь Калоша, В. Шчэрба, Янка Раковіч, Уладзімер Дунец, Кацярына Чэрнік; рэвізійная камісія: А. Шостак, Янка Лукашэвіч, Я. Шымчык.

18 — зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Алесь Грыцук, Мечыслаў Рачыцкі, І. Курбат, Рыгор Гардзейчык, Юрка Харавец; рэвізійная камісія: а. Мікалай (Мацукевіч), Іван Бруцкі, Міхал Форсан, сяброўскі суд: Аўген Протас, Надзя Баран, Мікола Шуст.

18 — сход лёнданскага аддзелу ХАБР. Управа: Аляксандар Жданковіч, Аркадзь Варава, Уладзімер Грамяка, П. Юнах, Міхась Сенька.

У лютым выйшлі:

ВЛАСТ (Вацлаў Ластоўскі). Творы. В–ва „Бацькаўшчына“ (Мюнхэн).

Іван Касяк. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Выданьне БЦР (Нью Ёрк).

**Сакавік**

4 — удзел гуртка беларускай самадзейнасьці (кір. Валянціна Пашкевіч) у Міжнародным вечары музыкі–песьні–танцу Лігі Супрацоўніцтва ў Таронта.

4 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Васіль Стома, Васіль Русак, Часлаў Ханяўка, Алеся Корбут, Янка Азарка, Філарэт Родзька, Аляксандар Стагановіч, Павал Кулеш.

8 — сход сяброў ЗБВ Нью Ёрку; кір. Даніла Клінцэвіч.

11 — гадавіна існаваньня беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта; царкоўны камітэт: а. Міхась Мігай, Я. Дунец, М. Дуб, Язэп Баброўскі, Т. Сільвановіч, А. Таранда, Ігнат Камінскі, А. Алешка.

23 — сакавіковая передача станцыі *CBC* ў Канадзе.

24 — сакавіковая передача станцыі *MBM* у Нью Ёрку.

25 — Дзень Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў і мэрамі гарадоў ЗША: штат і горад Нью Ёрк, штаты Ілінойс, Мічыган, Нью Джэрзі, Агаё; гарады: Чыкага, Дэтройт, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік.

25—30 — урачыстасьці абвяшчэньня незалежнасьці БНР з багаслужбамі, прыняцьцямі прадстаўнікоў урадаў, гарадзкіх самаўрадавых і прыязных арганізацыяў іншых народаў ды мастацкімі праграмамі праходзілі ў краінах і гарадох:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем, Лідс;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн, Мэльбурн, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— Гішпанія: Мадрыд;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Садбуры, Вініпэг, Лёндан, Манрэаль;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

Сьвяткаваньні арганізавалі ўсе беларускія незалежніцкія арганізацыі асобна і ў некаторых гарадох у розных месцах адначасова.

25 — прамова прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка на банкеце ў Ангельска–Беларускім Таварыстве ў Лёндане.

**Красавік**

12—16 — побыт Вінцэнта Жук–Грышкевіча ў Лёндане перад ад'ездам на сталае жыцьцё ў Канаду.

15 — беларуская калёна ў супрацькамуністычнай дэманстрацыі са сваімі нацыянальнымі сьцягамі і лёзунгамі ЗБВБ і БВР у Брэдфардзе.

22 — футбольная каманда „Беларусь“ (ЗБМА) перамагла каманду латышоў („Латвія“) з вынікам 2:1 у Нью Ёрку.

24 — сход аддзелу АБРФ у Ля Крэзо. Склад Управы бязь зьменаў.

24 — удзел самадзейнага гуртка танцу „Васілёк“ (кір. Ала Орса) у Міжнародным фэстывалі ў Нью Ёрку.

28 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі ў Парадзе ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку.

У красавіку выйшла:

Генрык Сянкевіч. *Quo vadis?* Пераклад на беларускую мову кс. Пётры Татарыновіча. Рым, в–ва „Зьніч“, лацінкай.

**Травень**

7 — спатканьне прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка з дэпутатамі брытанскага парлямэнту ў Лёндане.

8 — даклад прэзыдэнта Рады БНР у Беларускім доме ЗБВБ у Лёндане аб сучасным стане вызвольнага змаганьня.

12 — сьвяткаваньне 2–й гадавіны існаваньня спартовага клюбу „Беларусь“ у Нью Ёрку.

13 — XI гадавы сход сяброў АБРФ у Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, Мікола Лысуха, Мікола Абрамчык мал., Я. Касяк.

13 — сход сяброў ЗБА ў Буэнас Айрэсе. Управа: Пётр Саўчыц, Я. Сакалоўскі, Л. Петраш, Я. Вярняўскі, Міхась Каленік; рэвізійная камісія: Уладзімер Другавец, Мікалай Ланкевіч, Сымон Камар.

18 — канцэрт беларускага манрэальскага хору „Жалейка“ пад кір. Міколы Радчанкі ў Нью Ёрку.
20 — VII зьезд сяброў БАА ў Сыднэі. Управа: Кастусь Сіткоўскі, Язэп Малецкі, М. Бакуновіч, Міхась Лужынскі, Кур'янчык, Л. Сіткоўская.
26 — нарады старшыняў аддзелаў БАЗА ў Нью Ёрку і Саўт Рывэры.

**Чэрвень**

10 — сход сяброў кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Уладзімер Дунец, Анатоль Лук'янчык, Мікола Ягоўдзік, Ірэна Каляда, Кастусь Калоша; рэвізійная камісія: Аркадзь Сацэвіч, Мікола Латушкін, В. Ламака.
10 — закладзіны прыходу БАПЦ з блаславеньнем Уладыкі Сергія (Ахатэнкі) у Пэрце (Аўстралія).
10 — сход сяброў БАКА „Рунь“ у Лёндане, склад кіраўніцтва не пададзены.
16 — канцэрт кліўлэндзкай самадзейнасьці (Ірэна Каляда, Роза Шыкалюк, Валя Літвінка) у Чыкага.
17 — пастаноўка ідыліі Францішка Аляхновіча „На вёсцы“ ашаўскім самадзейным гуртком у Таронта.
24 — сход сяброў АБРФ у Парыжы. Управа: М. Булыга, Ж. Гасьціеў, Браніслаў Нагорны; рэвізійная камісія: Францішак Рашкевіч, Базыль Лагач.
26 — X зьезд сяброў ЗБВБ у Лёндане. Управа: Янка Міхалюк, Я. Паўлоўскі, Хведар Кажаневіч, Мікола Арцюх, Павал Навара, Л. Хвалько, Аляксандар Лашук, а. Часлаў Сіповіч, Тодар Мазура.

**Ліпень**

1 — жалобная ўрачыстасьць угодкаў сьмерці несьмяротнага Янкі Купалы, ладзіў аддзел БАА ў Сыднэі.
1 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ладзіла дэлегатура БЦР у Сыднэі; кір. Міхась Зуй.
2 — сход сяброў БАА ў Мэльбурне. Управа: Пётра Мікуліч, Д. Кажура, Уладзімер Аксючыц, Мікола Нікан, М. Андрэйчык.
6 — купальскія песьні на радыёстанцыі *BBC* з Таронта.
7—15 — тыдзень студыяў БАКА „Рунь“ у Кёнігштайне (Нямеччына) з прамовамі а. Часлава Сіповіча, а. Лява Гарошкі, а. Францішка Чарняўскага і інш.
20 — прыбыў у ЗША (Нью Ёрк) прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.
28 — надзвычайны сход ЗБВ у Аўстраліі ў справе супрацы з БВФ у Пэрце.
28.VII—6.VIII — канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) у Мюнхэне.

**Жнівень**

2 — рэфэратам Антона Адамовіча ў мюнхэнскім аддзеле БІНіМ пачаты „юбілейны год“, але пазьней нічым не адзначаны.
3 — сход сяброў аддзелу ЗБВБ у Бірмінгеме. Управа: Міхась Баяроўскі, Адольф Буката, Янка Міхалюк.
7 — удзел сьпявачкі Надзеі Градэ і кампазытара Міколы Куліковіча зь беларускім рэпэртуарам у Міжнародным мастацкім музычным фэстывалі ў Чыкага.
12 — сход Беларускага Культурнага Таварыства пастанавіў набыць уласны будынак у горадзе Мэльбурне (Аўстралія).
19 — вікарыяльны фэст беларускай праваслаўнай царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Брэдфардзе (Англія); правёў а. Андрэй (Крыт).
30 — жалобная ўрачыстасьць з малебнам у гадавіну сьмерці несьмяротнага Янкі Купалы ў Пэрце (Аўстралія).
У жніўні выйшаў № 1 часапісу беларускай дзяржаўнай думкі „Вехі“; рэд. Уладзімер Сенька, (Пірмэсэнс, Нямеччына).

**Верасень**

1—3 — II сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Таронта, ладзілі БАЗА і ЗБК.
2 — канцэрт беларускай песьні ўдзельнікаў спатканьня ў Таронта.
12 — паседжаньне канадыйскага сэктару Рады БНР у Таронта.
12—16 — удзел беларускай дэлегацыі ў VI кангрэсе „Царква ў бядзе“ ў Кёнігштайне (Нямеччына).
23.IX—16.XII — адбывалася VIII сэсія Рады БНР у Нью Ёрку.
27 — прэсавая канфэрэнцыя прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў гатэлі „Камандор“ у Нью Ёрку.
27 — даклад Сымона Кабыша (Кандыбовіча) „Прамысловасьць і сельская гаспадарка БССР“ у мюнхэнскім аддзеле БІНіМ.
30 — удзел беларускай дэлегацыі ў ґанфэрэнцыі Саюзу Хрысьціянскіх Сындыкатаў на тэму „Становішча ў краінах за жалезнай заслонай“ у Парыжы.
30 — пачатак заняткаў у беларускіх школах пры цэрквах у ЗША.

**Кастрычнік**

4 — удзел беларускіх арганізацыяў са сваімі нацыянальнымі сьцягамі ў акцыі ў Таронта супраць гвалту Масквы ў Вугоршчыне.
11 — даклад Алеся Марговіча аб кнізе Нікаласа Вакара па беларускай гісторыі ў мюнхэнскім аддзеле БІНіМ.

13 — даклад Антона Адамовіча „50 год «Нашай Долі»“, спалучаны з канцэртам беларускага сьпевака Пётры Конюха, ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
20 — V зьезд сяброў ЗБМА ў Нью Ёрку. Управа: Юрка Станкевіч, Сяргей Карніловіч, Галіна Орса, А. Несьцяровіч.
25 — прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі надаў ступень поўнага генэрала палкоўніку беларускага войска БНР Аляксандру Ружанец–Ружанцову.
27 — удзел беларусаў са сваімі нацыянальнымі сьцягамі ў акцыях у Сыднэі і Мэльбурне супраць гвалту Масквы ў Вугоршчыне.

**Лістапад**
1 — паніхіду над магілаю выдатнага беларускага кампазытара Міколы Равенскага ў Лювэне служыў а. Аўген Смаршчок.
4 — удзел беларусаў са сваімі нацыянальнымі сьцягамі ў дэманстрацыях у Таронта і Вініпэгу супраць гвалту Масквы ў Вугоршчыне.
6 — сход сяброў манчэстэрскага аддзелу ХАБР. Управа: В. Гранатовіч, Уладзімер Басяцкі, Калтуновіч, В. Шыш.
11 — удзел беларусаў у пратэстацыйным мітынгу ў Нью Ёрку супраць інтэрвэнцыі Масквы ў Вугоршчыне.
11 — удзел беларусаў у дэманстрацыі салідарнасьці з Вугоршчынай у Мюнхэне.
21 — сход сяброў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Лювэне (вынікі для шырэйшага ведама не пададзеныя).
25 — культурна–асьветная вечарына, зладжаная БАЗА ў Нью Ёрку.
25 — зьезд сяброў ХАБР у Лёндане. Управа: Барыс Суравы, Юрка Весялкоўскі, Аляксандар Малаха, Павал Бударкевіч, Мікалай Гаховіч, Уладзімер Грамяка; рэвізійная камісія: Міхась Сенька, П. Юнах, І. Старакожы.
25.XI—16.XII — праходзілі ўрачыста–жалобныя сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі, прыняцьцямі і адпаведнай праграмай ува ўсіх беларускіх незалежніцкіх арганізацыях (у некаторых гарадох у розных месцах адначасова) у:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Садбуры, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн, Госьляр;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
30 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Вячка Станкевіч, Віцька Паланевіч, Васіль Мельяновіч, Павал Алекса, Міхась Казьлякоўскі.
Першая беларуская каталіцкая парафія закладзеная а. Янам Тарасэвічам у Чыкага.

**Сьнежань**
2 — канцэрт беларускага сьпевака Пётры Конюха ладзіла БАЗА ў Нью Ёрку.
3 — высьвячэньне на субдыякана Аляксандра Надсана ў Рымскай грэцкай калегіі ў Ватыкане.
5 — Мэмарыял Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) 45–й Канфэрэнцыі Міжпарлямэнтарнай Уніі ў Бакнангу (Тайлянд).
7 — Мэмарыял і сьпіс загубленай бальшавікамі беларускай інтэлігенцыі перададзены ўсім дэлегацыям краінаў–удзельніцаў сэсіі ААН Камітэтам Незалежнай Беларусі ў Нью Ёрку.
7 — Мэмарандум БНК у справе каляніяльнай палітыкі Масквы на землях Беларусі, пададзены ў ААН у Нью Ёрку.
22 — канфэрэнцыя Беларускага Студэнцкага Таварыства ў Нью Ёрку (склад Управы для публічнага ведама не пададзены).

## 1957 год

**Студзень**
1 — створаны сталы Камітэт Беларускай Школы ў Мэльбурне: Эўлялія Яцкевіч, А. Субач, Сяргей Розмысл; у Ст. Альбані (20 вучняў): Павал Гуз і Ўладзімер Шнэк.
19—20 — зьезд сяброў ЗБК ў Таронта. Управа: Іван Бруцкі, Раіса Жук–Грышкевіч, Ніна Слаўка, Кастусь Акула, Марыя Маркевіч; рэвізійная камісія: а. Мікалай (Мацукевіч), Юрка Харавец, д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч; сяброўскі суд: Аўген Протас, Алесь Грыцук, Адам Тарасэвіч.

**Люты**

3 — сход сяброў Беларускага Студэнцкага Таварыства ў Кліўлэндзе. Управа: Васіль Шчэцька, М. Галоўка, Я. Яраховіч.

3 — сустрэча з прадстаўнікамі Амэрыканскага Камітэту Беларускай Грамадзкасьці, ладжаная беларускай сэкцыяй радыёстанцыі „Вызваленьне“ ў Нью Ёрку: д–р Вітаўт Тумаш, Леанід Галяк, Кастусь Мярляк, Мікола Гарошка, Аўген Протас і інш.

9 — канцэрт беларускай песьні баса Пётры Конюха і сапрана Надзеі Градэ, кампазытар Мікола Куліковіч, у Чыкага.

10 — сход прыхільнікаў БНР у Чыкага: Мікола Дзямідаў, М. Чыгрын, А. Лосіч, Часлаў Будзька, Вацлаў Пануцэвіч і інш.

17 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Сяргей Карніловіч, Васіль Шчэцька, Вінцэнт Сьпічонак, Астап Яраховіч, Кастусь Калоша; рэвізійная камісія: Кастусь Кіслы, Мікалай Кабяка, Мікола Ягоўдзік.

17 — сход дэтройцкага аддзелу БАЗА. Управа: А. Плескач, Мікола Прускі, М. Кумэйша.

24 — канцэрт Беларускага Студэнцкага Хору імя кампазытара Міколы Равенскага зь Лювэну ў Вэстмінстэрскай катэдральнай залі ў Лёндане.

24 — інтэрвію прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў „Бацькаўшчыне“. Прэзыдыюм Рады БНР аб’яднаны з Урадам БНР: Мікола Абрамчык — прэзыдэнт і міністар вонкавых справаў, Антон Адамовіч і Аляксандар Стагановіч — заступнікі прэзыдэнта і адначасова кіраўнікі сэктарамі і сакратарыятам, Кастусь Мярляк — міністар нутраных справаў, кожнаразовы старшыня БАЗА, кіраўнік вонкавымі сувязямі ў ЗША, Антон Шукелойць — міністар прэсы і інфармацыі, Натальля Арсеньнева — загадчыца сакратарыяту Рады.

## Сакавік

3 — сход вернікаў прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе; царкоўны камітэт: А. Кананові́ч, Мікола Ягоўдзік, Уладзімер Дунец, А. Шостак, Кацярына Чэрнік, Анатоль Васілеўскі, Міхал Страпко; рэвізійная камісія: Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Васіль Шчэцька, М. Галоўка.

6 — памёр у Саўт Рывэры старшыня выканаўчага органу БЦР Аляксандар Русак.

10 — сход вернікаў прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) у Таронта; царкоўны камітэт: Валер Навіцкі, Мікола Ганько, Янка Баран, Марта Слаўка, Р. Ананіч.

17—31 — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, ладжаныя ўсімі беларускімі незалежніцкімі арганізацыямі ва ўсіх краінах і гарадох, дзе маюцца групы беларускіх выгнанцаў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;

— Бэльгія: Лювэн;

— Гішпанія: Мадрыд;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас;

— Італія: Рым.

— Канада: Таронта, Садбуры, Вініпэг, Манрэаль, Лёндан;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

22 — айцец Францішак Чарняўскі прыехаў зь Лювэну на сталае жыцьцё ў кляштары ў ЗША.

24 — сакавіковыя передачы на Бацькаўшчыну на радыёстанцыях Нью Ёрку, Чыкага, Дэтройту, Манрэалю.

25 — Днём Беларусі дзень 25 сакавіка абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Мічыган, Агаё, Ілінойс, Нью Джэрзі. Спэцыяльнымі праклямацыямі і перад ратушамі гарадоў Нью Ёрку, Чыкага, Пасэйку, Дэтройту, Саўт Рывэру, Нью Брансьвіку ўзьнятыя на мачты бел–чырвона–белыя сьцягі.

31 — створана Беларуска–Амэрыканскае Культурна–Дапамаговае Аб’яднаньне ў Кліўлэндзе. Управа: К. Еўса, Л. Харытановіч, Тодар Пагуда, Аркадзь Сацэвіч, Мікола Латушкін.

## Красавік

14 — сход сяброў СБАМ у Саўт Рывэры. Управа: Грыгоры Арцюшэнка, Лявон Шурак, Сьцяпан Навумчык, Міхась Палюховіч, Юрка Навумчык, В. Тамашэвіч, З. Завістовіч, Уладзімер Бычкоўскі, Язэп Верасаў, Зося Касьцюк, Віталь Цярпіцкі, Віктар Мяжэвіч.

23 — закончыўся XIV пленум БЦР (пачаўся 4.IX.54), вынікі да публічнага ведама не пададзеныя.

23—28 — удзел беларускай дэлегацыі ў кангрэсе *Pax Romano* ў Рыме: а. Пётра Татарыновіч, а. Ян Садоўскі.

27 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе Дня ляяльнасьці на 5–й авэню Нью Ёрку.

28 — удзел у зьезьдзе прадстаўнікоў Цэнтральнага Аб’яднаньня Чужынецкіх Уцекачоў у Зах. Нямеччыне ў Людвігсбургу: Уладзімер Бортнік.

## Травень

4 — юбілейны аўтарскі вечар паэты Рыгора Крушыны (Казака) ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

5 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Янка Дубяга, Янка Азарка, Васіль Стома, Часлаў Ханяўка, Філарэт Родзька; рэвізійная камісія: Ніна Сьпічонак, Павал Кулеш, Галіна Русак.

5 — XII зьезд сяброў АБРФ у Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, Мікола Лысуха, Мікола Абрамчык (мал.)

12 — зьезд сяброў БАА ў Мэльбурне: Міхась Зуй, Сяргей Розмысл, К. Хаванскі, Грыгор Алехнік, Алесь Алехнік, Уладзімер Шнэк, С. Сьлесарэвіч, Павал Гуз, а. Усевалад Родзевіч, Уладзімер Каўко.

19 — нарада старшыняў арганізацыяў, належачых да БККА, па скліканьні кангрэсу: Іван Касяк, Ксэнафонт Вайцяхоўскі, Барыс Шчорс.

20 — 3–я гадавіна радыёперадачаў на Беларусь (на беларускай мове) радыёстанцыі „Вызваленьне“ зь Мюнхэну.

26 — сьвяткаваньне 40–годзьдзя з дня сьмерці слаўнага беларускага паэты Максіма Багдановіча ў Брэдфардзе (Англія).

**Чэрвень**

1—2 — VII кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку. Управа: Мікола Кунцэвіч, Пётра Манькоўскі, Юрка Станкевіч, Павал Дварэцкі, Аўген Протас, Уладзімер Курыла, Ніна Сьпічонак; наглядчая рада: Францішак Кушаль, Міхась Тулейка, Філарэт Родзька; жаночая сэкцыя: Марыя Станкевіч, Кацярына Чэрнік, Яніна Каханоўская; рада дырэктараў: Мікола Гарошка, Павал Бунчук, Янка Ніхаёнак, В. Бялей, Ала Орса.

23 — гадавы выбарчы сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Кастусь Мярляк, Натальля Арсеньнева, Аляксандар Міцкевіч, Янка Запруднік, Васіль Юрцэвіч.

23 — гадавіна з дня нараджэньня і дня сьмерці вялікага беларускага паэты Янкі Купалы, супольна ладзілі арганізацыі ў Таронта.

23 — заканчэньне школьнага году ў беларускіх школах у ЗША.

**Ліпень**

1 — сустрэча ў ньюёрскім порце прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага.

4 — багаслужба і банкет у гонар прыезду прэзыдэнта Астроўскага, ладзілі беларускія арганізацыі ў Саўт Рывэры.

5—8 — удзел беларускай дэлегацыі ў кангрэсе ФІТКРЭ ў Люксэмбургу; Зьміцер і Надзея Касмовічы.

7 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу з прамоваю Радаслава Астроўскага ладзілі ў Кліўлэндзе.

7 — радыёперадача беларускіх купальскіх песень праз радыёстанцыю *CBC* з Таронта.

14 і 21 — пачатак сталых беларускіх багаслужбаў у царкве Сьв. Пётры і Паўла (БАПЦ) у Сыднэі.

15.VII—16.VIII — выстава беларускага друку ў Ньюёрскай Публічнай бібліятэцы.

15 — XI зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Павал Навара, Уладзімер Бутрымовіч, а. Канстанцін Маскалік, М. Булыга, Янка Сяўковіч.

25 — выступ гуртка самадзейнасьці ЗБМА зь песьнямі і танцамі па тэлевізіі ў Дэтройце.

**Жнівень**

6 — заканчэньне канфэрэнцыі па пытаньнях падзеяў у Вугоршчыне, арганізаванай Парыскім Блёкам у Мюнхэне.

7 — зьезд беларускіх спартоўцаў ЗБМА ў Кліўлэндзе: Тодар Пагуда, Кастусь Калоша, В. Лукашэвіч (капітан футбольнай каманды „Беларусь“), Мікола Стрэчань, С. Плотнікаў.

10 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Уладзімер Дунец, Уладзімер Літвінка, Ірэна Каляда, Марыя Лук’янчык, Кастусь Калоша; рэвізійная камісія: Аркадзь Сацэвіч, Сяргей Карніловіч, Марыя Лук’янчык.

10 — рэфэрат д–ра Янкі Станкевіча „Народная гаспадарка Беларусі“ ў Нью Брансьвіку.

25 — Беларускі дзень і беларуска–ўкраінскае спатканьне ўва ўкраінскім селішчы Глен Спэй пад Нью Ёркам.

31 — VIII зьезд ЗБМА ў Кліўлэндзе. Управа: Вячка Станкевіч, Лявон Норык, Вера Жызьнеўская–Рамук, В. Ярашэвіч, Павал Алекса.

**Верасень**

1 — пачатак заняткаў у беларускай школе ў Чыкага.

1 — кіраўніцтва беларускай сэкцыяй гішпанскага радыё перанялі Янка Сурвіла і Віктар Сянкевіч.

2 — візыт япіскапа д–ра Часлава Сіповіча ў ЗША.

7 — VI зьезд БСТ у Нью Ёрку. Управа: Юрка Станкевіч, Кастусь Калоша, Ала Орса, Аўген Кудасаў.

15 — удзел БАЗА ў міжнароднай канфэрэнцыі „Народ да народу“ ў Нью Ёрку; прадстаўнік Кастусь Мярляк.

15 — сход групы праваслаўных беларусаў, нязгодных з палітыкай яп. Васіля (Уладзімера Тамашчыка), пастанавіў пабудаваць уласную царкву ў Нью Ёрку.

19 — закладзіны арганізацыі Беларуска–Амэрыканскай Дапамогі ў Нью Ёрку: Антон Шукелойць, Міхась Тулейка, Уладзімер Курыла, Ніна Сьпічонак, Аўген Протас.

21 — даклад Радаслава Астроўскага „Канвульсіі камунізму...“ на сходзе сяброў АБН у Чыкага.

22 — Дажынкі з мастацкаю праграмаю супольна ладзілі БАЗА і ЗБМА ў Нью Брансьвіку.

23 — адноўлена праца VIII сэсіі Рады БНР у Нью Ёрку. Прэзыдыюм: Антон Адамовіч, Барыс Данілюк, Антон Шукелойць.

28 — даклад япіскапа д–ра Часлава Сіповіча „Беларусы ў Эўропе“ ў Нью Ёрку.

**Кастрычнік**

1 — канцэрт самадзейнасьці гуртка ЗБМА ў Дэтройце.

2 — рэфэрат д–ра Янкі Станкевіча „Вялікае Княства Смаленскае“ з паказам кінафільму ў Нью Ёрку.

12—28 — побыт прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў сувязі з падзеямі ў БВР у Эўропе.

13 — закладзіны аддзелу ЗБМА ў Саўт Рывэры. Управа: М. Каранеўскі, Галіна Лёсік, Аўген Дубяга, Галіна Русак, Віктар Дубяга, Ганна Стома.

15 — куплены будынак для царквы БАПЦ і грамадзкага цэнтру ў Брукліне.

19 — справаздачны даклад Антона Адамовіча аб прабегу навуковай канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

24 — Беларуская Жаночая Арганізацыя ўвайшла ў Міжнародную Раду Жанчын у Нью Ёрку. Дэлегаткі: Марыя Станкевіч, Кацярына Чэрнік, Яніна Каханоўская, М. Зыбайла.

26 — рэфэрат д–ра Часлава Сіповіча для сяброў БККА „Рунь“ у Нью Ёрку.

26 — канфэрэнцыя БККА „Рунь“ пры ўдзеле д–ра Часлава Сіповіча па пытаньнях рэлігійнага жыцьця ў Нью Ёрку.

27 — першая багаслужба ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага (БАПЦ), ладжаная ў нованабытым будынку ў Брукліне; служылі яп. Васіль (Тамашчык) і айцы Хведар Данілюк і Сьцяпан Войтанка.

28 — першая каталіцкая імша ў Катэдры Сьв. Патрыка ў Нью Ёрку; адслужыў з малітваю за Беларусь і беларускі народ япіскап Часлаў Сіповіч.

31 — адзначана 10–годзьдзе газэты „Бацькаўшчына“ ў Мюнхэне (Станіслаў Станкевіч) і Нью Ёрку (Антон Адамовіч).

**Лістапад**

2—3 — візыт яп. Часлава Сіповіча да беларусаў у Чыкага.

3 — урачыстыя ўваходзіны ў нованабыты будынак катэдральнага Сабору БАПЦ зь літургіяй і малебнам удзячнасьці яп. Васіля (Тамашчыка) зь сьвятарамі і ўкраінскім духавенствам пры вялікім царкоўным хоры з удзелам сьпевака–саліста баса Пётры Конюха.

3 — удзел беларусаў у антыкамуністычнай дэманстрацыі ў гадавіну Вугорскага паўстаньня ў Мэльбурне.

7 — прэс–канфэрэнцыя Міколы Абрамчыка, старшыні Парыскага Блёку, у гатэлі „Балтымор“ у Нью Ёрку.

9 — даклад д–ра Янкі Станкевіча аб беларускім каменным будаўніцтве XI—XIII ст. у Крывіцкім Навуковым Таварыстве імя Пранціша Скарыны ў Нью Ёрку.

12 — беларускія калёны зь бел–чырвона–белымі сьцягамі на фэстывалі „Арата“ ў Сыднэі.

16 — сход бацькоў і настаўнікаў беларускіх школаў Нью Ёрку выбраў школьны камітэт: Н. Орса, А. Акановіч, Даніла Клінцэвіч, Васіль Юрцэвіч і Янка Запруднік.

16 — памёр у Чыкага вядомы беларускі грамадзкі і палітычны дзеяч Янка Чарапук–Змагар.

17 — удзел беларускага самадзейнага гуртка „Васілёк“ Алы Орсы і беларускага хору з Саўт Рывэру ў Міжнародным фэстывалі народнага мастацтва ў Нью Ёрку.

18 — V пасяджэньне VIII сэсіі Рады БНР у Нью Ёрку. Прэзыдыюм: Антон Адамовіч і Аляксандар Стагановіч — заступнікі прэзыдэнта; міністры: Кастусь Мярляк, Міхась Тулейка, Антон Шукелойць, Віталь Кажан, Натальля Арсеньнева; дзяржаўны кантроль: д–р Вітаўт Тумаш, Філарэт Родзька, Аўген Протас; суд: мгр. юр. Мікола Кунцэвіч, Васіль Кендыш, Васіль Стома; рэфэрэнты: Францішак Кушаль, Барыс Данілюк, Сымон Кабыш (Кандыбовіч), Янка Запруднік, Пётра Манькоўскі.

20.XI—1.XII — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі, прыняцьцямі прадстаўнікоў іншых народаў і мастацкімі праграмамі ўва ўсіх беларускіх незалежніцкіх арганізацыях:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Брысбэн, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;
— Італія: Рым;
— Канада: Таронта, Садбуры, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

22 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Міхась Казьлякоўскі, Віктар Паланевіч, Васіль Мельяновіч, Оля Мельяновіч, Алесь Александровіч; рэвізійная камісія: А. Каваль, Павал Алекса, М. Александровіч.

24 — сход сэкцыі АБРФ у Ля Крэзо. Управа: Браніслаў Нагорны, М. Булыга, Францішак Рашкевіч; рэвізійная камісія: Э. Баўм, В. Горват.

29 — сустрэча беларускіх і жыдоўскіх навукоўцаў у справах супрацоўніцтва ў Нью Ёрку.

30 — XV пленум БЦР у Саўт Рывэры з удзелам прэзыдэнта Радаслава Астроўскага пастанаўляе аб пераносе выканаўчага органу БЦР у Англію і прымае некаторыя зьмены асобаў у выканаўчых органах, кантрольнай камісіі і дысцыплінарным судзе БЦР.

### Сьнежань

6 — даклад яп. Часлава Сіповіча „Ўражаньні і спасьцярогі аб ЗША і беларускай эміграцыі“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

6 — даклад прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага аб міжнародным становішчы на канфэрэнцыі АБН у Нью Ёрку.

8 — сход пайшчыкаў Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне. Камітэт: Янка Ніхаёнак, Міхась Тулейка, Міхась Міцкевіч, Анатоль Александровіч, П. Гарэцкі, Даніла Клінцэвіч, Васіль Захаркевіч; наглядчая рада: Ала Орса, Кастусь Мярляк, Аўген Протас.

8 — банкет у гонар 70–годзьдзя нараджэньня і 50–годзьдзя грамадзка–дзяржаўнай дзейнасьці прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў Саўт Рывэры.

12 — высьвячэньне на дыякана Аляксандра Надсана ў Грэка–рускай калегіі ў Ватыкане.

15 — рэфэрат д–ра Янкі Станкевіча „Беларускія высокія школы ў мінуласьці“, ладжаны БААТ у Нью Ёрку.

16 — удзел беларускага самадзейнага гуртка „Васілёк“ (Ала Орса) у Міжнародным калядным вечары *IYCA* зь песьнямі і танцамі ў Нью Ёрку.

21 — канцэрт беларускага сьпевака баса Пётры Конюха ў Нью Ёрку.

26 — на чыгуначнай станцыі Кірхгайм–Тэк (Заходняя Нямеччына) памёр беларускі грамадзкі і палітычны дзеяч Юры Сабалеўскі.

28 — сход Згуртаваньня Беларусаў штату Ілінойс у Чыкага. Управа: д–р Лявон Трусэвіч, Ян Чарнецкі, Антон Бяленіс, Марыя Махнач, Ірэна Пануцэвіч, Люня Бяленіс, Міхась Мароз, Часлаў Будзька.

29 — супольная калядная вячэра з выдатнай дзіцячай мастацкай праграмай беларускай калёніі ў Сындыкальнай залі ў Парыжы.

31 — традыцыйная сустрэча Новага году беларускай грамадой у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

У сьнежні выйшаў № 1 „Бюлетэня Беларускага Праваслаўнага Брацтва і Сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці“; рэд. а. Андрэй (Крыт) (Брэдфард).

## 1958 год

### Студзень

7 — беларуская дэлегацыя (Кастусь Мярляк і Янка Запруднік) у Белым доме ў Вашынгтоне (ЗША) з дамаганьнямі беларускамоўных радыёперадачаў на Беларусь з радыёстанцыі „Голас Амэрыкі“.

11 — традыцыйная калядная ялінка беларускай моладзі з праграмай мастацкай самадзейнасьці ў Грамадзкім Цэнтры Брукліну.

12 — побыт прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў Нямеччыне.

13 — сустрэча прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага зь япіскапам Філафеем (РЗПЦ) у Боне.

15 — радыёстанцыя Ватыкану ўвяла беларускамоўныя перадачы на Беларусь тройчы на тыдзень.

18 — Радаслаў Астроўскі з пляменьніцай Юрыя Сабалеўскага захапілі багаты архіў і машынапіс успамінаў нябожчыка.

19 і 22 — нарады прыхільнікаў БЦР і наваствоpанага Беларускага Вызвольнага Фронту ў падмену Беларускаму Вызвольнаму Руху ў Штутгарце (Нямеччына).

25—26 — IX зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Антон Маркевіч, Кастусь Акула, Іван Бруцкі, Мечыслаў Рачыцкі, Язэп Чорны, Мікола Арцюх, А. Лабэцкі; рэвізійная камісія: Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Вольга Грыцук, Генрык Барановіч; сяброўскі суд: Аўген Протас, Алесь Грыцук, Янка Баран.

### Люты

1 — адчынены беларускія нядзельныя школы ў Нью Ёрку і Чыкага.

1 — з мэтай аб’езду беларускіх асяродкаў прыбыў у Нью Ёрк прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.

2 — сустрэча прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага з старшынём АБН Яраславам Стэцько ў Лёндане.

2 — сход лёнданскага аддзелу ЗБВБ. Управа: Мікола Шуст, Віктар Іваноўскі, Антон Лемішэўскі; рэвізійная камісія: Лявон Журоўскі, М. Дэмчук, Мікола Бубновіч.

15 — памёр у Чыкага ведамы рэлігійна–грамадзкі дзеяч а. д–р Язэп–Атаназы Рэшаць.

15 — гадавы баль на карысьць Выдавецкага Фонду ладзіла БАЗА ў Нью Ёрку.

22 — рэфэрат Францішка Кушаля „Вайна Жыгімонта III з Маскоўшчынай і зварот Севершчыны і Смаленшчыны“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

23 — удзел беларускай самадзейнасьці ЗБМА ў Міжнародным фэстывалі ў Кліўлэндзе.

26 — удзел беларускай групы ў палітычным усходне–эўрапейскім вечары ў Мюнхэне.

У лютым выйшаў № 1 рэлігійна–грамадзкага месячніка „Сейбіт“, лацінкай; рэд. а. Францішак Чарняўскі (кляштар Козэ ля Нью Ёрку).

**Сакавік**

2 — сход вернікаў прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці (БАПЦ) у Кліўлэндзе. Царкоўны камітэт: Мікалай Гумен, Вінцэнт Сьпічонак, Павал Дварэцкі, Мікола Ягоўдзік, Я. Каваленка, Кацярына Чэрнік; наглядная рада: Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Уладзімер Літвінка, Юрка Каляда.

2 — сход вернікаў прыходу царквы Сьв Кірылы Тураўскага ў Таронта. Царкоўны камітэт: Тамаш Курбат — стараста, Алесь Грыцук, Мікола Ганько, Н. Баўгарава, Язэп Баброўскі.

2 — рэфэрат Юркі Станкевіча „Выкарыстаньне атамнай энэргіі...“ ладзіў БААТ у Нью Ёрку.

2 — удзел беларускага самадзейнага гуртка „Васілёк“ ЗБМА (кір. Ала Орса) у Міжнародным мастацкім фэстывалі ў Нью Ёрку.

15 — тэлеграма–прывітаньне прэзыдэнта ЗША Дуайта Эйзэнхаўэра беларускай грамадзкасьці на імя БАЗА з нагоды набыцьця Грамадзкага Цэнтру.

16 — сход вернікаў катэдры Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Рада дырэктараў: Ала Орса, Уладзімер Русак, Янка Ніхаёнак, Васіль Юрцэвіч, Пётр Ганэцкі; царкоўны камітэт: Язэп Казьлякоўскі, Васіль Захаркевіч, Уладзімер Русак, Правіла, Пятро Зыбайла.

21 — сакавіковая радыёперадача на ўсю Канаду станцыі *CBC* з Таронта.

22 — прыём і передача беларускай дэлегацыі мэрам Нью Ёрку, праклямацыі Беларускага дня 25 сакавіка ў горадзе і штаце Нью Ёрку.

22 — даклад Францішка Кушаля пра беларускае збройнае змаганьне ў 1917—1920 гг. ладзіла Згуртаваньне Беларуска–Амэрыкаснкіх Вэтэранаў у Нью Ёрку.

23 — абвяшчэньне „Дня Беларусі 25 Сакавіка“ губэрнатарамі штатаў: Нью Ёрк, Мэрылэнд, Агаё, Нью Джэрзі, Пэнсыльванія, Мічыган, Каліфорнія, Род Айлэнд і мэрамі гарадоў Нью Ёрк, Саўт Рывэр, Кліўлэнд, Чыкага, Дэтройт, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік.

24 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Сэнаце і Кангрэсе ЗША: яп. Васіля (Тамашчыка) і Кастуся Мерляка ды а. Францішка Чарняўскага і Францішка Бартуля з прыняцьцем у Белым доме віцэ–прэзыдэнтам ЗША Рычардам Ніксанам.

25 — Маніфэст Рады БНР да беларускага народу на Бацькаўшчыне.

25 — урачыстасьці абвяшчэньня незалежнасьці БНР з багаслужбамі, прыняцьцямі прадстаўнікоў урадаў, арганізацыяў і мастацка–палітычнымі праграмамі адбыліся ў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас, Трэнтан;
— Італія: Рым;
— Канада: Таронта, Садбуры, Вініпэг, Манрэаль, Гамільтан, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

25 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за прызнаньне незалежнасьці Беларусі.

25 — сакавіковыя радыёперадачы са станцыяў Гамільтану, Садбуры, Лёндану (Канада).

25 — сакавіковая прывітальная радыёперадача на Савецкі Саюз са станцыі „Голас Амэрыкі“ на ўсіх мовах перадачаў.

25 — сакавіковая прывітальная радыёперадача станцыі „Вызваленьне“ на Савецкі Саюз на ўсіх мовах перадачаў зь Мюнхэну.

25 — пачатак сталых беларускамоўных радыёперадачаў Міхася Казьлякоўскага з радыёстанцыі ў Нью Джэрзі.

29 — сьв. імша за Беларусь і беларускі народ у Катэдры Сьв. Патрыка ў Нью Ёрку; адслужыў а. Францішак Чарняўскі.

30 — прамова прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка на сходзе грамадзян у Нью Ёрку.

Створана Ініцыятыўная Група Беларусаў–Каталікоў (а. Францішак Чарняўскі, Францішак Бартуль, д–р Станіслаў Грынкевіч, Яніна Каханоўская, Язэп Пітушка, Янка Станкевіч, Б. Прытыцкі, Язэп Пазьняк), выдадзены адмысловы Заклік.

Выдадзена брашура *„Byelorussian Independence Day March 25, 1918“*.

**Красавік**

6 — Беларускія велікодныя радыё– і тэлеперадачы зь ньюёрскай радыёстанцыі *WOPW* (Міхась Казьлякоўскі).

8 — закладзіны праваслаўнага прыходу Сьв. Юрага ў Чыкага на чале зь япіскапам Уладзімерам (Фінькоўскім).

12 — паказ беларускіх народных танцаў самадзейным гуртком „Васілёк“ ЗБМА (кір. Ала Орса) па ньюёрскім тэлебачаньні.
13 — сталыя штотыднёвыя радыёперадачы Міхася Казьлякоўскага ў нядзелю (8.30—9.00) на штаты Нью Ёрк і Нью Джэрзі.
20 — даклад Міколы Арцюха ў Таронта аб эканамічных магчымасьцях Беларусі.
22 — вялікі посьпех беларускага самадзейнага гуртка „Васілёк“ у Міжнародным фэстывалі народных танцаў у Лэйбар Тэмплі (Нью Ёрк).
26 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў Парадзе ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку.
26—28 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Кліўлэндзе.
27 — даклад Міколы Абрамчыка ў Царкоўным доме ў Кліўлэндзе аб сытуацыі ў БССР і дзейнасьці Рады БНР у вольным сьвеце.
27 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Янка Дубяга, Сяргей Гутырчык, Часлаў Ханяўка, Марыя Войтанка, П. Швэд; рэвізійная камісія: Янка Азарка, Васіль Стома, Павал Кулеш.

**Травень**
4 — сход сяброў АБРФ у Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, А. Лысуха; рэвізійная камісія: А. Данільчык, а. Леў Гарошка, Аўген Кавалеўскі.
4 — адзначэньне 60–годзьдзя жыцьця і 40–годзьдзя грамадзкай дзейнасьці грамадзка–царкоўнага працаўніка Кастуся Кіслага ў Кліўлэндзе.
14 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Этнаграфічная прастора Беларусі“ ладзіў БІНіМ у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
16 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка на паседжаньні сэктару Рады БНР у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне (прысутнічала 35 радных) аб стане нашага змаганьня.
21 — прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык ад’ехаў у Эўропу.
23 — жалобная ўрачыстасьць у 41–ыя ўгодкі сьмерці беларускага паэты Максіма Багдановіча ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
24 — пастаноўка п’есы Янкі Купалы „Паўлінка“ дэтройцкай самадзейнасьцю ў Кліўлэндзе.
25 — XII зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Уладзімер Бутрымовіч, Павал Навара, М. Булыга, Янка Сяўковіч, П.Шыркоўскі.
28 — беларуская радыёперадача, прысьвечаная жалобным угодкам сьмерці паэты Максіма Багдановіча зь ньюёрскае радыёстанцыі.
28 — пачала працаваць беларуская бібліятэка ў Грамадзкім Цэнтры Брукліну.
31 — рэфэрат Антона Адамовіча „Купалаўскія баляды 1918 году“ ладзіў БІНіМ у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

**Чэрвень**
8 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Васіль Шчэцька, Сяргей Карніловіч, Вінцэнт Сьпічонак, Астап Яраховіч, Уладзімер Літвінка; рэвізійная камісія: Кастусь Кіслы, Мікалай Кабяка, Мікола Ягоўдзік.
8 — вечар памяці паэты Максіма Багдановіча ў Таронта.
14 — рэфэрат д–ра Вітаўта Тумаша „Этнаграфічная прастора Беларусі“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
15 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Язэп Пазьняк, Міхась Тулейка, Юрка Станкевіч, Даніла Клінцэвіч, Аляксандар Міцкевіч.
21 — заканчэньне школьнага году ў беларускіх школах у Чыкага (15 вучняў), Нью Ёрку (21 вучняў), Саўт Рывэры (17 вучняў).
21 — сход Беларускага Жаночага Таварыства. Управа: Вольга Запруднік, Марыя Станкевіч, М. Клінцэвіч у Нью Ёрку.
22 — удзел беларускіх калёнаў з нацыянальнымі сьцягамі ў дэманстрацыях у Мэльбурне і Таронта супраць маскоўскага тэрору і русіфікацыі ў Беларусі.
22 — першая багаслужба ў беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Пётры і Паўла ў Мэльбурне.
28 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ў Чыкага ладзіў Кастусь Новік.
29 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ў Манчэстэры ладзіў ХАБР.

**Ліпень**
4 — некалькі беларускіх радыёперадачаў, прысьвечаных Дню незалежнасьці ЗША ды інфармацыі аб Беларусі, праведзеныя па–ангельску зь Нью Ёрку, Чыкага, Пэнсыльваніі і Лос Анджэласу.
6 — беларускія радыёперадачы па–ангельску правёў БНК з Манрэалю.
11 — беларускія радыёперадачы Купальля радыёстанцыі *CBC* ў Таронта.
12 — сход БІНіМ. Падрахунак дзейнасьці, дыскусія і плян працы ў бруклінскім Грамадзкім Цэнтры.
19 — VIII гадавы сход Беларускага Аб’яднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі ў Сыднэі. Управа: д–р Язэп Малецкі, Міхась Лужынскі, Аркадзь Качан, Аляксей Васіленя, Я. Гапенчанка.
20 — выйшаў № 1 „Эвангелісцкага прапаведніка“; рэд. Уладыслаў Рыжы–Рыскі (Мадрыд).

25—26 — беларускія вучоныя на X канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, Мікола Абрамчык, а. Леў Гарошка, Сымон Кабыш (Кандыбовіч) і інш.
27—31 — канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў (Парыскі Блёк) у Мюнхэне; старшыня Мікола Абрамчык.

**Жнівень**
3 — імша ў Таронта па загінуўшых за волю Беларусі; служыў а. Францішак Чарняўскі.
14 — памёр у Чыкага беларускі грамадзкі дзеяч, нашанівец, удзельнік I Усебеларускага Кангрэсу Эдвард Будзька.
29 — VII зьезд ЗБМА ў Брукліне. Управа: Міхась Казьлякоўскі, Сяргей Карніловіч, Васіль Мельяновіч, М. Каранеўскі, А. Несьцяровіч.
29.VIII—I.IX — сустрэча беларусаў ЗША і Канады, ладзілі БНК і БККА ў Саўт Рывэры.
30 — вечарына, ладжаная ЗБМА з конкурсам беларускай народнай вопраткі ў Брукліне.
30 — нарада беларускіх удзельнікаў збройнай барацьбы за волю Беларусі ў Саўт Рывэры.
30 — зварот вольных беларускіх пісьменьнікаў да беларускіх пісьменьнікаў у БССР, прыняты на нарадзе ў Саўт Рывэры.
30.VIII—I.IX — III сустрэча беларусаў ЗША і Канады, ладжаная БАЗА і ЗБК у Брукліне.
31 — урачыстае высьвячэньне катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага яп. Васілём (Тамашчыкам) са сьвятарамі БАПЦ у Брукліне.
31 — зьезд духавенства і вернікаў праваслаўных–неаўтакефалістых у Саўт Рывэры: а. Мікалай Лапіцкі, а. Сьвятаслаў Коўш, Мікола Дзямідаў.
31 — створана Каардынацыйная Камісія дзейнасьці беларускіх арганізацыяў ЗША і Канады.

**Верасень**
1 — вялікі канцэрт беларускай песьні ў Нью Ёрку.
1 — нарада старшыняў беларускіх арганізацыяў БАЗА ў Нью Ёрку.
1 — нарада ўскалосаўцаў („Баявая Ўскалось“) у Саўт Рывэры і прыняцьце Звароту да вугорскіх пісьменьнікаў.
1—7 — удзел беларускай дэлегацыі ў XXIV кангрэсе *Pax Romano* ў Вене: а. Часлаў Сіповіч, а. Леў Гарошка, Францішак Бартуль.
2 — паказы беларускай песьні і танцаў беларускага гуртка (кір. Валянціна Пашкевіч) па 6–м канале тэлебачаньня ў Таронта.
5 — Мэмарандум у ААН ад беларускіх арганізацыяў ЗША і Канады ў справе апошніх рэпрэсіяў маскоўскіх акупантаў у Беларусі.
5 — пачатак заняткаў у беларускіх школах у ЗША і Канадзе.
14—17 — удзел беларускай дэлегацыі ў X кангрэсе Міжнароднага марыінскага году ў Люрдзе (Францыя): беларуская багаслужба і працэсія зь беларускімі нацыянальнымі харугвамі, даклады на беларускія тэмы: а. Часлаў Сіповіч, а. Пётра Татарыновіч, а. Леў Гарошка.
19 — пачатак заняткаў у беларускіх школах у Англіі.

**Кастрычнік**
10 — нарада старшыняў аддзелаў ЗБК у Таронта.
12 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Віктар Паланевіч, Вячка Станкевіч, Аўген Лысюк, А. Акановіч, Поля Груцька, А. Несьцяровіч; рэвізійная камісія: М. Лысёнак, Васіль Мельяновіч, Міхась Казьлякоўскі.
19 — даклад д–ра Станіслава Грынкевіча на пачатку курсаў беларусаведы, наладжаных ЗБМА і БАЗА ў Кліўлэндзе.
19 — справаздачна–выбарчы сход сяброў сэктару Рады БНР у Нью Ёрку. Кіраўніцтва: Кастусь Мярляк, Філарэт Родзька, Уладзімер Русак, Аўген Протас.
28 — памёр у Чыкага беларускі дзяржаўны і грамадзкі дзеяч, адзін з закладальнікаў асноваў незалежнасьці Беларусі Язэп Варонка.
28 — удзел беларускай групы ў Міжнародным канцэрце–балі, ладжаным АБН у Сыднэі.

**Лістапад**
1 — удзел ЗБМА ў Міжнародным фэстывалі народных танцаў (гурток „Васілёк“ Алы Орсы–Рамана) у Нью Ёрку.
1 — справаздачна–выбарчы сход падсэктару Рады БНР у Нью Брансьвіку: Васіль Стома, Янка Азарка.
5 — сям’я д–ра Станіслава Станкевіча пераехала на сталае жыцьцё ў Бруклін.
8 — удзел беларусаў у мастацкай частцы Міжнароднага канцэрту, ладжанага праваслаўнымі цэрквамі (без расейцаў) у Кліўлэндзе.
14 — закладзіны Беларуска–Амэрыканскага Зьвязу ў Нью Ёрку. Управа: д–р Мікола Шчорс, д–р Янка Станкевіч, мгр. Леанід Галяк, Міхась Бахар, Лянгіна Брылеўская, Мікола Панькоў.
15 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

16 — сход аддзелу ЗБМА ў Нью Брансьвіку. Управа: Аліна Лосік, Герда Кабушка, М. Каранеўскі, Ганна Стома, Юры Стагановіч; рэвізійная камісія: Васіль Стома, Надзея Хмялеўская, Ізяслава Кабушка.

16 і да канца месяца — праходзілі ў беларускіх асяродках урачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі, прыняцьцямі і жалобнымі сходамі ў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр (усюды двойчы);
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

23 — удзел ЗБМА ў восеньскім фэстывалі модаў зь беларускімі песьнямі і танцамі ў Нью Ёрку.

23 — высьвячэньне на сьвятара ў Грэцкай калегіі Аляксандра Надсана ў Рыме.

23 — беларускамоўныя радыёперадачы са станцыі *CBC* ў Таронта.

23 — даклад Алеся Грыцука ў Таронта пра жыцьцё і дзейнасьць Кастуся Каліноўскага.

24 — удзел беларускай калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Сыднэі.

26—29 — побыт Станіслава Станкевіча ў Кліўлэндзе.

27.XI—2.XII — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

### Сьнежань

8 — пачатак штодзённых беларускамоўных радыёперадачаў на Беларусь на Гішпанскім дзяржаўным радыё з Мадрыду, кіраўнік Віктар Сянкевіч.

## 1959 год

### Студзень

8 — даклад Антона Адамовіча „40 год беларускай літаратуры ў БССР“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

9 — перасяліўся ў ЗША з Гішпаніі беларускі грамадзкі дзеяч, на той час сьвятар–кальвіністы Ўладыслаў Рыжы–Рыскі.

10 — сход БАА ў Сыднэі. Управа: Міхась Зуй, Грыгор Алехнік, а. Усевалад Родзевіч; рэвізійная камісія: С. Нафрановіч, А. Юнкевіч, Д. Ладуцька.

10—26 — візыт а. Робэрта дэ Кавэлярта ў ЗША і Канаду.

11 — створана Арганізацыя Беларускай Моладзі ў штаце Ілінойс (АБМІ). Управа: Л. Сідаровіч, Вера Жызьнеўская–Рамук, М. Кучура.

14—23 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

17 — канцэрт беларускіх сьпевакоў Надзеі Градэ і Станіслава Віціка пад акампанэмэнт кампазытара Міколы Куліковіча ў Чыкага.

23 — удзел гуртка самадзейнасьці БНА (кір. Валянціна Пашкевіч) у Міжнародным канцэрце–балі ў Таронта.

23 — III сход праваслаўнага прыходу ў Манчэстэры. Управа: С. Гуліцкі, Уладзімер Басяцкі, М. Шыш, М. Чаховіч, С. Дубіна.

24 — X зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Генрык Барановіч, Кастусь Акула, Мікола Арцюх, Антося Рачыцкая; рэвізійная камісія: Раіса Жук–Грышкевіч, Мечыслаў Рачыцкі, Л. Б.; сяброўскі суд: Аўген Протас, Алесь Грыцук, Б. Я.

25 — юбілейная вечарына, ладжаная Ўправаю ЗБК у Таронта.

25 — культурна–асьветны вечар з рэфэратам д–ра Янкі Станкевіча, ладжаны Беларуска–Амэрыканскім Зьвязам у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

27 — прыняцьцё ў гонар а. Робэрта дэ Кавэлярта ў Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне ладзілі гадунцы Лювэну.

31 — рэфэрат д–ра Вітаўта Тумаша „Беларушчына ў польскім слоўніку“, ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

У студзені выйшаў № 1 квартальнага часапісу беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы „Беларуская моладзь“; рэд. Янка Запруднік (Нью Ёрк).

### Люты

1 — інтэрвію а. Робэрта дэ Кавэлярта ньюёрскай радыёстанцыі пра візыт беларусаў.

8 — створаны аддзел ЗБК у Лёндане (Канада). Управа: Мікола Шуст, Віктар Іваноўскі, Антон Лемішэўскі, Арсен Монід, М. Дзямчук, М. Бубновіч.

14 — рэфэрат Францішка Кушаля „Ўсходнія межы Вялікага Княства Літоўскага“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

15 — сход таронцкага аддзелу ЗБК. Управа: Н. Сільвановіч, Міхась Кулеш, Ян Мышкоўскі.

15 — культурна–асьветніцкі вечар з дакладам д–ра Міколы Шчорса ладзіў Беларуска–Амэрыканскі Зьвяз у Саўт Рывэры.

18—21 — беларускі стэнд на ўнівэрсытэцкім фэстывалі ў Лёндане; кіраўніца Вера Рыч.
22 — правакацыйныя матар'ялы ў друку „Бацькаўшчыны“ (Мюнхэн).
27 — удзел групы Камітэту Вольнай Беларусі ў антыкамуністычным вечы ў Таронта: Сяргей Хмара–Сіняк, В. Троска.
28 — рэфэрат Міколы Гарошкі „Лясная гаспадарка Беларусі“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

**Сакавік**
1 — удзел беларускага гуртка „Васілёк“ пад кіраўніцтвам Алы Орсы ў Міжнародным фэстывалі Рады Народнага Мастацтва ў Нью Ёрку.
1 — банкет вернікаў прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці на фонд пабудовы царквы ў Кліўлэндзе.
5 — „Жывая газэта“, ладжаная самадзейнасьцю СБАМ у Саўт Рывэры.
7 — карнавальная вечарына, ладжаная СБАМ у Саўт Рывэры.
8 — радыёперадача, прысьвечаная ўгодкам сьмерці Кастуся Каліноўскага з прамовамі Міхася Казьлякоўскага, д–ра Міколы Шчорса, Янкі Запрудніка.
13 — нарада беларускіх настаўнікаў у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне даручыла камісіі апрацаваць беларускія падручнікі: лемантар — Міхась Тулейка, Філарэт Родзька, Кастусь Вадэйка; чытанкі — Міхась Міцкевіч, Язэп Гладкі, Натальля Орса, Марыя Станкевіч; геаграфіі Беларусі — Вітаўт Кіпель, Ала Орса, Кастусь Вадэйка.
15 і да канца месяца — праходзілі ўрачыстасьці абвешчаньня незалежнай БНР з багаслужбамі, прыняцьцямі і акадэміямі ў:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр (двойчы: ЗБВБ і БВР);
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Брысбэн;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас, Пасэйк;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо;
— Швэцыя: Стакгольм.
22 — сакавіковая радыёперадача а. Францішка Чарняўскага на радыёстанцыі ў Бостане (Нью Ёрк).
22 — культурна–асьветны вечар з рэфэратамі Леаніда Галяка аб праве ў Вялікім Княстве Літоўскім ладзіў Беларуска–Амэрыканскі Зьвяз у Нью Ёрку.
24 і 25 — сакавіковыя радыёперадачы з Чыкага.
24 і 29 сакавіковыя радыёперадачы зь Вініпэгу.
25 — Беларускі дзень абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Мічыган, Мэрылэнд і мэры гарадоў: Нью Ёрку, Чыкага, Пасэйку, Нью Брансьвіку, Саўт Рывэру, Чыкага, Кліўлэнду з падняцьцем на мачты перад ратушамі бел–чырвона–белых сьцягоў, і таксама ў Таронта.
25 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Кангрэсе і Сэнаце ЗША ў Вашынгтоне.
25 — у Сэнаце і Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне з прамовамі за незалежную Беларусь выступіла некалькі сэнатараў і кангрэсмэнаў.
25 — інфармацыю пра Акт 25 сакавіка па–нямецку і зварот да суродзічаў па–беларуску перадаў Зьміцер Касмовіч па нямецкім радыё.
28 — пачаў штомесячныя радыёперадачы ў Чыкага па–беларуску Нікадым Жызьнеўскі.
28 і 3.IV — айцы Ўладзімер Тарасэвіч і Францішак Чарняўскі спрабавалі ўтварыць у ЗША беларускія каталіцкія парафіі.

**Красавік**
4—5 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у студэнцкай канфэрэнцыі Калюмбійскага ўнівэрсытэту Нью Ёрку супраць маскоўскага каляніялізму.
5 — сход вернікаў БАПЦ у Белым доме ў Кліўлэндзе. Управа: Мікалай Гумен, Мікалай Кабяка, Вінцэнт Сьпічонак, Мікола Ягоўдзік, Гэля Радзюк, Міхал Страпко — царкоўны стараста, Кастусь Калоша — адміністратар дому, Андрэй Стрэчань, Сяргей Карніловіч; рэвізійная камісія: Аўген Кахаяоўскі (Калубовіч), Аўген Семянчук, Уладзімер Літвінка.
12 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Вінцэнт Сьпічонак, Аўген Кабяка, Вольга Лукашэвіч, Астап Яраховіч, Кастусь Калоша; рэвізійная камісія: Мікалай Кабяка, Мікола Ягоўдзік, Тацьцяна Кананчук.
12 — удзел беларускай дэлегацыі ў Міжнароднай Асацыяцыі Хрысьціянскіх Работнікаў–Уцекачоў і Эмігрантаў у Парыжы.
15 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Кастусь Калоша, К. Стрэчань, Сяргей Карніловіч, Валя Ягоўдзік, Ірэна Каляда; рэвізійная камісія: Мікола Мітраховіч, Лёля Міхальчык, М. Яраховіч.
24 — удзел беларускай дэлегацыі ў дыскусійным вечары „Будучыня Ўсходняй Эўропы“, ладжаным Мадзярскім Грамадзкім Цэнтрам у Нью Ёрку.

24—25 — даклад Антона Адамовіча на II канфэрэнцыі „Нацыянальнае самавызначэньне...“, ладжанай Інстытутам Этнічных Студыяў Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту ў Вашынгтоне.
25 — аб’яднаная беларуская калёна пад нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці на 5–й авэню ў Нью Ёрку.
26 — даклад у Таронта Кастуся Акулы „Беларускія збройныя аддзелы ў часе II сусьветнай вайны“.
29 — Мэмарыял эміґранцкіх прадстаўнікоў канфэрэнцыі міністраў замежных справаў заходніх дзяржаваў у Жэнэве, падпісаны і беларускімі ўпаўнаважанымі прадстаўнікамі.

**Травень**
3 — удзел самадзейнага мастацкага гуртка ЗБМА ў Міжнародным мастацкім фэстывалі ў Кліўлэндзе.
6 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Юрка Гасьцееў, А. Каспэровіч, д–р Станіслаў Грынкевіч, Сяргей Карніловіч, Міхал Страпко; рэвізійная камісія: Мікалай Кабяка, Мікалай Гумен, Уладзімер Дунец.
10 — перавыбары ў Беларускім Акадэмічным Таварыстве ў Нью Ёрку: Васіль Русак, А. Несьцяровіч, Юрка Станкевіч.
11 — I гадавы сход вернікаў царквы Сьв. Пётры і Паўла (БАПЦ) у Мэльбурне.
15 — удзел самадзейнага гуртка ЗБМА (кір. Ала Орса–Рамана) у Міжнародным вясновым фэстывалі Рады Народных Мастацтваў у Нью Ёрку.
16 — аддзел ЗБК у Таронта купіў будынак для царквы і грамадзкага цэнтру.
17 — XIII зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: А. Шацько, а. Часлаў Сіповіч, Янка Сяўковіч, Павал Навара, М. Булыга, Уладзімер Бутрымовіч.
17 — прамова прэзыдэнта Рады БНР на зьезьдзе ЗБВБ у Лёндане.
17 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку. Управа: Пётра Кажура, Янка Дубяга, Галіна Русак, Янка Азарка.
22 — рэфэрат Уладзімера Кабушкі „Друкарства на Беларусі і Францішак Скарына“ ў Нью Брансьвіку.
22 — вечар беларускай музыкі і песьні, ладжаны ЗБК ва Ўкраінскім клюбе ў Таронта.
23 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у канфэрэнцыі выдаўцоў іншамоўнай прэсы ў Нью Ёрку.
24 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Сяргей Гутырчык, Часлаў Ханяўка, Марыя Войтанка, Янка Азарка, М. Януш; рэвізійная камісія: Філарэт Родзька, Васіль Русак, Янка Дубяга і 11 дэлегатаў на кангрэс БАЗА.
27—30 — IV пленум Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) у Мюнхэне; старшыня Мікола Абрамчык.
30—31 — VIII кангрэс БАЗА ў Брукліне. Галоўная Ўправа: Кастусь Мярляк, Францішак Бартуль, Васіль Пляскач, Натальля Арсеньнева, Пётр Ганэцкі, Васіль Шчэцька, Ніна Стома; жаночая сэкцыя: Марыя Станкевіч, Кацярына Чэрнік, Вера Бартуль, I. Юхнавец.

**Чэрвень**
7 — нарада Беларуска–Амэрыканскага Акадэмічнага Таварыства ў Нью Ёрку.
9 — урачыстасьць высьвячэньня першага каменя падмурку будовы беларускай праваслаўнай царквы Жыровіцкае Божае Маці (БАПЦ) у Кліўлэндзе.
13 — сход жаночай сэкцыі ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Зоф‘я Дубяга, Марыя Ханяўка, Л. Гутырчык.
13 — заканчэньне заняткаў у бруклінскай нядзельнай школе (18 вучняў).
14 — удзел самадзейнага гуртка ЗБМА ў папулярным паказе тэлебачаньня.
14 — беларускія калёны ў маніфэстацыі ўшанаваньня ахвяраў маскоўскай тыраніі па 5–й авэню ў Нью Ёрку.
15 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Язэп Пазьняк, Аляксандар Міцкевіч, Міхась Тулейка, Мікола Кунцэвіч, Даніла Клінцэвіч, Зіна Станкевіч.
20 — заканчэньне школьнага году ў беларускай школе ў Нью Брансьвіку.
21 — царкоўны фэст Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку служыў яп. Васіль (Тамашчык) са сьвятарамі Сьцяпанам (Войтанкам) і Хведарам (Данілюком).
21 — высьвячэньне беларускага могільніку ў Нью Брансьвіку.
27 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ў Сыднэі; кіраўнік Міхась Зуй.
28 — удзел беларусаў у праграме тэлебачаньня „Рапсоды“ (песьні і танцы) станцыі *CBC* у Таронта.
29 — дактарат а. Міхася Маскаліка „Народны элемэнт у творчасьці Янкі Купалы“ ў Мюнхэнскім унівэрсытэце.

**Ліпень**
4—5 — спартовыя спаборніцтвы беларускіх дружынаў „Нёман“, „Пагоня“ і „Беларусь“ у Саўт Рывэры.
11 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ў Мэльбурне.
13 — вернікі прыходу Сьв. Юрага ў Чыкага набылі будынак для ўласнае царквы.
17 — Тыдзень паняволеных народаў і ўдзел беларускіх калёнаў з нацыянальнымі сьцягамі ў паходзе па 5–й авэню ў Нью Ёрку.

19 — XII сход АБРФ у Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, Аўген Кавалеўскі, Валянцін Міцкевіч, а. Канстанцін Маскалік, Мікола Лысуха.
21 — памёр грамадзкі дзеяч, радны БНР Уладзімер Кабушка ў Нью Брансьвіку.
23—26 — удзел беларускай дэлегацыі ў IX кангрэсе „Царква ў бядзе“ з рэфэратам пра Беларусь а. Уладзіслава Салаўя і высьвячэньнем сьцягу беларускай арганізацыі ў Нотынгеме.
24—25 — удзел беларусаў у XI навуковай канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, а. Часлаў Сіповіч, Алесь Марговіч.
29—30 — канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) у Мюнхэне; старшыня Мікола Абрамчык.
30 — а. Міхась Маскалік атрымаў ступень доктара за купалаўскую працу ў Мюнхэне.

**Жнівень**
3 — дэлегацыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) у Вашынгтоне: д–р С. Вітвіцкі, Кастусь Мярляк, Базыль Глазкоў.
11 — публічны канцэрт сьпявачкі Надзеі Градэ ў Гумбальт Парку ў Чыкага.
16 — пілігрымку беларусаў у манастыр Сьв. Пракопа ладзіў прыход царквы Сьв. Юрага ў Чыкага (150 удзельнікаў).
16 — рэфэрат Уладзімера Клішэвіча ў Лос Анджэласе пра жыцьцё і творчасьць Якуба Коласа.
23 — удзел беларускага гуртка „Васілёк“ (кір. Ала Орса–Рамана) у сьвяткаваньні 350–годзьдзя Нью Ёрку ў Цэнтральным парку зь беларускімі песьнямі і танцамі.
28 — удзел ЗБВ з уласным нацыянальным сьцягам ува Ўсходнеканадыйскім вайсковым парадзе ў Таронта.
29.VIII—7.IX — Беларускі культурна–рэлігійны тыдзень у Чыкага з багаслужбамі, рэфэратам праф. а. Яна Тарасэвіча „Беларусы ў сьвятле праўды“, дакладамі Вацлава Пануцэвіча, д–ра Баляслава Грабінскага, д–ра Анатоля Занковіча, Часлава Будзькі, д–ра Пятра Гайдзеля, д–ра Вітаўта Рамука, інфармацыяй Антона Адамовіча і канцэртам беларускай песьні.

**Верасень**
5 — VII зьезд Беларуска–Амэрыканскага Акадэмічнага Таварыства ў Нью Брансьвіку. Управа: Васіль Русак, Юрка Станкевіч, А. Кароль, Людміла Войтанка, А. Несьцяровіч; рэвізійная камісія: д–р Уладзімер Набагез, Аўген Кудасаў, Вячка Станкевіч.
5—6 — VIII зьезд ЗБМА. Управа: Вячка Станкевіч, Віктар Паланевіч, А. Акановіч, Ніна Каваль, Аўген Лысюк; рэвізійная камісія: Васіль Мельяновіч, Юрка Станкевіч, Поля Груцька ў Саўт Рывэры.
5—7 — зьезд прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Саўт Рывэры.
17 — удзел беларусаў у супрацьмаскоўскай дэманстрацыі вечарам перад гатэлем „Асторыя“, дзе адбывалася прыняцьцё Хрушчова ў Нью Ёрку.
18 — удзел беларусаў у супрацьмаскоўскай дэманстрацыі перад будынкам ААН у Нью Ёрку.
20 — удзел у мітынгу паняволеных Масквою народаў у Карнэгі Хол „Мы адказваем Хрушчову“ ў Нью Ёрку.
20 — удзел беларусаў у міжнароднай дэманстрацыі супраць маскоўскай небясьпекі ў Кліўлэндзе.
20 — удзел беларусаў у мітынгу пратэсту супраць прыезду Хрушчова ў Таронта.
20 — царкоўны фэст першых угодкаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.
26 — паказ самадзейным гуртком ЗБМА беларускіх песьняў і танцаў па тэлевізіі са станцыі ў Кліўлэндзе.

**Кастрычнік**
4 — рэфэрат д–ра Янкі Станкевіча пра жыцьцёвыя абставіны беларусаў у штаце Мэн ладзіў Беларуска–Амэрыканскі Зьвяз у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
5 — выбары беларускіх прадстаўнікоў да Ўправы Лігі Супрацы Этнічных Групаў Канады ў Таронта: Сяргей Хмара і Язэп Баброўскі.
7 — інфармацыя Станіслава Станкевіча пра Беларусь празь перадачу Баварскае радыёстанцыі ў Мюнхэне.
10 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Аўген Лысюк, А. Каваль, Слава Целеш, Оля Мельяновіч, Вячка Станкевіч.
10—11 — беларускі стэнд на міжнароднай выставе „Інтэрнацыянальныя дні“ ў Лос Анджэласе.
25 — вярнуўся ў Рым (высланы адтуль у 1932 годзе на каталіцкую місію ў Харбін) пасьля бальшавіцкіх лягераў у Сібіры а. Язэп Германовіч, беларускі рэлігійна–грамадзкі дзеяч і ведамы пісьменьнік.

**Лістапад**
2 — памёр ў Нью Ёрку працаўнік асьветы і грамадзкі дзеяч, радны БНР Аляксандар Орса.
2—8 — беларускі стэнд на Міжнароднай жаночай выставе ў Нью Ёрку.
3 — паказ самадзейнага гуртка ЗБМА на Міжнароднай жаночай выставе ў Нью Ёрку.
3 — II сход Арганізацыі Беларускай Моладзі штату Ілінойс (АБМІ) у Чыкага. Управа: Лявон Сідаровіч, Вера Рамук, М. Кучура, З. Мірановіч, А. Пікуза.
7 — удзел беларускай калёны ў антыбальшавіцкім мітынгу і маніфэстацыі ў Мэльбурне.

9—17 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.
14 — рэфэрат д–ра Янкі Станкевіча „Русіфікацыя Беларусі“ ладзіў Беларуска–Амэрыканскі Зьвяз у Нью Ёрку.
15 — сход Беларуска–Амэрыканскага Зьвязу ў Саўт Рывэры. Управа: д–р Мікола Шчорс, д–р Янка Станкевіч, д–р Пётр Маркоўскі, Янка Цупрык, Аляксей Сянкевіч, Міхась Бахар, Вітаўт Кіпель, Юрка Станкевіч.
21—22 — высьвячэньне царквы Сьв. Кірылы Тураўскага і будынку Грамадзкага Цэнтру ў Таронта.
23 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у Балі народаў, ладжаным Сусьветнай Унівэрсытэцкай Службай у Мюнхэне: Галіна Ганчарэнка, Уладзімер Цьвірка і Юрка Сянькоўскі.
29 — выбарны сход царкоўнага камітэту ў Чыкага: д–р Анатоль Занковіч, Ян Чарнецкі, Вацлаў Пануцэвіч, М. Кучура, М. Жызьнеўскі; рэвізійная камісія: Антон Бяленіс, Міхась Махнач; жаночы камітэт: Вера Махнач, Сісой, Міхась Мароз, Людвіка Бяленіс, Вера Жызьнеўская–Рамук.
28 і на пачатку сьнежня — праходзілі сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых за волю Беларусі, прыняцьцямі і адпаведнымі акадэміямі ўва ўсіх асяродках, дзе пражываюць беларускія выгнанцы:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Нотынгем, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Брысбэн;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Садбуры;
— Нямеччына: Мюнхэн;
Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
Нарада прадстаўнікоў БККА і БАЗА аб каардынацыі дзейнасьці, скончылася безвынікова.

### Сьнежань

6 — рэфэрат д–ра Міколы Шчорса па розных мэдыцынскіх пытаньнях, ладжаны Беларуска–Амэрыканскім Зьвязам у Саўт Рывэры.
12 — сход саўтрывэрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Аліна Лысюк, Ганна Стома, Надзея Хмялеўская, Герда Кабушка, М. Каранеўская, Пётра Манькоўскі, Васіль Стома, Галіна Русак.
15 — візытацыя прыходу БАПЦ у Адэляідзе Ўладыкам Сергіем (Ахатэнкам).
20 — даклад д–ра Міколы Шчорса на вечары памяці братоў Івана і Антона Луцкевічаў ладзіў Беларуска–Амэрыканскі Зьвяз у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
22 — побыт япіскапа БАПЦ Васіля (Тамашчыка) і япіскапа РЗПЦ Апанаса (Мартаса) у Таронта.
27 — пачатак нядзельных беларускамоўных перадачаў І. Маркевіча са станцыі Таронта–Гамільтан.
У сьнежні саўтрывэрскі прыход царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай набыў прыдзел зямлі пад беларускія могілкі.

## 1960 год

### Студзень

2—30 — выстава беларускага друку ў Даглес Каледж у Нью Брансьвіку.
3 — сьвяткаваньне 10–годзьдзя БАПЦ праваслаўным прыходам у Мэльбурне.
24 — удзел у радыёканцэрце „Ўцекачы“, сьпявачка Барбара Вержбаловіч, акампанэмэнт акардэону Галіны Ганчарэнкі на радыёстанцыі ў Лёндане.
31 — сход БАНР у Чыкага. Управа: Васіль Пунтус, Д. Шрэфель, Мікола Латушкін, А. Новік, Глеб Калтуноўскі, Мікола Дзямідаў, К. Загонак, М. Шаткоўскі.
31 — радыёперадачы „Песьня Беларусі“ Антона Маркевіча з Таронта.

### Люты

1—6 — зьезд беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Рыме з дамаганьнем каталіцкае ярархіі: аа. Леў Гарошка, Пётра Татарыновіч, Уладзіслаў Салавей, Часлаў Сіповіч, Янка Садоўскі, Язэп Германовіч, Міхась Маскалік, Канстанцін Маскалік, Аляксандар Надсан, Баляслаў Слосканс.
4 — сьв. імша за беларускі народ у базыліцы Санта Марыя Маджыоры кардынала Аўгустына Бэа ў Ватыкане.
6 — аўдыенцыя ў Сьв. Папы Яна XXIII з даручэньнем Мэмарыялу.
13 — БІНіМ стварыў камісію ў Нью Ёрку для падрыхтоўкі і выданьня беларуска–ангельскага і ангельска–беларускага слоўнікаў: Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Вітаўт Кіпель.
26 — інфармацыю пра Беларусь (фатаздымкі і беларускія песьні) па–ангельску ладзіў ЗБАМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

**Сакавік**

12 — удзел Беларуска–Амэрыканскай Лігі і БККА ў Канфэрэнцыі вызваленьня нерасейскіх народаў, ладжанай амэрыканцамі ў Нью Ёрку

12 — вечар, прысьвечаны памяці несьмяротнага Кастуся Каліноўскага, ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

19 — сход лёнданскага (Канада) аддзелу ЗБК. Управа: Арсен Монід, Віктар Іваноўскі, Лявон Жураўскі; рэвізійная камісія: Мікола Шуст, Л. Крывец, М. Дэмчук.

19 — паказы гуртком самадзейнасьці ЗБМА беларускіх песьняў і танцаў на „Базары“ жаночых арганізацыяў у Кліўлэндзе.

20 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе; царкоўны камітэт: Мікалай Гумен, Мікалай Кабяка, Вінцэнт Сьпічонак, Аўген Семянчук, Кацярына Чэрнік; рэвізійная камісія: Уладзімер Літвінка, Мікола Ягоўдзік, Сяргей Карніловіч, Кастусь Кіслы, Янка Лукашэвіч, Міхал Страпко — царкоўны стараста, Ю. Каляда — адміністратар дому.

20 — сакавіковая радыёперадача „Песьня Беларусі“ з Таронта.

20 і да канца месяца — праходзілі ўрачыстасьці Дня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі ды акадэміямі па ўсіх асяродках эміграцыі:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Адэляіда, Мэльбурн, Сыднэй;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Патэрсан;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Лёндан, Садбуры, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў: Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Мічыган, Ілінойс, Пэнсыльванія і мэрамі гарадоў: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Патэрсан з падняцьцем беларускіх нацыянальных сьцягоў перад ратушамі гарадоў.

25 — сакавіковыя радыёперадачы з радыёстанцыяў Нью Ёрку, Чыкага і Таронта.

26 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша на сэсіі амэрыканскае сэкцыі Міжнароднай Вольнай Акадэміі Навук у Нью Ёрку аб маскоўскім тэроры ў Беларусі

28 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША за незалежнасьць Беларусі ў Вашынгтоне.

У сакавіку выйшаў № 1 „Бюлетэня Ін–Бел–Полу“ (беларусаведы); рэд. а. Ян Пятроўскі (Патэрсан, Нью Джэрзі).

**Красавік**

1 — выстава „Беларускія выданьні лацінкай“ у Ньюёрскай публічнай бібліятэцы.

5 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Зьмена нацыянальнага складу жыхарства БССР“, ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

10 — з Францыі ў Чыкага пераехаў беларускі япіскап Уладзімер (Фінькоўскі).

20 — канцэрт беларускай песьні і танцу мастацкай самадзейнасьці БНА (кір. Валянціна Пашкевіч) па запросінах Інтэрнацыянальнага Інстытуту ў Таронта.

24 — прыбыцьцё прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў ЗША і банкет, ладжаны ў яго гонар у Саўт Рывэры.

25 — паказ п’есы Янкі Купалы „Паўлінка“ самадзейнасьцю СБАМ пад кір. Янкі Цупрыка ў Саўт Рывэры.

30 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку.

Выдадзены „Кангрэс рэкардс“ з прамовамі амэрыканскіх сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША, прысьвечанымі Дню незалежнай Беларусі, выдадзена ў дзяржаўнай друкарні Вашынгтону.

**Травень**

1 — рэфэрат Часлава Будзькі „Нацыянальнае пытаньне перад паўстаньнем 1863 году“ на сходзе БАНР у Чыкага.

8 — удзел гуртка самадзейнасьці ЗБМА ў ІІ Міжнародным фэстывалі народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

9 — уручаныя Мэмарыялы Лігі Вызваленьня Народаў СССР прэзыдэнтам ЗША, Францыі і прэм’ер–міністру Англіі.

13 — вечар беларускай песьні, зладжаны ўкраінскім клюбам „Кабзар“ у Таронта.

14 — радыёперадача з Чыкага літаратурна–музычнага мантажу, прысьвечаная памяці паэты Максіма Багдановіча.

16 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Юрка Гасьцееў, Уладзімер Дунец, В. Валюжковіч, А. Каспэровіч, Уладзімер Літвінка; рэвізійная камісія Вінцэнт Сьпічонак, В. Радзюк, Кацярына Чэрнік.

22 — угодкі сьмерці паэты Максіма Багдановіча ладзіў аддзел БАЗА ў Лос Анджэласе.

22 — дакладам прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка „Сучаснае палажэньне ў БССР“ пачалася IX сэсія Рады БНР у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
26.V—2.VI — побыт прэзыдэнта Міколы Абрамчыка ў Канадзе.
28—29 — епархіяльны зьезд духавенства і вернікаў БАПЦ (з Канады і ЗША) у Брукліне. Епархіяльная Ўправа: архіяпіскап Васіль (Тамашчык), Міхась Тулейка, Міхась Міцкевіч, Янка Ніхаёнак, М. Захаркевіч, Мікола Гарошка, Мікалай Тарашкевіч, С. Андрэйчык.

**Чэрвень**
2—6 — побыт прэзыдэнта Міколы Абрамчыка (банкет, нарады, даклады) у Чыкага.
4 — даклад Антона Адамовіча пра ліквідаваньне „нацдэмаў“ у БССР у 1930–я г. ладзіла БАЗА ў Нью Ёрку.
5 — XIV зьезд ЗБВБ у Лёндане. Галоўная Ўправа: Уладзімер Бутрымовіч, а. Аляксандар Надсан, Павал Навара, Пётр Асіповіч, А. Шацько, Тамаш Скапец; рэвізійная камісія: а. Леў Гарошка, Уладзімер Гінько, Аляксандар Лашук.
11 — заканчэньне заняткаў у беларускіх нядзельных школах у ЗША.
13 — XIII зьезд АБРФ у Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, Аўген Кавалеўскі, Мікола Лысуха.
18 — удзел АБМІ ў Міжнародным канцэрце фэстывалю ў Чыкага: Нікадым Жызьнеўскі, Марыя Лук’янчык, Уладзімер Дунец.
18 — угодкі II Усебеларускага кангрэсу ладзіла дэлегатура БЦР у Сыднэі.
24 — удзел беларускіх калёнаў з нацыянальнымі сьцягамі ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку, Чыкага, Кліўлэндзе.
26 — заканчэньне IX сэсіі Рады БНР у Нью Ёрку. Урад: прэзыдэнт Мікола Абрамчык, намесьнікі Антон Адамовіч, Аляксандар Стагановіч, міністар унутраных справаў Кастусь Мярляк, інфармацыі і прэсы Антон Шукелойць, скарбнік Віталь Кажан, суседзкіх дачыненьняў д–р Вітаўт Тумаш, Васіль Кендыш, Янка Запруднік, сакратар Натальля Арсеньнева.

**Ліпень**
1 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам у парадзе Дня дамініёну Канады ў Таронта.
2 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу адзначыў аддзел БВР у Манчэстэры.
4 — прамова прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага на мітынгу АБН у Таронта аб міжнародным становішчы.
8 — буляй Папы Яна XXIII з адмысловымі багаслужбамі айцец Часлаў Сіповіч паклікаецца на становішча біскупа з тытулам Марыямітанскага для працы сярод беларускай эміграцыі.
14 — дысэртацыя „Эканоміка Беларусі“ ў Лювэнскім унівэрсытэце Ўладзімера Бакуновіча, які здабыў тытул магістра.
16 — прамова прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага аб міжнароднай сытуацыі праз радыё ў Чыкага.
18 — удзел беларусаў у мітынгу Тыдня паняволеных народаў у Мюнхэне.
24 — даклад прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў царкоўнай залі ў Чыкага аб нашым сучасным становішчы.
28.VII—10.VIII — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.
31.VII—7.VIII — беларуская дэлегацыя на XXXVII сусьветным эўхарыстычным кангрэсе ў Мюнхэне.

**Жнівень**
4 — хіратонія айца д–ра Часлава Сіповіча ў біскупы грэка–каталіцкага абраду падчас Сусьветнага эўхарыстычнага кангрэсу ў Мюнхэне.
16 — канцэрт сьпявачкі Надзеі Градэ–Куліковіч у Гумбальт Парку на запросіны гарадзкога самаўраду Чыкага.
20 — аўдыенцыя Ўладыкі Часлава Сіповіча ў Папы Яна XXIII у Ватыкане.
21 — урачыстае адзначэньне 10–годзьдзя БАПЦ у царкве Жыровіцкае Божае Маці а. Андрэем (Крытам) у Брэдфардзе.
21—28 — удзел беларускага гісторыка Паўла Урбана ў міжнародным кангрэсе гісторыкаў у Стакгольме.
24 — канцэрт беларускай сьпявачкі Надзеі Градэ ў Аўстын парку ў Чыкага.
27.VIII—2.IX — побыт Станіслава Станкевіча ў Чыкага.
28 — даклад Станіслава Станкевіча ў Чыкага аб русіфікацыі Беларусі.

**Верасень**
3 — першая багаслужба яп. Васіля (Тамашчыка) у новазбудаванай царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе.
3—4 — IX зьезд ЗБМА ў Кліўлэндзе. Управа: Уладзімер Дунец, А. Несьцяровіч, Лёля Міхальчык, Вячка Станкевіч, Сяргей Карніловіч, Марыя Лук’янчык; рэвізійная камісія: Павал Алекса, М. Яраховіч; сяброўскі суд: Міхась Казьлякоўскі, А. Каваль, Юрка Станкевіч.
3—5 — IV сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, арганізаваная БАЗА і ЗБК у Кліўлэндзе.

3—5 — зьезд беларусаў, арганізаваны БНК і БККА ў Таронта з удзелам прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, Эмануіла Ясюка, Яўхіма Кіпеля, Міколы Дзямідава, Міколы Латушкіна, Івана Касяка.

4 — нарада сяброў Фэдэрацыі Вольных Беларускіх Журналістых. Управа: Сяргей Хмара, Мікола Вольны (Панькоў), А. Рамаш, Васіль Вір, В. Троска, Т. Хайнацкая ў Таронта.

6—10 — побыт Станіслава Станкевіча ў Таронта.

15 — Мэмарандум Ураду БНР дэлегацыям–удзельнікам сэсіі ААН у Парыжы супраць бальшавіцкага паняволеньня і гвалту ў Беларусі.

16 — даклад інж. Янкі Жыткі на канфэрэнцыі Амэрыканскага Хімічнага Таварыства ў Нью Ёрку.

17 — удзел у супрацьхрушчоўскай маніфэстацыі перад будынкам савецкай місіі ў Нью Ёрку.

17 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Кастусь Калоша, Мікола Стрэчань, М. Граховіч, Лёля Міхальчык, Уладзімер Літвінка.

18 — удзел у агульнай антыхрушчоўскай дэманстрацыі перад сядзібай ААН у Нью Ёрку.

19 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі нацыянальных арганізацыяў у Вашынгтоне: Кастусь Мярляк, Іван Касяк. [...]

22 — супрацьмаскоўская дэманстрацыя беларускіх арганізацыяў перад будынкам місіі БССР у Нью Ёрку.

22 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе Тыдня паняволеных народаў у Мэльбурне.

24 — пачатак заняткаў у беларускіх нядзельных школах у ЗША.

24 — рэфэрат Станіслава Станкевіча ў Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне пра дзейнасьць Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні ладзіла Беларуска–Амэрыканскае Акадэмічнае Таварыства.

25 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Мікола Абрамчык (мал.), Аляксандар Міцкевіч, Васіль Шчэцька, Даніла Клінцэвіч, Янка Запруднік.

30.IX—2.X — беларускі стэнд на выставе друку часапісу „La nation georgienne“ (са сталай беларускай балонкай) у Парыжы.

30 — сход лосанджэласкага аддзелу БАЗА. Управа: Язэп Арцюх, Каця Вініцкая, Фаня Канановіч.

## Кастрычнік

3—6 — беларуская дэлегацыя на X кангрэсе „Царква ў бядзе“ ў Мюнхэне: яп. Часлаў Сіповіч, а. Уладзіслаў Салавей, а. Аляксандар Надсан, Францішак Бартуль, Язэп Пазьняк.

7 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Васіль Мельяновіч, Кастусь Верабей, Міхась Казьлякоўскі, Павал Алекса, Уладзімер Тарашкевіч; рэвізійная камісія: Б. Яновіч, Мікола Заморскі, А. Акановіч.

8—9 — беларускі стэнд на выставе Міжнародных дзён у Лос Анджэласе.

15 — нарада з прадстаўнікамі Рэспубліканскай і Дэмакратычнай партыяў ЗША ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

16 — сход Беларуска–Амэрыканскай Дапамогі. Управа: Антон Шукелойць, Ніна Стома, Галіна Орса, Аўген Протас, Уладзімер Курыла.

22 — XVI пленум БЦР у Саўт Рывэры.

27—29 — удзел беларускіх дасьледчыкаў у XII канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне.

27.X—2.XI — IX канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) у Мюнхэне.

29 — пачатак заняткаў у беларускай нядзельнай школе ў Брукліне.

30 — сьвяткаваньне 10–годзьдзя існаваньня БАЗА ў Саўт Рывэры і Кліўлэндзе.

30 — айцец Леў Гарошка прызначаны духоўнымі ўладамі рэктарам каталіцкае місіі і супэрыёрам Дому марыянаў у Лёндане.

31 — даклад Антона Адамовіча пра жыцьцё беларусаў у ЗША на сустрэчы зь беларускай калёніяй у Мюнхэне.

У кастрычніку ў Саўт Рывэры выйшаў № 1 часапісу „Беларуская думка“; рэд. Антон Даніловіч; рэдакцыя: Леанід Галяк, Антон Даніловіч, Міхась Кавыль, Іван Касяк, а. Мікалай Лапіцкі, д–р Мікола Шчорс.

## Лістапад

2 — сьвяткаваньне 10–годзьдзя сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне.

5 — удзел беларусаў у маніфэстацыях Свабоды ў Мэльбурне.

6 — высьвячэньне помніка грамадзкаму і дзяржаўнаму дзеячу Аляксандру Орсу на беларускім могільніку ў Нью Брансьвіку.

11 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу СБАМ. Управа: Герда Кабушка, Юры Стагановіч, Ганна Стома, Надзея Хмялеўская і Ганна Кажура.

12—13 — беларускі стэнд на Міжнародным кірмашы сьвяткаваньня „Дажынак“ у Чыкага.

16 — спатканьне прыбылага ў Нью Ёрк доўгагадовага вязьня сібірскіх канцэнтрацыйных лягераў айца Язэпа Германовіча.

18 — беларуская дэлегацыя на II міжнародным кангрэсе ў Рыме аб палітыцы псыхалягічнай вайны СССР.

19 — справаздача Антона Адамовіча з падарожжа па Эўропе і з канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне, а таксама вітаньне а. Язэпа Германовіча ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

20 — высьвячэньне помніка на магіле беларускага кампазытара і грамадзкага дзеяча Міколы Равенскага ў Лювэне.

20 — зьезд сяброў ЗБВ у Нью Ёрку. Управа: Уладзімер Курыла, Янка Запруднік, д–р Уладзімер Набагез, Аўген Лысюк, Вячка Станкевіч; рэвізійная камісія: Даніла Клінцэвіч, Францішак Бартуль, Мікола Кунцэвіч; статутная камісія: Францішак Кушаль, Пётр Ганэцкі, Юрка Станкевіч.

20 і да канца месяца — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ў беларускіх асяродках з паніхідамі па палеглых змагарох ды мастацкімі праграмамі:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем, Лідс;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда, Брысбэн;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Садбуры, Лёндан;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

27 — сход манрэальскага аддзелу ЗБК. Управа: д–р Янка Жытка, Анатоль Хрэноўскі, Уладзімер Белмач.

**Сьнежань**

1—3 — удзел беларускай дэлегацыі ў міжнароднай канфэрэнцыі „Палітычная вайна саветаў“ у Парыжы.

10 — 40–годзьдзе сьвятарства і грамадзкай працы а. Францішка Чарняўскага ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры.

17 — 40–годзьдзе літаратурнай дзейнасьці паэткі Натальлі Арсеньневай ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне; рэфэрат пра жыцьцё і дзейнасьць зрабіў д–р Вітаўт Тумаш.

17 — вечар успамінаў сьвятара і грамадзкага дзеяча, доўгагадовага бальшавіцкага катаржаніна айца Язэпа Германовіча ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

18 — сход сяброў СБАМ у Саўт Рывэры. Управа: Грыгоры Арцюшэнка, Лявон Шурак, І. Калтуновіч, Віталь Цярпіцкі, Вольга Лапека, Люба Ўрыская, Васіль Талмачэвіч, Сяргей Касьцюк, Т. Барысевіч, Міхась Бахар; рэвізійная камісія: Уладзімер Валаткевіч, Сяргей Казакоў, Станіслаў Дашкевіч.

20 — аўдыенцыя Ўладыкі Часлава Сіповіча ў Папы Яна XXIII у Ватыкане.

25—26 — Епархіяльны зьезд духавенства і вернікаў БАПЦ у Мэльбурне: Уладыка Сергій (Ахатэнка), а. Міхась Шчурко, дыякан Васіль ды дэлегаты прыхаджанаў: Уладзімер Акавіты, В. Станкевіч, Парфіры Трысмакаў, архім. Мадэст (Яцкевіч), Грыгор Шэйпак, Мікола Скабей, Мікола Нікан, В. Мілянцэвіч, Уладзімер Аксючыц.

## 1961 год

**Студзень**

15 — канцэрт беларускай песьні сьпевака Міколы Радчанкі ў Таронта.

21 — даклад Антона Адамовіча „Савецкая канцэпцыя нацыі“ ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

28 — сход сяброў БАА ў Сыднэі: Міхась Зуй, Мікола Ціхан.

28—29 — зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Мікола Ганько, Алесь Грыцук, Генрык Барановіч, Антон Маркевіч, Павал Кулеш, Ніна Чорная, Н. Сільвановіч; рэвізійная камісія: Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Язэп Чорны, Лявон Жураўскі.

29 — Беларуская багаслужба для сяброў БВФ япскапа Часлава Сіповіча ў асысьце аа. Лява Гарошкі і Аляксандра Надсана ў Нотынгеме.

**Люты**

5 — з Брэдфарду (Англія) прыбыў Андрэй (Крыт), сьвятар БАПЦ для служэньня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе.

5 — удзел беларускага сьпевака Міколы Радчанкі ў Міжнародным канцэрце ў Таронта.

12 — удзел гуртка самадзейнасьці ЗБАМ у Міжнародным фэстывалі народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

26 — рэфэрат ген. Францішка Кушаля „300–годзьдзе Магілёўскага паўстаньня“ ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

**Сакавік**

4 — рэфэрат д–ра Вітаўта Тумаша пра жыцьцё і навуковую дзейнасьць моваведа Яўхіма Карскага ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

13 — прыняцьцё прадстаўнікоў этнічных групаў у Прагрэсіўна–кансэрватыўнай партыі Канады з мастацкай праграмай у Таронта.

18 — вечар успамінаў айца Язэпа Германовіча (псэўд. Вінцук Адважны) з часоў побыту ў канцэнтрацыйных лягерах СССР у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

19 — удзел гуртка самадзейнасьці ЗБАМ зь песьнямі і танцамі ў базары, ладжаным жанчынамі ў Кліўлэндзе.

21 і пазьней — у Кангрэсе ЗША выступалі з прамовамі сэнатары і кангрэсмэны за незалежнасьць Беларусі.

22 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША (яп. Васіль (Тамашчык) і Кастусь Мярляк) і прыём іх віцэ–прэзыдэнтам ЗША Лінданам Джонсанам.

24 — прывітаньне беларусам з нацыянальным сьвятам (па–ангельску) міс Эдыт Гайдэр праз радыёстанцыю Канады.

25 — губэрнатары штатаў абвесьцілі Дзень незалежнай Беларусі ў штатах Нью Ёрк, Ілінойс, Нью Джэрзі, Агаё, Мэрылэнд, Мічыган.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны мэрамі гарадоў Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Нью Арк, Пасэйк, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Дэтройт.

25 — у касьцёлах багаслужбы за беларускі народ біскупа Баляслава Слосканса і а. Міхася Маскаліка ў Гановэры і Госьляры (Нямеччына).

25—26 — урачыста адзначаліся ўгодкі Дня абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў краінах расьсяленьня беларускіх выгнанцаў з багаслужбамі, урачыстымі сходамі з мастацкімі праграмамі і прыняцьцямі гасьцей:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Пэрт, Брысбэн;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас, Дэтройт;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн, Госьляр;
— Францыя: Парыж.

25 — прадстаўнікі беларусаў на канфэрэнцыі па эміграцыі ў Канаду (Міхась Пашкевіч, А. Маркоўскі) у Таронта.

29 — удзел беларусаў з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе Дня ляяльнасьці ў Нью Ёрку і Саўт Рывэры.

**Красавік**

15 — на канфэрэнцыі Лігі Супрацы Этнічных Меншасьцяў у Таронта прадстаўніком беларусаў выбраны Сяргей Хмара.

16 — сход прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Царкоўны камітэт: а. Андрэй (Крыт), Юрка Гасьцееў, Васіль Семянчук, Уладзімер Дунец, А. Каспэровіч, Ірэна Каляда.

23 — мастацкі вечар самадзейнасьці СБАМ, супольны са швэдамі і эстонцамі, пры Радзе Народнага Мастацтва ў Нью Ёрку.

23 — сход прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Управа: Кастусь Акула, Андрэй Зайка, Кірыла Брокінг.

30 — паказ п’есы Янкі Купалы „Паўлінка“ гуртком мастацкай самадзейнасьці ў Дэтройце.

**Травень**

6 — выстава беларускага народнага мастацтва і друку, ладзіў аддзел БАЗА ў Кліўлэндзе.

7 — паказ п’есы Янкі Купалы „Паўлінка“ гуртком мастацкай самадзейнасьці з Дэтройту ў Чыкага.

14 — 30–годзьдзе паэтычнай працы Міхася Кавыля адзначыў ЗБАДК банкетам у Саўт Рывэры.

20 — даклад інж. Міколы Гарошкі „Водная гаспадарка Беларусі“ ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

20 — памёр Язэп Гапановіч, грамадзкі дзеяч і адзін з арганізатараў беларускай калёніі ў Варшаве (Польшча).

21 — XV зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Уладзімер Бутрымовіч, Пётр Асіповіч, Павал Навара, А. Шацько, а. Леў Гарошка, Тамаш Скапец, Аляксандар Лашук; рэвізійная камісія: а. Ян Садоўскі, Станіслаў Мак, Міхась Яськевіч.

21 — паказ п’есы Янкі Купалы дэтройцкай самадзейнасьцю ў Таронта.

21—31 — пабыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

22 — удзел гуртка самадзейнасьці Алы Орсы–Раманы ўва Ўсеамэрыканскім фэстывалі Таварыства Народнага Мастацтва Амэрыкі ў Вашынгтоне.

27—28 — IX кангрэс БАЗА ў Брукліне. Галоўная Ўправа: Кастусь Мярляк, Францішак Бартуль, Васіль Пляскач, Васіль Шчэцька, Пётр Ганэцкі, Натальля Арсеньнева, Ніна Стома; жаночая сэкцыя: Вера Бартуль, Кацярына Чэрнік, Я. Несьцяровіч, Галіна Орса, Марыя Станкевіч, Вольга Запруднік, Яніна Каханоўская.

У траўні быў Мэмарыял беларускіх арганізацыяў да дзяржаўнага сакратара ЗША ў справе польскіх прэтэнзіяў на беларускія землі ў Вашынгтоне.

Выйшаў № 1 „Беларускага каталіка“; рэд. Уладыслаў Рыжы–Рыскі (Прынстан, Нью Джэрзі).

**Чэрвень**

1 — беларуская калёна з нацыянальным бел–чырвона–белым сьцягам на парадзе падчас Дня дамініёну ў Таронта.

1 — хіратонія кс. д–ра Ўладыслава Рыжага–Рыскага ў біскупы для беларусаў–каталікоў у Прынстане (ЗША).
3 — разгляд беларусікі ў англамоўных энцыкляпэдыях праводзілі супрацоўнікі БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
11 — XIV зьезд сяброў АБРФ у Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, Валянцін Міцкевіч, Аўген Кавалеўскі, Мікола Лысуха.
17 — рэфэрат д–ра Янкі Запрудніка „Расейская філязофія гісторыі“ ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
24 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА ў Брукліне. Управа: Даніла Клінцэвіч, Аляксандар Міцкевіч, Яніна Каханоўская, Расьціслаў Гарошка, Вячка Станкевіч, Міхась Тулейка, Натальля Орса; рэвізійная камісія: Антон Шукелойць, Міхась Казьлякоўскі, Уладзімер Курыла.
24 — арганізацыйны сход у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне па набыцьці беларускага цэнтру адпачынку выбраў камітэт: Васіль Юрцэвіч, Уладзімер Пялеса, Юрка Станкевіч.
24 — даклад Антона Адамовіча „Палітыка савецкага рэжыму да нацыянальных рэспублікаў“ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
24 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ладзіў БВФ у Сыднэі.
25 — даклад Юркі Станкевіча „Згуртаваньне Беларускай Моладзі“ ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
25 — перавыбарчы сход сяброў ХАБР у Лёндане (пакінуў стары склад Управы).
27 — прадстаўнікі беларусаў на прыняцьці ў Мусульманскім цэнтры ў Карнэгі Холе ў Нью Ёрку (д–р Вітаўт Тумаш, Кастусь Мярляк).
28 — прыбылі ў ЗША з Эўропы Яго Эксцэленцыя япіскап Часлаў Сіповіч і пралат д–р Пётра Татарыновіч.

## Ліпень
1 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Сыднэі.
1—4 — ЗБМА і СБАМ ладзілі супольны сяброўскі выезд у Кесткільскія горы.
1—5 — тыдзень культурна–рэлігійных студыяў з удзелам яп. Часлава Сіповіча, а. д–ра Пётры Татарыновіча, Антона Адамовіча ладзіла БАКА „Рунь“ у Чыкага.
2 — сход беларусаў Мэльбурну выбраў Каардынацыйны Камітэт дляладжаньня сьвяткаваньняў і вонкавага прадстаўніцтва.
5 — сход аддзелу ХАБР у Манчэстэры. Управа: М. Чэховіч, С. Дубіна, А. Занко, М. Пратасэвіч, Я. Жывулька.
5 — загінуў у аўтакатастрофе ў Чыкага былы ваяка дывізіі „Беларусь“ інж. хіміі Пётра Вярбіцкі.
9 — паніхіда па загубленых бальшавікамі нацдэмах у саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (яп. Васіль (Тамашчык) і а. Мікалай Лапіцкі).
16—22 — удзел беларускіх групаў у мітынгах Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку, Чыкага і інш.
23 — багаслужба для беларусаў–каталікоў Уладыкі Часлава Сіповіча і а. Язэпа Германовіча ў Нью Ёрку.
23 — удзел беларусаў у маніфэстацыях Волі Тыдня паняволеных народаў у Таронта.
25—28 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у XIII навуковай канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне.
27 — разьвітальны вечар з ад’яжджаючымі ў Эўропу Ўладыкам Чаславам Сіповічам і пралатам Пётрам Татарыновічам у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

## Жнівень
3—6 — удзел беларускай дэлегацыі ў XI кангрэсе „Царква ў бядзе“ ў Кёнігштайне (Нямеччына).
4 — даклад Антона Адамовіча „Беларусь у атамную эпоху“ ў мюнхэнскай філіі БІНіМ.
4—5 — зьезд беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Кёнігштайне.
27 — у г. Кан у Францыі скончыў жыцьцё самагубствам беларускі пісьменьнік Усевалад Краўчанка, каб пазьбегнуць перасьледу пасьля вяртаньня ў БССР.

## Верасень
2—3 — зьезд беларусаў ЗША і Канады, ладжаны БАЗА і ЗБК у Чыкага.
2—3 — X зьезд сяброў ЗБМА на фарме Анатоля Александровіча ў Кесткільскіх горах. Управа: Вячка Станкевіч, Павал Алекса, Юрка Станкевіч, Аліна Лосік, А. Каваль; рэвізійная камісія: А. Несьцяровіч, Кастусь Верабей, Ніна Каваль; сяброўскі суд: Кастусь Калоша, Уладзімер Дунец, Ірэна Каляда.
3 — багаслужбы для дэлегатаў зьезду ЗБМА адслужылі а. Андрэй (Крыт) і а. Францішак Чарняўскі.
3 — высьвячэньне і адчыненьне інтэрнату для хлапцоў беларускай школы Сьв. Кірылы Тураўскага пры Місіі марыянаў у Лёндане.
11 — царкоўны фэст і 10–годзьдзе парафіі царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку.
15 — даклад Антона Адамовіча пра канфэрэнцыю аб савецкім каляніялізьме ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

16 — сход сяброў ХАБР у Лёндане. Управа: Барыс Суравы, Аркадзь Варава, Уладзімер Грамяка, Юрка Весялкоўскі, Павал Бударкевіч, Аляксандар Жданковіч, Аляксандар Малаха, Міхась Сенька.
25 — Мэмарандум Галоўнай Управы БАЗА кіраўнікам арганізацыяў краінаў на XVI асамблеі ААН у Нью Ёрку.

**Кастрычнік**
3—7 — беларускі стэнд на Нацыянальнай канадыйскай этнічнай выставе ў Таронта.
7 — пачаліся заняткі ў беларускай школе пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку.
7—8 — беларускі стэнд на выставе Міжнародных дзён у Лос Анджэласе.
28 — рэфэрат Францішка Кушаля „Польская палітыка ў 1919—1920 гадох“ ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
28—29 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Мэльбурне.
29 — „Базар“ Беларускага Жаночага Камітэту працаваў у „Беларускай хатцы“ ў Кліўлэндзе.
29 — сход у Лёндане праваслаўных беларусаў Польскай Аўтакефальнай Царквы. Парафіяльны камітэт: а. П. Вятка, Мікалай Гаховіч, Аркадзь Варава, Аляксандар Жданковіч, П. Будкевіч.
Выбраны бацькоўскі камітэт беларускай школы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане: Аляксандар Жданковіч, М. Залога, Янка Сяўковіч; упаўнаважаныя ад Галоўнай Управы ЗБВБ Аляксандар Лашук, ад ХАБР Юрка Весялкоўскі.

**Лістапад**
8—13 — выстава беларускага друку ў Публічнай бібліятэцы ў Таронта.
11—12 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБМА. Управа: Аўген Лысюк, М. Каранеўскі, Аліна Лосік, Ганна Стома, Ганна Кажура; рэвізійная камісія: Ізяслава Кабушка, Надзея Хмялеўская, Павал Кулеша.
18—22 — удзел беларускай дэлегацыі ў працы Міжнароднага кангрэсу супраць маскоўскай небясьпекі ў Рыме.
19 — сход прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Царкоўны камітэт: Ян Казьлякоўскі, Міхась Тулейка, Барыс Данілюк, Аляксандар Міцкевіч, Васіль Юрцэвіч, Пятро Мельяновіч.
26 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох, адпаведнымі праграмамі і прыняцьцямі гасьцей:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Дэтройт, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Лёндан;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
У лістападзе:
адноўлена выданьне „Беларуса“ ў Нью Ёрку, рэд. Лявон Савёнак;
выйшаў № 1 „Беларускага праваслаўнага часапісу“; рэд. Вацлаў Пануцэвіч (Чыкага).

**Сьнежань**
3 — паседжаньне сэктару Рады БНР у Брукліне.
3 — нарада слоўнікавай сэкцыі БІНіМ па працы ўкладаньня беларуска–ангельскага і ангельска–беларускага слоўнікаў у Брукліне.
10 — ушанаваньне 40–годзьдзя сьвятарскае і беларускае грамадзкае працы а. Францішка Чарняўскага ў Брукліне.
16 — прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі пераехаў на сталае жыцьцё ў ЗША з Англіі.
17 — сьвяткаваньне 40–х угодкаў паэтычнай дзейнасьці Натальлі Арсеньневай ладзіў БІНіМ у Брукліне.
23 — VIII зьезд БААТ у Нью Ёрку. Управа: Юрка Станкевіч, д–р Уладзімер Набагез, Васіль Русак, Галіна Орса, Расьціслаў Гарошка.
23 — памёр у Чыкага прыяцель беларусаў абат Амброз Леў Ондрак.
24 — а. Язэп Германовіч адправіў сьвятую імшу для беларусаў–каталікоў зь Нью Ёрку ў Нью Брансьвіку.
25 — вечар успамінаў а. Язэпа Германовіча, ладзіў БІНіМ у Брукліне.
31 — сустрэча Новага году беларускім грамадзтвам у Брукліне.

## 1962 год

**Студзень**

10 — прыбыў у ЗША прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.

15 — на прыняцьці Лібэральнае партыі Канады ўдзельнічалі дэлегаты беларусаў Антон Маркевіч і Язэп Пітушка ў Таронта.

27—28 — XIII зьезд ЗБК ў Таронта. Управа: Віктар Касьцюкевіч, Алесь Грыцук, Мікола Ганько, Генрык Барановіч, Антон Маркевіч, Ніна Чорная, Павал Кулеш; рэвізійная камісія: Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Лявон Жураўскі, Язэп Чорны.

**Люты**

2 — памёр у Гамільтане (Канада) вайсковец і грамадзкі дзеяч Тодар Пагуда.

4 — рэфэрат а. Язэпа Германовіча ў Культурна–Рэлігійным Цэнтры ў Чыкага аб прабегу Ватыканскага Сабору.

4 — сход дэтройцкага аддзелу БАЗА. Управа: Юрка Мазура, Мікола Арцюх, М. Кумейша; рэвізійная камісія: Васіль Пляскач, Язэп Сажыч, С. Татарыновіч.

12 — сход сяброў АБАМСІ ў Чыкага. Управа: Нікадым Жызьнеўскі, В. Драбушэвіч, Вітаўт Рамук, А. Сідаровіч; рэвізійная камісія: А. Захаркевіч, А. Качура, Лявон Сідаровіч.

13 — рэфэрат Антона Адамовіча „Да пабудовы гісторыі беларускай літаратуры“ ладзіў БІНіМ у Брукліне.

15 — выбраны новы склад Ураду Рады БНР: ген. Францішак Кушаль, Васіль Кендыш, Янка Запруднік і Віталь Кажан.

17 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА: Даніла Клінцэвіч, А. Несьцяровіч, Яніна Каханоўская, Расьціслаў Гарошка, Міхась Тулейка, Міхась Міцкевіч і Ала Орса–Рамана.

25 — удзел гуртка самадзейнасьці ЗБМА ў XIII фэстывалі фальклёрнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

**Сакавік**

2—5 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Чыкага.

4 — сход прыхажанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Царкоўная рада: А. Шостак, Астап Яраховіч, Уладзімер Літвінка, Мікола Ягоўдзік, В. Ваковіч, Анатоль Лук’янчык, Лёля Міхальчык, Мікола Пэнда — стараста, Я. Яраховіч; рэвізійная камісія: П. Мельнік, Аўген Семянчук, Мікалай Кабяка.

10 — зборка сяброў БІНіМ, прысьвечаная дакладу д–ра Вітаўта Тумаша „Скарыніяна“ ў Нью Ёрку.

17 — пачаліся заняткі ў беларускай школе Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане, настаўнік Аляксандар Жданковіч.

23 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне і аўдыенцыя беларускай дэлегацыі ў віцэ–прэзыдэнта ЗША Ліндана Джонсана.

23 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежнасьць Беларусі.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў: Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Мічыган, Мэрылэнд, Пэнсыльванія.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны мэрамі гарадоў ЗША з падняцьцем бел–чырвона–белага сьцягу на мачты перад ратушамі Нью Ёрку, Чыкага, Кліўлэнду, Саўт Рывэру, Нью Брансьвіку, Дэтройту, Лос Анджэласу, Пасэйку...

25 — урачыстыя сьвяткаваньні Дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі праходзілі ў вялікшых аселях беларускіх выгнанцаў у краінах сьвету:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт, Брысбэн;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Дэтройт, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Садбуры;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

25 — урачыстае набажэнства 20–годзьдзя царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта.

**Красавік**

8 — вызначана кіраўніцтва Рады БНР у ЗША: д–р Уладзімер Набагез, Янка Запруднік, Антон Шукелойць (40 радных).

14 — аўтарскі вечар пісьменьніка Кастуся Акулы ладзіў таронцкі аддзел ЗБК.

15 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Кастусь Калоша, Мікола Стрэчань, С. Каранеўскі, Ірэна Каляда, Мікола Ягоўдзік; рэвізійная камісія: Мікалай Мітраховіч, Лёля Міхальчык, Мікалай Яраховіч.

16 — удзел ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБМА ў Фэстывалі Народнага мастацтва ў Нью Ёрку.

28 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў Парадзе ляяльнасьці па 5–й авэню Нью Ёрку.

30 — прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык зацьвердзіў Урад Рады БНР на выгнаньні ў складзе: ген. Францішак Кушаль, Васіль Кендыш, Янка Запруднік, Віталь Кажан.

**Травень**

1 — рэфэрат Антона Адамовіча „Беларускі нацыянал–камунізм у сваёй першай фармацыі — Алесь Чарвякоў“ ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

3—13 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Нямеччыне.

6 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Юрка Гасьцееў, А. Каспэровіч, д–р Станіслаў Грынкевіч, Сяргей Карніловіч, Міхал Страпко; рэвізійная камісія: Мікалай Кабяка, Мікалай Гумен, Уладзімер Дунец.

13 — парафіяльнае сьвята, спалучанае з Днём маці ў саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне.

14—15 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Бэльгіі.

16—24 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Англіі.

19 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Лёндане па запрашэньні Польскай Нацыянальнай Рады „Беларускі вызвольны рух на сучасным этапе“.

26 — памёр у Пэорыі (штат Ілінойс) Сьцяпан Жызьнеўскі, грамадзкі працаўнік.

**Чэрвень**

8 — закончаныя заняткі ў беларускай школе пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку з добрымі посьпехамі вучняў і задавальненьнем бацькоў.

9 — вечар, прысьвечаны ўгодкам Янкі Купалы.

15—16 — XVI зьезд ЗБВБ у Лёндане. Галоўная Ўправа: Уладзімер Бутрымовіч, а. Аляксандар Надсан, Павал Навара, Аляксандар Лашук, Б. Тур; рэвізійная камісія: а. Леў Гарошка, Пётр Асіповіч, Тамаш Скапец. Управа лёнданскага аддзелу ЗБВБ: а. Леў Гарошка, А. Шацько, Янка Сяўковіч. Управа брэдфардзкага аддзелу ЗБВБ: Павал Паўловіч, Станіслаў Мак, Янка Міхалюк.

16 — рэфэрат Антона Адамовіча „Ад першае да другое фармацыі беларускага нацыянал–камунізму (Літ–Бел да БССР)“ ладзіў БІНіМ у Брукліне.

16 — сход манчэстэрскага аддзелу ЗБВБ. Управа: Міхась Яськевіч, Уладзімер Гінько, а. Ян Абабурка.

17 — урачыстасьці з нагоды дня заснаваньня беларускай царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага.

17 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе па 5–й авэню Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку.

28 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ладзіў БВФ у Сыднэі.

**Ліпень**

7 — X канфэрэнцыя Парыскага Блёку Амэрыканскага Камітэту ў Мюнхэне; кіраўніцтва: інж. Мікола Абрамчык, Кантэмір, Цынцадзэ. (Беларускія ўдзельнікі: а. Аўген Смаршчок, Уладзімер Бортнік, Юрка Сяньkoўскі, Уладзімер Цьвірка.)

15 — удзел беларусаў з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе Тыдня паняволеных народаў у Чыкага.

15—21 — прэзыдэнт ЗША Джон Кенэдзі абвясьціў Тыдзень паняволеных народаў.

У ліпені быў адчынены беларускі стэнд на выставе „World Press News“ у Лёндане.

**Жнівень**

18 — калёна беларускіх вэтэранаў з нацыянальным сьцягам у парадзе Дня жаўнера ў Таронта.

28 — памёр Сымон Камар, грамадзкі дзеяч, ваяк, былы канцлягернік, сябра Ўправы ЗБА ў Буэнас Айрэсе.

29 — удзел прадстаўніцтва БАА ў Міжнародным дыпляматычным балі ў Сыднэі.

**Верасень**

1—2 — прамова прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага на зьезьдзе прадстаўнікоў беларускіх апазыцыйных арганізацыяў у Кліўлэндзе.

1—3 —V сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі, арганізаваная БАЗА і ЗБК у Таронта.

2 — нарада прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў моладзі ў Таронта.

3—7 — удзел беларускай дэлегацыі ў міжнародным паломніцтве эмігрантаў у Рым.

8—10 — лекцыі д–ра Аўгена Вярбіцкага ў Чыкага з паказам здымкаў (слайдаў) жыцьця ў СССР падчас ягонага падарожжа.

11 — пачатак заняткаў у беларускай школе–інтэрнаце Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.

16 — пачатак заняткаў у беларускіх школах пры цэрквах у ЗША.

22 — паказ п’есы Каруся Каганца „Мікітаў лапаць“ самадзейнасьцю ЗБМА ў Кліўлэндзе.

30.IX—28.X — выстава абразоў беларускага мастака Віктара Жаўняровіча, ладжаная БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

**Кастрычнік**

1 — мэмарандум беларускіх арганізацыяў удзельнікам сэсіі ААН у Нью Ёрку аб рабаваньні Масквою прыродных багацьцяў Беларусі.

6 — вечар, прысьвечаны 20–й гадавіне сьмерці Янкі Купалы, ладзіў ЗБВБ у Лёндане.

7 — сход удзельнікаў карпарацыі па куплі маёмасьці для беларускага цэнтру адпачынку ў Саўт Рывэры.

11 — удзел беларускай дэлегацыі ў Сусьветным Эўхарыстычным Саборы ў Ватыкане: біскуп Баляславу Слосканс, біскуп Чаславу Сіповіч, а. Пётра Татарыновіч, а. Уладзіславу Салавей, Чаславу Кукель, Юрка Сянькоўскі.

13—14 — беларускі стэнд і выступы самадзейнасьці на міжнародных фэстах у Лос Анджэласе і Чыкага.

20—21 — беларуская дэлегацыя на II зьезьдзе Цэнтральнага Задзіночаньня Чужанецкіх Уцекачоў у Бад Нідэрбрэйзігу на Рэйне (Нямеччына).

21 — даклад д–ра Янкі Запрудніка „Сучаснае становішча Беларусі“, ладжаны БІНіМ у Брукліне.

27.X—4.XI — удзел беларускай дэлегацыі ў працы Міжнароднай антыкамуністычнай канфэрэнцыі на Мальце; прадст. Зьміцер Касмовіч.

29 — беларускі стэнд на Міжнародным жаночым базары ў Кліўлэндзе.

**Лістапад**

1 — даклад а. Аляксандра Надсана і выстава беларускага друку ў Міжнародным клюбе ў Стыванаджы (Англія).

5—6 — удзел беларускай дэлегацыі ў XIV канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, а. Леў Гарошка, Юры Сянькоўскі, Уладзімер Сядура.

10—11 — беларускі стэнд на выставе і ўдзел беларускага гуртка самадзейнасьці ў Міжнародным фэстывалі ў Чыкага.

15—19 — беларускі стэнд на выставе эміграцкай прэсы ў Боне.

16 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБМА. Управа: М. Каранеўскі, Аўген Лысюк, Васіль Стома.

18 — урачыстасьць 80–годзьдзя з дня нараджэньня Янкі Купалы ладзілі БІНіМ і БАЗА ў Нью Ёрку.

18 — удзел у выставе і фэстывалі Рады Народнага Мастацтва самадзейнасьці ЗБМА ў Нью Ёрку.

20 — даклад паэткі Веры Рыч (па–ангельску) пра жыцьцё і творчасьць Янкі Купалы ў Бірмінгемскім унівэрсытэце (Англія).

24—25 — удзел беларускай дэлегацыі ў працах Кола Эўрапейскай Супрацы ў Штутгарце (Нямеччына).

25 і пазьней — урачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох і прынагоднымі праграмамі адбыліся ў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда, Брысбэн, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг, Лёндан;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

**Сьнежань**

1—2 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у працы канфэрэнцыі Міжнароднай Вольнай Акадэміі Навук і Літаратуры ў Парыжы.

Выйшлі кнігі:

а. Я. Германовіч. Кітай—Сібір—Масква: Успаміны. Мюнхэн, 1962;

Уладзімер Случчанскі (сапр. Шнэк). Драбы: Гістарычная аповесьць. Выд. „На варце“, Мэльбурн, 1962.

## 1963 год

**Студзень**

6 — сход парыскага аддзелу АБРФ. Управа: Міхась Наўмовіч, Аўген Кавалеўскі, Валянцін Міцкевіч, Мікола Лысуха.

13 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: А. Несьцяровіч, Міхась Казьлякоўскі, Галіна Яновіч, А. Дубовік, В. Гарошка.

18—25 — набажэнствы Тыдня хрысьціянскае еднасьці ў царкве Хрыста Збаўцы ў Чыкага.

19 — рэфэрат Вацлава Пануцэвіча пра дзейнасьць Сьв. Язафата ў Чыкага.

21 — рэфэрат а. Яна Тарасэвіча ў Чыкага аб Берасьцейскай уніі.

24 — рэфэрат а. Уладзімера Тарасэвіча ў Чыкага аб лацінскім і бізантыйскім абрадах.

У студзені аднавілася выданьне (на № 1/49) „Сьветача хрысьціянскай навукі“, першага беларускага эвангельскага часапісу, рэд. а. Ян Пятроўскі (Нью Джэрзі, ЗША)

**Люты**

7 — памерла ў Саўт Рывэры таленавітая беларуская мастачка Лідзія Каліноўская–Даніловіч.

9 — беларуская дэлегацыя на палітычным сходзе–банкеце ў гатэлі „Нью Ёркер“, ладжаным арганізацыяй Прыяцелі АБН, наладзіла кантакты з прадстаўнікамі–антыкамуністамі Кітаю і Паўднёвае Карэі.

10 — удзел самадзейнасьці ЗБМА ў Міжнародным фэстывалі Рады Народнага Мастацтва ў Кліўлэндзе.
20 — памёр у Вільні беларускі кампазытар Канстанцін Галкоўскі.
26—27 — зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Барыс Рагуля, Антон Маркевіч, Арсен Monід, Н. Сільвановіч, Валер Навіцкі, д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч. Управа таронцкага аддзелу ЗБК: Віктар Касьцюкевіч, Мікола Ганько, Мікола Шуст.

**Сакавік**
2 — памёр у Нью Ёрку Кастусь Вадэйка, грамадзкі працаўнік, настаўнік і вайскавік.
22 — сакавіковыя радыёперадачы станцыі „Нёман“ у Чыкага.
23 — сакавіковыя радыёперадачы станцыі *IB* у Нью Ёрку.
23—31 — праходзілі ўрачыстасьці Дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі за беларускі народ:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Пасэйк, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
25 — абвешчаны Днём незалежнай Беларусі губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Агаё, Нью Джэрзі, Мэрылэнд, Мічыган, Ілінойс і мэрамі ў гарадох Нью Ёрку, Чыкага, Кліўлэндзе, Саўт Рывэры, Нью Брансьвіку, Пасэйку, Лос Анджэласе з падняцьцем беларускіх нацыянальных сьцягоў перад гарадзкімі ратушамі.
25 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежную Беларусь і акупаваны беларускі народ.
25 — Дзень незалежнай Беларусі праведзены ў жэнэўскім каледжы штату Пэнсыльванія (ЗША) з казаньнем а. Уладыслава Рыжага–Рыскага.
31 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне і прыняцьцё беларускай дэлегацыі віцэ–прэзыдэнтам ЗША Лінданам Джонсанам (яп. Васіль (Тамашчык) і Міхась Казьлякоўскі).

**Красавік**
6 — даклад пра беларускі літаратурны рух на эміграцыі а. Уладыслава Рыжага–Рыскага на Канфэрэнцыі славістаў у Пітсбурскім унівэрсытэце.
7 — сход у Брукліне пайшчыкаў беларускага адпачынковага цэнтру Белэр–Менск, выбраныя Рада дырэктараў і рэвізійная камісія.
27 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе па 5–й авэню ў Нью Ёрку ў Дзень ляяльнасьці.
30 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі ў паходзе *Memorial Day* у Саўт Рывэры.

**Травень**
12 — Дзень маці ладзілі аддзелы ЗБМА Нью Ёрку, Нью Брансьвіку і Кліўлэнду ў Беларускім адпачынковым цэнтры Белэр–Менск.
18 — аўтарскі вечар Кастуся Акулы і дыскусія па ягонай аповесьці „Змагарныя дарогі“ ладзіла ЗБВ у Нью Ёрку.
19 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Даніла Клінцэвіч, А. Несьцяровіч, Васіль Стома, Яніна Каханоўская, Зіна Станкевіч; рэвізійная камісія: Васіль Юрцэвіч, Мікола Кунцэвіч, Міхась Казьлякоўскі.

**Чэрвень**
1—2 — X кангрэс БАЗА ў Брукліне. Галоўная Ўправа: Станіслаў Станкевіч, Міхась Тулейка, Вячка Станкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Францішак Бартуль, Антон Адамовіч, Мікола Гарошка, Мікола Кунцэвіч, Натальля Арсеньнева, Язэп Сажыч, Барыс Данілюк.
9 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Уладзімер Дунец, Уладзімер Страпко, Кастусь Калоша, Аўген Семянчук, Ірэна Каляда; рэвізійная камісія: Сяргей Карніловіч, Галіна Кананчук, М. Яраховіч.
15 — XVII зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Уладзімер Бутрымовіч, а. Аляксандар Надсан, Павал Навара, Пётр Асіповіч, Васіль Тур, А. Шацько; рэвізійная камісія: а. Леў Гарошка, Янка Сяўковіч, Ю. Якімец.
21 — удзел беларускай дэлегацыі (Вера Бартуль, Зора Кіпель (Савёнак), Ала Орса–Рамана) у сьвяткаваньні 75–годзьдзя Міжнароднае Рады Жанчын у Вашынгтоне.
22 — заканчэньне заняткаў у беларускіх прыцаркоўных школах у ЗША.
26.VI—18.VII — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе эміграцкай Прэсы ў Боне.
27 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ладзіў СБАМ у Саўт Рывэры.
29 — сьвяткаваньне 50–х угодкаў сьвятарства а. Язэпа Германовіча ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

**Ліпень**

4—7 — афіцыйнае адчыненьне беларускага адпачынковага цэнтру Белэр–Менск у Кесткільскіх горах паблізу Нью Ёрку.
12 — 70–годзьдзе ведамага грамадзкага дзеяча, публіцыста і ваяка Аляксандра Ружанца–Ружанцова (Алеся Смаленца) адзначылі сябры ў Чыкага, Нью Ёрку, Таронта.
13 — закончыўся школьны год у беларускай школе–інтэрнаце Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.
14 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў СССР у Нью Ёрку і Чыкага.
15 — памёр а. Мікалай Макарэвіч — настаяцель царквы ў Кліўлэндзе.
16—19 — удзел беларускіх працаўнікоў у XX канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне: Антон Адамовіч, яп. Часлаў Сіповіч, Уладзімер Цьвірка.

**Жнівень**
2 — Капітула айцоў марыянаў у Ватыкане выбірае біскупа Часлава Сіповіча генэралам Закону марыянаў на ўсім сьвеце.
2—6 — удзел беларускай дэлегацыі ў XIII кангрэсе „Царква ў бядзе“ ў Кёнігштайне (Нямеччына).
13 — у Руане (Францыя) памёр ведамы артыст, пісьменьнік і грамадзкі працаўнік Аўген Кавалеўскі.
24.VIII—10.IX — выстава, прысьвечаная 100–годзьдзю супрацьмаскоўскага паўстаньня 1863 году, ладжаная БІНіМ на селішчы Менск.
31.VIII—2.IX — XI зьезд ЗБМА на селішчы Менск. Управа: Міхась Казьлякоўскі, Аўген Лысюк, Ала Орса, Васіль Мельяновіч; рэвізійная камісія: А. Несьцяровіч, Ніна Каваль, Расьціслаў Гарошка; сяброўскі суд: Кастусь Калоша, М. Каранеўскі, Сяргей Карніловіч.
31 — IV кангрэс БККА у Саўт Рывэры. Управа: Міхась Бахар, Віталь Цярпіцкі, Лявон Шурак, Міхась Сенька (поўны склад Управы не пададзены).

**Верасень**
1 — зьезд беларусаў–прыхільнікаў БНА (Канада) і БККА (ЗША) у Саўт Рывэры прыняў вялікі Мэмарандум у справе каляніяльнай палітыкі Масквы ў акупаванай Беларусі, які выслалі ўсім удзельнікам XVIII Генэральнай асамблеі ААН у Нью Ёрку.
14—15 — беларускі стэнд на выставе „Дня новых грамадзянаў“, танцавальныя паказы гуртка самадзейнасьці ЗБМА ў гатэлі „Статлер“ у Кліўлэндзе.
16 — закладзіны новай арганізацыі „Беларуская самапомач“ у Ашаве (Канада).
28 — традыцыйнае сьвяткаваньне Дажынак ладзіла БАЗА ў Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
29 — Беларускае Жаночае Згуртаваньне ладзіла „Кірмаш“ у Кліўлэндзе.

**Кастрычнік**
5 — побыт Станіслава Станкевіча ў Кліўлэндзе і пачатак непаразуменьня паміж БАПЦ і БАЗА.
7 — памёр грамадзкі працаўнік і вайсковец капітан БКА Віктар Чабатарэвіч у Нью Ёрку.
11—13 — рукапалажэньне япіскапам Ніканорам (УАПЦ) у сьвятары Яна Абабуркі ў Шарлеруа (Бэльгія).
12 — пачатак заняткаў у беларускіх прыцаркоўных школах ЗША: Кліўлэнд — 50 вучняў, Чыкага — 40, Нью Ёрк — 23, Нью Брансьвік — 38, Саўт Рывэр — 40, настаўнікаў ад 2 да 5 у кожнай школе.
12—13 — беларускі стэнд на выставе і ўдзел у фэстывалі, ладжаным Міжнародным Інстытутам Народнага Мастацтва ў Лос Анджэласе.
16 — сьв. імша, адпраўленая біскупам Чаславам Сіповічам у асысьце аа. Уладзіслава Салаўя і Канстанціна Маскаліка ў саборы Сьв. Пятра падчас II Ватыканскага Сабору ў Рыме.
27 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБМА. Управа: Аліна Лысюк, М. Каранеўскі, Аўген Лысюк, Расьціслаў Войтанка, В. Лосік.
27 — сход Жаночага Згуртаваньня Нью Ёрку ў Брукліне. Управа: Аліна Курыла, Поля Клінцэвіч, Вольга Запруднік, Марыя Данілюк, Дар‘я Каваль, Вера Бартуль, Зіна Станкевіч.
У кастрычніку выйшаў № 1 органу Беларускага Актыву на Выгнаньні „Ўздым“; рэд. Мікалай Кабяка (Кліўлэнд).

**Лістапад**
2 — рэфэрат д–ра Вітаўта Тумаша на адчыненьні выставы, прысьвечанай жыцьцю і дзейнасьці Францішка Скарыны ў Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
7 — сход прыходу сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Управа: Язэп Казьлякоўскі — стараста, Барыс Данілюк, Аляксандар Міцкевіч, Васіль Захаркевіч, Міхась Тулейка, Васіль Юрцэвіч, Васіль Шчэцька, Даніла Клінцэвіч, Пятро Мельяновіч; дэлегаты на епархіяльны зьезд: Д. Ляўковіч і Кастусь Мярляк.
15—19 — беларускі стэнд на Выставе эміграцкай прэсы ў Боне.
16—17 — беларускі стэнд на Выставе мастацкай самадзейнасьці на Фэстывалі нацыянальнасьцяў у Чыкага.
23—24 — беларуская дэлегацыя на міжнародным кангрэсе Фэдэрацыі Хрысьціянскіх Работнікаў у Брусэлі.
24 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт, Саўт Рывэр, Пасэйк, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

28.XI—2.XII — тыдзень каталіцкіх рэлігійна–асьветных студыяў з дакладам Вацлава Пануцэвіча ў Чыкага; актыўныя ўдзельнікі: Антон Бяленіс, а. Ян Тарасэвіч, а. Уладзімер Тарасэвіч, Нікадым Жызьнеўскі, Вітаўт Рамук, Чаславу Будзька, Ванда Махнач, Валерыян Маеўскі, Мікола Дзямідаў.

30 — II епархіяльны зьезд духавенства і вернікаў БАПЦ у Брукліне. Епархіяльная Ўправа: архіяп. Васіль (Тамашчык), а. Сьцяпан Войтанка, а. Андрэй (Крыт), а. Мікалай (Мацукевіч), Уладзімер Бакуновіч, Віктар Войтанка, Клаўдзія Каляда, Кастусь Кіслы, Даніла Клінцэвіч, Міхась Міцкевіч, Пётра Манькоўскі, Аляксандар Стагановіч, Янка Ніхаёнак, Мікола Гарошка, Міхась Тулейка, Філарэт Родзька.

30 — даклад у Чыкага Вацлава Пануцэвіча „100–я ўгодкі паўстаньня 1863—64 гг. у Беларусі пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага“.

### Сьнежань

1 — урачыстасьці 100–годзьдзя паўстаньня 1863—64 гг. у Беларусі ў Сыднэі.

1 — паніхіда па палеглых змагарох за волю Беларусі ў царкве Еўфрасіньні Полацкай у Таронта.

7—8 — даклад прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка на XII канфэрэнцыі Міжнароднай Вольнай Акадэміі Навук і Літаратуры ў Парыжы.

8 — 100–годзьдзе паўстаньня 1863—64 гг. у Беларусі з паніхідаю па палеглых змагарох, ладжанае ЗБВ у Нью Ёрку.

15 — сход Амэрыканска–Беларускага Культурна–Дапамаговага Таварыства ў Кліўлэндзе. Управа: Г. Мікульчык, М. Яраховіч, В. Ламака, Анатоль Васілеўскі, Л. Антонік, Лазар, Матыліцкі; жаночы камітэт: Ганна Лазарыха, Марыя Мікуліч, Шымчык, Шавейка.

15 — 100–годзьдзе паўстаньня 1863—64 гг. у Беларусі з паніхідаю па палеглых змагарох, ладжанае ў Саўт Рывэры.

23 — 100–годзьдзе паўстаньня 1863—64 гг. у Беларусі з паніхідаю па палеглых змагарох, ладжанае ў Брэдфардзе (Англія).

24 — пастырскае пасланьне да Беларусаў Уладыкі Часлава (Сіповіча).

28 — высьвячэньне праваслаўнай царквы Сьв. Кірылы Тураўскага Ўладыкам Сергіем у Адэляідзе.

29 — высьвячэньне праваслаўнае царквы Сьв. Пятра і Паўла Ўладыкам Сергіем (Ахатэнкам) у Сыднэі.

## 1964 год

### Студзень

5 — сход АБРФ у Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, Лявон Шыманец, Мікола Лысуха, а. Канстанцін Маскалік.

6—7 — традыцыйны абыход хатаў беларусаў калядоўшчыкамі ў Кліўлэндзе.

11 — калядны вечар беларускай прыцаркоўнай школы з аднаактоўкай Алеся Змагара (Аляксандра Яцэвіча) „Каляды“ з удзелам хору ў Кліўлэндзе.

17 — удзел беларускага дэлегата Міхася Наўмовіча ў нарадзе прадстаўнікоў нацыянальных арганізацыяў камбатантаў Усходняй і Сярэдняй Эўропы ў Парыжы.

21 — Ватыкан прызначыў а. пралата Пётру Татарыновіча рэлігійным апекуном беларусаў–каталікоў.

### Люты

1—15 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.

2 — сход БАНР у Чыкага: новы старшыня Міхась Шастакоўскі, заступнік Васіль Пунтус.

8 — арганізацыйны сход і закладзіны аддзелу ЗБМА ў Дэтройце. Управа: Юрка Мазура, Пятрусь Пляскач, Таня Карповіч, Лена Сажыч.

9 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА, выбары прадстаўнікоў на Кангрэс.

9 — сход дэтройцкага аддзелу БАЗА. Управа: Мікола Прускі, д–р Лявон Трусэвіч, Мікола Арцюх, Барбара Сажыч.

9 — справаздачны сход карпарацыі „Белэр–Менск“ у Брукліне, перашуфлёўка дырэктараў.

13 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБМА. Управа: Багуслаў Станкевіч, А. Дубовік, В. Гарошка, Крыстына Юрцэвіч, Ларыса Клінцэвіч, А. Несьцяровіч; рэвізійная камісія: Павал Алекса, Надзя Мельяновіч.

15 — забава кліўлэндзкага Беларускага Жаночага Згуртаваньня пад гукі аркестра „Палесьсе“.

15 — вечар танцу і песьні пад кіраўніцтвам Алы Орсы–Рамана ў Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

15 — перавыбары царкоўнае рады царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Сяргей Карніловіч, Астап Яраховіч, Мікалай Гумен, Мікола Ягоўдзік, Анатоль Лук'янчык, Клаўдзія Каляда, В. Швэдзік, Мікола Пэнда — стараста; рэвізійная камісія: Аўген Семянчук, Уладзімер Літвінка, Уладзімер Дунец.

16 — закладзіны Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане: прэзыдэнт лёрд Гэрліх, віцэ–прэз. М. Макмілан, Часлаў Сіповіч, старшыня Абэрон Гэбэрт, віцэ–старшыня Станіслаў Савіцкі, скарбнік Пётр Асіповіч, сакратар Гай Пікарда; выдавец Ігнат Аўсей.

18 — даклад Станіслава Станкевіча і дыскусія з прамовай д–ра Станіслава Грынкевіча ў Кліўлэндзе (пачатак расколу ў БАПЦ).

23 — Уладыка Часлаў (Сіповіч) адправіў сьв. літургію на Выставе перасьледу ў Рыме з казаньнем аб перасьледзе беларусаў у СССР.

23 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБВ. Управа: Кастусь Мярляк, П. Каралевіч, Васіль Шчэцька, Васіль Мельяновіч.

29 — канцэрт са сцэнічнымі паказамі ладзіў СБАМ у Саўт Рывэры.

## Сакавік

1 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБВ. Управа: Сяргей Гутырчык, Л. Стагановіч, Алеся Корбут, Браніслаў Даніловіч, Уладзімер Машонскі; кантрольная камісія: Янка Азарка, Я. Бурачэўскі, Аўген Лысюк.

8 — дзіцячы карнавал вучняў беларускай школы ў Брukліне.

11 і 28 — прамова да суродзічаў на Бацькаўшчыне Ўладыкі Часлава (Сіповіча) праз радыё Ватыкану.

14 — выстава беларускага народнага мастацтва (агульнабеларуская) у Кліўлэндзкай гарадзкой бібліятэцы.

15 — перавыбарны сход прыхаджанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Царкоўная рада: Уладзімер Целеш, Барыс Кірка, Міхась Кулеш, Мікалай Алексяевіч, Янка Баран; рэвізійная камісія: Валер Навіцкі, Мікола Шуст, Мікола Ганько.

21 і да канца сакавіка — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі, прыняцьцямі і палітычна–мастацкімі праграмамі ў беларускіх скупінах:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Пасэйк;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Ашава, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн, Госьляр;
— Францыя: Парыж.

22 — выстава абразоў беларускага мастака Пётры Міарановіча ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брukліне.

25 — Дзень Незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі ў штатах Нью Ёрк, Ілінойс, Мічыган, Агаё, Пэнсыльванія, Нью Джэрзі, Каліфорнія; мэрамі гарадоў з падняцьцем бел–чырвона–белага сьцягу перад ратушамі Нью Ёрку, Чыкага, Саўт Рывэру, Лос Анджэласу, Нью Брансьвіку, Кліўлэнду, Дэтройту, Пасэйку.

25 — прамовы за волю Беларусі сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША.

26 — малітву за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне адслужылі яп. Васіль (Тамашчык) і а. Мікалай Лапіцкі.

26 — беларуская дэлегацыя (Станіслаў Станкевіч, Міхась Тулейка, Францішак Бартуль) наведала Сэнат ЗША ў справе беларускіх радыёперадачаў „Голасу Амэрыкі“.

## Красавік

5 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Царкоўная рада: М. Дуб, Ігнат Камінскі, Барыс Сладкоўскі, Л. Харавец; наглядная рада: Міхась Кухарчык, Міхась Жыбуль, В. Варанецкі.

12 — пасьпяховы ўдзел самадзейнасьці ЗБМА ў Міжнародным фэстывалі сярод 20 нацыянальных групаў у Кліўлэндзе.

19 — адчынены новы прыход БАПЦ у Мэльбурне.

26 — удзел беларусаў у супрацькамуністычным мітынгу, ладжаным АБН у Нотынгеме (Англія): Янка Бунчук.

.

## Травень

10 — урачыстасьць Дня маці зладжана самадзейнасьцю ЗБМА ў Кліўлэндзе.

15 — калёна беларускіх вэтэранаў са сваімі сьцягамі на парадзе Дня амэрыканскіх вэтэранаў у Нью Брансьвіку: кап. Сяргей Гутырчык.

16 — канцэрт–вечарына дэтройцкага аддзелу ЗБМА ў Дэтройце.

17 — паказ самадзейнага гуртка „Васілёк“ Алы Орсы–Рамана на Веснавым фэстывалі Сусьветнай выставы ў Нью Ёрку.

17 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Уладзімер Дунец, В. Валюкевіч, В. Радзюк, В. Кабяка, Уладзімер Літвінка; рэвізійная камісія: Кастусь Калоша, Янка Раковіч, К. Каспэровіч.

23 — выступ беларускай самадзейнасьці („Васілёк“ Алы Орсы ды Ірэны Каляды) у Дзень вэтэранаў на Сусьветнай выставе ў Нью Ёрку.

24 — беларускі стэнд і выступы самадзейнасьці на Этнічнай выставе, ладжанай горадам Кліўлэндам.

30 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБВ: І. Гасьцееў — камандзір, Васіль Падліпскі (Падлупскі), Кастусь Калоша.

30 — беларуская калёнія са сваім сьцягам на парадзе *Memorial Day* у Саўт Рывэры.

31 — адзначэньне ў Саўт Рывэры 20–х угодкаў пакліканьня БКА.

**Чэрвень**

4 — канцэрт–вечарына кліўлэндзкай самадзейнасьці ЗБМА ў Ракфардзе.

13 — заканчэньне заняткаў у кліўлэндзкай беларускай школе (11 выпускнікоў) зь вечарынай, ладжанай школьнай самадзейнасьцю.

14 — раскол у ньюёрскім аддзеле БАЗА:

— сход у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне (большасьць): Кастусь Мярляк, Даніла Клінцэвіч, Васіль Шчэцька, Аўген Нестар, А. Ляўковіч, Васіль Захаркевіч, Юрка Станкевіч, рэвізійная камісія: Янка Станкевіч, Пятро Мельяновіч, Васіль Юрцэвіч;

— сход на прыватным памяшканьні: Уладзімер Набагез, Антон Шукелойць, Расьціслаў Гарошка, Зіна Станкевіч, Вольга Запруднік, Барыс Данілюк, Станіслаў Станкевіч; рэвізійная камісія: Натальля Орса, Францішак Кушаль, Янка Ніхаёнак, Валянцін Міцкевіч.

20 — памёр у Мюнхэне Пётра Сыч, вэтэран, пісьменьнік, публіцысты, грамадзкі дзеяч.

21 — Беларускі дзень — фэстываль беларускай песьні, музыкі, танцу (120 выканаўцаў) на Сусьветнай выставе ў Нью Ёрку.

26 — XVIII зьезд ЗБВБ у Лёндане: Уладзімер Бутрымовіч, а. Аляксандар Надсан, Янка Міхалюк, Павал Навара, Пётр Асіповіч, Васіль Тур, А. Шацько; рэвізійная камісія: а. Леў Гарошка, Янка Сяўковіч, Я. Якімец; куратары: а. Леў Гарошка, Пётр Асіповіч, А. Шацько.

27 — малебен за Беларусь і беларускі народ з нагоды ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу адслужыў а. Павал Вялікі ў Лёндане.

27 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу з прамовяю прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў Лёндане.

28 — агульнае адзначэньне 20–годзьдзя сучаснае беларускае эміграцыі ў Лёндане (супольна ЗБВБ і ХАБР).

28 — сьвяткаваньне ўгодкаў II Усебеларускага Кангрэсу ў Мэльбурне.

**Ліпень**

1 — беларускі ўдзел у фэстывалі Дня незалежнасьці Канады ў Ашаве.

4—5 — Дзень беларускага жаўнера з парадам вэтэранаў і рапартам ген. Францішка Кушаля прэзыдэнту БЦР Радаславу Астроўскаму ў асысьце генэралаў Падлезьніка, Міколы Дзямідава, Язэпа Сажыча з пазьнейшымі прамовамі на банкеце з нагоды 20–х угодкаў БКА на Белэр–Менск.

11 — заканчэньне заняткаў у беларускай школе Сьв. Кірылы Тураўскага (дырэктар а. Язэп Германовіч) у Лёндане.

12 — адкрыцьцё Беларускага Юнацкага Клюбу ў Беларускім доме ў Брэдфардзе. Юнацкая Ўправа: Юля Мацкевіч, Ванда Бута, Ганя Лемяшонак; апекуны: настаўнік беларускай мовы Алесь Бута, Лёля Міхалюк, Станіслаў Мак, Янка Каўбаса.

13—14 — удзел у XVI канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне.

18 — зварот сяброў ньюёрскага аддзелу БАЗА да беларускай грамадзкасьці ў справе расколу шэрагаў сяброўства падпісалі: Кастусь Мярляк, Даніла Клінцэвіч, Васіль Захаркевіч, Васіль Шчэцька, А. Несьцяровіч, Юрка Станкевіч, Л. Ляўковіч ды інш.

**Жнівень**

3 — сьведчаньне кліўлэндзкага аддзелу Згуртаваньня Беларуска–Амэрыканскіх Вэтэранаў імя Кастуся Езавітава аб сваім няўдзеле ў Сустрэчы беларусаў ЗША і Канады ў Нью Брансьвіку.

9 — высьвячэньне будынку царквы БАПЦ у Нотынгеме: а. Ян Абабурка, сакратар царкоўнага камітэту Ўладзімер Капач.

9 — даклад прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ў Лёндане аб міжнародным палажэньні на зборы прыхільнікаў БЦР.

12 — выступы самадзейнасьці ЗБМА на Беларускім дні моладзі, ладжаным Школьнаю Ўправаю Нью Ёрку.

15 — удзел беларускай дэлегацыі на нарадзе аднаўленьня працы Антыкамуністычнага Інтэрнацыяналу ў Нью Ёрку: Кастусь Мярляк.

16 — сход прыходу царквы Сьв. Пятра і Паўла ў Адэляідзе: а. Міхась Шчурко, Мікалай Калесьнічэнка, Аляксандар Садоўскі, Фёдар Бэндыс, Язэп Дзівак, В. Шашкоў, Антон Яновіч, Уладзімер Фралоў, Уладзімер Калесьніковіч, Васіль Яновіч.

16 — сход праваслаўных беларусаў арганізуе свой прыход Сьв. Еўфрасіньні Полацкай (пры сэрбскай царкве) у Мэльбурне: а. Мадэст (Яцкевіч). Царкоўны камітэт: Юры Яцкевіч, Уладзімер Раманоўскі, Уладзімер Сідлярэвіч, Сяргей Розмысл, Давідовіч, Бабко, Ніна Сікорская, Данат Яцкевіч, Павал Касьпяровіч.

28 — створаная Беларуская сэкцыя Рэспубліканскае партыі ў Вашынгтоне: Кастусь Мярляк, Васіль Пляскач, Эмануіл Ясюк, Мікола Грэбень, Іван Канарчук, Аўген Вярбіцкі, Аўген Протас, Кастусь Калоша, Язэп Арцюх, В. Дуброўскі, Міхаіл Лазоўскі.

28.VIII—7.IX — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

30 — сход Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Кліўлэндзе: Клаўдзія Каляда, Ева Дунец, Ліда Каляда, Гэля Радзюк, Валя Ягоўдзік, Вераніка Мельнік; рэвізійная камісія: Тацьцяна Кананчук, Ядзя Раковіч, Каця Валюкевіч.

31.VIII—4.IX — беларуская дэлегацыя (20 асобаў) на XIV кангрэсе „Царква ў бядзе“ ў Кёнігштайне (Нямеччына).

**Верасень**

5—7 — VI сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Нью Брансьвіку.

6 — сход брэдфардзкага аддзелу ЗБВБ: Янка Каўбаса, Станіслаў Мак, Янка Міхалюк, Алесь Бута — кіраўнік Юнацкага Клюбу і школы.

15 — памёр Людвіг Зарэчны (Галубовіч), ведамы вайсковы працаўнік і арганізатар БВР у Нямеччыне.

20 — кліўлэндзкі прыход царквы Жыровіцкае Божае Маці адведаў а. Юзаф Абрэмскі з цудатворным абразом Хрыста Спаса (з XV ст.) на высьвячэньне адноўленага іканастасу царквы.

**Кастрычнік**

17 — „Дажынкі“ ладзіла Акруговая Ўправа БАЗА ў Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

17—18 — беларускі стэнд на Міжнародным фэстывалі народнага мастацтва ў Чыкага.

18 — Беларускі дзень у сьвяткаваньні юбілею штату Нью Джэрзі ў Нью Брансьвіку.

19 — прамова яп. Часлава Сіповіча на II Ватыканскім Саборы.

**Лістапад**

6—7 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі *„Good Nabor Conseil“* у Сыднэі.

17 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе ўсіх беларускіх арганізацыяў у Чыкага.

20 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБМА: Аўген Лысюк, М. Каранеўскі, Ганна Харавец, Аліна Лосік, Аліна Лысюк.

22 і пазьней — праходзілі сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых за волю Беларусі ў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн, Госьляр;
— Францыя: Парыж.

28 — нарада кіраўнікоў аддзелаў ЗБМА ў Кліўлэндзе.

**Сьнежань**

3 — аўтарскі вечар паэты Масея Сяднёва пры ўнівэрсытэце Індыяна.

4 — памёр Язэп Лішчонак (нар. 25.XII.1893) — вайсковы дзеяч у Канадзе.

6 — удзел у антыкамуністычным мітынгу ў Таронта.

18 — памёр Мікола Перагуд–Пагарэльскі (Мечыслаў Рагажэцкі) — настаўнік і грамадзкі дзеяч у Канадзе.

20 — вечар, прысьвечаны памяці памерлага па выйсьці з канцэнтрацыйнага лягеру паэты Язэпа Пушчы, ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

25 — зьезд праваслаўных у Кліўлэндзе пастанаўляе зьвярнуцца да былога яп. БАПЦ Апанаса (Мартаса) з просьбаю ачоліць беларускую праваслаўную царкву на чужыне; падпісалі: Радаслаў Астроўскі, а. Мікалай Лапіцкі, а. Віталь Сагайдакіўскі, Міхась Сенька, Мікола Латушкін, Барыс Сладкоўскі.

У канцы году ў Саўт Рывэры закладзены Беларуска–Амэрыканскі Клюб Дэмакратычнае партыі ЗША: Янка Цупрык, Л. Брылеўскі, Віктар Мяжэвіч.

## 1965 год

**Студзень**

27 — сход у Чыкага Згуртаваньня Беларусаў штату Ілінойс: М. Жызьнеўскі, Вітаўт Рамук, Лявон Сідаровіч, З. Міронцава.

31 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэры. Царкоўны камітэт: а. Мікалай Лапіцкі, Хведар Высоцкі — стараста, Іван Навумчык, Ю. Мяжэвіч, Міхась Сенька, Мікалай Сіцько, Цімафей Варанцоў, Мікалай Манцівода.

**Люты**

2 — канцэрт беларускай песьні і музыкі сьпявачкі Іры Каляды і музыкі Міколы Стрэчаня ў Кліўлэндзе.

7 — сход дэтройцкага аддзелу БАЗА: Іван Бруцкі, Лявон Трусэвіч, Мікола Арцюх, Барбара Сажыч.

12 — памёр Сымон Яраховіч, грамадзкі і царкоўны дзеяч у Кліўлэндзе.

13 — даклад Міколы Гарошкі „Жыцьцё і дзейнасьць Пётры Крэчаўскага“ ладзіў БІНіМ у Брукліне.

14 — перавыбары Ўправы жаночае сэкцыі БАЗА ў Нью Брансьвіку: Ліза Бакуновіч, Марыя Войтанка, Галена Войтанка, Галіна Стома, Тамара Януш.

21 — сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: В. Радзюк, В. Валюкевіч, Мікалай Гумен, Анатоль Лук’янчык, Клаўдзія Каляда, Марыя Трацякова, Мікола Пэнда — стараста.

**Сакавік**

13 — візыт яп. Часлава Сіповіча ў Таронта.

15 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне: яп. Васіль (Тамашчык) і Міхась Казьлякоўскі.

18 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Францішак Скарына ў сьвятле новых архіўных знаходак“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

21 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці сьвяткаваньня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі па асяродках расьсяленьня беларускае эміграцыі:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Ашава, Манрэаль, Вініпэг;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж.

21 — зварот да беларускае эміграцыі ў дзень 25 сакавіка выдалі прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык і БККА.

21 — сакавіковая радыёперадача БАНР у Чыкага.

25 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне: а. Мікалай Лапіцкі.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў: Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Ілінойс, Пэнсыльванія; мэрамі гарадоў: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Пасэйк, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Ашава з падняцьцем беларускіх нацыянальных сьцягоў перад ратушамі.

25 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежную Беларусь (6 сэнатараў і 32 кангрэсмэны).

26 — сакавіковыя радыёперадачы са станцыі АБАМІ ў Чыкага.

27 — сход БАА ў Сыднэі. Управа: Мікалай Каранеўскі, д–р Язэп Малецкі, Кастусь Сіткоўскі, Аляксандар Смаль, Я. Гавенчык, Аркадзь Качаноўскі.

**Травень**

1 — калёны беларусаў з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе Ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку.

2 — створаны новы аддзел БАЗА ў Спрынгфілдзе. Управа: Лявон Норык, Вольга Яськевіч, Люба Корчык.

15 — візыт Уладыкі Часлава Сіповіча у ЗША.

19 — удзел фотааматара Язэпа Пазьняка ў выставе фатаграфіяў у Нью Ёрку.

22 — 15–я ўгодкі дзейнасьці аддзелу БАЗА ў Нью Брансьвіку.

23 — 10–годзьдзе існаваньня прыходу Сьв. Спаса ў Чыкага.

30 — Беларускі дзень з багатай мастацкай праграмай і лікам удзельнікаў на Сусьветнай выставе ў Нью Ёрку.

30 — сход таронцкага аддзелу ЗБК. Управа: Віктар Касьцюкевіч, Мікола Ганько, Н. Сільвановіч, Генрык Барановіч, Міхась Кулеш, Язэп Чорны, М. Курбат.

**Чэрвень**

5 — зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Алесь Грыцук, Раіса Жук–Грышкевіч, Арсен Монід, Віктар Касьцюкевіч, Зьміцер. Курыловіч; рэвізійная камісія: Барыс Рагуля, Кастусь Акула, Антон Маркевіч, сяброўскі суд: Аўген Протас, Кастусь Акула, Баляслаў Лішчонак.

5 — арганізацыйны сход і закладзіны Беларуска–Амэрыканскага Аб’яднаньня. Управа: Кастусь Мярляк, Аўген Протас, Леанід Галяк, Мікола Панькоў, Васіль Шчэцька, Васіль Захаркевіч, Даніла Клінцэвіч, Пятро Мельяновіч.

6 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Сяргей Карніловіч, Анатоль Лук’янчык, Янка Раковіч, Аўген Кабяка, А. Каспэровіч; рэвізійная камісія: Мікалай Гумен, Астап Яраховіч, В. Валюкевіч.

12—15 — побыт Уладыкі Часлава Сіповіча ў Канадзе.

19 — удзел беларусаў у канцэрце Арганізацыі Паняволеных Народаў СССР у Брэдфардзе.
19 — побыт яп. Васіля (Тамашчыка) у Канадзе.
19 — выпускны вечар кліўлэндзкай беларускай школы з мастацкай праграмай вучнёўскай самадзейнасьці.
20 — побыт Станіслава Станкевіча і Міхася Тулейкі ў Кліўлэндзе (раскол).
26 — XIX зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Уладзімер Бутрымовіч, а. Леў Гарошка, Янка Каўбаса, Аляксандар Лашук, Пётр Асіповіч, Павал Навара, Ю. Якімец; рэвізійная камісія: а. Ян Абабурка, а. Аляксандар Надсан, Янка Міхалюк.

**Ліпень**
1 — удзел у Народным Фэстывалі ў Ашаве (Канада).
4 — 21–я ўгодкі мабілізацыйнага загаду ў БКА адзначыла ЗБВ на Белэр–Менск.
10 — заканчэньне заняткаў у беларускай школе Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.
17 — беларуская калёна зь бел–чырвона–белымі сьцягамі ў парадзе Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку, Чыкага, Нью Брансьвіку, Дэтройце.
18 — а. Уладыслаў Рыжы–Рыскі — галоўны прамоўца Тыдня паняволеных народаў у Нью Гэмпшыры (ЗША).
23 — удзел беларускае групы ў мітынгу Тыдня паняволеных народаў у Мюнхэне.

**Жнівень**
1 — памёр Мацей Дурэйка, сакратар аддзелу ЗБВБ у Манчэстэры.
15.VIII—10.IX — выстава мапаў Беларусі (са збору Ўсебеларускага архіву) на Белэр–Менск.
22 — сход аддзелу БАЗА ў Лос Анджэласе. Управа: Іван Бруцкі, Лявон Вініцкі, Каця Вініцкая; рэвізійная камісія: Алесь Вініцкі, Язэп Арцюх.

**Верасень**
3–4 — XII зьезд ЗБМА на „Белэр–Менск“. Управа: Аўген Лысюк, В. Гарошка, Ала Орса–Рамана, Аліна Лысюк, М. Каранеўскі; рэвізійная камісія: А. Несьцяровіч, Ганна Харавец, Багуслаў Станкевіч.
4—5 — зьезд вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Брэдфардзе і высьвячэньне новае царквы ў Беларускім доме (сьвятар Ян Абабурка, стараста Хведар Меляшонак).
7—12 — беларускі дэлегат (Алесь Алехнік) на II канфэрэнцыі Антыкамуністычнай Лігі Народаў Азіі, Афрыкі ды многіх народаў Эўропы ў Маніле (Філіпіны).
13 — сход ньюёрскай акругі БАЗА. Управа: д–р Уладзімер Набагез, Антон Шукелойць, Валянцін Міцкевіч, Вера Бартуль, Расьціслаў Гарошка, Вольга Запруднік, Зіна Станкевіч.
18—19 — XI кангрэс БАЗА ў Нью Брансьвіку. Управа: Станіслаў Станкевіч, Мікола Гарошка, Міхась Тулейка, Юрка Станкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Язэп Сажыч, Натальля Арсеньнева, Мікола Кунцэвіч; рэвізійная камісія: Антон Шукелойць, Францішак Кушаль, Пётра Манькоўскі.
20 — хіратанізацыя а. Уладыслава Рыжага–Рыскага ў япіскапы ў Прынстане.
24 — угодкі бацькі беларускага адраджэньня Францішка Багушэвіча ладзіў ЗБК у Таронта.
24 — сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку. Царкоўная рада: Я. Кажура, Міхась Сільвановіч, Васіль Русак, Аўген Лысюк, В. Харавец.
25 — памёр у Гільдэсгайме (Нямеччына) сьвятар д–р Міхась Маскалік.
30 — удзел прадстаўнікоў БАА ў Міжнародным дыпляматычным балі ў Сыднэі.

**Кастрычнік**
3 — сход Згуртаваньня Беларускіх Жанчынаў у Таронта. Управа: д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Вольга Грыцук, Марыя Ганько, Натальля Навіцкая, Надзея Барановіч.
9 — памёр Андрэй Попка, рэлігійна–грамадзкі працаўнік у Джэрзі Сіці.
16—17 — беларускі стэнд на Міжнародным восеньскім фэстывалі ў Чыкага.
22—24 — удзел беларускай групы ў Міжнародным мастацкім фэстывалі ў Лос Анджэласе.
24 — адзначэньне 125–х угодкаў нараджэньня і 65–х сьмерці Францішка Багушэвіча ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
31 — высьвячэньне ў дыяканы Робэрта Патры–Тамушанскага ў Ватыкане.
31.X—11.XI — удзел беларускіх мастакоў Віктара Жаўняровіча і Ўладзімера Шыманца ў францускай мастацкай выставе ў Парыжы.

**Лістапад**
14 — сьвяткаваньне 15–годзьдзя дзейнасьці аддзелу ЗБМА ў Кліўлэндзе.
14 — сход вернікаў сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Царкоўная Ўправа: Ян Казьлякоўскі — стараста, Кастусь Мярляк, Васіль Шчэцька, Даніла Клінцэвіч, Васіль Захаркевіч, Васіль Місюль, Пятро Мельяновіч, Васіль Юрцэвіч, М. Беразоўскі.
20 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБМА. Управа: Ганна Харавец, Аліна Лосік, М. Каранеўскі.
26 — удзел беларускай дэлегацыі ў працы Канфэрэнцыі паняволеных народаў у Брэдфардзе (Англія).

27 — удзел беларускай групы ў антыкамуністычным мітынгу ў Нью Брансьвіку.
27 і пазьней — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі, прыняцьцямі гасьцей і прдстаўнікоў іншых народаў:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
28 — удзел беларусаў у антыкамуністычным мітынгу ў Нотынгеме.

**Сьнежань**
4 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Уладзімер Дунец, Уладзімер Страпко, Валя Гарох, Андрэй Гасьцееў, Марыя Каваленка, Галіна Кананчук, М. Гасьцееў, Кастусь Калоша; рэвізійная камісія: М. Шпэндзік, Крыстына Каваленка, В. Стрэчань.
7 — аўтарскі вечар паэтаў Уладзімера Дудзіцкага і Ўладзімера Клішэвіча ў Блюмінгтане (штат Індыяна).
12 — стварэньне аддзелу БАЗА на Лёнг Айлэндзе. Управа: Юрка Касьцюкевіч, Барыс Данілюк, Кастусь Верабей.
20 — жалобны сход з прычыны сьмерці ў Менску паэты–пакутніка Язэпа Пушчы (Язэпа Плашчынскага) ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

## 1966 год

**Студзень**
1 — сход Беларускай Самапомачы ў Канадзе (БСК) у Таронта. Управа: Віктар Харэвіч, Васіль Пунтус, М. Грабка; кантрольная камісія: Юрка Харэвіч, Н. Богдан.
9 — паседжаньне канадыйскага сэктару Рады БНР: старшыня Вінцэнт Жук–Грышкевіч.
23 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Сяргей Гутырчык, Браніслаў Даніловіч, П. Швэд, Уладзімер Бакуновіч, Часлаў Ханяўка, Васіль Стома, Янка Азарка, Уладзімер Сьліўка, Ліза Бакуновіч.
30 — створаны Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК) у Таронта. Управа: д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч, Міхась Кухарчык, Язэп Пітушка, Антон Маркевіч.

**Люты**
12 — даклад Антона Адамовіча пра творчасьць Цёткі (Алаізы Пашкевіч) ладзіў БІНіМ у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
13 — сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Царкоўная рада: В. Радзюк, В. Валюкевіч, Мікалай Гумен, Мікола Ягоўдзік, Марыя Трацякова, Анатоль Лук’янчык, Мікола Пэнда — стараста, А. Шостак — намесьнік; рэвізійная камісія: Уладзімер Літвінка, Уладзімер Дунец, Кастусь Калоша.
18 — памёр у Рабэрціне (Польшча) а. Вячаслаў Аношка, ведамы дзеяч беларускага адраджэньня, рэлігійна–грамадзкі працаўнік.
20 — удзел беларускага хору ў Фэстывалі народных песьняў паняволеных народаў, ладжаным АБН у Нью Ёрку.
26 — удзел самадзейнасьці ЗБМА ў фальклёрным фэстывалі, ладжаным Радай Народнасьцяў у Нью Ёрку.
27 — сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку. Царкоўная рада: Пётра Кажура, Н. Сільвановіч, Аўген Лысюк, Уладзімер Гаравец, Васіль Русак, М. Януш.
27 — сход прыхаджанаў сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку. Царкоўная рада: Ян Казьлякоўскі — стараста, Кастусь Мярляк, Васіль Шчэцька, Даніла Клінцэвіч, Пятро Мельяновіч, Васіль Юрцэвіч, М. Беразоўскі, Васіль Захаркевіч, Васіль Місюль.

**Сакавік**
6 — сход у Саўт Рывэры пайшчыкаў адпачынковага рэсорту Белэр–Менск.
12 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Калі жыў і калі памёр Францішак Скарына“ ладзіў БІНіМ у Брукліне.
17 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне, маліўся кс. Міхаіл Урбановіч.
20—27 — урачыстасьці абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі адбыліся ў беларускіх аселях з багаслужбамі і палітычна–мастацкімі праграмамі з запрошанымі ўрадавымі і грамадзкімі прадстаўнікамі іншых народаў:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Нотынгем, Манчэстэр, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;

— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Дэтройт, Гэмпштэд, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

22.III—4.IV — у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне выступалі з прамовамі за незалежную Беларусь многія сэнатары і кангрэсмэны.

25 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне адпраўлена япіскапам Васілём (Тамашчыкам).

25 — абвешчаны Дзень незалежнай Беларусі губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Агаё, Мічыган, Нью Джэрзі, Ілінойс; мэрамі гарадоў Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Бpансьвік, Дэтройт з падняцьцем бел–чырвона–белых сьцягоў перад гарадзкімі ратушамі.

**Красавік**

8 — даклад Веры Рыч пра беларускую літаратуру ў Ірляндзкім клюбе ў Лёндане.

18 — памёр у Кліўлэндзе д–р Станіслаў Грынкевіч — грамадзка–палітычны і царкоўны дзеяч.

24 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Царкоўная рада: Уладзімер Целеш, Мікола Ганько, Міхась Кулеш, Барыс Кірка, Мікалай Алексяевіч, Лявон Карыба, Валянцін Філяновіч; наглядная рада: Вольга Грыцук, Мікола Стальмашонак, Надзея Барановіч.

30 — беларускія калёны зь бел–чырвона–белымі сьцягамі на парадзе Дня ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку.

**Травень**

7 — канцэрт беларускага жаночага хору „Каліна“ ў Саўт Рывэры.

8 — агульны надзвычайны сход прыходу катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пастанавіў прасіць архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) „не праводзіць у царкве палітыкі“.

8 — сход Згуртаваньня Беларускіх Жанчынаў у Таронта. Управа: д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Лена Кулеш, Ліда Целеш, Вольга Грыцук, Марыя Ганько, Ірына Касьцюкевіч.

10 — памёр Аркадзь Варава, старшыня Ўправы ХАБР у Лёндане.

15 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Сяргей Карніловіч, Андрэй Стрэчань, Кастусь Кіслы, Астап Яраховіч, Міхал Страпко; рэвізійная камісія: А. Шостак, Я. Каваленка, Васіль Семянчук.

28 — канфэрэнцыя настаўнікаў беларускіх прыхадзкіх школаў у Нью Ёрку.

28 — XVII зьезд ЗБК у Таронта. Галоўная Ўправа: Алесь Грыцук, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Віктар Касьцюкевіч, Мікола Ганько, Генрык Барановіч; рэвізійная камісія: д–р Барыс Рагуля, Мікола Шуст, Мечыслаў Рачыцкі; сяброўскі суд: Аўген Протас, Лявон Жураўскі, Арсен Монід.

30 — беларуская калёна са сваймі сьцягамі ў парадзе вэтэранаў на Дзень памяці на чале зь Сяргеем Гутырчыкам у Нью Брансьвіку.

**Чэрвень**

18 — канцэрт беларускага жаночага хору „Каліна“ на фарме ў Нью Джэрзі.

19 — зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Павал Навара, а. Леў Гарошка, Аляксандар Лашук, Пётр Асіповіч (больш не пададзена).

26 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: д–р Уладзімер Набагез, Антон Шукелойць, Вольга Запруднік, Расьціслаў Гарошка, Зіна Станкевіч, Мікола Абрамчык (мал.); рэвізійная камісія: Францішак Кушаль, Янка Ніхаёнак, Уладзімер Курыла.

**Ліпень**

3 — Дзень беларускіх вэтэранаў супольны з парадам на Белэр–Менск.

8 — заканчэньне заняткаў у беларускіх прыхадзкіх школах у ЗША.

8 — заканчэньне заняткаў у беларускай школе–інтэрнаце Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.

17 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на парадзе Тыдня паняволеных народаў на 5–й авэню ў Нью Ёрку.

17 — 10–я ўгодкі сьвятарства а. Андрэя (Крыта) ў Кліўлэндзе.

23 — памёр палкоўнік Вольша (Аляксандар) Ружанец–Ружанцоў, ваяк, журналісты, грамадзкі дзеяч у Чыкага.

24 — удзел беларускіх групаў у юбілейным мітынгу на востраве ля статуі Свабоды ў Нью Ёрку.

**Жнівень**

5—10 — удзел а. Лява Гарошкі ў XIII Міжнародным кангрэсе бізантыёлягаў у Оксфардзе (Англія).

28 — сход лёнданскага аддзелу ЗБВБ. Управа: Янка Міхалюк, Янка Сяўковіч, А. Шацько.

**Верасень**

3—5 — VII сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК на селішчы Белэр–Менск.
10 — памёр у Польшчы ксёндз д–р Язэп Дашута.
11 — пачаліся заняткі ў школе–інтэрнаце Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане, кіраўнік а. Леў Гарошка.

**Кастрычнік**
1 — удзел беларускай групы ў II міжнародным канцэрце паняволеных народаў у Брэдфардзе.
1 — беларускі стэнд на міжнароднай выставе ў Бэл Гардэнсе (Каліфорнія).
5—28 — побыт прэзыдэнта Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.
9 — даклад д–ра Раісы Жук–Грышкевіч пра „Нашу Ніву“ ў Таронта.
9 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБВ. Управа: Даніла Клінцэвіч, Кастусь Мярляк, Васіль Захаркевіч, Васіль Шчэцька.
15—16 — беларускі стэнд на Міжнародным фэстывалі народных культураў у Чыкага.

**Лістапад**
1—12 — лекцыі з гісторыі беларускай культуры, зладжаныя Ангельска–Беларускім Таварыствам у Францускім Інстытуце ў Лёндане.
3—5 — беларуская дэлегацыя ўдзельнічала ў працы XII канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Сэуле (Карэя).
17 — вечар памяці беларускага кампазытара Міколы Равенскага, ладжаны БАЗА ў Нью Ёрку.
19 — даклады Антона Адамовіча і д–ра Вітаўта Тумаша пра „Нашу Ніву“ ў Нью Ёрку.
20 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу ЗБМА. Управа: Аліна Лосік, Гэлена Кажура, Аліна Лысюк, М. Каранеўскі, Герда Тоц.
26—27 — III епархіяльны сабор духавенства і вернікаў БАПЦ у Таронта. Епархіяльная Ўправа: а. Сьцяпан Войтанка, Міхась Тулейка, Віктар Войтанка, Мікола Гарошка, Уладзімер Бакуновіч; місійна–асьветны аддзел: а. Мікалай (Мацукевіч), д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Васіль Русак, Мікола Ганько, Аляксандар Міцкевіч; судова–праўны аддзел: а. Юзаф Абрэмскі, Пётра Манькоўскі; рэвізійная камісія: Янка Ніхаёнак, Пётра Кажура, Аляксандар Стагановіч.
27 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох і адпаведнымі жалобнымі праграмамі ў беларускіх асяродках:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Нотынгем, Манчэстэр;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Нью Брансьвік, Спрынгфілд, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

**Сьнежань**
10 — сымпозыюм па гісторыі „Нашай Нівы“, ладжаны БІНіМ у Нью Ёрку.
19 — удзел беларускіх сьпявачак у Міжнародным канцэрце помачы ўцекачам з Усходняй Азіі ў Мюнхэне.
28 — сход кліўлэндзкага аддзелу ЗБМА. Управа: Уладзімер Дунец, Андрэй Гасьцееў, Галіна Кананчук, Валя Гарох, Марыя Каваленка, М. Шпэндзік, М. Гасьцееў; рэвізійная камісія: Лёля Міхальчык, Крыстына Каваленка, Г. Лук’янчык.

## 1967 год

**Студзень**
8 — загінула ў катастрофе ў Мюнхэне сьпявачка Барбара Вержбаловіч.
12—29 — беларускі стэнд на Выставе этнічных групаў Канады ў Вініпэгу.
21 — беларускі стэнд на перадкаляднай (— так у арыгінале. — **рэд.**) выставе народнага мастацтва ў Таронта.
29 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Сяргей Гутырчык; Браніслаў Даніловіч, П. Швэд, Уладзімер Бакуновіч, Часлаў Ханяўка, Янка Азарка, Васіль Стома, Уладзімер Сьліўка; жаночая сэкцыя: Тамара Януш, Ліза Бакуновіч, Ніна Стома, Марыя Войтанка; рэвізійная камісія: Віктар Дубяга, Філарэт Родзька, Мікола Арцюх.

**Люты**
5 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыі ў Брэдфардзе супраць прыезду Касыгіна ў Англію.
19 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Царкоўная рада: В. Радзюк, В. Валюкевіч, Мікалай Гумен, Мікола Ягоўдзік, Я. Яраховіч, Анатоль Лук’янчык, Янка Раковіч.
26 — сход вернікаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Управа ў поўным складзе пакінутая надалей.

26 — сход дэтройцкага аддзелу БАЗА. Управа: Васіль Пляскач, Мікола Артон, Лявон Трусэвіч.

**Сакавік**

11 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Кнігі Францішка Скарыны“, ладжаны БІНіМ у Нью Ёрку.

23 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне.

25 — Дзень незалежнае Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Мічыган, Пэнсыльванія, Каліфорнія, а таксама мэрамі гарадоў Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Пасэйк, Дэтройт, акругі Насаў у штаце Нью Ёрк (Лёнг Айлэнд) з падняцьцямі бел–чырвона–белых сьцягоў перад ратушамі мэрыяў.

25 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў за незалежную Беларусь у Кангрэсе і Сэнаце ЗША ў Вашынгтоне.

26 і пазьней — адбыліся ўрачыстасьці ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў прысутнасьці прадстаўнікоў ураду і гарадоў ды шматлікіх гасьцей іншых народаў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Нотынгем, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Дэтройт;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

**Красавік**

15 — створаны Беларускі Культурна–Асьветніцкі Камітэт у Нью Брансьвіку. Управа: Васіль Стома, Галіна Русак, Ліза Бакуновіч, Аўген Лысюк, Б. Р., Г. Тодт.

16 — сход таронцкага аддзелу ЗБК. Управа: Мікола Ганько, Міхась Кулеш, Барыс Кірка, Янка Баран, Лявон Карыба.

16 — сход Беларускага клюбу ў Манчэстэры. Управа: Міхась Віценчык, Міхась Яськевіч, М. Чудоўская; наглядная рада: Уладзімер Гінько, Уладзімер Рудзінскі.

29 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на Парадзе ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку.

**Травень**

6 — сход вернікаў царквы Сьв. Духу ў Дэтройце. Управа: Язэп Сажыч, Мікола Прускі, М. Кумейша, Юрка Мазура.

7 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: д–р Уладзімер Набагез, Міхась Тулейка, Зіна Станкевіч, Валянцін Міцкевіч, Вольга Запруднік, Мікола Абрамчык (мал.), Янка Ніхаёнак; рэвізійная камісія: Мікола Кунцэвіч, Антон Шукелойць, Расьціслаў Гарошка.

13 — вечар паэзіі Максіма Багдановіча па–ангельску ў перакладах Веры Рыч, ладжаны Ангельска–Беларускім Таварыствам у Лёндане.

23 — памёр у Чыкага Мікола Дзямідаў, вайсковы і грамадзкі дзеяч з часоў дзейнасьці Ўраду БНР.

27—28 — XII кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку. Управа: Уладзімер Курыла, Язэп Сажыч, Мікола Кунцэвіч, Аляксандар Міцкевіч, Уладзімер Бакуновіч, Пётра Манькоўскі, Браніслаў Даніловіч, Уладзімер Набагез, Мікола Гарошка, Кастусь Калоша, Віктар Войтанка, Янка Азарка; рэвізійная камісія: Сяргей Гутырчык, Ніна Стома, Р. Б.

28 — сход Згуртаваньня Беларускіх Жанчынаў Канады ў Таронта. Управа: д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Натальля Барановіч, Марыя Ганько, М. Занюк, Надзея Фільяновіч, Ліда Целеш.

У траўні адбыўся сход вернікаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Управа: В. Радзюк, В. Валюкевіч, Мікалай Гумен, Мікола Ягоўдзік, Анатоль Лук’янчык, Янка Раковіч.

**Чэрвень**

2—3 — зьезд і парад ЗБВ на Белэр–Менск (склад Управы афіцыйна не пададзены).

3 — XVIII зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Мікола Ганько, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Янка Баран, Лявон Карыба, Язэп Чорны, Барыс Кірка, д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч; рэвізійная камісія: Антон Маркевіч, Мечыслаў Рачыцкі, Генрык Барановіч; сяброўскі суд: Аўген Протас, Кастусь Акула, Арсен Монід.

8–11 — II канфэрэнцыя ў справе канадыйскіх славянаў у Атаве: д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч.

17 — канцэрт вучняў беларускай школы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.

30.VI—2.VII — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі эўрапейскай Рады Свабоды ў Жэнэве; старшыня Зьміцер Касмовіч.

**Ліпень**

1 — XXI зьезд ЗБВБ у Лёндане. Галоўная Ўправа: Павал Навара, а. Леў Гарошка, Янка Міхалюк, Пётр Асіповіч; рэвізійная камісія: а. Аляксандар Надсан, а. Ян Абабурка, Янка Сяўковіч.

1 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на парадзе 100–годзьдзя Канады ў Таронта і Ашаве.

2 — Дзень Беларускага Жаўнера з парадам і ўрачыстасьцю на Белэр–Менск.

15 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам у маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Чыкага.
17 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам у маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Кліўлэндзе і Лос Анджэласе.
23 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе Тыдня паняволеных народаў па 5–й авэню ў Нью Ёрку.
23 — сход брэдфардзкага аддзелу ЗБВБ. Управа: Янка Каўбаса, Станіслаў Мак, Аляксандар Калько, Хведар Лемяшонак, Аляксандар Сосна — адміністратар дому.
29 — XIII зьезд ЗБМА на Белэр–Менск. Управа: Уладзімер Дунец, Барыс Кірка, Валя Гарох, Марыя Каваленка, Аліна Лосік; рэвізійная камісія: Крыстына Юрцэвіч, Ганна Харавец, Ганна Зыбайла.

**Жнівень**
22 — Беларускі дзень на Ўсеканадыйскай выставе з мастацкаю праграмаю ў Таронта.

**Верасень**
3—5 — Сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК з рознымі імпрэзамі на Белэр–Менск.
7—9 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.
17 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша пра жыцьцё і дзейнасьць Францішка Скарыны ды адкрыцьцё „Скарынінскай выставы“ ў Таронта.
28 — Беларускі дзень на Сусьветнай выставе ЭКСПО’67 у Манрэалі.

**Кастрычнік**
1 — традыцыйны кірмаш зь беларускімі стравамі і лятарэяй ладзіла Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Кліўлэндзе.
7 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Сяргей Карніловіч, Андрэй Стрэчань, Я. Яраховіч, Міхал Страпко; рэвізійная камісія: Кастусь Калоша, А. Шостак, Я. Якавенка.
11 — памёр у Мюнхэне малады таленавіты гісторык, выпускнік Лювэнскага ўнівэрсытэту Алесь Марговіч.
17 — лекцыя праф. Гая Пікарды „Беларускія вучоныя ў Заходняй Эўропе ў XV—XVII стагодзьдзях“, ладзіла Беларуска–Ангельскае Таварыства ў Лёндане.
21—22 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага Мастацтва ў Чыкага.
22 — сход сяброў карпарацыі Беларускага нацыянальнага цэнтру „Полацак“ выбраў камітэт: Сяргей Карніловіч, А. Міраеўскі, Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Лёля Міхальчык у Кліўлэндзе.
26 — памёр у Нью Ёрку Даніла Клінцэвіч, вайсковы і грамадзкі дзеяч, старшыня ЗБВ.
31 — вечар памяці ахвяраў бальшавізму, ладжаны беларускай грамадзкасьцю ў Лёндане.

**Лістапад**
1.XI—31.XII — адчынена выстава памяці слаўнага беларускага асьветніка і першадрукара Францішка Скарыны ў Беларускім музэі ў Лёндане.
2 — памёрла Нэлі Ліпкоўская (Навіцкая), актывістка беларускай мастацкай самадзейнасьці ў Таронта.
4 — урачыстае сьвяткаваньне 85–годзьдзя беларускіх народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Кліўлэндзе.
5 — удзел беларусаў у пікетаваньні савецкай місіі ў Нью Ёрку.
5 — архіяпіскап Васіль (Тамашчык) наклаў анатэму на царкоўную раду сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку.
7 — удзел беларусаў у дэманстрацыі ў Нью Ёрку каля савецкай амбасады ў часе прыняцьця гасьцей у гонар Кастрычніцкае рэвалюцыі.
11 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „450–годзьдзе беларускага друку“ ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
19 — урачыстасьць 85–годзьдзя беларускіх народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Нью Бранcьвіку.
19 і пазьней — праходзілі жалобныя ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарах і адпаведнымі мастацкімі праграмамі ў:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Канбэра, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Пасэйк, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
24 — лекцыя праф. Гая Пікарды „Арганізацыя і адміністрацыя юстыцыі ў Беларусі часоў Вялікага Княства Літоўскага“, ладзіла Беларуска–Ангельскае Таварыства ў Лёндане.

**Сьнежань**

1 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Адраджэньне славяншчыны ў беларускай літаратуры XVII стагодзьдзя“, ладзіла Ангельска–Беларускае Таварыства ў Лёндане.
3 — паседжаньне канадыйскага сэктару Рады БНР у Таронта (пастановы да агульнага ведама не пададзеныя).
8 — лекцыя праф. Арнольда МакМіліна „Разьвіцьцё беларускай мовы ў новай беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя“, ладзіла Беларуска–Ангельскае Таварыства ў Лёндане.
9—10 — рукапалажэньне дыякана Васіля Кендыша ў сьвятары ў катэдры Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (БАПЦ) архіяпіскапам Васілём (Тамашчыкам) са сьвятарамі.
10 — урачысты вечар 85–х угодкаў нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа з дакладам д–ра Станіслава Станкевіча, вакальнымі нумарамі і дэклямацыяй іх твораў вучнямі беларускай школы ў Брукліне.
17 — урачыстасьць 50–х угодкаў I Усебеларускага Кангрэсу з дакладам д–ра Вінцэнта Жук–Грышкевіча ладзіла Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў Канады ў Таронта.
20 — адчынена выстава друкаў Францішка Скарыны (да 450–годзьдзя) у Беларускім музэі ў Лёндане.
30 — у Нью Ёрк прыбыў прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.
30 — на паседжаньні епархіяльнае рады БАПЦ у Брукліне прынятая пастанова аб арганізацыі праваслаўнага беларускага манастыра, беларускай кніжніцы і беларускае школы на селішчы Мір (Нью Джэрзі); кіраўніком школы зацьверджаны Янка Чыжык; вызначаны самаўрад Скарбу Прадславы: д–р Віктар Войтанка, Аліна Курыла і д–р Язэп Сажыч з пазьнейшым далучэньнем прадстаўнікоў ад беларускіх каталікоў і беларускіх пратэстантаў.
Пашырыўся заклік арганізаваньня Лігі БНР.

## 1968 год

### Студзень
1 — заклік–абежнік прэзыдэнта Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка „1968 год — юбілейны год БНР“.
17 — прыняцьцё ў спадарства Дж. Джоліф, намесьніка старшыні Ангельска–Беларускага Таварыства, з нагоды II курсу беларусаведы ва ўнівэрсытэце ў Лёндане.
20—21 — даклад у Нью Брансьвіку прэзыдэнта Рады БНР аб дзейнасьці Рады.
23 — побыт прэзыдэнта Рады БНР у Канадзе.
26 — лекцыя праф. Р. Г. дэ Брэя „Граматычныя зьмены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове“, ладзіла Ангельска–Беларускае Таварыства ў Лёндане.
28 — сход аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі ў Нью Брансьвіку. Управа: Сяргей Гутырчык, Браніслаў Даніловіч, П. Швэд, Часлаў Ханяўка, Янка Азарка, Васіль Стома, Уладзімер Сьліўка, Тамара Януш —старшыня жаночае сэкцыі, д–р Віктар Войтанка, Віктар Дубяга.

### Люты
4 — нарада канадыйскага сэктару Рады БНР пад кіраўніцтвам прэзыдэнта Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка ў Таронта.
4 — сход былых сяброў БВР у Манчэстэры (бяз выніку).
10 — вечар беларускай паэзіі па–ангельску (у перакладзе Веры Рыч) у беларускай школе Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.
15 — хіратонія ў япіскапы Андрэя (Крыта) Уладыкам БАПЦ Сергіем у Адэляідзе.
21 — першая архірэйская служба яп. Андрэя (Крыта) у Мэльбурне.
23 — лекцыя д–ра М. Даніловіча „Аляксандар Рыпінскі — жыцьцё і творчасьць“ у Ангельска–Беларускім Таварыстве ў Лёндане.
24 — прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык выступае за стварэньне Лігі БНР у Лёндане, ладзіў Г. Шуст.
25 — сход вернікаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Царкоўная Ўправа: Міхась Жыбуль, М. Беразоўскі, Харавец, Вырва.
26 — урачыстае спатканьне япіскапа Андрэя (Крыта) у Кліўлэндзе.
27 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці (БАПЦ) у Кліўлэндзе. Царкоўная рада: Я. Яраховіч, В. Валюкевіч, Уладзімер Літвінка, Лёля Міхальчык, Янка Раковіч; рэвізійная камісія: А. Шостак, Ян Карпейка, Анатоль Васілеўскі, Мікола Пэнда — стараста.
28 — памёр Цімафей Ламака, грамадзкі і царкоўны дзеяч у Кліўлэндзе.

### Сакавік
1 — Дэклярацыя Рады БНР.
1—14 — побыт архіяпіскапа БАПЦ Васіля (Тамашчыка) у Аўстраліі.
2—5 — побыт прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Чыкага.
3 — выстава скарынінскіх друкаў зь Беларускага музэю ў Лёндане перанесена ў Беларускі дом у Манчэстэры з дакладам а. Лява Гарошкі.

3 — сход і закладзіны Беларуска–Амэрыканскага Аб’яднаньня ў Нью Ёрку. Управа: Кастусь Мярляк, Сяргей Рагалевіч, Васіль Шчэцька, Васіль Юрцэвіч, Мікола Панькоў, Пятро Мельяновіч, Васіль Захаркевіч, Валя Рагалевіч.

3 — спатканьне беларускай дэлегацыі (Янка Бунчук, Аляксандар Жданковіч, Янка Сяўковіч, Янка Міхалюк, Пётр Асіповіч) з прэзыдэнтам Эўрапейскай Рады Свабоды ў Лёндане.

5 — выстава „450–годзьдзе беларускага друку“ у Ньюёрскай публічнай бібліятэцы.

10 — хіратонія ў япіскапы Мікалая (Мацукевіча) Уладыкам БАПЦ Сергіем у Адэляідзе.

10 — выстава, прысьвечаная 50–м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, у Беларускім музэі ў Лёндане.

10 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку. Царкоўная Ўправа: Віктар Дубяга, Міхась Сільвановіч, Васіль Русак, Аўген Лысюк, Пётра Кажура, Уладзімер Харавец, Уладзімер Сьлiўка; рэвізійная камісія: Ніна Стома, Павел Белявец, Зоф‘я Дубяга; бацькоўскі камітэт: Пётра Кажура, Алег Дубяга.

17 — удзел беларускай групы ў XIX Міжнародным фэстывалі *Folk‘s Art Association* у Кліўлэндзе.

22 — гадавы сход кліўлэндзкага аддзелу АБАМ. Управа: Станіслаў Грынкевіч, Уладзімер Страпко, З. Каваленка, Галіна Кананчук, Кастусь Калоша, К. Кавалёнак; рэвізійная камісія: Уладзімер Дунец, Валя Гарох, Марыя Каваленка.

24 — урачыстасьці 50–х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі і запрошанымі прадстаўнікамі ўрадаў ды іншанацыянальнымі гасьцямі:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Альбан, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Ёрктаўн, Дэтройт, Лос Анджэлас, Лёнг Айлэнд;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

25 — у Кангрэсе і Сэнаце ЗША ў Вашынгтоне за волю Беларусі прамаўлялі шматлікія сэнатары і кангрэсмэны.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Агаё, Мічыган, Ілінойс, Нью Джэрзі, Пэнсыльванія; мэрамі гарадоў: Нью Ёрк, Пасэйк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Дэтройт з падняцьцем беларускага нацыянальнага сьцягу на мачтах перад ратушамі.

31 — банкет у гонар прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка (25–годзьдзе прэзыдэнцтва) ладзіў ў Нью Брансьвіку арганізацыйны камітэт: Уладыка Васіль (Тамашчык), д–р Уладзімер Набагез, Аляксандар Стагановіч, Станіслаў Станкевіч, Сяргей Гутырчык.

**Красавік**

2 — загінуў у няшчасным выпадку ў Бразыліі адзін з атаманаў беларускіх нацыянальных партызанаў 20–х гадоў Якуб Харэўскі.

7 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Управа: Уладзімер Целеш, Мікола Стальмашонак, Мікола Ганько, Міхась Кулеш, Барыс Кірка, Лявон Карыба, Віктар Рудніцкі; рэвізійная камісія: Валер Навіцкі, Мікалай Алексяевіч, Янка Баран.

13 — X сэсія Рады БНР у Нью Ёрку. Прэзыдыюм: прэзыдэнт інж. Мікола Абрамчык, заступнікі: д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч, д–р Уладзімер Набагез; праф. Антон Адамовіч, Антон Шукелойць.

17 — даклад Уладыкі Часлава Сіповіча ў Папскім інстытуце ўсходніх студыяў у Рыме пра жыцьцё і дзейнасьць Францішка Скарыны.

18 — памёрла Хвядося Сак, шчырая дзяячка прыходу царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта.

28 — беларуская калёна на парадзе Дня ляяльнасьці з удзелам ЗБВ у Саўт Рывэры.

28 — гадавы сход Беларускай Самапомачы ў Ашаве (Канада). Управа: Міхась Бахар, Юрка Харэвіч, Іван Курыкшук.

**Травень**

4 — II справаздачны сход Беларускага Грамадзкага Клюбу ў Манчэстэры. Управа: Станіслаў Мак, Янка Каўбаса; кіруючыя: Уладзімер Рудзінскі, Міхась Яськевіч, Хведар Каневія, Міхась Віценчык.

11 — побыт Уладыкі Часлава Сіповіча ў ЗША (у Нью Ёрку 11—15).

11 — „упоўзіны“ ў новаадрамантаваную залю царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае і БНА і сьвяткаваньне Дня маці ў Таронта.

12 — урачыстая багаслужба з нагоды фэсту царквы Сьв. Кірылы Тураўскага і банкет у сувязі з ад’ездам прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Эўропу ў прысутнасьці Ўладыкі Часлава Сіповіча.

25 — памёр у Нью Ёрку Францішак Кушаль, генэрал, радны БНР.

28 — сход Згуртаваньня Беларускіх Жанчынаў Канады ў Таронта. Управа: д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Лена Кулеш, Марыя Грынько, Надзея Фільяновіч, Ірына Касьцюкевіч.

**Чэрвень**

2 — урачыстая багаслужба 20–годзьдзя існаваньня БАПЦ усімі трыма япіскапамі і застольле з прамовамі ў залі пад саборам Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

6 — памёр у Спрынгфілдзе Янка Чыжык, былы афіцэр БКА.

9 — урачыстая багаслужба 20–годзьдзя аднаўленьня БАПЦ у Мэльбурне.

9 — памёр у Нью Брансьвіку Васіль Лысюк, былы ваяк, дзейны сябра беларускіх арганізацыяў.

15 — заканчэньне школьнага году ў суботняй школе са сходам бацькоў, паказамі вучнямі мастацкай самадзейнасьці, прамовамі Ўладыкі Андрэя (Крыта) і кіраўнічкі школы К. Грынкевіч.

16 — сход ньюёрскай акругі БАЗА. Управа: Міхась Тулейка, Уладзімер Русак, Галіна Орса, Валянцін Міцкевіч, Вячка Станкевіч; рэвізійная камісія: Пётра Мірановіч, Мікола Кунцэвіч, Пётра Манькоўскі.

16 — прыход царквы Сьв. Духу ў Дэтройце адсьвяткаваў першую гадавіну.

22 — XIX сход ЗБК у Таронта. Управа: Мікола Ганько, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Барыс Кірка, Кастусь Акула, д–р Вінцэнт Жук–Грышкевіч; рэвізійная камісія: Генрык Барановіч, Антон Маркевіч, Валер Навіцкі; сяброўскі суд: Мікола Буцька, Аўген Протас, Н. Сільвановіч.

26 — памёр пратаярэй БАПЦ Сьцяпан Войтанка, адзін з арганізатараў аднаўленьня БАПЦ і заснавальнікаў першага беларускага праваслаўнага прыходу ў Нью Ёрку і ЗША.

29 — XXII зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Павал Навара, а. Леў Гарошка, Янка Міхалюк, П. Асіпчык; рэвізійная камісія: а. Аляксандар Надсан, а. Ян Абабурка, Янка Сяўковіч; аўдытар Дж. Гаянс.

30 — канцэрт хору хлопчыкаў — гадунцоў беларускай прыманастырскай школы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане, кіраўнік а. Леў Гарошка.

**Ліпень**

5 — Купальле, ладжанае прыходам царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Таронта.

14 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях паняволеных народаў у Нью Ёрку.

20 — беларуская калёна ЗБВ са сваімі сьцягамі на парадзе Тыдня паняволеных народаў у Нью Брансьвіку.

**Жнівень**

1 — Дзень беларускага жаўнера з паніхідаю па палеглых змагарох, парадам вэтэранаў і супольнай бяседай–абедам на Белэр–Менск.

24 — удзел беларускай групы ў дэманстрацыях пратэсту ў Лёндане супраць збройнай інвазіі СССР з сатэлітамі ў Чэхаславаччыну.

31.VIII—2.IX — зьезд і нарады беларускіх арганізацыяў БНА і БККА ў Таронта.

**Верасень**

1—2 — пленум Камітэту Вольнай Беларусі ў Таронта прыняў і выслаў пратэст у абарону чэскага і славацкага народаў супраць збройнай інвазіі Масквы з хаўрусьнікамі да ААН у Нью Ёрку.

16 — нарада беларускіх літаратараў аб сучасным стане беларускай літаратуры на эміграцыі ў Брукліне з удзелам І. Гуткоўскага (Ізыдара Плашчынскага), Янкі Ліманоўскага, Янкі Юхнаўца, Міколы Панькова, Міколы Целеша, Янкі Шакуна.

25 — ліст–тэлеграма Аб’яднаньню Пісьменьнікаў Чэхаславаччыны, спачувальна–пратэстуючая супраць маскоўскае інвазіі, падпісаная Язэпам Беразьняком, Сяргеем Хмарам, Міколам Паньковым, Янкам Юхнаўцом, Алесем Змагаром (Аляксандрам Яцэвічам), Нінай Змагаркай (Паньковай), Янкам Ліманоўскім, Янкам Шакуном, М. Дальняй ад імя Сустані „Баявой Ускалосі“.

**Кастрычнік**

12 — надзвычайны сход вернікаў сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пад старшынствам Аўгена Протаса і з сакратаром Поляй Клінцэвіч разгледзеў сучаснае становішча і пастанавіў зьвярнуцца да Ўладыкі Андрэя (Крыта) з просьбаю прыняць іх пад ягоную апеку, у выпадку адмовы ўпаўнамоцніў царкоўную раду да адпаведнай дзейнасьці.

19 — удзел беларусаў у дэманстрацыях пад клічам „Свабоду паняволеным народам!“ у Лёндане.

**Лістапад**

1 — канцэрт хлопцаў–гадунцоў беларускай школы Сьв. Кірылы Тураўскага ў горадзе Стывэнэдж (Англія).

17 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох за волю Беларусі і прыняцьцямі ўрадавых і іншанацыянальных прадстаўнікоў па беларускіх эміграцыйных асяродках:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— Гішпанія: Мадрыд;

— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг, Ашава;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
21 — памёр у Бразыліі ўдзельнік узбройнае барацьбы ў Заходняй Беларусі Мікалай Скрундзь.
29 — паказ з жыцьця беларускай школы Сьв. Кірылы Тураўскага па тэлебачаньні *BBC* зь Лёндану.

**Сьнежань**

5 — даклад праф. Гая Пікарды „Ангельска–беларускія сувязі ў гадох 1918—1921“ у Брытанскай Акадэміі ў Лёндане.
7 — сымпозыюм на тэму „Нацыянальнае самавызначэньне народаў СССР“ ва ўнівэрсытэце Ігнацыя Лаёлы, удзельнічалі Антон Адамовіч і Янка Запруднік.
10—20 — выстава мастацкіх абразоў Тамары Стагановіч у галерэі „Аваці“ ў Нью Ёрку.
12 — вершы Якуба Коласа ў перакладзе Веры Рыч у часапісе „Монфілд“ у Лёндане.

## 1969 год

**Студзень**

10 — памёр Масей Гітлін, ініцыятар поўнага перакладу на беларускую мову і друку Бібліі пад рэдакцыяй д–ра Янкі Станкевіча.
16 — беларускі япіскап Уладыслаў Рыжы–Рыскі прыняты ў дзейныя сябры Акадэміі Грамадзкіх і Палітычных Навук ЗША.

**Люты**

16 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Царкоўная Ўправа: Я. Яраховіч, Анатоль Васілеўскі, Юрка Каляда, Лёля Міхальчык, Уладзімер Літвінка, Андрэй Канарчук, Астап Яраховіч; рэвізійная камісія: Ян Карпейка, Уладзімер Дунец, Клаўдзія Каляда.

**Сакавік**

2 — пачаліся рэгулярныя багаслужбы ў новым праваслаўным прыходзе царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычманд Гіл (Нью Ёрк).
2 — сход вернікаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Таронта. Царкоўная Ўправа: Іван Алешка, С. Варанецкі, Аркадзь Харавец, В. Кісель, І. Вырва, Аркадзь Рымша.
9 — беларускі стэнд на Міжнародным фэстывалі мастацкіх вырабаў у Кліўлэндзе.
13 — памёр у Кліўлэндзе Гіляры Ягоўдзік, былы грамадовец, грамадзка–царкоўны дзеяч.
16 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Царкоўная Ўправа: інж. Мікола Гарошка, Пётра Манькоўскі, Міхась Міцкевіч, Барыс Данілюк, Я. Груцька, Валянціна Яновіч, Міхась Тулейка, Кастусь Верабей, Аляксандар Міцкевіч; рэвізійная камісія: інж. Міхась Рагуля, д–р Уладзімер Набагез, Уладзімер Курыла, Юрка Касьцюкевіч; сястрыцтва: Аліна Курыла, Вера Запруднік.
20 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне, каталіцкі і праваслаўны сьвятары Францішак Чарняўскі і Васіль Кендыш.
23 і пазьней — адбыліся ўрачыстасьці абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі па сьвятынях, адпаведнымі акцыямі і прыняцьцямі ўрадавых прадстаўнікоў ды іншанацыянальных гасьцей у:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
25 — у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне прамаўлялі за незалежнасьць Беларусі 7 сэнатараў і 26 кангрэсмэнаў.
25 — Дзень незалежнай Беларусі абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Агаё, Мічыган, Нью Джэрзі, Пэнсыльванія, Нэбраска, а таксама мэры ў гарадох Нью Ёрк, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Кліўлэнд, Дэтройт, Пасэйк.
30 — канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) пад старшынствам інж. Міколы Абрамчыка ў Мюнхэне.
30 — беларускі стэнд на велікодным Паказе этнічных групаў у Таронта.
31 — памёр у Чыкага кампазытар Мікола Куліковіч (Шчаглоў).

**Красавік**

5 — памёр у Лос Анджэласе Язэп Кананові́ч, актыўны сябра беларускіх арганізацыяў.

7 — памёрла ведамая беларуская сьпявачка, артыстка менскага Першага Беларускага Тэатру, удзельніца эстраднай групы „Жыве Беларусь!“ у часе вайны ў Нямеччыне, беларускага хору ў Саўт Рывэры Лідзія Янушкевіч–Нядзьвіга.

15 — закончаны III курс беларусаведы ў Брытанскай Акадэміі ў Лёндане лекцыяй праф. Р. Оты „Месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў з пункту гледжаньня параўнаўчай філялёгіі“.

26 — памёр у Адэляідзе беларускі сьвятар Тодар Дземянюк.

27 — беларускія калёны зь бел–чырвона–белымі сьцягамі на Парадах ляяльнасьці ў Нью Ёрку, Чыкага і Кліўлэндзе.

**Травень**

2 — памёр у Нотынгеме (Англія) Уладзімер Капач, былы жаўнер БКА, грамадзка–царкоўны працаўнік.

11 — даклад д–ра Язэпа Малецкага аб сучасных падзеях на Бацькаўшчыне і ў сьвеце ў Беларускім клюбе БАА ў Сыднэі.

11 — вучнёўская самадзейнасьць беларускай нядзельнай школы годна адзначыла Дзень маці ў Брукліне.

18 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Міхась Тулейка, Вячка Станкевіч, Антон Шукелойць, Міхась Міцкевіч, Валянцін Міцкевіч; рэвізійная камісія: Пётра Мірановіч, Я. Груцька, Пётра Манькоўскі.

**Чэрвень**

12 — паказ самадзейнага гуртка беларускай моладзі (кір. Валянціна Пашкевіч) на канфэрэнцыі канадыйскіх славістаў у Таронта.

17 — беларускія дэлегаты на канфэрэнцыі славістаў Канады мелі два даклады ўва ўнівэрсытэце Ёрку ў Антарыё.

21 — „Купальскае вогнішча“ ладзілі вучні беларускае школы сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.

22 — а. Аляксандар Надсан адслужыў сьв. літургію для ўдзельнікаў канфэрэнцыі Таварыства Сьв. Яна Златавустага, у часе якое сьпяваў хор хлопчыкаў беларускае школы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.

22 — памёр у Мэльбурне пратаярэй БАПЦ Барыс Каменскі.

28 — высьвячэньне грамадзкага цэнтру „Слуцак“ у Канадзе.

28 — XXIII зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Павал Навара, а. Леў Гарошка, Янка Міхалюк, Пётр Асіповіч; рэвізійная камісія: а. Аляксандар Надсан, а. Ян Абабурка, Янка Сяўковіч.

**Ліпень**

11 — памёр у Аўстраліі Данат Яцкевіч, беларускі грамадзкі дзеяч, рэд. органу ЗБВ „Лучнік“.

12 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Дэтройце.

13 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на парадзе па 5–й авэню Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку.

18 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Лос Анджэласе.

19 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Чыкага.

27 — памёр у Рутдорфе (Нью Джэрзі) Яўхім Кіпель, грамадзкі і палітычны дзеяч.

Выйшла ўлётка царкоўнае рады царквы Сьв. Кірылы Тураўскага і Ўправы Беларуска–Амэрыканскага Аб’яднаньня з паясьненьнем, „за што архіяпіскап Васіль (Тамашчык) падаў у суд на вернікаў у Брукліне“.

**Жнівень**

15 — уваходзіны ў нованабыты Беларускі дом (рэлігійна–грамадзкі цэнтар), набыты БАПЦ і аддзелам ЗБВБ у Брэдфардзе (Англія).

16 — вечар памяці Францішка Аляхновіча, драматурга і грамадзкага дзеяча, з дакладамі Антона Шукелойца і Васіля Стомы на лецішчы Менск.

17 — сход брэдфардзкага аддзелу ЗБВБ. Управа: Янка Каўбаса, Станіслаў Мак, Хведар Лемяшонак, Аляксандар Сосна.

24 — надзвычайны сход вернікаў БАПЦ у справе скліка户ня епархіяльнага сабору; мужам даверу дому БАПЦ у Таронта прызначаны Вячаслаў Касьцюкевіч.

24—26 — побыт у ЗША Міколы Нікана з Аўстраліі.

30 — IV епархіяльны сабор БАПЦ у Нью Ёрку пад кіраўніцтвам архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) з удзелам япап. Андрэя (Крыта) і Мікалая (Мацукевіча), аа. Васіля Кендыша, Віктара Войтанкі, дыякана а. Міхала Страпко і а. Карпа Старавойтава ды па 2–х дэлегатаў ад прыходаў зь Нью Ёрку, Нью Брансьвіку, Кліўлэнду, Дэтройту і Таронта з госьцем, казацкім ігуменам а. Адамам.

30 — Беларускі дзень на Нацыянальнай выставе Канады ў Таронта.

31 — высьвячэньне будынку беларускае царквы Хрыста Спаса ў Чыкага.

31 — 35–я ўгодкі II Усебеларускага Кангрэсу сьвяткавалі з малебнам за беларускі народ і рэфэратам Вітаўта Кіпеля ў адпачынковым летніку Белэр–Менск.
31 — зьезд АБАМ у Нью Брансьвіку. Галоўнае Кіраўніцтва: Уладзімер Страпко, В. Гарошка, Гэлена Канарчук, Марыя Каваленка, Раіса Станкевіч, Юрка Азарка, В. Страпко; рэвізійная камісія: Уладзімер Дунец, інж. Кастусь Калоша, інж. Вячка Станкевіч.

**Верасень**
4—5 — сьвяткаваньне 20–годзьдзя аднаўленьня і 15–годзьдзя БАПЦ у Таронта.
7 — побыт сябра Ўправы Беларускага Аб'яднаньня ў Аўстраліі Міколы Нікана ў Чыкага.
11 — памёр у Аўстраліі Міхал Субач, грамадзкі дзеяч, былы жаўнер БКА.
14 — высьвячэньне месца для пашырэньня будынку царквы Хрыста Спаса ў Чыкага.
21 — закладзіны Беларускага клюбу „Сакавік" у Беларускім доме ў Брэдфардзе; арганізатары: Аляксандар Калько, Янка Каўбаса, Хведар Лемяшонак, Вэнэдыкт Кляйноў, Антон Мучынскі.
28 — памёрла ў Нямеччыне Юльляна Дубейкаўская (Мэнке), пісьменьніца, ахвярная працаўніца беларускага нацыянальнага руху ў часы „Нашай Нівы".
28 — выстава, прысьвечаная 20–годзьдзю БАПЦ, у Беларускім Рэлігійна–Грамадзкім Цэнтры у Таронта.
Выйшаў 100–ы нумар беларускага адраджэнска–рэлігійнага часапісу „Зьніч"; рэд. пралат Пётра Татарыновіч (Рым).

**Кастрычнік**
11—12 — нарады прэзыдэнта Рады БНР д–ра Вінцэнта Жук–Грышкевіча з д–рам Язэпам Сажычам і Вацлавам Пануцэвічам у Чыкага аб стварэньні Лігі БНР.
25 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Гетман Рыгор Хадкевіч як ідэйны пасьлядоўнік Францішка Скарыны" ў Таронта.
26 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл. Царкоўная ўправа: Ян Казьлякоўскі, Кастусь Мярляк, Васіль Шчэцька, Пятро Мельяновіч, Васіль Захаркевіч, Л. Ляўковіч, Васіль Юрцэвіч, М. Беразоўскі, Пётр Саўчыц.
29 — беларуская дэлегацыя на I канфэрэнцыі нацыянальнасьцяў ЗША ў Вашынгтоне (Станіслаў Станкевіч).

**Лістапад**
1—2 — беларускі стэнд і кухня на Міжнародным этнічным фэстывалі ў Чыкага.
11 — лекцыя праф. Арнольда МакМіліна пра Яна Чачота пачала IV курс беларусаведы Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане.
16 — урачыстае адзначэньне ўгодкаў братоў Івана і Антона Луцкевічаў з рэфэратам д–ра Янкі Запрудніка і ўспамінамі тых, хто ведаў альбо супрацоўнічаў зь імі, ладзіў БІНіМ у Брукліне.
16 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох за волю Беларусі і прыняцьцямі ўрадавых і іншанацыянальных прадстаўнікоў па беларускіх эміграцыйных асяродках:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
17 — першая лекцыя сэмінару „Беларускія дыялёгі" д–ра Янкі Запрудніка „Азначэньне тэрміну Беларусь" у Брукліне.
28—29 — VI кангрэс БККА ў Саўт Рывэры. Управа: Іван Касяк, Кастусь Мярляк, Анатоль Плескачэўскі, Міхась Бахар, Б. Шурак, Міхась Сенька, Нікандар Мядзейка, М. Беразоўскі, Віталь Цярпіцкі, Вітаўт Кіпель, Васіль Пунтус, Ксэнафонт Вайцяхоўскі, Сымон Жамойда; рэвізійная камісія: Эмануіл Ясюк, Васіль Шчэцька, Пётр Орса; Рада кангрэсу: Антон Даніловіч, Анатоль Занковіч, а. Мікалай Лапіцкі, а. А. Мірановіч, а. Сьвятаслаў Коўш, Грыгоры Арцюшэнка, Ксавэры Барысавец, Васіль Юрцэвіч, Міхась Кавыль, Язэп Казьлякоўскі.
Трагічна загінуў у Мэльбурне Сяргей Розмысл, прадстаўнік Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі.

**Сьнежань**
1 — лекцыя сэмінару „Беларускія дыялёгі" д–ра Янкі Запрудніка „Савецкая Беларусь сёньня" ў будынку Вулкі *Memorial* на Мангэтэне (Нью Ёрк).
2 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Беларускія летапісы XV—XVI стагодзьдзяў" у Таварыстве Антыквараў у Лёндане.
20 — высьвячэньне і афіцыйнае адчыненьне Беларускага дому ў Брэдфардзе.

20 — нарада беларускіх літаратараў пра магчымасьці выданьня незалежнага ад груповак часапісу не знайшла адзінства поглядаў у Брукліне.

## 1970 год

### Студзень

4 — побыт Антона Адамовіча ў Лёндане з дакладам пра жыцьцё і дзейнасьць беларускае грамады ў ЗША.

15 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА дакааптаваў ва Ўправу: Галіну Орсу, Пётру Манькоўскага, Гіпаліта Паланевіча і Міколу Кунцэвіча.

17 — адчыненьне Беларускага клюбу „Сакавік“ у Беларускім доме ў Брэдфардзе.

24 — выстава беларускіх экспанатаў у бібліятэцы ўнівэрсытэту Нотр Дам (штат Ілінойс).

31 — XX агульны сход ЗБК у Таронта. Галоўная Ўправа: Алесь Грыцук, Віктар Касьцюкевіч, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Мікола Ганько, Кастусь Акула; рэвізійная камісія: Язэп Чорны, Янка Баран, Барыс Кірка; сяброўскі суд: Аўген Протас, Вольга Грыцук, Людміла Рагуля.

### Люты

1 — сход дольшчыкаў карпарацыі „Белэр–Менск“ у Саўт Рывэры. Рада дырэктараў: д–р Уладзімер Красоўскі, Юрка Навумчык, Сяргей Рагалевіч, Сяргей Касьцюк, Аўген Протас, П. Захаркевіч, А. Шостак, Уладзімер Крывіцкі, Міхась Казьлякоўскі, П. Пяцько, Аркадзь Ерамёнак, І. Ліс; рэвізійная камісія: Вітаўт Кіпель, Вячка Станкевіч, Уладзімер Пялеса.

3 — лекцыя д–ра Р. А. Фрэнча „Ўплыў чалавека на зьмену краявіду ў Беларусі“ ладзіла Ангельска–Беларускае Таварыства ў Таварыстве Антыквараў у Лёндане.

8 — аднавіў дзейнасьць Беларуска–Амэрыканскі Рэспубліканскі Клюб штату Нью Ёрк. Управа: д–р Станіслаў Станкевіч, д–р Уладзімер Набагез, інж. Мікола Гарошка, Барыс Данілюк, Раіса Станкевіч.

12 — куплены будынак для Беларускай бібліятэкі, музэю і архіву Беларускай Каталіцкай Місіяй (д–р яп. Чеслаў Сіповіч) у Лёндане.

21 — даклад Антона Адамовіча „Нью Ёрк—Лёндан—Мюнхэн“, ладжаны БІНіМ у Нью Ёрку.

22 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Янка Азарка, Тамаш Супрун, Іван Бендзераў, Васіль Стома, Марыя Войтанка, Браніслаў Даніловіч, П. Швэд, В. Лосік, Тамара Януш.

22 — яп. д–р Чеслаў Сіповіч у асысьце аа. Лява Гарошкі і Робэрта Тамушанскага адслужыў сьв. літургію ў царкве Сьв. Джэймса ў Лёндане.

### Сакавік

7 — памёр у Нью Ёрку Мікалай Тарашкевіч, дзейны працаўнік грамадзка–царкоўнага жыцьця беларускай эміграцыі.

8 — сход вернікаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Управа: Уладзімер Целеш, Мікола Ганько, Янка Баран, Мікола Стальмашонак, Міхась Кулеш, Мікалай Алексяевіч, Лявон Карыба; рэвізійная камісія: Ніна Чорная, Н. Сільвановіч, д–р Раіса Жук–Грышкевіч.

17—26 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежную Беларусь.

19 — малітва за Беларусь і беларускі народ у Кангрэсе ЗША ў Вашыгтоне а. Мікалая Лапіцкага і а. Васіля Кендыша.

22 і пазьней — адбыліся ўрачыстасьці абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі па сьвятынях, адпаведнымі акцыямі і прыняцьцямі ўрадавых прадстаўнікоў ды іншанацыянальных гасьцей у:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

22 — сход вернікаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Управа: Іван Бруцкі, Андрэй Стрэчань, Уладзімер Дунец, А. Шостак, Анатоль Лук’янчык, Клаўдзія Каляда, А. Кананчук, Мікола Пэнда (стараста); рэвізійная камісія: Мікалай Гумен, Аўген Семянчук, Ян Карпейка.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў: Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Мічыган, Агаё, Пэнсыльванія, Ілінойс, ды мэрамі гарадоў: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт з узьняцьцем бел–чырвона–белага сьцягу перад ратушамі.

27—28 — нарада царкоўных прадстаўнікоў у Саўт Рывэры: а. Мікалай Лапіцкі, а. Сьвятаслаў Коўш, Мікола Латушкін, а. А. Мірановіч.

**Красавік**

3 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

3 — удзел беларускай групы ў супрацьсавецкай маніфэстацыі ў часе банкету з маскоўскімі гасьцямі ў Таварыстве Канадыйска–Савецкай Дружбы ў Таронта.

4 — удзел беларускай групы ў супрацьсавецкай дэманстрацыі, ладжанай АБН у Вашынгтоне.

7 — лекцыя Гая Пікарды „Беларускае звычаёвае права ў галіне спадчыны“ ў Таварыстве Антыквараў у Лёндане.

20 — сход вернікаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку. Управа: Віктар Дубяга, Пётра Кажура, Ніна Сільвановіч, Аўген Лысюк, Уладзімер Сьлізка (царкоўны стараста), М. Януш, Васіль Русак.

26 — нарада прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў Аўстраліі аб стварэньні адзінага каардынуючага цэнтру прадстаўніцтва беларусаў у Сыднэі.

**Травень**

5 — лекцыя праф. Джэймса Дынглі (Рэдынгскі ўнівэрсытэт) „Філён Кміта–Чарнабыльскі (1530—1587) і ягоныя «Отпісы»“ з курсу беларусаведы Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане.

16—17 — царкоўны фэст 500–х угодкаў зьяўленьня абраза Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку.

17 — адчынена выстава абразоў мастачкі Э. Вярбіцкай у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

21 — 20–годзьдзе першай багаслужбы ў першай беларускай праваслаўнай царкве ў Канадзе, ладжанае вернікамі царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае, у Таронта.

29 — памёр у Парыжы інж. Мікола Абрамчык, прэзыдэнт Рады БНР.

**Чэрвень**

5—27 — выстава абразоў мастака Пётры Мірановіча ў Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

7 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Мікола Кунцэвіч, Міхась Тулейка, Раіса Станкевіч, Валянцін Міцкевіч, Уладзімер Русак, Натальля Орса, Антон Шукелойць, Аліна Курыла; рэвізійная камісія: Пётра Мірановіч, Мікола Гарошка, Пётра Манькоўскі.

7 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: С. Полацкі, Н. Гасьцееў, Юрка Станкевіч, Астап Яраховіч, Тацьцяна Кананчук, Янка Раковіч, Андрэй Стрэчань.

12 — памёр у Нью Ёрку архіяпіскап Васіль (Тамашчык), кіруючы япіскап БАПЦ (па іншых дадзеных памёр 9 чэрвеня).

12 — першую сьв. імшу ў царкве Хрыста Спаса ў Чыкага па–беларуску адслужыў а. Францішак Чарняўскі.

15—20 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

21 — закладзіны і высьвячэньне каменя асновы новае беларускае праваслаўнае царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью Ёрк).

**Ліпень**

3—5 — зьезд СБАМ у Кліўлэндзе адзначыў 20–годзьдзе існаваньня арганізацыі (склад Управы пакінуты стары).

4 — Дзень беларускага жаўнера, ладжаны аддзеламі ЗБВ Нью Ёрку, Саўт Рывэру і Пасэйку з малебнам за беларускі народ, з парадам і банкетам на Белэр–Менск.

12 — 50–годзьдзе сьвятарскай працы а. Францішка Чарняўскага ўрачыста адзначыла беларуская калёнія ў Чыкага.

12 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку і Чыкага.

15 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Саўт Рывэры.

17 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Кліўлэндзе.

**Жнівень**

16 — прыхільнікі пісьменьніцкай арганізацыі „Баявая Ўскалось“ адзначылі 25–годзьдзе яе існаваньня (закладзена як „Ускалось“ на пачатку 1945 году ў Бэрліне: Сяргей Хмара, Э. Чэмер, Васіль Камароўскі (Вярбіна), Васіль Вір, Вольха...).

**Верасень**

5—7 — IX сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі, ладжаная БАЗА (ЗША) і ЗБК (Канада) на селішчы Белэр–Менск ля Нью Ёрку.

11 — пачатак візыту генэрала марыянаў а. Часлава Сіповіча ў Чыкага.

13 — 15–я ўгодкі працы беларускага рэлігійна–культурнага цэнтру ў Чыкага, закладзенага а. Янам Тарасэвічам, Янам Чарнецкім, Вацлавам Пануцэвічам.

26 — побыт Уладыкі Часлава Сіповіча ў Нью Ёрку; на сустрэчах з суродзічамі паінфармаваў пра жыцьцё беларусаў–выгнанцаў у Эўропе.

**Кастрычнік**

1—3 — беларуская дэлегацыя на II этнічнай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне.

4 — сход аднаўленьня дзейнасьці Аб’яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі ў Парыжы. Управа: Міхась Наўмовіч, а. Леў Гарошка, Лявон Шыманец; рэвізійная камісія: Уладзімер Шыманец, В. Дубоўскі, Віктар Жаўняровіч.

31.X—1.XI — два беларускія стэнды (БНР і БЦР) на Міжнародным фэстывалі народнага мастацтва ў Чыкага.

**Лістапад**

12—15 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі Эўрапейскай Рады Свабоды ў Брусэлі; кір. Зьміцер Касмовіч.

13 — сход сястрыцтва пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл. Управа: Поля Клінцэвіч, Крыстына Юрцэвіч, М. Завалока, Ганна Мярляк.

22 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох за волю Беларусі і прыняцьцямі ўрадавых і іншанацыянальных прадстаўнікоў па беларускіх эміграцыйных асяродках:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

24 — жалобны вечар па памерлым Адольфу Клімовічу, беларускім грамадзкім дзеячу, навукоўцу, нявольніку маскоўскіх кацэтаў (канцэнтрацыйных лягераў — *рэд.*), памерлым у Кляшчэлях (Віленшчына) па звароце зь сібірскіх лягераў.

28 — канцэрт памяці кампазытара Міколы Куліковіча зь ягоных музычных твораў у Чыкага.

29 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне. Управа: а. Карп Старавойтаў, Мікола Гарошка, Пётра Манькоўскі, Барыс Данілюк, Міхась Міцкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Міхась Тулейка, Кастусь Верабей, Я. Гуцька, Юрка Касьцюкевіч, Мікола Заморскі; царкоўная рада: д–р Уладзімер Набагез, інж. Міхась Рагуля, Уладзімер Курыла.

30 — вучням школы Сьв. Кірылы Тураўскага і запрошаным гасьцям паказаны фільм „Беларуская сюіта“ („Беларусьфільм“) у Лёндане.

**Сьнежань**

17 — лекцыяй Гая Пікарды (сакратара Ангельска–Беларускага Таварыства) „Тэксты і напевы падобных Супрасьльскага Ірмалёгія 1901 г.“ пачаты V курс беларусаведы.

19 — 60–годзьдзе дзейнасьці д–ра Вітаўта Тумаша, навукоўца і грамадзка–палітычнага дзеяча, адзначыў БІНіМ у Нью Ёрку.

21 — сход Аб’яднаньня Беларускай Акадэмічнай Моладзі ў Нью Брансьвіку. Управа: Я. Лук’янчык, В. Лосік, Г. Лук’янчык, Міхась Швэд.

## 1971 год

**Студзень**

15 — беларускія перадачы Ватыканскага радыё перададзеныя пад кіраўніцтва а. Лява Гарошкі.

23 — зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Алесь Грыцук, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Барыс Кірка, Мікола Ганько, Янка Баран, Кастусь Акула.

24 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА. Управа: Тамаш Супрун, Сяргей Гутырчык, Васіль Стома, Ірына Брэндэр, Марыя Войтанка, Браніслаў Даніловіч, Тамара Януш, Я. Лук’янчык.

I сустрэча беларусаў Аўстраліі, ладжаная Фэдэратыўнай Радай Беларускіх Арганізацыяў (усяго 12 арганізацый) у Сыднэі.

**Люты**

7 — даклад д–ра Янкі Станкевіча „Беларускія плямёны ды іхняе расьсяленьне“ ў Беларускім Цэнтры ў Брукліне.

9 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Пісьменнасьць беларускіх татараў арабскім пісьмом“ у Таварыстве Антыквараў у Лёндане.

14 — нарада Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады ў Таронта: д–р Барыс Рагуля, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Ян Аношка.

18.II—10.III — у сувязі са страйкам паштароў у Англіі працавала адмысловая беларуская пошта ЗБВБ (між гарадамі Лёндан—Брэдфард—Манчэстэр—Бірмінгем—Оксфард).

21 — заснаваньне Беларуска–Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу Агаё ў Кліўлэндзе: Янка Раковіч, Паўла Полацкі, Юрка Гасьцееў, Уладзімер Літвінка, Янка Лукашэвіч.

27 — памёр у Мэльбурне архімандрыт БАПЦ Мадэст Яцкевіч.

28 — сход вернікаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Управа: Іван Бруцкі, Андрэй Стрэчань, Юрка Гасьцееў, Мікалай Гумен, А. Міраеўскі, Клаўдзія Каляда, Васіль Семянчук, Мікола Пэнда — царкоўны стараста; рэвізійная камісія: Я. Карпінскі, Павал Дварэцкі, Аўген Семянчук.

**Сакавік**

9 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Адлюстраваньне некаторых фанэтычных асаблівасьцяў жывое беларускае мовы ў пісьмовых помніках XVI—XVII стагодзьдзяў“ (курс беларусаведы) у Лёндане.

22 — даклад д–ра Яна Садоўскага „Беларусь і беларусы — занядбаны аспэкт славянскіх студыяў“ ва ўнівэрсытэце Атавы.

22—27 — ладжаныя ўрачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі і прыняцьцямі шматлікіх урадавых і знаных чужанецкіх палітыкаў і банкетамі:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас, Бруклін;
— Італія: Рым;
— Канада: Манрэаль, Таронта, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

24 і пазьней — з прамовамі за незалежнасьць Беларусі выступалі ў Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне шматлікія сэнатары і кангрэсмэны.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Агаё, Каліфорнія, Нью Джэрзі, Мічыган, Пэнсыльванія і мэры гарадоў Нью Ёрк, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас, Патэрсан, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт з узьняцьцем бел–чырвона–белага сьцягу перад гарадзкімі ратушамі.

27 — сабор япіскапаў БАПЦ у Брукліне пастанавіў: узьвесьці япіскапа Андрэя (Крыта) да архіяпіскапскага дастоінства; прызначыць а. Васіля Кендыша сакратаром кансысторыі БАПЦ; прызначыць у рэдакцыйную калегію „Голасу царквы“: Міхася Міцкевіча, Пётру Манькоўскага, Янку Запрудніка, Міколу Гарошку і Міхася Тулейку.

27 — заснаваны Камітэт Абароны селішча Белэр–Менск. Аляксандар Андрыца, Леанід Галяк, Уладзімер Курыла, Пётра Манькоўскі, Марыя Ханяўка.

**Красавік**

4 — беларускі стэнд на Велікоднай выставе ў Таронта.

17—18 — двухдзённая беларусаведчая канфэрэнцыя ў г. Кінгстане (Канада) зь беларускае мовы, гісторыі, літаратуры і навукі.

20 — лекцыя Ўладыкі Часлава Сіповіча „Пытаньне мовы ў каталіцкай царкве ў Беларусі ў другой палове XIX стагодзьдзя“ (курс беларусаведы) у Лёндане.

Выйшаў № 1 тыднёвіка беларускіх змагароў „Змагар“; рэд. Віктар Васілеўскі (Нью Брансьвік).

**Травень**

1 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе Дня ляяльнасьці па 5–й авэню ў Нью Ёрку, Кліўлэндзе, Саўт Рывэры, Нью Брансьвіку, Чыкага.

4 — адчынена выстава абразоў мастачкі Галіны Русак у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

6 — царкоўны фэст царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Таронта.

7—8 — дыскусія па беларускай эміграцыйнай літаратуры на зьезьдзе славістых у Манрэалі: Васіль Вір.

9 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Уладзімер Дунец, Андрэй Стрэчань, Астап Яраховіч, Ірэна Каляда–Сьмірнова, Кастусь Кіслы, Янка Раковіч, Вольга Лукашэвіч; рэвізійная камісія: Я. Каваленка, а. Міхал Страпко, С. Полацкі.

13 — памёр у Таронта Адам Літвінка, грамадзка–царкоўны працаўнік.

14 — сход Арганізацыі Беларуска–Амэрыканскай Моладзі ў Нью Ёрку. Управа: Раіса Станкевіч, Аня Бартуль, Ніна Запруднік, Галіна Тумаш, Міхась Казьлякоўскі.

15 — урачыстае высьвячэньне і адкрыцьцё Беларускае бібліятэкі і музэю ў Лёндане з удзелам гасьцей–прыяцеляў беларускай справы і беларускага грамадзтва.

16 — паказ беларускіх народных танцаў гуртком Алы Орсы–Рамана на міжнародным канцэрце Рады Народных Фэстываляў у Нью Ёрку.

16 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Мікола Кунцэвіч, Уладзімер Русак, Валянцін Міцкевіч, Галіна Орса, Міхась Тулейка, Раіса Станкевіч, Ніна Орса.

29 — XI сэсія Рады БНР у Нью Ёрку (63 радныя) выбрала прэзыдэнтам Рады БНР д–ра Вінцэнта Жук–Грышкевіча.

30 — XIV кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку. Управа: Расьціслаў Гарошка, Раіса Станкевіч, Уладзімер Курыла, Васіль Пляскач, Ала Орса–Рамана, Браніслаў Даніловіч, Юрка Мазура, Андрэй Стрэчань, Міхась Тулейка, Аляксандар Міцкевіч; рэвізійная камісія: Васіль Русак, Ніна Стома, Сяргей Гутырчык; рэдакцыйная калегія газэты „Беларус“: рэд. Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік, Барыс Данілюк, Мікола Абрамчык (мал.), Францішак Бартуль, Аляксандар Міцкевіч, Уладзімер Русак, Васіль Русак, Вячка Станкевіч, Раіса Станкевіч.

30 — арганізацыйны сход Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Мэльбурне. Часовая Ўправа: Ніна Грыцук, Ала Корбут, Віктар Швэд, Юрка Нікан, М. Гуз, Уршуля Нікан, Ю. Швэд.

**Чэрвень**

1 — лекцыя Гая Пікарды „Суды абычаёвага права ў Беларусі, іх склад, юрысдыкцыя і правілы“ (курс беларусаведы) у Лёндане.

13 — сход сяброў Беларускага клюбу ў Манчэстэры. Управа: К. Шыбіцкі, Міхась Яськевіч, Хведар Кажаневіч, Аўген Варэнік.

14—19 — беларускі стэнд і паказы на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Кліўлэндзе.

24.VI—1.VII — беларускае стойбішча „Менск“ на „Караване“, фэстывалі танцаў, забаваў, выставаў, кірмашоў; бралі ўдзел 23 нацыі. „Менск“ наведала каля 2000 асобаў.

**Ліпень**

2 — канцэрт этнічных групаў, беларускую частку рэпрэзэнтавала група сяброў АБАМ у Дэтройце.

2 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу адзначалі беларусы ў Мэльбурне.

3—5 — зьезд АБАМ у „Полацку“ ў Кліўлэндзе. Галоўная Ўправа: Раіса Станкевіч, Гэлена Кажура, Эва Пашкевіч, Г. Плескач, Уладзімер Страпко, Галіна Тумаш, Юрка Азарка, М. Швэд, Аркадзь Харавец, Ю. Курыла.

4 — Дзень беларускага жаўнера з парадам і банкетам ладзіў ЗБВ на селішчы Белэр–Менск.

11 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе Тыдня паняволеных народаў у Сыднэі.

11—17 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў маніфэстацыях і дэманстрацыях Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку, Лос Анджэласе, Кліўлэндзе, Дэтройце, Чыкага, Маямі, Саўт Рывэры, Нью Брансьвіку.

17 — XXV зьезд ЗБВБ у Лёндане. Управа: Янка Міхалюк, Хведар Кажаневіч, Аляксандар Лашук, Павал Навара, Пётр Асіповіч, а. Робэрт Патры–Тамушанскі.

17 — сход кліўлэндзкага аддзелу АБАМ. Управа: Галіна Канарчук, Марыя Каваленка, Оля Дубаневіч, Уладзімер Страпко, Анюта Радзюк, Мікалай Мітраховіч, Уладзімер Дунец.

18 — вернікі царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці адзначылі 70–годзьдзе Ўладыкі БАПЦ Андрэя (Крыта) у Кліўлэндзе.

20—25 — беларуская дэлегацыя (Алесь Алехнік) на V кангрэсе Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Маніле (Філіпіны) прыняла рэзалюцыю пра незалежнасьць Беларусі.

28 — падпісаны акт аб узьвядзеньні яп. Андрэя (Крыта) у архіяпіскапы, які ачоліў БАПЦ.

**Жнівень**

24 — прыходы цэркваў у Нью Ёрку і Нью Брансьвіку ўрачыста адзначылі 680–годзьдзе закладзінаў 1–е БАПЦ зь мітраполіяю ў Наваградку.

28.VIII—7.X — візытацыя прыходаў БАПЦ Уладыкам Андрэем (Крытам) у Англіі.

**Верасень**

4 — архірэйская багаслужба Ўладыкі Андрэя (Крыта), пазьней ягоны даклад пра сучасны стан БАПЦ у вольным сьвеце і пра дзейнасьць беларусаў у ЗША ды адказы на шматлікія пытаньні вернікаў у Брэдфардзе.

5 — архірэйская багаслужба Ўладыкі Андрэя (Крыта) у саслужэньні з а. Янам Абабуркам. Быў рукапакладзены ў сьвятары дыякан Ян Пекарскі ў Брэдфардзе.

12 — архірэйская багаслужба Ўладыкі Андрэя (Крыта) у Нотынгеме са сьпевамі царкоўнага хору (кір. матушка Палякова), пазьней трапезная бяседа зь вернікамі.

19 — архірэйская багаслужба на беларускай мове, пасьля якой большасьць вернікаў выказалі радасьць, бо служба на роднай мове прынесла радасьць і надзею.

26 — архірэйская багаслужба з удзелам царкоўнага хору пад кіраўніцтвам Гая Пікарды, пасьля службы адбылося прыняцьцё.

28 — даклад Уладыкі Андрэя (Крыта) у Лёндане пра БАПЦ і беларускія падзеі ў ЗША, затым бясконцыя пытаньні, на якія даваў адказы Ўладыка або знаходзілі адказы самыя вернікі.

### Кастрычнік

2 — памёр Уладыка Сергій (Ахатэнка), галава БАПЦ у Аўстраліі.
3 — архірэйская багаслужба ў Кембрыджы Ўладыкі Андрэя (Крыта) у саслужэньні а. Яна Пекарскага, на паслужбовай трапезе бясконцыя пытаньні вернікаў.
5 — высьвячэньне царквы сьвятога Духу ў Дэтройце.
6 — пачаліся заняткі ў беларускай школе пры царкве Сьв. Юрага ў Чыкага.
11 — побыт яп. Мікалая (Мацукевіча) у Аўстраліі.
16—17 — беларуская дэлегацыя ўдзельнічае ў працы Этнічнае канфэрэнцыі ЗША ў Вашынгтоне.
20.X—5.XI — побыт пралата а. Пётры Татарыновіча ў Нью Ёрку.
24 — сьвяткаваньне 680–годзьдзя (Беларускай) Наваградзкай мітраполіі ў катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Уладыка Андрэй (Крыт) са сьвятарамі адслужыў належныя службы.
30 — рэфэрат д–ра Вітаўта Тумаша „Беларусы ў БССР у ліках перапісу 1970 году“ ладзіў БІНіМ у Брукліне.
30 — юбілейная (50 гадоў служэньня) сьв. імша пралата а. Пётры Татарыновіча ў айцоў пасуяністых, пазьней юбілейныя сьвяткаваньні ў доме Фундацыі Пётры Крэчаўскага на Джамайцы (Нью Ёрк).

### Лістапад

7 — II гадавы сход Саюзу Беларускай Моладзі Канады (СБМК) у Таронта. Управа: Эва Пашкевіч, Я. Пітушка, Марыя Пракоп’ева, Роланд Целеш; кантрольная камісія: Паўлік Пашкевіч, В. Кухарчык, Юрка Акула.
14 — юбілейная сьв. імша пралата а. Пётры Татарыновіча ў Чыкага.
18—28 — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох ды прыняцьцямі ўрадавых і іншых арганізацыяў, ладжаныя ЗБВ:
— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Канбэра;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
19 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі Рэспубліканскай партыі ЗША ў Вашынгтоне.
21 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычманд Гіл (Нью Ёрк). Управа: Язэп Казьлякоўскі, Кастусь Мярляк, Сымон Жамойда, Пётр Саўчыц, Пятро Мельяновіч, О. Завалока, Л. Ляўковіч, М. Беразоўскі, Васіль Юрцэвіч.
24 — адзначылі 30–я ўгодкі існаваньня БАНР у Чыкага.

### Сьнежань

2 — рэзалюцыя кангрэсмэна Клемэнта Дж. Заблоцкага № 994 з дамаганьнем, каб ЗША наладзілі непасрэдную дыпляматычную сувязь зь Менскам і Кіевам.
3—5 — канфэрэнцыя на тэму „Пачаткі кнігадрукаваньня ва Ўсходняй Эўропе“ пра беларускі кнігадрук, даклады зрабілі праф. Р. Ота „Глагалічныя інкунабулы“ і а. Аляксандар Надсан „Новае пра друкарскую дзейнасьць Францішка Скарыны ў Вільні“ ў Лёнданскім унівэрсытэце.
5 — беларуская музычная група на міжнародным канцэрце ў Лёндане: Міхась Саўка–Міхальскі, Васіль Тур, М. Цьвірка.
10 — удзел у банкеце Клюбу Этнічнай Прэсы ў Таронта (Сяргей Хмара).
14 — даклад Джэймса Дынглі ў Лёнданскім унівэрсытэце „Славянская граматыка Яна Ўжэвіча (1643—1645)“.
28 — памёр у Лёндане Дамінік Аніська, літаратар, беларускі каталіцкі дзеяч і ваяк.
У сьнежні памёр сьвятар Віталіс Хамёнак, рэлігійна–грамадзкі дзеяч у Польшчы.

## 1972 год

### Студзень

2 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку. Царкоўная рада: Марыя Войтанка, Анатоль Лук’янчык, Павел Белявец, Аўген Лысюк, Васіль Русак, М. Януш.
2 — школьная ялінка ў Беларускім доме ў Мэльбурне.
9 — калядная ялінка дзецям беларускае школы пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Таронта з багатай праграмай школьнай самадзейнасьці (кіраўнічка Валянціна Пашкевіч).
9 — паніхіда па капітане Беларускай Краёвай Абароны Аляксандру Маляўку ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку (Нью Джэрзі).

15 — сход аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі. Управа: Тамаш Супрун, Расьціслаў Войтанка, Галена Войтанка, Мікола Войтанка, Сяргей Гутырчык, Браніслаў Даніловіч, Васіль Стома, Юрка Азарка; жаночая сэкцыя: Марыя Васілеўская, Ганна Войтанка, Ганна Супрун, Тамара Януш; рэвізійная камісія: Ніна Стома, Янка Азарка, Пётра Кажура.

15 — сход Саюзу Беларускай Моладзі ў Канадзе. Управа: Эва Пашкевіч, Марыя Пракаповіч, Роланд Целеш.

16 — калядная ялінка з праграмаю школьнае самадзейнасьці пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

29 — зьезд ЗБК у Таронта. Галоўная Ўправа: д–р Раіса Жук–Грышкевіч, д–р Барыс Рагуля, Барыс Кірка, Мікола Ганько, Міхась Кулеш, Янка Сурвіла, д–р Яўхім Скурат; наглядная рада: Алесь Грыцук, Антон Маркевіч, Кастусь Акула; сяброўскі суд: Аўген Протас, д–р Ларыса Рагуля, Вольга Грыцук.

### Люты

8 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Лаўрышаўскі манастыр і ягонае Евангельле (XIV ст.)“ (курс беларусаведы) у Лёндане.

12 — перавыбары царкоўнага камітэту царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Таронта: Аркадзь Рымша, М. Варанецкі, Міхась Кухарчык, І. Вырва.

12 — удзел беларускага гуртка „Васілёк“ пад кіраўніцтвам Алы Орсы ў фальклёрным фэстывалі ў Нью Ёрку.

12 — удзел беларускага хору „Каліна“ ў Міжнародным канцэрце паняволеных народаў у Нью Ёрку.

20 — навуковая канфэрэнцыя з нагоды 20–годзьдзя БІНіМ з дакладамі д–ра Вітаўта Тумаша, праф. Антона Адамовіча, д–ра Станіслава Станкевіча і прыняцьцем, ладжаным Згуртаваньнем Беларуска–Амэрыканскай Моладзі ў Брукліне.

20 — традыцыйныя запусты ладзіла БАЗА ў Брукліне.

### Сакавік

7 — лекцыя Ўладыкі Часлава Сіповіча „Архімандрыт Андрэй Цікота і яго месца ў беларускім каталіцкім адраджэньні“ (курс беларусаведы) у Лёндане.

19 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі ды прыняцьцямі прадстаўнікоў урадаў і гасьцей–чужынцаў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

20 — выступалі з прамовамі ў падтрымку беларускай нацыянальна–вызвольнай справы, за незалежнасьць Беларусі многія сэнатары і кангрэсмэны ў Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі ў штатах Нью Ёрк, Мічыган, Агаё, Нью Джэрзі, Пэнсыльванія; мэрамі гарадоў Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Пасэйк з падняцьцем беларускіх нацыянальных бел–чырвона–белых сьцягоў перад ратушамі.

26 — беларуская група на дэманстрацыях пратэсту супраць перасьледу інтэлектуалістых паняволеных народаў СССР у Брэдфардзе.

### Красавік

15 — побыт прэзыдэнта Рады БНР д–ра Вінцэнта Жук–Грышкевіча, былога арганізатара і старшыні ЗБВБ, на сьвяткаваньні 25–годзьдзя ЗБВБ у Англіі.

16 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Вініпэгу.

16 — сход дольшчыкаў Беларускага Грамадзкага Цэнтру „Полацак“ у Кліўлэндзе. Управа: Сяргей Карніловіч, А. Мíраеўскі, Кастусь Калоша, С. Палонскі, Янка Лукашэвіч, Я. Каваленка, М. Яраховіч.

19 — сьвяткаваньне 25–годзьдзя ЗБВБ у Лёндане, Манчэстэры (15), Брэдфардзе (21).

25 — памёр д–р Віктар Войтанка–Васілеўскі, рэд. часапісу „Змагар“, дзейны грамадзка–палітычны працаўнік у Нью Джэрзі.

29 — сход сяброў Беларускага Рэспубліканскага Клюбу ў Кліўлэндзе. Управа: Ірэна Каляда–Сьмірнова, Кастусь Калоша, Янка Лукашэвіч.

30 — выстава абразоў мастачкі Ірыны Рагалевіч, ладжаны БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

### Травень

3—4 — удзел беларускай дэлегацыі ў працы Канфэрэнцыі Амэрыканскіх этнічных групаў у Вашынгтоне.

5—7 — удзел беларускай дэлегацыі ў працы II Усеамэрыканскай Канвэнцыі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Чыкага: д–р Расьціслаў Гарошка, д–р Вітаўт Рамук, інж. Іван Бруцкі, Вера Рамук, Янка Раковіч, мгр. Васіль Пляскач...

9 — памёр Францішак Валенты, актыўны працаўнік беларускай калёніі ў Ля Крэзо (Францыя), пахаваны на могілках Маншанэ.

12 — на міжнароднай канфэрэнцыі па вывучэньні Прыбалтыкі ў Таронцкім унівэрсытэце д–р Янка Запруднік зрабіў даклад „Інтэрпрэтацыя гісторыі Вялікага Княства Літоўскага“.

13 — даклад Антона Адамовіча „Значэньне творчасьці Янкі Купалы“ і Янкі Запрудніка „Сучасны стан беларускай гістарычнай навукі“ ў Рэлігійна–Грамадзкім Цэнтры ў Таронта.

20 — нарада сяброў Фэдэрацыі Беларускіх Вольных Журналістых у Гамільтане (Канада): Сяргей Хмара, д–р Галейка, Васіль Вір, Юрка Стасевіч.

21 — урачыстая япіскапская багаслужба ў саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ з абедам і прамовамі Міколы Гарошкі і Міколы Кунцэвіча.

27—29 — II сабор духавенства і вернікаў БАПЦ у Нью Брансьвіку прыняў Статут БАПЦ, выбраў першаярархам БАПЦ архіяпіскапа Андрэя (Крыта) з тытулам мітрапаліта, прыняў папаўненьне Кансысторыі і прыняў рэзалюцыі.

30 — удзел Згуртаваньня Беларуска–Амэрыканскіх Вэтэранаў у парадзе Дня памяці на чале з падп. Сяргеем Гутырчыкам у Нью Брансьвіку.

**Чэрвень**

2—4 — удзел беларускай дэлегацыі ў працы Этнічнай канфэрэнцыі правінцыі Антарыё ў Таронта.

16— сьвяткаваньне Купальля беларусамі ў Сыднэі.

24.VI—1.VII — беларускае стойбішча „Менск“ на фэстывалі „Караван’72“ у Таронта зь беларускімі песьнямі, танцамі і кухняй адведалі да 2000 асобаў.

24.VI—2.VII — удзел беларусаў ува ўсіх мерапрыемствах Тыдня паняволеных народаў Эўропы, ладжаных Брытанскай Лігай за Свабоду Эўропы ў Брэдфардзе.

25 — пачаўся сэзон на беларускім адпачынковым селішчы Белэр Менск пад Нью Ёркам.

**Ліпень**

1 — XXVI зьезд ЗБВБ у Лёндане (аддзелы ў Лёндане, Брэдфардзе, Манчэстэры, Бірмінгеме, Кембрыджы). Управа: Янка Міхалюк, Т. Лемяшонак, Павал Навара, Пётр Асіповіч.

1—3 — спартовыя спаборніцтвы дружынаў беларускай моладзі на селішчы Полацак у Кліўлэндзе.

2 — сьвяткаваньне II Усебеларускага Кангрэсу, ладзіў Беларускі Вызвольны Фронт у Мэльбурне.

4 — Дзень беларускага жаўнера з багаслужбамі і супольным абедам ладзілі беларускія вэтэранскія арганізацыі на селішчы Белэр–Менск.

15 — удзел беларускай групы ў сходзе і парадзе Тыдня паняволеных народаў, ладжаных арганізацыяй „Амэрыканцы за сваботу паняволеных народаў“ у Лос Анджэласе; на чале сям’я Часлава Найдзюка.

16 — царкоўны фэст царквы сьв. Пятра і Паўла з супольным абедам вернікаў у Адэляідзе.

23 — удзел у маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Сыднэі.

28 — памёр у Нью Ёрку Язэп Гладкі, настаўнік, этнограф, дэлегат I Усебеларускага Кангрэсу.

29 — удзел беларускай групы ў фэстывалі Тыдня паняволеных народаў у Сыднэі.

29 — памёр у Кінгстане (Канада) Адам Бобрык, гаспадар селішча для адпачынку.

30 — жалобны вечар памяці Янкі Купалы ў Беларускім доме ў Мэльбурне.

30 — высьвячэньне новазбудаванай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай і Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Саўт Рывэры.

**Жнівень**

2—5 — III зьезд беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Лёндане (Марыян Хаўз) у Беларускім Рэлігійным Цэнтры заслухаў даклады Ўладыкі Часлава Сіповіча „Сучасны стан беларускай каталіцкай царквы на Бацькаўшчыне і на эміграцыі“, а. Язэпа Германовіча „Пякучыя патрэбы ў беларускім рэлігійным жыцьці“ ды прыняў важкія рэзалюцыі; удзельнікі: Уладыка Часлаў Сіповіч, айцы: Уладзімер Тарасэвіч, Язэп Германовіч, Тамаш Падзява, Фэлікс Журня, Аляксандар Надсан, Уладзіслаў Салавей, Робэрт Патры–Тамушанскі.

6 — памёр у Дэтройце Сьцяпан Блоцкі, дзейны сябра беларускага руху.

14 — 20–годзьдзе Беларускага Нацыянальнага Аб’яднаньня ў Таронта. Склад першай Управы з II сходу 21 чэрвеня 1952 году: Барыс Аранскі, Сьцяпан Глебка, Міхась Пашкевіч, Кастусь Навіцкі, Сяргей Хмара, Язэп Пітушка, Т. Салановіч, а. Міхась Мігай, Грынько, Іван Алешка; рэвізійная камісія: Рыгор Беразоўскі, Кісель, А.Таранда, Барыс Сладкоўскі; сяброўскі суд: Кухарчык, Курбат, Міхась Сьцепановіч, Хведар Высоцкі.

21 — удзел беларускай дэлегацыі ў Этнічнай канвэнцыі Рэспубліканскай партыі ЗША ў Маямі Біч (Флёрыда) пад лёзунгам „Салют спадчыны Амэрыкі“.

24 — памёр у Сыднэі Адам Чурыла, грамадзкі дзеяч. Пакінуў хату Беларускаму клюбу.

30 — памерла ў Брукліне Ніна Каптуровіч, дзейная сяброўка прыходу Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.

**Верасень**

3 — нарада беларускіх арганізацыяў прыняла пратэст супраць грабежніцкай дзейнасьці маскоўскай акупацыйнай улады ў Беларусі і ўручыла яго ўсім некамуністычным прадстаўнікам ААН у Нью Ёрку.

9 — беларуская калёна з нацыянальнымі сьцягамі на антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Сыднэі.

10 — сход жанчынаў у Беларускім доме ў Мэльбурне заклаў Арганізацыю Беларускіх Жанчынаў. Управа: Вольга Сьлесарэвіч, Зіна Кадняк, Яўневіч, Тацьцяна Груша.

2—4 — X сустрэча беларусаў ЗША і Канады ў Таронта з дакладамі д–ра Вітаўта Тумаша „450–годзьдзе беларускага друку“ і праф. Антона Адамовіча „Янка Купала і Якуб Колас“, канцэртам мастацкай самадзейнасьці і лятарэяй.

24 — сход і закладзіны Беларускага Рэспубліканскага Клюбу ў Лос Анджэласе; Камітэт: Язэп Арцюх, Часлаў Найдзюк, С. Вуіч.

24 — сход сяброў Аб’яднаньня Беларуска–Амэрыканскай Моладзі ў Кліўлэндзе. Управа: Марыя Каваленка, Уладзімер Дунец (мал.), Каця Яраховіч, Анюта Радзюк, М. Дунец, Андрэй Яраховіч, Юля Радзюк.

24 — беларускі стэнд на Міжнародным фэстывалі народнага мастацтва ў Сыднэі.

25 — памёр у Бірмінгеме Міхась Еўлеў, грамадзка–царкоўны дзеяч.

29—30 — стэнд беларускай прэсы і беларуская дэлегацыя на VI канфэрэнцыі Фэдэрацыі Этнічнай Прэсы ў Вініпэгу.

**Кастрычнік**

3—8 — беларускі дэлегат ад БАА на канфэрэнцыі Ўсясьветнага Хрысьціянскага Антыкамуністычнага Аб’яднаньня ў Тайпэі (Тайвань) (Алесь Алехнік).

5—7 — удзел беларусаў у сымпозыюме „Вартасьць этнаграфічнай спадчыны грамадзянаў ЗША“, ладжаным Радаю Культурнай Спадчыны ў Скрэнтане (Пэнсыльванія).

7 — восеньскі традыцыйны баль БАЗА ў залі Шакаў у Саўт Рывэры.

8 — візыт Уладзімера Бортніка зь Нямеччыны ў Нью Брансьвік.

12 — памёр у Адэляідзе сьвятар БАПЦ Міхась Шчурко, закладнік першай парафіі БАПЦ у Аўстраліі, царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляідзе.

14 — сьвяткаваньне 20–годзьдзя Беларускага Нацыянальнага Аб’яднаньня ў Таронта з дакладамі Язэпа Пітушкі і Рыгор Беразоўскага.

20 — „Дажынкі“, ладжаныя аддзелам БАЗА ў Нью Ёрку.

29 — урачыстае высьвячэньне і ўваход у новазбудаваную царкву сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью Ёрк).

29 — даклад і мастацкае чытаньне твораў Якуба Коласа ў 90–я ўгодкі яго нараджэньня ладзіў Беларускі Цэнтральны Камітэт у Беларускім доме ў Мэльбурне.

У кастрычніку:

адбылася выстава „Беларуская Спадчына“ ў царкве „*Farm–House Museum*“ у Лёндане;

— уведзены курс беларускай мовы ў Рэдынгскім унівэрсытэце, праф. Джэймс Дынглі.

**Лістапад**

4—5 — беларускі стэнд на XIII Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Чыкага.

5 — урачысты літаратурны вечар 90–годзьдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа на селішчы Белэр–Менск.

11 — даклад праф. Антона Адамовіча „90–годзьдзе Янкі Купалы і Якуба Коласа — 90–годзьдзе беларускага нацыянальнага руху“ ладзіў БІНіМ у Брукліне.

12 — высьвячэньне і ўваход у новазбудаваную царкву Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Манчэстэры (сьвятар Ян Абабурка).

12 — удзел беларускай дзявочай танцавальнай групы „Мяцеліца“ ў міжнародным канцэрце музыкі і танцу, ладжаным каледжам Джэрзі Сіці.

18 — літаратурны вечар, прысьвечаны 90–годзьдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Сыднэі: д–р Язэп Малецкі, Аркадзь Качан, М. Мушынскі.

19 — удзел беларусаў у сходзе прадстаўнікоў паняволеных усходне–эўрапейскіх народаў у Брэдфардзе.

23 — памёр у Лос Анджэласе Аляксей (Алесь) Вініцкі, адзін з арганізатараў Беларускага Нацыянальнага Камітэту Амэрыканскай зоны Нямеччыны, укладальнік кнігі „Беларуская эміграцыя ў Нямеччыне (1939—1951 гг.)“, дзейны працаўнік на грамадзка–палітычнай ніве.

26 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох за волю Беларусі і народ з мастацкімі праграмамі і прыняцьцямі ўрадавых прадстаўнікоў ды іншанацыянальных гасьцей:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;

— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
28 — літаратурны вечар, прысьвечаны 90–годзьдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Парыжы.

**Сьнежань**
2 — літаратурны вечар, прысьвечаны 90–годзьдзю нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа па–ангельску (вершы ў перакладах Веры Рыч), у Лёндане.
3 — удзел беларускай музычнай групы „Сакавік“ (кір. Марк Саўка–Міхальскі) у міжнародным канцэрце ў Лёндане.
3 — сьвяткаваньне 25–годзьдзя існаваньня арганізацыі ЗБВ у Нью Брансьвіку.
9.XII.72—3.II.73 — выстава абразоў беларускіх мастакоў–эмігрантаў (19 асобаў), ладжаная БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
17 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычманд Гіл, Управа пакінутая ў папярэднім складзе.
25 — рэфэраты А. Вожыка „Жыцьцё ў сучаснай БССР“ і Станіслава Станкевіча „35-я ўгодкі крывавых сталінскіх пагромаў у Беларусі“ ў Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.
Адбыўся сымпозыюм па беларускай эмігранцкай літаратуры; лекцыі Антона Адамовіча „Вацлаў Ластоўскі“, Яна Садоўскага „Беларуская эмігранцкая літаратура ў Канадзе“ ў Квінс Каледжы (Нью Ёрк).

## 1973 год

**Студзень**
7 — першую багаслужбу ў нованабытай царкве Жыровіцкае Божае Маці служылі айцы Ян Пекарскі і Ян Абабурка ў Манчэстэры.
13 — лекцыя Ўладыкі Андрэя (Крыта) „Значэньне беларускай песьні“ і прыняцьцё для харыстых у Кліўлэндзе.
14 — заканчэньне школьнага году і ялінка для дзяцей у беларускай школе ў Мэльбурне.
25 — памерла Элізабэт Проктэр, прыяцелька беларусаў, сяброўка ЗБВБ і БАПЦ у Брэдфардзе.
28 — сход аддзелу БАЗА ў Нью Брансьвіку. Управа: Расьціслаў Войтанка, Пётра Кажура, П. Швэд, Сяргей Гутырчык, Янка Азарка, Браніслаў Даніловіч, Людміла Войтанка.

**Люты**
4 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці (БАПЦ). Управа: Марыя Войтанка, Міхась Сільвановіч, Віктар Дубяга, М. Януш, Уладзімер Сьліўка, Аўген Лысюк, В. Р.; рэвізійная камісія: Пётра Кажура, П. Швэд, Алег Дубяга, Васіль Стома, Янка Азарка; бацькоўскі камітэт: Мальвіна Дубяга, Пётра Кажура, Васіль Русак.
17—20 — нарада сабору япіскапаў БАПЦ разгледзела сытуацыю і бягучыя пытаньні царкоўнага жыцьця ў Кліўлэндзе.
18 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Управа: Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Уладзімер Дунец, Мікалай Гумен, Клаўдзія Каляда, Тацьцяна Кананчук, Уладзімер Літвінка; рэвізійная камісія: Ян Карпейка, Астап Яраховіч.
20 — беларускі дэлегат Алесь Алехнік на канфэрэнцыі „Сэмінар эмігранта“, скліканай Сусьветным Аб’яднаньнем Хрысьціянскіх Цэркваў у Мэльбурне.
22 — аўдыенцыя Ўладыкі Часлава (Сіповіча) у Папы Паўла VI у Ватыкане.
26 — памёр Пётра Рэпчанка, адзін з пачынальнікаў арганізаванага беларускага жыцьця ў Кліўлэндзе.

**Сакавік**
1.III—15.V — выстава, прысьвечаная 90–м угодкам нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа, у Ньюёрскай публічнай бібліятэцы.
2 — сход сяброў Беларускай Самапомачы ў Ашаве (Канада). Управа: Юрка Харэвіч, Віктар Харэвіч, Іван Курыкшук; рэвізійная камісія: Адам Тарасэвіч, Уладзімер Пасэвіч, Мікола Багдан.
4 — сход і аднаўленьне дзейнасьці аддзелу БАА ў Сыднэі. Управа: Міхась Зуй, кап. А. Булаўскі, Алесь Алехнік.
4 — сход праваслаўных беларусаў у Брэдфардзе выбраў Управу царкоўнага камітэту: а. Ян Абабурка, Хведар Кажаневіч, П. Сыркоўскі, Уладзімер Гінько (стараста); прадстаўнікі казакаў: Сяргей Рагель і В. Ахраменка.
4 — запусты ладзіў ньюёрскі аддзел БАЗА з народнымі танцамі самадзейнасьці дзяўчат пад кір. Галіны Тумаш у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
22 — малітва за беларускі народ у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне. Юрка Азарка, а. Васіль Кендыш, Расьціслаў Войтанка, Галена Войтанка.
23 і пазьней — адбываліся ўрачыстасьці ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі і прыняцьцямі ўрадавых і іншанацыянальных прадстаўнікоў:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Канбэра, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас, Спрынгфілд;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Мічыган, Агаё, Нью Джэрзі, Ілінойс, Пэнсыльванія ды мэры гарадоў Нью Ёрку, Чыкага, Кліўлэнду, Саўт Рывэру, Нью Брансьвіку, Лос Анджэласу.

**Красавік**

10—14 — даклад Івана Любачкі „Праблемы гісторыі Беларусі“ на зьезьдзе гісторыкаў ЗША ў Чыкага.

15 — беларускі стэнд на Велікоднай выставе ў Таронта.

15 — удзел беларускай групы ў Веснавым фэстывалі ў Лос Анджэласе.

17 — памерла Тамара Грынько–Воран, дзейная працаўніца беларускага асяродку ў Манрэалі.

21 — XII сэсія Рады БНР у Таронта.

21—23 — спатканьне беларусаў Аўстраліі ў Албуры заклала Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у складзе: Міхась Зуй, Мікола Ціхан, Уладзімер Пацко, Уладзімер Кулецкі ад Сыднэю, а. А. Грыцук, Язэп Сьлесарэвіч, Павал Гуз, Язэп Алехнік ад Мэльбурну.

23 — юбілейны канцэрт жаночага хору „Каліна“, кір. Ксавэры Барысавец, у Саўт Рывэры (10 гадоў працы).

28 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам у парадзе з нагоды 100–годзьдзя Пасэйку.

29 — адчыненьне і закрыцьцё банкету ў гонар амэрыканскага сэнатара Даля (Робэрта Доўла? **— рэд.**) беларускай „Лявоніхай“ у Нью Ёрку.

**Травень**

5 — памёр Віктар Ждан, былы ваяк 13–га батальёну БКА, грамадзкі дзеяч у Манрэалі.

6 — сьвяткаваньне 25–годзьдзя існаваньня ЗБВ з паніхідамі па палеглых змагарох у царкве і на беларускіх могілках, з ганароваю вартаю ў Нью Брансьвіку.

11—13 — беларуская дэлегацыя на III канвэнцыі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Вашынгтоне. Расьціслаў Гарошка, Янка Раковіч, Раіса Станкевіч, Зора Кіпель.

12 — памёр Калістрат Савіцкі, пратадыякан царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе.

13 сход сяброў культурна–грамадзкага Клюбу ў Сыднэі. Управа: Мікола Антух, д–р Язэп Малецкі, Міхась Лужынскі, Кастусь Сіткоўскі; рэвізійная камісія: Мікалай Каранеўскі, А. Плахоцкі.

13 — зьезд ЗБК у Рэлігійна–Грамадзкім Цэнтры ў Таронта. Управа: Кастусь Акула, Мікола Ганько, Барыс Кірка.

19 — даклад праф. Антона Адамовіча „Беларусізацыя ў гістарычнай пэрспэктыве“, ладжаны БІНіМ у Брукліне.

20 — падвойная царкоўная ўрачыстасьць у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку: існаваньне прыходу і 800–я ўгодкі сьмерці патронкі беларускага народу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

20 — царкоўны фэст у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры.

23 — памёр інжынэр Мікалай Каранеўскі, даўгалетні старшыня БАА, грамадзкі дзеяч у Сыднэі.

26—28 — зьезд Аб’яднаньня Беларуска–Амэрыканскай Моладзі ў Нью Брансьвіку. Управа: Раіса Станкевіч, Ірэна Азарка, Алеся Кіпель, Юрка Кіпель, Аляксандар Стагановіч.

26—28 — канцэрт маладых беларускіх талентаў: музыка, сьпевы, дэклямацыя, танцы ў Саўт Рывэры.

**Чэрвень**

2 — даклад А. Вожыка „Жыцьцё ў сучаснай Беларусі“, ладжаны БІНіМ у Брукліне.

3 — даклад Пётры Манькоўскага „Сьв. Еўфрасіньня Полацкая — наша княгіня, на 800–я ўгодкі сьмерці“ падчас урачыстасьцяў у Брукліне.

9 — афіцыйнае адчыненьне беларускага аддзелу Кліўлэндзкай публічнай бібліятэкі з выставай беларускай матэрыяльнай культуры.

10 — урачыстае адчыненьне сьвята 800–годзьдзя патронкі царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай прыходам і грамадзкасьцю Таронта.

10 — урачыстасьці трох юбілеяў: 800–годзьдзе сьмерці Еўфрасіньні Полацкай, фэст Жыровіцкае Божае Маці і 25–годзьдзе аднаўленьня БАПЦ у Кліўлэндзе.

16 — заканчэньне заняткаў у беларускай школе пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта (кіраўніца Валянціна Пашкевіч).

17 — даклад Аляксандра Калодкі ў Мэльбурне „Беларусь у сучасных межах БССР“.

23 — вялікі юбілейны канцэрт 10–годзьдзя працы беларускага жаночага хору „Каліна“ пад кіраўніцтвам кампазытара Ксавэрыя Барысаўца ў Саўт Рывэры.

23.VI—3.VII — „Караван’73“ зь беларускім стэндам–выставай, паказамі, музыкай і беларускай кухняй „Менск“ у Таронта.
30.VI—5.VII — беларускі стэнд на зьезьдзе амэрыканскіх кансэрватыўных арганізацыяў.

**Ліпень**
1 — Дзень беларускага жаўнера з багаслужбаю, парадам і бяседай–успамінамі ладзіў ЗБВ на селішчы Белэр–Менск.
1 — урачыстае адкрыцьцё помніка Янку Купалу (скульптар Анікейчык зь Менску) на сядзібе славянскіх арганізацыяў у Араў Парку (Нью Ёрк).
5 — памёр а. Васіль Чычэліс, сьвятар прыходу сьв. Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляідзе (Аўстралія).
8 — XXV сход сяброў манчэстэрскага аддзелу ЗБВБ. Управа: Хведар Кажаневіч, Міхась Яськевіч, П. Шыркоўскі.
13—14 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў, ладжаных арганізацыяй „Амэрыканцы за свабоду паняволеных народаў“ у Лос Анджэласе.
13—15 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Дэтройце.
15 — удзел беларускай групы ў багаслужбе ў саборы Сьв. Патрыка, парадзе па 5–й авэню і мітынгу ў Цэнтральным парку Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку.
15 — сьвяткаваньне 50–годзьдзя сьвятарства а. Язэпа Германовіча ў Лёндане і Чыкага.
17 — удзел беларускай групы ў дэманстрацыі, ладжанай Лігай Паняволеных Народаў у Сыднэі.
28—29 — IX спартовыя спаборніцтвы арганізацыяў беларускай моладзі на селішчы Белэр–Менск.

**Жнівень**
2 — беларускія прадстаўнікі на прэс–канфэрэнцыі выдаўцоў этнічных газэтаў у Антарыё ў Таронта.
4 — памёр а. Міхал Урбановіч, беларускі каталіцкі сьвятар у Чыкага.
5 — памёр у Саўт Рывэры Рыгор Камянкоў, працаўнік беларускага руху на чужыне.
23 — памёр Янка Дрэноўскі, дзейны працаўнік грамадзкага і царкоўнага жыцьця ў Манрэалі.
24—27 — удзел беларускай дэлегацыі ў Міжнароднай канфэрэнцыі АБН і Эўрапейскай Рады Свабоды ў Лёндане (Кастусь Глінскі і Янка Бунчук ад БВФ).

**Верасень**
1—2 — XV кангрэс БАЗА ў Нью Брансьвіку. Галоўная Ўправа: д–р Расьціслаў Гарошка, Галіна Орса, Р. Б., Вячка Станкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Уладзімер Дунец, Язэп Сажыч, Францішак Бартуль; рэвізійная камісія: Янка Запруднік, Міхась Тулейка, Васіль Стома; рэдкалегія „Беларуса“: рэд. Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік, Барыс Данілюк, Аляксандар Міцкевіч, Расьціслаў Гарошка, Францішак Бартуль, Р. Б., Раіса Станкевіч, Андрэй Стрэчань, Браніслаў Даніловіч, Вячка Станкевіч, А. Маркоўскі, Мікола Нікан.
8—9 — зьезд беларускіх эвангелікаў–баптыстаў у Эры (Пэнсыльванія) пастанавіў частку тэкстаў часапісу „Хрысьціянін“ даваць па–беларуску. Управа брацтва: Даніла Ясько, Юрка Рапэцкі, Янка Ліхач, Сахар.
9 — высьвячэньне царквы новага прыходу Сьв. Тройцы, настаяцель а. Карп Старавойтаў (Дораці, Нью Джэрзі).
9 — даклад Міколы Нікана пра жыцьцё і дзейнасьць беларусаў Аўстраліі ў Беларускім Рэлігійна–Грамадзкім Цэнтры ў Таронта.
12—13 — радыё „Вольная Эўропа“ (польскі сэктар) перадавала гутаркі беларуса Янкі Міхалюка і паляка К. Трэмбіцкага пра адносіны паміж беларусамі і палякамі ды іхнымі дзяржавамі.
22 — пачаўся навучальны год у беларускіх школах пры цэрквах Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры і Таронта.
26 — памёр Тарас Сайка, сьвятар, дзейны працаўнік беларускага рэлігійнага жыцьця ў Мінэапалісе (Мінэсота).
30 — перавыбарны сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Мікола Кунцэвіч, Антон Шукелойць, Натальля Орса, Уладзімер Курыла, Валянцін Міцкевіч, Вячка Станкевіч, Раіса Станкевіч.

**Кастрычнік**
7 — вечар памяці паэты Язэпа Пушчы (Плашчынскага) ладзіла суполка „Баявая Ўскалось“ у Таронта.
14 — 800–я ўгодкі сьмерці Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у прыходах яе імя ў Таронта і Саўт Рывэры.
14 — удзел беларусаў у маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Брэдфардзе (ЗБВБ і БВР).
20 — даклад журналіста А. Вожыка пра жыцьцё беларусаў сёньняшняй БССР у Нью Брансьвіку.
21 — сьвяткаваньне дажынкаў у БАЗА ў Нью Ёрку.
23 — памерла ў Мэльбурне Лідзія Нікан, жонка беларускага працаўніка Міколы Нікана.
25 — памёр у Нью Ёрку Васіль Юрцэвіч, былы беларускі ваяк БКА, знаны грамадзкі і царкоўны працаўнік.
28 — сьвяткаваньне 10–годзьдзя манчэстэрскага аддзелу ЗБВБ.
28 — сьвяткаваньне першай гадавіны дзейнасьці царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычманд Гіл (Нью Ёрк).

**Лістапад**

3 — даклад Станіслава Станкевіча па беларускіх асяродках Эўропы пра дзейнасьць беларусаў ЗША наладзіў БІНіМ.

2—18 — побыт Уладыкі Часлава (Сіповіча) у ЗША.

4 і 11 — Уладыка Часлаў (Сіповіч) адслужыў сьв. імшу для беларусаў–каталікоў у Нью Ёрку.

6 — лекцыя Гая Пікарды „Вытокі сучаснага беларускага мастацтва“ (курс беларусаведы Ангельска–Беларускага Таварыства) у Лёндане.

18 — Уладыка Часлаў Сіповіч адслужыў сьв. імшу для беларусаў–каталікоў у Чыкага.

18 і пазьней — праходзілі сьвяткаваньні 53–х угодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох і прыняцьцямі ўрадавых дэлегацый ды прадстаўнікоў іншых народаў у:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Адэляіда, Мэльбурн, Пэрт;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Дэтройт, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

25 — 10–я ўгодкі існаваньня беларускай царквы Сьв. Юрага ў Чыкага.

25 — сход вернікаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычманд Гіл (Нью Ёрк). Управа: Язэп Казьлякоўскі, Кастусь Мярляк, Васіль Шчэцька, Пятро Мельяновіч, Алесь Завалока, Л. Ляўковіч, Пятро Зыбайла; рэвізійная камісія: М. Беразоўскі, Поля Клінцэвіч, Я. Муха.

**Сьнежань**

3 — традыцыйны калядны кірмаш у падцаркоўнай залі ладзіла ЗБЖ у Кліўлэндзе.

9 — выстава малярства і графікі беларускіх мастакоў на эміграцыі, ладжаная БІНіМ у Брукліне.

9 — паніхіда па сьв. памяці Васілю Юрцэвічу ў Кліўлэндзе.

9 — памёр Янка Шутовіч, былы рэд. „Калосься“, актыўны дзеяч вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі ў Вільні.

15.XII.73—27.II.74 — выстава беларускіх старадрукаў у Ньюёрскай публічнай бібліятэцы.

16 — сьвяткаваньне 800–годзьдзя сьмерці Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Сыднэі.

26 — даклад Міколы Нікана ў Сыднэі пра падарожжа па Беласточчыне, па Эўропе і Амэрыцы.

У сьнежні памёр Тарас Пятроўскі, пратапрасьвітар эвангельскіх хрысьціянаў у Бігары (Канада).

## 1974 год

**Студзень**

3 — спатканьне з прэзыдэнтам Украінскай Народнай Рэспублікі беларускай грамадзкасьці ў Мэльбурне.

13 — заканчэньне школьнага году ў беларускай школе пры Беларускім Цэнтральным Камітэце ў Мэльбурне.

17 — беларускія прадстаўнікі на прыняцьці–вечары міністэрства грамадзянства і іміграцыі ў Таронта.

**Люты**

1 — памёрла Марыя Лішчонак, працаўніца самадзейнасьці ў Ашаве (Канада).

6 — памёр у Нью Ёрку Мікола Дашкевіч, навуковец, сябра БІНіМ.

10 — сход вернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Управа: Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Уладзімер Літвінка, В. Валюкевіч, Тацьцяна Кананчук, Клаўдзія Каляда, Янка Лукашэвіч, Мікола Пэнда; рэвізійная камісія: Астап Яраховіч, Ян Карпейка, Юрка Гасьцееў.

12 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Беларускія малітоўнікі для сьвецкіх асобаў з XVI і XVII стагодзьдзяў“ у залі Бэрлінгтан Хаўз у Лёндане.

14 — памерла Паўліна Мядзёлка ў Будславе (Беларусь).

14 — сход СБАМ у Саўт Рывэры. Управа: Ю. Арцюшэнка, А. Каўтуновіч, Д. Цыган, Р. Цупрык, А. Орса, В. Казакоў.

19 — беларуская дэлегацыя на Цэнтральнай канфэрэнцыі Рэспубліканскае партыі ЗША ў Вашынгтоне (Вітаўт Кіпель, Станіслаў Станкевіч).

21 — памёр у Нью Джэрзі Лявон Савёнак (псэўд. Лявон Свэн), ведамы грамадзкі і палітычны дзеяч у ЗША

23.II—20.III — выстава абразоў беларускай мастачкі Галіны Русак у галерэі „Саго–XX“ у Нью Ёрку.

**Сакавік**

1—3 — беларускі прадстаўнік (Зьміцер Касмовіч) на Канфэрэнцыі правоў чалавека і самавызначэньня народаў у Люцэрне (Швайцарыя).

2 — перавыбары экзэкутывы селішча Белэр–Менск. Управа: Грыгоры Арцюшэнка, Пятро Зыбайла, Мікалай Сіцько, Сяргей Рагалевіч, Міхась Сенька; Кастусь Мярляк (дарадчык).
5 — памёр сьвятар Мадэст Норык у Нью Брансьвіку.
9 — памёр Кастусь Новік, грамадзкі працаўнік у Чыкага.
9—10 — беларускі дэлегат на канфэрэнцыі Экзэкутывы Эўрапейскае Рады Свабоды ў Парыжы (Зьміцер Касмовіч).
12 — лекцыя ў Ангельска–Беларускім Таварыстве ў Лёндане д–ра Р. Сасэкса „Трансфарматыўная граматыка і беларуская лінгвістыка“.
16 — зьезд вернікаў БАПЦ у Манчэстэры. Царкоўная Ўправа: а. Ян Абабурка, а. Ян Пекарскі, Хведар Кажаневіч, Янка Каўбаса, П. Шыркоўскі, Уладзімер Гінько.
17.III—16.IV — мастацкая выстава абразоў беларускіх мастакоў у ЗША ў Саўт Рывэры.
23 — прыняцьцё гасьцей у беларускім клюбе „Сакавік“ у Брэдфардзе.
23 — беларускія дэлегаты на Этнічнай канфэрэнцыі Амэрыканскага Жыдоўскага Кангрэсу ў Балтыморы (Васіль Мельяновіч, Вітаўт Кіпель).
24—30 — Беларускі тыдзень абвешчаны мэрам гораду Таронта.
24 і пазьней — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі і прыняцьцямі ўрадавых і іншанацыянальных прадстаўнікоў з адпаведнымі праграмамі:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— Гішпанія: Мадрыд;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Дэтройт;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
25 — Дзень незалежнай Беларусі абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Канэктыкут, Агаё, Мічыган, Ілінойс, Каліфорнія, Мэн; мэры гарадоў Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас, Дэтройт, Пасэйк з падняцьцем бел–чырвона–белага сьцягу на мачтах перад ратушамі.
25 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне (а. Васіль Кендыш), а таксама прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў.
25 — Беларускі дзень на савецкай выставе ў Дзюсэльдорфе (Нямеччына).

### Красавік
6 — вечар памяці Лявона Савёнка (Лявона Крывічаніна), дзейнага палітычнага і грамадзкага дзеяча, журналістага ладзіў БІНіМ у Брукліне.
7 — беларускі стэнд на Велікоднай выставе ў Таронта.
8—11 — беларуская дэлегацыя на VIII канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Вашынгтоне (Іван Касяк, Анатоль Плескачэўскі).
17—24 — лекцыя беларусаведы ў гарадзкім каледжы ў Нью Ёрку (Томас Бэрд).
18 — выбары „Міс Беларусь–74“ у Беларускім Грамадзкім Клюбе (Вэраніка Янцэвіч) у Брэдфардзе.
20 — даклад праф. Яна Садоўскага „Беларуская бібліяграфія на чужыне“ ў Кінгстане (Канада).
21 — удзел беларускай групы ў Фэстывалі славянскай і ўсходне–эўрапейскай музыкі і танцу ў гарадзкім каледжы Джэрзі Сіці.
25 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у канфэрэнцыі „Сэрца нацыянальнага пытаньня“, ладжанай Калюмбійскім унівэрсытэтам у Нью Ёрку (Антон Адамовіч, Янка Запруднік).
27 — вечар памяці 110–х угодкаў сьмерці Кастуся Каліноўскага ў Кліўлэндзе.
27 — памёр Мікола Кашагуб, грамадзкі працаўнік у Ашаве (Канада).
28 — вечар памяці 110–х угодкаў сьмерці Кастуся Каліноўскага ў Чыкага.
28 — сэмінар 110–х угодкаў трагічнай і геройскай сьмерці Кастуся Каліноўскага ладзіў АБАМ у Брукліне.

### Травень
4 — беларускія калёны на парадзе Дня ляяльнасьці ў Нью Ёрку.
4 — даклад праф. Антона Адамовіча „Лексыка беларускай літаратурнай мовы XIX ст.“ у Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
11 — зьезд ЗБК у Таронта. Управа: Кастусь Акула, Мікола Ганько, Барыс Кірка, Янка Сурвіла, д–р Яўхім Скурат; рэвізійная камісія: А. Маркоўскі, Янка Баран, Н. Сільвановіч.
12 — царкоўны фэст прыходаў цэркваў Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку.
12 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам на антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Мэльбурне.
19 — адзначаліся ў Саўт Рывэры ўгодкі загаду аб мабілізацыі ў БКА.
25—26 — 30–я ўгодкі загаду аб мабілізацыі ў БКА ладзіла ЗБВ у Нью Брансьвіку.

25—27 — Фэстываль маладых беларускіх талентаў ладзіла АБАМ у Кліўлэндзе.
27 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам на парадзе Дня памяці ў Нью Брансьвіку.
27 — памерла Эмілія Шабуня з дому Луцкевічаў у Нью Ёрку.

**Чэрвень**
2 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Управа: Янка Раковіч, Андрэй Стрэчань, Уладзімер Дунец, Астап Яраховіч, Янка Лукашэвіч, Я. Каваленка, Міхал Страпко.
3 — памерла Кацярына Шэлест, дзейная працаўніца беларускае арганізацыі ў Лос Анджэласе.
14 — удзел беларускіх прадстаўнікоў у спатканьні з кардыналам Ёжэфам Міндсэнты ў Лос Анджэласе (Кацярына і Часлаў Найдзюкі).
15 — нарада прадстаўнікоў беларускіх праваслаўных прыходаў у Манчэстэры пастанавіла выдаваць свой часапіс.
21—30 — „Караван’74“ зь беларускім павільёнам „Менск“ у Таронта.
22 — Купальле ладзіў Беларускі Культурна–Грамадзкі Клюб у Сыднэі.
23 — сход сяброў ньюёрскага аддзелу БАЗА. Управа: Антон Шукелойць, Мікола Клінцэвіч, Яніна Каханоўская, Валянцін Міцкевіч, Раіса Станкевіч, Натальля Орса, Вячка Станкевіч.
23 — паседжаньне аддзелу БІНіМ у Таронта: Івонка Сурвіла, Алесь Грыцук, д–р Яўхім Скурат.
23 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ў Саўт Рывэры і Таронта ладзіў БКК.
29 — XXVIII зьезд ЗБВБ у Лёндане: Янка Міхалюк, Хведар Кажаневіч, Аляксандар Лашук, Пётр Асіповіч, Аляксандар Жданковіч, Янка Каўбаса, Павал Навара; рэвізійная камісія: Гай Пікарда, Лёля Міхалюк, Янка Сяўковіч.
30 — сход прыхаджанаў беларускай праваслаўнай царквы ў Лёндане (настаяцель а. В. Тарановіч). Управа: С. Дзейка, П. Варанковіч, Юрка Весялкоўскі, Міхась Галубінка, А. Гаховіч, М. Глінскі, Уладзімер Грамяка, М. Дзініс, Оля Жынгель, М. Залога, Карнялюк, Сенька, Юнах, Юрчык; рэвізійная камісія: Д. Шаўлюга, А. Бурак, Оля Жынгель; трэсты: С. Дзейка, Уладзімер Мароз, Юнах; царкоўны стараста Д. Ахрыменя, Д. Пацяёнак.
30 — угодкі II–га Ўсебеларускага Кангрэсу і мабілізацыі ў БКА ладзіла прадстаўніцтва БЦР у Мэльбурне.

**Ліпень**
2 — памёр Міхал Бразоўскі, дзейны грамадзкі і царкоўны прадстаўнік Беларуска–Амэрыканскага Аб’яднаньня і царквы Сьв. Кірылы Тураўскага, на Джамайцы (Нью Ёрк).
6 — Дзень беларускага жаўнера на Белэр–Менск ладзіла Згуртаваньне Беларуска–Амэрыканскіх Вэтэранаў у Паўночнай Амэрыцы.
7—14 — Тыдзень паняволеных народаў у Англіі, ладжаны Брытанскай Лігай Эўрапейскай Свабоды, зь беларускай багаслужбай у саборы Сьв. Пятра ў Лёндане (правіў Уладыка Часлаў Сіповіч) ды маршамі з нацыянальнымі бел–чырвона–белымі сьцягамі беларускіх калёнаў у Лёндане, Манчэстэры, Брэдфардзе і Бірмінгеме.
9 — беларускі дэлегат на канфэрэнцыі Рэспубліканскай партыі ЗША ў Бостане (Васіль Мельяновіч).
12 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у ЗША ў Дэтройце, Нью Ёрку, Кліўлэндзе, Чыкага, Лос Анджэласе.
14 — царкоўны фэст прыходу царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляідзе (Аўстралія).
21 — памёр Абэрон Гэрбэрт, ангельскі парлямэнцёр, адзін з закладальнікаў Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане і колькігадовы старшыня.
21 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ладзіла ў Манчэстэры дэлегатура БЦР (М.Вішнеўскі, Юрка Хахолка, Янка Бунчук).
22 — беларуская дэлегацыя на Тыдні Паняволеных Народаў у Ашлэндзе (Нью Гэмпшыр).
28 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу ў Сыднэі ладзіла дэлегатура БЦР.

**Жнівень**
3—4 — X спартовыя спаборніцтвы беларускай моладзі на Белэр–Менск.
14 — закладзіны Вялікалітоўскай (Беларускай) фундацыі імя Лява Сапегі ў Нью Джэрзі (Марыя і Янка Станкевічы).
16 — памёр у Нямеччыне айцец Уладзіслаў Салавей.
17 — паседжаньне аўстралійскага сэктару Рады БНР прызначыла дэлегатаў на XIII сэсію Рады: Аўгеньня Каранеўская, Аляксандар Калодка, Мікола Скабей, Язэп Малецкі, Пётра Мікуліч, Парфіры Трысмакаў, Мікола Нікан, Станіслаў Нарушэвіч; прынятыя раднымі: Аркадзь Качан і Міхась Лужынскі.
17—18 — I сусьветная сустрэча беларускіх вэтэранаў у Лёндане. Закладзены Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў зь сядзібаю ў Таронта (старшыня Кастусь Акула, сакратар Антон Маркевіч).
28 — памёр Уладзімер Клуніцкі, адзін з закладчыкаў і старшыняў Беларускага Аб’яднаньня ў Сыднэі.
31.VIII—2.IX — XI сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК у Кліўлэндзе.

**Верасень**

1 — сход прыходу царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла (БАПЦ) у Адэляідзе (Аўстралія). Царкоўная Ўправа: Кастусь Станкевіч, Уладзімер Акавіты, а. Міхал Бурнос, Аўген Сітнік, Кастусь Ранцэвіч, Янка Ролсан, Парфіры Трысмакаў, Адам Шараевіч (стараста); рэвізійная камісія: Васіль Леvановіч, Якаў Піўневіч, Васіль Лемяшэўскі.

4—7 — удзел беларускага прадстаўніка ў Канфэрэнцыі славістаў у Банфэ (Канада).

6—8 — I этнічная канфэрэнцыя штату Нью Джэрзі ў Пойнт Плэзэнце.

13—15 — беларускі дэлегат на IV канвэнцыі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Бостане (Васіль Мельяновіч).

29 — сход ньюёрскага аддзелу АБАМ. Управа: Ніна Запруднік, Алеся Кіпель, Вера Запруднік, Юрка Кіпель, Язэп Казьлякоўскі, Ліда Данілюк, Алесь Завалока.

**Кастрычнік**

6 — удзел беларусаў у Кангрэсе паняволеных народаў у Сыднэі (абраньне Аляксандра Калодкі да Ўправы арганізацыі).

8—11 — удзел беларускай дэлегацыі ў VII канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Вашынгтоне.

12—13 — удзел беларускай дэлегацыі ў канфэрэнцыі Эўрапейскай Рады Свабоды ў Цюрыху (Швайцарыя) (Надзея Тэадаровіч–Абрамава, Зьміцер Касмовіч).

12 — I баль беларускай прэсы, ладжаны Беларускім Жаночым Згуртаваньнем у Саўт Рывэры.

20 — сход прыходу царквы Сьв. Мікалая ў Манчэстэры. Царкоўная Ўправа: а. М. Іскрыцкі; камітэт набыцьця будынку царквы: дыякан Кірыла Джэнэр, М. Клімовіч, М. Шыш, А. Люіс, Зося Занька, Рыгор Абабурка, Д. Хіміч; камісія апрацоўкі Статуту: С. Дубіна, Рыгор Абабурка, М. Шыш, М. Вішнеўскі, Уладзімер Басяцкі, К. Іскрыцкі, А. Ляховіч.

29 — лекцыя Янкі Запрудніка „Беларуская нацыянальная сьведамасьць у XVIII і XIX стагодзьдзях“ у Ратгэрскім унівэрсытэце.

31.X—2.XI — даклад Аркадзя Арэхвы пра гістарычныя паэмы Янкі Купалы на XVI канфэрэнцыі Амэрыканскай Асацыяцыі Сучасных Моваў у Чыкага.

Іван Бруцкі вызначаны сакратаром Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Мічыгане.

**Лістапад**

2 — беларускі стэнд на Міжнароднай каляднай выставе ў Чыкага.

6 — сяброўская візытацыя былога маскоўскага лягерніка айца Язэпа Германовіча ў ЗША.

9 — сход аддзелу АБАМ у Гайлэнд Парку. Управа: Аня Байчук, Альгерд Кажура, Юрка Азарка, Люда Русак, Г. Сільвановіч, М. Швэд; рэвізійная камісія: Натальля Русак, Рагнеда Гутырчык, Ірэна Азарка.

9—10 — рукапалажэньне ў сьвятары Максіма Таўпекі (нар. 2.II.1916) Уладыкам Андрэем (Крытам) і яп. Мікалаем (Мацукевічам) у царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

11 — Дэклярацыю свабоды паняволеным народам падпісалі ад беларусаў сярод 63–х іншых нацыянальнасьцяў у Нью Ёрку.

14 — даклад біскупа Часлава Сіповіча „Славянскія і лацінскія рукапісы пантыфікальнае літургіі Сьв. Яна Златавустага з XVII ст.“ у Лёндане.

17 — сход аддзелу БАЗА ў Гайлэнд Парку. Управа: Сяргей Гутырчык, Пётра Кажура, Васіль Стома, Янка Азарка, Юрка Станкевіч, Аня Байчук; рэвізійная камісія: Васіль Русак, Ніна Стома, Уладзімер Машонскі.

17 — Дажынкі, ладжаныя аддзелам БАЗА ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

23 — лекцыя Томаса Бэрда „Сьв. Еўфрасіньня Полацкая“, ладжаная Ўправай БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

24 — побыт а. Аляксандра Надсана ў Нью Ёрку.

25 і пазьней — праходзілі жалобныя ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох і прыняцьцямі прадстаўнікоў іншых народаў:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Бірмінгем, Брэдфард;

— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас, Дэтройт;

— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

26 — лекцыя Янкі Запрудніка „Беларускі нацыяналізм і тэрыторыя беларускага народу“ ў Ратгэрскім унівэрсытэце.

29—30 — XIII сэсія Рады БНР у Нью Ёрку прыняла Зварот да беларускай грамадзкасьці. Вінцэнт Жук–Грышкевіч адмовіўся ад прэзыдэнцтва (спасылаючыся на старасьць).

30 — памёр Сяргей Рагель, царкоўна–грамадзкі працаўнік у Манчэстэры.

**Сьнежань**

2 — беларускі кірмаш, ладжаны Беларускім Жаночым Згуртаваньнем у Кліўлэндзе: Клаўдзія Каляда, В. Стрэчань, Тацьцяна Кананчук, Ядзя Раковіч, Ніна Страпко).

12 — даклад Гая Пікарды „Антон Навіна — Антон Луцкевіч“ (1884—1946) у Лёндане.

13—14 — II канфэрэнцыя Канадыйскае Кансультатыўнае Рады Шматкультурнасьці ў Атаве.

14 — памёр Мікола Пэнда, царкоўна–грамадзкі працаўнік у Кліўлэндзе.

19 — сустрэча ярархаў БАПЦ з экзархам Сусьветнага патрыярхату ў Нью Ёрку.

Выйшлі:

№ 1 часапісу беларускіх вэтэранаў „Зважай“, выданьне Камітэту Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў; рэд. Кастусь Акула (Таронта);

№ 1 царкоўна–грамадзкага часапісу праваслаўных беларусаў у Вялікабрытаніі „Званіца“; рэд. Юрка Весялкоўскі (Лёндан—Манчэстэр).

## 1975 год

### Студзень

4 — памёр у Саўт Рывэры Юрка Віцьбіч (Стукаліч), беларускі пісьменьнік і грамадзкі працаўнік.

9 — памёр у Вэр ле Гоан (Францыя) Пётра Ельляшэвіч, беларускі вайсковец, грамадзкі працаўнік.

30 — лекцыя Янкі Запрудніка „Паходжаньне беларускага народу“ ў Ратгэрскім унівэрсытэце.

### Люты

15 — вечар памяці Юркі Віцьбіча, ладжаны БІНіМ з прамовамі Станіслава Станкевіча і Антона Адамовіча ў Нью Ёрку.

16 — супольны беларуска–ўкраінскі канцэрт, ладжаны Камітэтам Паняволеных Народаў у Брэдфардзе.

16 — музычна–вакальны канцэрт самадзейнасьці царквы Сьв. Мікалая ў Манчэстэры.

16 — сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Уладзімер Літвінка, В. Валюкевіч, Клаўдзія Каляда, Тацьцяна Кананчук, Янка Лукашэвіч, Ян Карпейка, Аўген Семянчук, Я. Каваленка.

### Сакавік

6 — канфэрэнцыя палітычных і нацыянальных арганізацыяў моладзі, ладжаная Цэнтральным Камітэтам Рэспубліканскай партыі ЗША ў Вашынгтоне.

17 — памёр Васіль Лукашык, старшыня беларускай грамады ў Швэцыі, у горадзе Густаўбэргене.

23 — прыняцьцё ў беларускай школе Сьв. Кірылы Тураўскага, прысьвечанае Акту 25–га сакавіка ў Лёндане (а. Леў Гарошка, Янка Сяўковіч, Павал Навара).

24—30 — Тыдзень незалежнай Беларусі, абвешчаны мэрам Таронта.

25 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША і прыняцьцё беларускай дэлегацыі ў Вашынгтоне (а. Васіль Кендыш, Яра Тумаш, Вера Бартуль, Расьціслаў Гарошка).

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Ілінойс, Мічыган, Каліфорнія, Канэктыкут ды мэрамі гарадоў Нью Ёрк, Чыкага, Нью Брансьвік, Дэтройт, Кліўлэнд, Пасэйк з падняцьцем беларускага нацыянальнага сьцягу на мачтах перад гарадзкімі ратушамі.

25 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі і прыняцьцямі прадстаўнікоў іншых народаў у аселішчах беларусаў ува ўсім сьвеце:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

30 — сход сыднэйскага аддзелу БАА: Міхась Лужынскі, М. Бакуновіч, д–р Язэп Малецкі, Кастусь Сіткоўскі, Аркадзь Качан.

### Красавік

6—27 — выстава твораў беларускіх мастакоў на эміграцыі, ладжаная Беларускім Культурна–Мастацкім і Навуковым Таварыствам у Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.

13 — удзел у Фэстывалі ўсходне–эўрапейскай музыкі і танцу ў Джэрзі Сіці: хор „Каліна“ і самадзейны гурток „Мяцеліца“.

14 — памёр у Саўт Рывэры Пётр Косараў, афіцэр БКА.

25—27 — дні беларусаведчых студыяў і выстава беларускага народнага мастацтва ў Славянскім аддзеле Атаўскага ўнівэрсытэту.

**Травень**

8 — беларуская калёна ў антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Мэльбурне.

10 — XXV зьезд ЗБК у Таронта: Віктар Касьцюкевіч, д–р Барыс Рагуля, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Янка Сурвіла, Алесь Грыцук, Кастусь Акула.

16—18 — удзел у нарадзе Рэспубліканскіх Нацыянальных Клюбаў у Вашынгтоне.

24 — удзел у Канфэрэнцыі славянскай спадчыны ў Амэрыцы ў Балтыморы.

24 — XVI кангрэс БАЗА ў Гайлэнд Парку. Антон Шукелойць, Вячка Станкевіч, Васіль Русак, Раіса Станкевіч, Вольга Запруднік, Іван Бруцкі, Янка Раковіч, Сяргей Гутырчык; рэвізійная камісія: Васіль Стома, Юрка Станкевіч, Міхась Тулейка, Янка Азарка; рэдкалегія „Беларуса“: Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік, Васіль Русак, Аляксандар Міцкевіч, Мікола Кунцэвіч, Браніслаў Даніловіч, Андрэй Стрэчань, Раіса Станкевіч, Францішак Бартуль, Мікола Нікан, Янка Каўбаса, Антон Маркевіч.

25 — высьвячэньне і адкрыцьцё помніка палеглым змагаром на істбрансьвіцкім беларускім магільніку (Нью Джэрзі).

25 — урачыстае наданьне сану архімандрыта а. Уладзімеру Тарасэвічу ў Чыкага.

28 — удзел беларускага хору „Каліна“ і гуртка самадзейнасьці „Мяцеліца“ АБАМ у міжнародным канцэрце ў Даглес Каледж у Нью Брансьвіку.

**Чэрвень**

1 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА. Мікола Кунцэвіч, Міхась Тулейка, Зіна Станкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Валянцін Міцкевіч, Мікола Заморскі, Францішак Бартуль; рэвізійная камісія: Міхась Міцкевіч, Пётра Міранович, Пётра Манькоўскі.

6 — памёр Барыс Шчорс, грамадзкі дзеяч, старшыня Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Саўт Рывэры.

7—29 — зьезд ЗБВБ у Лёндане: Павал Навара, Аляксандар Жданковіч, Аляксандар Лашук, Пётр Асіповіч, Янка Сяўковіч; рэвізійная камісія: Лёля Міхалюк, Хведар Лемяшонак, Міхась Баяроўскі.

16—21 — беларускія прадстаўнікі ў экскурсіі антарыйскай этнічнай прэсы па Канадзе (Сяргей Хмара, Антон Маркевіч).

21 — першая беларускамоўная радыёперадача з Сыднэю.

22.VI—1.VII — „Караван’75“ з выставай, кухняй і мастацкай праграмай у павільёне „Менск“ у Таронта.

25 — 75–годзьдзе жыцьця і 25–годзьдзе сьвятарства мітрапаліта БАПЦ Андрэя (Крыта) у Кліўлэндзе.

**Ліпень**

4—6 — сьвяткаваньне 25–годзьдзя існаваньня АБАМ (раней ЗБАМ) на селішчы Белэр–Менск.

6 — Дзень беларускага жаўнера ладзіла ЗБВ на Белэр–Менск (кіраваў парадам палк. Кастусь Мярляк).

13 — высьвячэньне залі Беларускага Рэлігійна–Грамадзкага Цэнтру ў Адэляідзе (Аўстралія).

13—20 — удзел беларускіх групаў у маніфэстацыях тыдня паняволеных народаў у ЗША, Аўстраліі і Англіі.

13 — беларуская калёна ў маніфэстацыях тыдня паняволеных народаў у Чыкага і Брэдфардзе.

19 — беларуская калёна ў маніфэстацыях тыдня паняволеных народаў у Кліўлэндзе, Мэльбурне, Таронта.

20 — беларуская калёна ў маніфэстацыях тыдня паняволеных народаў каля статуі Свабоды ў Нью Ёрку.

20 — сход сяброў Беларускага Культурна–Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі (кіраўнік Мікола Антух).

25 — сход сыднэйскага аддзелу БАА: Л. Дзядзюля, Бульскі, Я. Макарэвіч, Язэп Шкода, Ганна Калпяка, І. Калючык; жаночы камітэт: С. Уласевіч, Оля Тамашэўская, М. Калючык.

У ліпені памёр Мікола Сільвановіч (Мікола Вярба), грамадзкі працаўнік у Вініпэгу.

**Жнівень**

2—3 — спартовыя спаборніцтвы беларускіх футбольных камандаў на Белэр–Менск.

22 — вечар, прысьвечаны паказам этнічных групаў у Мэльбурне (Аўген Груша, Аляксандар Калодка).

30.VIII—1.IX — спартовыя спаборніцтвы арганізацыяў беларускай моладзі з забавамі–вечарамі ў „Полацку“ пад Кліўлэндам.

31 — памёр Віктар Астроўскі, былы вязень сталінскіх лягераў, грамадзкі дзеяч у Лёндане, сын Радаслава Астроўскага.

**Верасень**

20 — зьезд дэлегатаў і закладзіны Агульнааўстралійскай Рады Паняволеных Народаў у Мэльбурне (Даніла Яськевіч).

21 — сход ньюёрскага аддзелу АБАМ: Ніна Запруднік, Даніла Мярляк, Вера Запруднік, Раіса Станкевіч, Вітаўт Тумаш (мал).

21 — сход, прысьвечаны II Усебеларускаму Кангрэсу і БКА ў Сыднэі.

27 — беларуская калёна на антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Мэльбурне.

30 — спатканьне групы беларусаў з прэм’ерам польскага экзыльнага ўраду ў Мэльбурне.

**Кастрычнік**

2 — памёр у Лёндане а. Тамаш Падзява, працаўнік беларускага каталіцкага руху.

3—4 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі „Нацыяналізм у Савецкім Саюзе і ўва Ўсходняй Эўропе“, ладжаны Дэтройцкім унівэрсытэтам (Янка Садоўскі, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель).

4 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Спаса ў Брэдфардзе: Вэнэдыкт Кляйноў, Янка Каўбаса, Міхась Кляйноў.

5 — паніхіду па палеглых змагарох за волю Беларусі адслужыў на беларускіх могілках у Іст Брансьвіку біскуп Часлаў Сіповіч.

8 — даклад Янкі Запрудніка „Праблемы тэрміналёгіі і пэрыядызацыі гісторыі Беларусі“ на зьезьдзе Асацыяцыі Амэрыканскіх Славістаў у Атланце.

11 — даклад біскупа Часлава Сіповіча пра дзейнасьць беларускай бібліятэкі і музэю ў Лёндане ладзіла АБАМ у Гайлэнд Парку.

12 — Дажынкі ладзілі АБАМ і Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў у Брукліне.

23 — скарынінскі вечар ладзілі беларускія студэнты ў Варшаве.

28 — афіцыйна зарэгістраваная БАПЦ у Англіі.

У кастрычніку выйшаў №1 беларуска–ангельскага часапісу *„Bielarussian Times“*; рэд. Расьціслаў Гарошка (Нью Ёрк).

**Лістапад**

12 — высьвячэньне помніка „Ўсім ведамым і няведамым беларусам“ на магільніку ў Мэльбурне.

14 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі Эўрапейскае Рады Свабоды у Мюнхэне (Зьміцер Касмовіч, Надзея Тэадаровіч–Абрамава).

16 — канцэрт беларуска–ўкраінскай песьні ў Нотынгеме (Вольга Пагібко, а. М. Іскрыцкі).

23 і пазьней — праходзілі сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі па палеглых змагарох і адпаведнымі мастацкімі праграмамі па цэлым сьвеце ўва ўсіх аселішчах беларусаў:

— Англія: Лёндан, Бірмінгем, Манчэстэр, Брэдфард, Нотынгем;

— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн, Брусэль;

— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж.

23 — сход прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью Ёрк). Язэп Казьлякоўскі, Кастусь Мярляк, Васіль Шчэцька, П. Захаркевіч, Пятро Мельяновіч, Алесь Завалока, Пятро Зыбайла.

25 — прыняцьцё ў сп–ва МакМілінаў у 21–ю гадавіну дзейнасьці Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане.

**Сьнежань**

6 — сход кліўлэндзкага аддзелу БАЗА: Янка Раковіч, Андрэй Стрэчань, Уладзімер Дунец, Астап Яраховіч, Я. Каваленка, Янка Лукашэвіч, Міхал Страпко; рэвізійная камісія: Клаўдзія Каляда, Ніна Страпко, Кастусь Калоша.

6 — канфэрэнцыя беларускіх жанчынаў Канады з дакладамі: Людміла Рагуля „Жанчына“ і Раіса Жук–Грышкевіч „Беларуская жанчына“ ў Таронта і закладзінамі Згуртаваньня Беларускіх Жанчынаў Канады: Вольга Грыцук, Марыя Ганько, Людміла Рагуля.

14 — сход прыхаджан царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўлы ў Адэляідзе (Аўстралія): Кастусь Станкевіч, Уладзімер Акавіты, а. Міхал Бурнос, Аўген Сітнік, Кастусь Ранцэвіч, Парфіры Трысмакаў, Адам Шараевіч; рэвізійная камісія: Аляксандар Садоўскі, Міхась Кубрак, Філімон Кубрак; жаночы камітэт: Вера Біганін, Вольга Бурнос, Марыя Ранцэвіч, Зося Акавітая, Паўліна Хаменка.

15 — беларускія прадстаўнікі на прэс–канфэрэнцыі сэнатара Дж. Баклі ў Нью Ёрку.

## 1976 год

**Студзень**

18 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку: а. Аляксандар Яноўскі, Аўген Лысюк, В. Лосік, Васіль Русак, Алекс Сільвановіч, Васіль Стома, Віктар Дубяга.

29.I—7.III — беларускія экспанаты на выставе Канадыйскага Нацыянальнага Музэю ў Атаве.

**Люты**

8 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА: Сяргей Гутырчык, Пётра Кажура, Галіна Русак, Янка Азарка, М. Каранеўскі, Тамара Януш, Аня Байчук.

14 — канфэрэнцыя Калюмбійскага ўнівэрсытэту на тэму „Стан грамадзкіх навук у савецкай Украіне і Беларусі“; беларускія даклады: Янка Запруднік „Беларуская гістарычная навука ў 1976 годзе“ і Вітаўт Кіпель „Стан беларускай дэмаграфіі“ ў Нью Ёрку.

14 — 25–годзьдзе беларускага спартовага клюбу „Нёман“ у Саўт Рывэры. Мэнэджэр Генрык Яцэвіч, капітан клюбу М. Казакоў.

15 — сход прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брukліне: а. Васіль Кендыш, Мікола Гарошка, Аляксандар Міцкевіч, Уладзімер Курыла, Кастусь Верабей, Мікола Заморскі, Юрка Касьцюкевіч, Міхась Міцкевіч — стараста; рэвізійная камісія: Уладзімер Набагез, Пётра Манькоўскі, Уладзімер Русак.

**Сакавік**

7 — сход прыхаджан царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Анатоль Васілеўскі, В. Валюкевіч, Клаўдзія Каляда, Галіна Кананчук, Вольга Каваленка; рэвізійная камісія: Вольга Міхальчык, Астап Яраховіч, Ян Карпейка.

21.III—11.IV — мастацкая выстава ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.

21—28 — Беларускі тыдзень абвешчаны мэрам Таронта з падняцьцем беларускага нацыянальнага сьцягу на мачце перад ратушаю.

25 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне (а. Васіль Кендыш).

25 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежную Беларусь.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Ілінойс, Канэктыкут, Пэнсыльванія; мэры гарадоў Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас, Пасэйк з падняцьцем бел–чырвона–белага сьцягу на мачтах перад ратушамі гарадоў.

25 і пазьней — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з прыняцьцем гасьцей:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас, Дэтройт, Нью Брансьвік;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

27—28 — выстава беларускага народнага мастацтва ў Беларускім Рэлігійна–Грамадзкім Цэнтры ў Кліўлэндзе.

**Красавік**

1 — памёрла ў Кліўлэндзе Марыя Лук’янчык, заслужаная царкоўная працаўніца.

3 — удзел у нарадзе Рэспубліканскіх Нацыянальных Клюбаў у Вашынгтоне.

9 — канфэрэнцыя рэдактараў этнічнай прэсы ў Вашынгтоне (Расьціслаў Гарошка).

10 — даклад Антона Адамовіча „Пэрыядычны друк як гадавальнік беларускай літаратуры (да ўгодкаў „Нашай Долі“, „Нашай Нівы“ і „Ўзвышша“)“ ладзіў БІНіМ у Грамадзкім Цэнтры ў Брukліне.

18 — сход ньюёрскага аддзелу ЗБВ у Рычманд Гіл: кап. Адам Горбат, палк. Кастусь Мярляк, кап. Уладзімер Пялеса.

20—27 — тыдзень студыяў беларусаведы ў Атаўскім унівэрсытэце арганізаваў БІНіМ.

30 — беларускі дэлегат на IX кангрэсе Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Сэуле (Паўдзённая Карэя): Алесь Алехнік.

**Травень**

2 — даклад Антона Адамовіча „Ўспаміны пра Ўладзімера Дубоўку“ ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брukліне.

3 — паказы самадзейнага гуртка „Васілёк“ (кір. Ала Орса–Рамана) у г. Гарызонце (Нью Джэрзі).

15 — даклад Янкі Запрудніка „Балцкі субстрат у этнагенэзе беларускага народу“ ладзіў БІНіМ у Брukліне.

17 — паказ самадзейнага гуртка „Васілёк“ пад кіраўніцтвам Алы Орсы–Раманы ў г. Трэнтане (Нью Джэрзі).

18 — паказы самадзейнага гуртка „Васілёк“ пад кіраўніцтвам Алы Орсы–Раманы на фэстывалі ў Нью Ёрку.

20 — даклад Антона Адамовіча „“Ўзвышша“ ў гістарычнай пэрспэктыве“ ладзіў БІНіМ у Грамадзкім Цэнтры ў Брukліне.

21—22 — удзел у нарадах Рэспубліканскіх Нацыянальных Клюбаў у Філядэльфіі.

22—23 — беларускі стэнд на фэстывалі 200–годзьдзя ЗША ў Лос Анджэласе (стараньнямі сям’і Часлава Найдзюка).

30 — беларуская калёна ЗБВ пад кіраўніцтвам Сяргея Гутырчыка на парадзе Дня Памяці ў Нью Брансьвіку.

31 — памёр Алесь Грыцук, грамадзкі працаўнік, шматразовы старшыня ЗБК у Таронта.

31 — Дзень беларускай культуры ў Гардэн Стэйце (Нью Джэрзі).

**Чэрвень**

8 — паказы самадзейнага гуртка „Васілёк“ пад кіраўніцтвам Алы Орсы–Рамана ў г. Фрыхалдзе (Нью Джэрзі).

12 — Беларускі фэстываль з дэманстрацыяй беларускага нацыянальнага адзеньня ў мастацкім цэнтры Голмсдэль (Нью Джэрзі).

12 — беларуская калёна зь бел–чырвона–белым сьцягам на парадзе Дня сьцягу ў Чыкага.

13 — урачыстая паніхіда, адслужаная мітрапалітам Андрэем (Крытам) зь сьвятарамі на беларускім магільніку ў Іст Брансьвіку пры помніку палеглым змагаром за волю Беларусі з удзелам сьцяжной варты вэтэранаў.

18—26 — „Караван’76“ зь беларускім павільёнам „Менск“ (беларуская кухня, выстава друку і народнага мастацтва ды мастацкія паказы) у Таронта.

19 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Жыцьцё, дзейнасьць і погляды Васіля Цяпінскага“ (400–годзьдзе ягонае друкарні) ладзіў БІНіМ у Брукліне.

19 — XXX зьезд ЗБВБ у Лёндане: Янка Міхалюк, Аляксандар Жданковіч, Павал Навара, Пётр Асіповіч, Уладзімер Глінка; рэвізійная камісія і сяброўскі суд: Янка Сяўковіч, Гай Пікарда, Хведар Лемяшонак.

19—20 — жалобныя ўгодкі сьмерці Янкі Купалы з радыёперадачай з Сыднэю (Ліля Яцкевіч, Аля Перасечная, Міхась Лужынскі).

20 — жалобныя ўгодкі сьмерці Янкі Купалы ў Мэльбурне.

20 — угодкі загаду аб мабілізацыі ў БКА ў Сыднэі (Павал Гуз).

**Ліпень**

3—5 — XVI пленум БЦР у Чыкага (63 дэлегаты).

4 — Дзень беларускага жаўнера на Белэр–Менск.

11 — сход брэдфардзкага аддзелу ЗБВБ: Хведар Лемяшонак, Уладзімер Амельяновіч, Аляксандар Сосна.

11 — удзел у культурна–мастацкім унівэрсытэцкім фэстывалі ў Патэрсане (Нью Джэрзі).

11—18 — Тыдзень паняволеных народаў у ЗША.

11 — беларуская калёна зь бел–чырвона–белым сьцягам на багаслужбе ў катэдры Сьв. Патрыка і ў маршы на востраў статуі Свабоды ў Нью Ёрку.

11 — удзел у мерапрыемствах Тыдня паняволеных народаў у Лос Анджэласе, Чыкага, Кліўлэндзе.

11 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу і БКА ў Сыднэі (Міхась Зуй, Аляксандар Смаль).

16 — памёр у Нью Ёрку д–р Янка Станкевіч, выдатны беларускі мовавед і гісторык.

18—25 — Тыдзень паняволеных народаў у Аўстраліі.

18 — удзел беларускай калёны ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Мэльбурне.

20 — першая беларускамоўная радыёперадача ў Сыднэі.

25 — на ўгодкі сьмерці Янкі Купалы моладзь адведала помнік паэту ў Араў Парку (Нью Ёрк).

30—31 — беларускі стэнд на выставе *„Richmond Day“* (дзень гораду) у штаце Мэн (Павал Кулеш, Надзя Мельяновіч, Б. Русак).

30.VII—7.VIII — беларускі стэнд на рэлігійна–мастацкай выставе на Эўхарыстычным кангрэсе ў Філядэльфіі (Антон Шукелойць, Раіса Станкевіч).

**Жнівень**

1—8 — дзейны ўдзел беларускай дэлегацыі ў XLI міжнародным эўхарыстычным кангрэсе ў Філядэльфіі (біскуп Часлаў Сіповіч, архім. Уладзімер Тарасэвіч, Вера і Францішак Бартулі, Антон Шукелойць, Вітаўт Рамук).

8 — памёр у Саўт Рывэры сьвятар Мікалай Лапіцкі, царкоўна–палітычны дзеяч.

8 — памёр у Саўт Рывэры Вячаслаў Сэлях–Качанскі, знаны кампазытар.

15 — сход манчэстэрскага аддзелу ЗБВБ: П. Ширкоўскі, Міхась Яськевіч, Э. Б’юман.

15 — сход Беларускага клюбу ў Манчэстэры: К. Шыбіцкі, Міхась Яськевіч, Уладзімер Гінько (адміністратар Беларускага дому).

22 — сход Беларускага Культурна–Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі: Л. Дзядзюля, З. Бобрык, С. Булаўскі, Янка Калпяка, Мікола Неўдух, Л. Алурайт, В. Ліпскі, А. Тамашэўская, Кастусь Сіткоўскі, Міхась Лужынскі, Аўгеньня Каранеўская.

**Верасень**

4—6 — XII сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, арганізаваная БАЗА і ЗБК (сымпозыюм „Наша спадчына“, банкет, прамовы, багаслужба, канцэрт АБАМ, даклад Антона Адамовіча пра „Нашу Ніву“, рэзалюцыі) у Гайлэнд Парку.

5 — ушанаваньне 5–годзьдзя сьвятарскага чыну а. Яна Пекарскага ў Вэльграмтоне (Англія).

17 — памёр у Саўт Рывэры Хведар Высоцкі, грамадзкі працаўнік.

**Кастрычнік**

10 — даклад біскупа Часлава Сіповіча „Беларуская эміграцыя ў Паўночнай Амэрыцы“ ў Лёндане.

15—17 — удзел у кангрэсе АБН у Манчэстэры (Кастусь Глінскі, старшыня АБН на Англію).
17 — памёр у ЗША Радаслаў Астроўскі, вядомы беларускі палітык, пажыцьцёвы прэзыдэнт БЦР на эміграцыі.
23 — урачыстае з ганароваю вартаю пахаваньне Радаслава Астроўскага на беларускіх могілках у Саўт Рывэры.
23 — даклад Арнольда МакМіліна пра творчасьць Васіля Быкава на навуковай канфэрэнцыі Макмастэрскага ўнівэрсытэту ў Гамільтане (Канада).
24 — 25–годзьдзе прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці (БАПЦ) у Кліўлэндзе.
28 — удзел беларускай калёны ў пратэстацыйным паходзе–дэманстрацыі праз цэнтар Лёндану супраць прыезду Б. Панамарова ў Лёндан.
30 — удзел у зьезьдзе прадстаўнікоў Камітэтаў Паняволеных Народаў у Мэльбурне (Мікола Нікан, Аляксандар Калодка).

**Лістапад**

14 — сход таронцкага аддзелу ЗБК: Мікола Ганько, Барыс Кірка, С. М.
27 — XIV сэсія Рады БНР у Нью Ёрку: Вінцэнт Жук–Грышкевіч выбраны прэзыдэнтам Рады на 6 год; пастаноўлена выдаць да 60–годзьдзя БНР 1–ы том дакумэнтаў беларускага незалежніцкага руху (1917—1918).
27 — пасьвячэньне помніка „На вечны ўспамін спачылых усіх ведамых і няведамых беларусаў“ на магільніку Фокнэр у Мэльбурне а. Аляксандрам Кулакоўскім.
27 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці, прысьвечаныя ўгодкам Слуцкага паўстаньня ва ўсіх селішчах беларускай эміграцыі:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн, Брусэль;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.
28 — адчынена II выстава абразоў беларускіх мастакоў Эўропы і Амэрыкі (18 асобаў), зладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
У лістападзе пачаліся штопятнічныя беларускамоўныя радыёперадачы на Беларусь беларускіх эвангелістаў на радыёстанцыі Монтэ Карла (Манака).

**Сьнежань**

4 — сход аддзелу АБАМ у Нью Брансьвіку: Алеся Кіпель, Аня Байчук, Альгерд Кажура, Юрка Азарка, Люда Русак, Міхась Швэд.
7 — арганізаваны Беларускі Студэнцкі Клюб Ратгэрскага ўнівэрсытэту: Люда Русак, Аня Байчук, Юрка Азарка.
9 — лекцыя Гая Пікарда „Геральдычныя матывы ў раньніх друкаваных кнігах ВКЛ“ у Лёндане.
10 — памёрла ў Кліўлэндзе Еўфрасіньня Семянчук, дзейная царкоўная працаўніца.
12 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўлы ў Адэляідзе: Кастусь Станкевіч, Уладзімер Акавіты, а. Міхал Бурнос, Аўген Сітнік, Янка Ролсан, Парфіры Трысмакаў і Адам Шараевіч — старасты; рэвізійная камісія: Аляксандар Садоўскі, С. Мельнік, Міхась Кубрак.
31.XII.76—3.I.77 — сустрэча беларусаў Аўстраліі пад дэвізам „Шануйма і вывучайма мінулае, працуйма для нацыянальнае будучыні“ ў Мэльбурне.
Выйшаў № 1 бюлетэня БЦР „Жыве Беларусь!“; рэд. К. Каліна (Саўт Рывэр).

## 1977 год

**Студзень**

3 — закончылася сустрэча беларусаў у Мэльбурне.
10 — памёр Уладзімер Літвінка, грамадзкі працаўнік у Кліўлэндзе.
25 — памёр Адольф Буката, дзейны працаўнік беларускіх арганізацыяў у Лёндане.
27 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Аспэкты беларускай палеаграфіі“ ў Лёндане.

**Люты**

12 — XXV юбілейная канфэрэнцыя БІНіМ у Сытангольскім унівэрсытэце ў Саўт Орандж (Нью Джэрзі). Зачытана 18 рэфэратаў.
20 — першая праваслаўная багаслужба ў г. Рычманд (штат Мэн) а. Васіля Кендыша.

24 — лекцыя д–ра Ліндсэя Г’юза „Беларускія ўплывы на расейскую архітэктуру XVII стагодзьдзя“ ў Лёндане.

**Сакавік**

5 — памёр Філарэт Родзька, радны БНР, старшыня сэктару Рады БНР на Нью Джэрзі, закладчык аддзелу БАЗА ў Гайлэнд Парку, настаўнік беларускай школы, кіраўнік царкоўнага хору ў Гайлэнд Парку.

13.III—3.IV — IV мастацкая выстава (ткацтва, вышыўка, дрэварыта) у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.

23 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне.

23 і пазьней — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў за незалежную Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Ілінойс, Мічыган ды мэры гарадоў Нью Ёрку, Нью Брансьвіку, Саўт Рывэру, Чыкага, Кліўлэнду, Дэтройту з падняцьцем бел–чырвона–белых сьцягоў перад ратушамі гарадоў.

25 і пазьней — праходзілі ўрачыстыя акадэміі ўва ўсіх краінах беларускае эміграцыі:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Нотынгем;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;

— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;

— Нямеччына: Мюнхэн;

— Францыя: Парыж.

25 — першая гадавіна беларускамоўных перадачаў з Мэльбурну (дыктары: беларускі — Ліля Яцкевіч, ангельскі — яе дачка Ала Папярэчная).

**Красавік**

18 — памёр Часлаў Кукель, грамадзкі працаўнік, радны БНР у Боне.

21 — лекцыя праф. П. Майё „Беларуская артаграфія ў XX ст.“ у Лёндане.

30.IV—17.V — беларускі стэнд на выставе „Забытыя культуры СССР“ у Нью Ёрку.

**Травень**

5 — памёр у Канадзе Васіль Кісель, ваяк, былы савецкі кацэтнік (вязень канцлягераў).

7 — XXVI зьезд ЗБК: Віктар Касьцюкевіч, д–р Барыс Рагуля, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Янка Сурвіла, Мікола Ганько; рэвізійная камісія: Мікола Ганько, Барыс Кірка, Н. Сільвановіч; сяброўскі суд: д–р Людміла Рагуля, Вольга Грыцук, Аўген Протас.

7 — храмавае сьвята царквы Сьв. Юрага ў Чыкага, сьв. літургію адслужыў мітрапаліт Андрэй (Крыт).

15 — беларуская дэлегацыя (Часлаў Найдзюк, Язэп Арцюх) на канфэрэнцыі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Галівудзе (Каліфорнія).

15 — храмавае сьвята царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку і рукапалажэньне мітрапалітам Андрэем (Крытам) на дыякана Расьціслава Войтанкі.

17—18 — канфэрэнцыя этнічных прадстаўнікоў па правох нерасейскіх народаў СССР у Вашынгтоне (Кастусь Мярляк).

19 — лекцыя праф. Джэймса Дынглі „Моўная палітыка ў Савецкім Саюзе“ ў Лёндане.

20—22 — нарада Рэспубліканскіх Нацыянальных Клюбаў у Чыкага.

21 —Дні беларускай культуры ў Цэнтры мастацтваў штату Нью Джэрзі.

21 — „Саборык“ беларускіх праваслаўных прыходаў у Саўт Рывэры (прызнае а. Сьвятаслава Каўша адміністратарам).

28 — памёр у Сыднэі Аляксей Воўк–Левановіч, грамадзкі працаўнік.

**Чэрвень**

12 — удзел гуртка самадзейнасьці АБАМ у фэстывалі Мідлсэкскага ўнівэрсытэту (Нью Джэрзі).

16 — лекцыя д–ра Р. Фрэнча „Полацкая зямля ў XVI стагодзьдзі“ ў Лёндане.

17—25 — „Караван’77“ зь беларускім павільёнам „Менск“ (выставы мастацтва і друку, музычна–песенныя паказы і беларуская кухня) у Таронта.

17—19 — беларускі стэнд на канфэрэнцыі жанчынаў штату Нью Джэрзі ў Прынстане (Нью Джэрзі).

**Ліпень**

2—4 — XVIII зьезд АБАМ у „Полацку“ каля Кліўлэнду: Юрка Азарка, Алеся Кіпель, Ю. Курыла, Люда Русак, Міхась Швэд, Вітаўт Тумаш (мал.), Ніна Запруднік; рэвізійная камісія: Валя Гарох, Юрка Кіпель, Язэп Сажыч (мал.); рэдакцыйны камітэт: Раіса Станкевіч — рэд., Юрка Азарка, Ірэна Азарка, А. Гасьцееў, Ніна Запруднік.

16—24 — Тыдзень паняволеных народаў у ЗША. Група беларусаў удзельнічала ўва ўсіх маніфэстацыях у Лос Анджэласе (Каліфорнія) і Маямі (Флёрыда).
17—24 — Тыдзень паняволеных народаў у Аўстраліі.
17 — беларуская выстава ў рамках Тыдня паняволеных народаў у Мэльбурне.
19 — памёр у Мураі (штат Кентукі) гісторык Іван Любачка.
20—22 — беларускі аддзел на выставе мастацкіх народных вырабаў у Мэльбурне.
28 — памёр у Лёндане а. Леў Гарошка, вядомы грамадзка–палітычны беларускі каталіцкі дзеяч.
30 — выстава беларускага народнага мастацтва (Павал Кулеш, Раіса Станкевіч) у Рычмандзе (штат Мэн).
31 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу і БКА адзначылі ў Сыднэі.

**Жнівень**

2 — беларускія дэлегаты на канфэрэнцыі Рады Нацыянальнасьцяў Дэмакратычнай партыі ЗША ў Вашынгтоне (Раіса Станкевіч).
5 — памёр у Дэнвэры (Калярада) Міхаіл Лазоўскі, былы ваяк БКА.
19— сход ньюёрскага аддзелу БАЗА: Мікола Кунцэвіч, Францішак Бартуль, Зіна Станкевіч, Міхась Тулейка, Валянцін Міцкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Мікола Заморскі.
21 — сход Беларускага Культурна–Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі: Л. Дзядзюля, В. Сьцюарт, А. Бакуновіч, Мікола Неўдух, В. Марчанка, М. Бакуновіч, А. Калпяка, Оля Тамашэўская, Уладзімір Плахоцкі, В. Ліпскі, д–р Язэп Малецкі, Міхась Лужынскі, Міхась Зуй, Язэп Шкода, Мікола Ціхан.
28 — памёр у Парыжы Ўладзімер Шыманец, беларускі мастак, журналіст.

**Верасень**

2—4 — сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК у „Полацку“ пад Кліўлэндам.
3 — XVII кангрэс БАЗА ў Кліўлэндзе: Антон Шукелойць, Вячка Станкевіч, Вольга Запруднік, Васіль Русак, Раіса Станкевіч, Юрка Азарка і старшыні аддзелаў; рэвізійная камісія: Васіль Стома, Юрка Станкевіч, Міхась Тулейка, Янка Азарка.
4 — сустрэча сяброў ЗБАВ у „Полацку“ пад Кліўлэндам (Язэп Сажыч).
4 — урачыстасьць адкрыцьця помніка эмігрантам Аўстраліі ў Файрфілдзе зь беларускім нацыянальным сьцягам і мэталёваю „Пагоняю“.
6—7 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе вырабаў народнага мастацтва ў Дэтройце.
10 — удзел у дэманстрацы „Народы супраць камунізму“ ў Мэльбурне.
30.IX—2.X — канфэрэнцыя Кангрэсу Этнічных Групаў штату Нью Джэрзі ў г. Пойн Плезант.

**Кастрычнік**

1—9 — выстава беларускага народнага мастацтва ў Сыднэі.
1 — лекцыя паэты Алеся Салаўя „Паэзія, строфіка, элемэнты тэорыі літаратуры і стылістыка“ ў Мэльбурне.
14—21 — V зьезд беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Рыме.
16—23 — удзел у Тыдні правоў чалавека і справядлівасьці ў Маямі.
19— аўдыенцыя біскупа Часлава Сіповіча ў Папы Паўла VI у Ватыкане.
22—23 — беларускі стэнд і ўдзел у імпрэзах фэстывалю Міжнароднага Інстытуту.
23 — сход сяброў Беларускага клюбу ў Манчэстэры: К. Шыбіцкі, Міхась Яськевіч, П. Шыркоўскі.
23 — сход Беларускага Грамадзкага Клюбу „Сакавік“ у Брэдфардзе: Хведар Лемяшонак, Ганна Ясьвіловіч, Швэдзік.
У кастрычніку закладзены аддзел АБАМ у Лос Анджэласе: Ганна Вініцкая, Уладзімер Дунец (мал.), Люцыя Вініцкая, Антон Вініцкі, Ліза Арцюх.

**Лістапад**

3 — даклад Арнольда МакМіліна „Максім Багдановіч і разьвіцьцё сучаснай беларускай паэзіі“ ў Лёндане.
6 — беларуская калёна з нацыянальным сьцягам на супрацькамуністычнай дэманстрацыі ў Атаве.
6 — сьцяжная варта ЗБАВ на парадзе Дня памінак у Нью Брансьвіку.
6 — рукапалажэньне Пятра Саўчыца (сьвятаром Сьвятаславам Каўшом) у сьвятары ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл.
13 — ушанаваньне 562–х угодкаў Вялікага царкоўнага сабору і закладзінаў Навагрудзкае мітраполіі Вялікага Княства Літоўскага ў саборы БАПЦ у Брукліне.
20 — дажынкі, ладжаныя прыходам царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку.
20 — урачыстае супольнае сьвяткаваньне Дня ўдзячнасьці, ладжанае прыходам у Кліўлэндзе.
20 і пазьней — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ўва ўсіх асяродках беларускай эміграцыі:
— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Бірмінгем, Брэдфард;
— Аўстралія: Мэльбурн, Адэляіда, Сыднэй, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн, Брусэль;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас, Чыкага, Дэтройт;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Атава;

— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо, Мантана–Мансо.
26 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Паэма паэты XVI стагодзьдзя Міколы Гусавяніна (Гусоўскага)“ ладзіў БІНіМ у Брукліне.
У лістападзе выйшаў № 1 афіцыйнага часапісу Беларускага Харытатыўна–Адукацыйнага Фонду „Анаграфы“; рэд. а. Ян Пятроўскі.

**Сьнежань**
7 — літаратурны вечар паэты зь Менску Анатоля Вярцінскага ў Квінс Каледжы.
8 — даклад Гая Пікарды „60 год беларускіх паштовых марак, віньетак, налепак“ у Лёндане.
10 — памёр у Пасэйку Эмануіл Ясюк, беларускі палітычны працаўнік.
17 — вечар, прысьвечаны мастацтву Пётры Міранinformationвіча, ладзіў БІНіМ у Брукліне.
27 — угодкі I Усебеларускага Кангрэсу, ладжаныя супольна БНА і ЗБК у Таронта.
28.XII.77—2.I.1978 — II сустрэча беларусаў Аўстраліі ў Сыднэі.

## 1978 год

**Студзень**
5 — памёр у Кліўлэндзе Аляксей Гарох, царкоўна–грамадзкі працаўнік.
13 — памёр у Лёндане Тамаш Скапец, дзейны сябра ЗБВБ.
13—15 — беларуская дэлегацыя на IV міжнароднай канфэрэнцыі людзкіх правоў і самавызначэньня народаў СССР у Люцэрне (Швайцарыя): Уладзімер Бортнік, Юрка Сянькоўскі.
21 — памёр у Мэльбурне паэта Алесь Салавей (Альфрэд Кадняк).
29 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку: Віктар Дубяга, Язэп Кузьменка, Васіль Русак, Алекс Сільвановіч, Уладзімер Сьлiўка (царкоўны староста), настаяцель а. Аляксандар Яноўскі.

**Люты**
1 — даклад Уладзімера Быкоўскага „Новая савецкая Канстытуцыя і вызвольны рух ува Ўсходняй Эўропе“, ладжаны Радай Лучнасьці Эўрапейскай Групы (нацыяў), выдалі „Дэклярацыю нацыянальных правоў“ у Лёндане.
5 — сьвяткаваньне 12–х угодкаў Беларускага Культурна–Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі.
16 — лекцыя а. Аляксандра Надсана „Тэрміналёгія ў дачыненьні да Беларусі з XV па XVIII стагодзьдзе“ ў Лёндане.
19 — урачыстае застольле з нагоды 75–годзьдзя Старшыні Рады БНР Вінцэнта Жук–Грышкевіча ў Брукліне.
27—28 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі дзяржаўнага дэпартамэнту вонкавай палітыкі ў Вашынгтоне (Янка Запруднік, Расьціслаў Завістовіч, Вітаўт Кіпель).

**Сакавік**
2 — памёр а. Уладыслаў Рыжы–Рыскі, палітычны і рэлігійны дзеяч, прапагатар беларускай кальвінскай субожні ў Патэрсане (Нью Джэрзі).
5 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Анатоль Васілеўскі, В. Валюкевіч, Тацьцяна Кананчук, Клаўдзія Каляда, Вольга Каваленка; рэвізійная камісія: Ян Карпейка, Астап Яраховіч, Сяргей Карніловіч.
16 — лекцыя П. Майё „Беларуская артаграфія ад 1933 году да сучаснасьці“ ў Лёндане.
16 — сьвяткаваньне 25–годзьдзя Англа–Беларускага Таварыства ў Лёндане.
18 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта: Барыс Кірка, Мікола Ганько, Уладзімер Целеш, Мікола Стальмашонак, Пётра Шышка; рэвізійная камісія: Барыс Рагуля, Віктар Касьцюкевіч, А. Маркоўскі.
18 — беларускія дэлегаты на зьезьдзе Аўстралійскай Фэдэратыўнай Рады Паняволеных Народаў у Мэльбурне.
18 — V мастацкая выстава ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.
20—21 — выступленьні сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне з прамовамі за незалежнасьць Беларусі.
21 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне (а. Расьціслаў Войтанка).
25 — Дзень незалежнасьці Беларусі абвясьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Мічыган, Пэнсыльванія, Агаё, Мэн, Канэктыкут, а таксама мэры гарадоў з узьняцьцем беларускіх нацыянальных сьцягоў на мачтах перад ратушамі гарадоў Нью Ёрку, Чыкага, Кліўлэнду, Саўт Рывэру, Нью Брансьвіку, Дэтройту, Лос Анджэласу.
25 — Дэклярацыя Рады БНР на 60–я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі (1918—1978), прынятая ў Нью Ёрку.

25 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці сьвяткаваньня гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з прыняцьцем урадавых ды іншанацыянальных гасьцей:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

**Красавік**
6 — з нагоды Акту 25–га сакавіка адбылося прыняцьце беларускай дэлегацыі ў Палаце лёрдаў ангельскага Парлямэнту ў Лёндане (біскуп Часлаў Сіповіч, Павал Навара).
10 — Папа Павал VI прызначыў біскупа Часлава Сіповіча ўва Ўправу кангрэгацыі ўсходніх цэркваў.
27.IV—1.V — беларуская дэлегацыя на XI канфэрэнцыі *WACL* у Вашынгтоне (Іван Касяк, Гэлена Касоўская, Вера Лапіцкая).
28.IV—1.V — беларускі дэлегат на кангрэсе Панэўрапейскай уніі ў Фрайбургу (Зьміцер Касмовіч).

**Травень**
6 — беларуская выстава ва ўнівэрсытэце Мэну ў г. Агоста (Мэн).
18 — III беларускі фэстываль у Цэнтры Мастацтваў у Голмсдэл (Нью Джэрзі).
19 — прыходзкае сьвята сабору Сьв. Кірылы Тураўскага служыў мітрапаліт Андрэй (Крыт) у Брукліне.
21 — 100–я беларуская радыёперадача з радыёстанцыі Сыднэю.
26 — беларуская дэлегацыя на Канвэнцыі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Нью Ёрку.
28 — беларуская дэлегацыя на Канвэнцыі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Пітсбургу (Пэнсыльванія).
28 — прыходзкае сьвята царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці служыў мітрапаліт Андрэй (Крыт) у Нью Брансьвіку.
30 — беларуская калёна ЗБАВ з нацыянальнымі сьцягамі на парадзе Дня памінак у Нью Брансьвіку (Сяргей Гутырчык).

**Чэрвень**
8 — даклад праф. Джэймса Дынглі „На шасьцідзясятым годзе: БНР у гістарычнай пэрспэктыве“ ў Лёндане.
10 — XXXII зьезд ЗБВБ у Лёндане: Янка Міхалюк, Павал Навара, Аляксандар Жданковіч, Пётр Асіповіч; рэвізійная камісія і сяброўскі суд: Гай Пікарда, Хведар Лемяшонак, Янка Сяўковіч.
11 — удзел гуртка АБАМ у штогадовым фэстывалі штатавага каледжу ў Мідлсэксе (Нью Джэрзі).
11 — памёр у Чыкага сьвятар Ян Тарасэвіч, каталіцкі беларускі дзеяч, журналіст.
11—15 — побыт віцэ–прэзыдэнта БЦР Міхася Зуя ў Англіі.
18 — памерла ў Чыкага Галіна Пілецкая, дзейная грамадзкая працаўніца.
25 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу і зьезд БВФ у Лёндане з багаслужбаю яп. Мацьвея, а. В. Тарановіча, дзяка Ўладзімера Мароза (палк. Янка Бунчук, Кастусь Глінскі, Юрка Хахолка, Юнах).
25 — прыходзкае сьвята царквы Сьв. Тройцы ў Дораці, Нью Джэрзі (а. Карп Старавойтаў).
30 — „Караван’78“ зь беларускім павільёнам „Менск“ (выстава вырабаў народнага мастацтва, друку зь беларускай кухняй і паказамі) у Таронта.

**Ліпень**
11—22 — Тыдзень паняволеных народаў у ЗША, Англіі, Аўстраліі.
11 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыях Тыдня ў Анаполісе (штат Мэрылэнд).
15 — удзел беларускай групы ў дэманстрацыях Тыдня ў Лос Анджэласе.
16 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў дэманстрацыях Тыдня паняволеных народаў у Брэдфардзе.
17 — беларускія калёны на мерапрыемствах Тыдня паняволеных народаў у Нью Ёрку, Чыкага, Кліўлэндзе.
17 — а. Аляксандру Надсану нададзены тытул мітрафорнага пратаярэя кангрэгацыі ўсходняга абраду.
21 — памёрла ў Дэтройце Барбара Сажыч (дзяв. Мазура), дзейная беларуская грамадзкая працаўніца, былая жаўнерка спэцыяльнага беларускага батальёну.
22 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Маямі.
23 — удзел беларускай групы ў дэманстрацыях Тыдня паняволеных народаў у Мэльбурне.
25 — памёр у Сыднэі Аляксей Васіленя, ваяк, карыкатурысты, радны БНР.
27 — побыт япіскапа Мікалая (Мацукевіча) у Аўстраліі.
30 — дзяк Аўген Сітнік рукапакладзены ў сьвятары ў Адэляідзе.

**Жнівень**

8 — памерла ў Кліўлэндзе Алена Норык (дзяв. Кахановіч), дзейная грамадзкая працаўніца.
13 — сход манчэстэрскага аддзелу ЗБВБ: Хведар Кажаневіч, Міхась Яськевіч, П. Шыркоўскі.
13 — сход сяброў Беларускага Грамадзкага Клюбу ў Манчэстэры; кіраўніцтва: К. Шыбіцкі, Міхась Яськевіч, Хведар Кажаневіч.
18.VIII—22.IX — побыт япіскапа Мікалая (Мацукевіча) у Сыднэі.
20 — сход сяброў Беларускага Культурна–Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі: Міхась Зуй, д–р Язэп Малецкі, А. Бакуновіч.
21 — удзел беларусаў у дэманстрацыях пратэсту супраць маскоўскай акупацыі Чэхаславаччыны ў Лёндане (Кастусь Глінскі).
У жніўні рукапаклалі ў сьвятары Івана Бруцкага ў Дэтройце.

**Верасень**

2—4 — XIII сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК у Таронта.
3 — памёр у Рыме пралат Пётра Татарыновіч, выдатны беларускі рэлігійны і нацыянальны дзеяч, рэд. часапісу „Зьніч“, выдавец кніг.
6.IX—9.XI — побыт Зьмітра Касмовіча з жонкаю як начальніка БВФ у ЗША.
15 — даклад праф. Джэймса Дынглі „Некаторыя пытаньні беларусаведы“ ў Квінс Каледжы ў Нью Ёрку.
16 — перавыбары Ўправы Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Саўт Рывэры: Жорж Навумчык, Міхась Бахар, Аляксандар Банкет, Б. Цупрык, А. Мяжэвіч, Віталь Цярпіцкі, Міхась Палюховіч, Н. Арцюшэнка; рэвізійная камісія: Анатоль Занковіч, Барыс Плескачэўскі, Сьцяпан Навумчык.
23—28 — XII канфэрэнцыя Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі (ВАКЛ) у Асунсьёне (Парагвай). Беларускі ўдзельнік — Іван Касяк.
29—30 — канфэрэнцыя выканаўчых органаў Рады Рэспубліканскага Клюбу з удзелам беларускіх дэлегатаў у Вашынгтоне.

**Кастрычнік**

1 — сход сястрыцтва царквы Сьв. Юрага ў Чыкага: Марыя Каленік, Каця Пунтус, Ніна Агалец; рэвізійная камісія: Тацьцяна Новік, Соня Агалец, Габрыэля Калтуноўская.
9—15 — выстава вырабаў беларускага народнага мастацтва ў часе канфэрэнцыі Амэрыканскай Асацыяцыі ў г. Калюмбус (Агаё).
17 — беларускі дэлегат БАПЦ на I канфэрэнцыі кананічных япіскапаў ЗША ў Джонстаўне (Пэнсыльванія).
17 — памёр у Таронта Мікола Стальмашонак, грамадзкі працаўнік, сябра Ўправы ЗБК.
26—29 — беларускі дэлегат на Ўсеканадыйскай канфэрэнцыі шматкультуралізму ў Атаве.
29 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Еўфрасіньні (Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква) у Лёндане: С. Дзейка, Ф. Жынгель, М. Залога, Кастусь Глінскі, М. Дзініс, Міхась Галубінка, В. Гладкі, Оля Жынгель, П. Юнах, П. Варанковіч, Мікалай Гаховіч, П. Карналюк, Д. Рудзь, М. Лабанок, князь С. Мірскі, П. Хмяльніцкі, П. Юрчык, Міхась Сенька; рэвізійная камісія: Мікалай Гаховіч, А. Бурак, Д. Шаўлюга; трасты: С. Дзейка, П. Юнах, Уладзімер Мароз, Ц. Стараста, Д. Ахраменя, П. Карналюк, Д. Пацяёнак.
29 — базар у „Полацку“, ладжаны жаночым сэктарам БАЗА ў Кліўлэндзе.

**Лістапад**

4—5 — беларускі стэнд на Міжнароднай этнічнай выставе ў Чыкага.
5 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА даручыў старому складу Ўправы дзейнічаць.
14 — памёр у Каліфорніі Уладзімер Клішэвіч, беларускі паэта.
16 — памёр у Вальдбара (Мэн) Мікалай Кабяка, грамадзкі дзеяч, радны БНР, былы сябра БСРГ, Таварыства Беларускай Школы, абаронца БАПЦ.
20—26 — удзел у Тыдні дэкалянізацыі СССР (закладзеная Канфэрэнцыя Вольных Беларусаў) у Нью Ёрку.
21 — сустрэча зь беларускім пісьменьнікам з БССР Іванам Чыгрынавым у будынку Ньюёрскага ўнівэрсытэту.
25 — XV сэсія Рады БНР у Нью Ёрку.
26 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ўва ўсіх селішчах беларусаў з багаслужбамі па палеглых за волю змагарох і прыняцьцямі іншанацыянальных гасьцей:
— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
27 — удзел у супрацьсавецкай дэманстрацыі насупраць савецкай місіі пры ААН у Нью Ёрку.

27.XI—3.XII — Тыдзень эмігрантаў у Бэрыса (Аргентына), які абвешчаны „сталіцай эмігрантаў“, калёна беларусаў у паходзе ды іншых маніфэстацыях.
28 — вечар, прысьвечаны 30–годзьдзю існаваньня ЗБК у Таронта.

**Сьнежань**
2 — беларускія дэлегаты на канфэрэнцыі славянскіх этнічных групаў у Балтыморскім гарадзкім каледжы (Васіль Мельяновіч, Васіль Русак, Вітаўт Кіпель).
4—10 — удзел у маніфэстацыях, выставе, паказах Тыдня славянскіх культураў у Нью Ёрку.
10 — саслужэньне біскупа Часлава Сіповіча ў спэц. багаслужбе ў англіканскай Вэстмінстэрскай Катэдры („Аббі“), прысьвечанай Унівэрсальнай дэкларацыі правоў чалавека.
17 — вечар, прысьвечаны памяці прэзыдэнта БНР Пётры Крэчаўскага (даклад Міколы Гарошкі „Жыцьцё і дзейнасьць Пётры Крэчаўскага ў Празе“), ладжаны БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.
19 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўлы ў Адэляідзе: Кастусь Станкевіч, Уладзімер Акавіты, а. Міхал Бурнос, Янка Ролсан, Аксэнт Чарнагалан, Парфіры Трысмакаў, Адам Шараевіч; рэвізійная камісія: П. Пачопка, Ян Палюховіч, Ян Акавіты.
26 — памёр у Лёндане сьвятар Язэп Германовіч (паэта Вінцук Адважны), выдатны дзеяч, былы бальшавіцкі нявольнік.
29 — памёр у Мюнхэне Павал Цьвірка, грамадзкі працаўнік са „слаўнае дванаццаткі“.

## 1979 год

**Студзень**
5—9 — сустрэча беларусаў Аўстраліі ў Адэляідзе.
15—20 — VI зьезд беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Рыме.
19 — аўдыенцыя Ўладыкі Часлава Сіповіча ў Папы Яна Паўла II у Ватыкане.
20 — памёр у Машане (Францыя) Аўген Трусаў, палкоўнік БКА.
20 — дзень паэзіі Алеся Салаўя ладзіў Беларускі Цэнтральны Камітэт у Мэльбурне.
28 — сход аддзелу БАЗА ў Нью Брансьвіку: Пётра Кажура, Янка Азарка, Галіна Русак, Браніслаў Даніловіч, Юрка Азарка, Тамара Януш, Юрка Станкевіч.
У студзені—лютым адбыўся візыт Аляксандра Баршчэўскага (Алеся Барскага) у Лёндан.

**Люты**
9 — увядзеньне беларускай праграмы ў сярэдняй школе ў Саўт Віндзары (Нью Джэрзі).
11 — памёр Мікола Гарошка, вядомы беларускі дзеяч у Нью Ёрку.
12 — памёр Максім Рудзь, грамадзкі працаўнік, дзеяч БКА ў Брэдфардзе.
18 — сход прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, В. Валюкевіч, Анатоль Васілеўскі, Клаўдзія Каляда, Тацьцяна Кананчук, Вольга Каваленка; рэвізійная камісія: Ян Карпейка, Астап Яраховіч, Сяргей Карніловіч.
24 — аддзел АБАМ у Балі этнічнай спадчыны (дэманстрацыя народных строяў) у г. Эдысан (Нью Джэрзі).

**Сакавік**
6 — памёр Алесь Завалока, царкоўны працаўнік, адзін з будаўнікоў новае царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью Ёрк).
11 — сход прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне: Аляксандар Міцкевіч, Уладзімер Курыла, Барыс Данілюк, Расьціслаў Гарошка, Міхась Міцкевіч, Кастусь Верабей, Юрка Касьцюкевіч, Мікола Заморскі, З. Гарошка; рэвізійная камісія: д–р Уладзімер Набагез, Уладзімер Русак, Пётра Манькоўскі.
18 — адчынена мастацкая выстава ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.
20 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне (а. Расьціслаў Войтанка).
22 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежнасьць Беларусі.
23—29 — выстава, прысьвечаная 25 сакавіка ў Чыкага.
25 — Дзень незалежнасьці Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Пэнсыльванія, Агаё, Ілінойс, Вашынгтон, Мічыган, Мэрылэнд, Вірджынія, Канэктыкут, Дэлавэр; а таксама гарадоў Нью Ёрк, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Кліўлэнд, Калюмбус, Дэтройт, Лос Анджэлас, Чыкага, Дэ Мойн, ды некаторых іншых з узьняцьцем бел–чырвона–белага сьцягу на мачтах перад ратушамі.
25 і пазьней — урачыстасьці абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі праходзілі ўва ўсіх краінах селішча беларусаў з належнай мастацкай праграмай і прыняцьцем чужанецкіх урадавых дэлегацыяў ды іншых гасьцей:
— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
26 — паўторная малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне (а. Сьвятаслаў Коўш).
27 — памёр у Вашынгтоне Рыгор Казак (Крушына), беларускі паэта.

**Красавік**

1 — памёр Сяргей Шульга, опэрны сьпявак, рэгент хору царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта.

7 — IX кангрэс БККА ў Саўт Рывэры: інж. Іван Касяк, д–р Анатоль Плескачэўскі, Віталь Цярпіцкі, інж. Міхась Бахар, Міхась Сенька, Аляксандар Дарафейчук, Юрка Навумчык; рэвізійная камісія: Аляксандар Банкет, Барыс Плескачэўскі, Язэп Марахоўскі, Антон Даніловіч — старшыня кангрэсу, Гэлена Касоўская — сакратар.

12 — XXIII зьезд ЗБВБ у Лёндане: Янка Міхалюк, Аляксандар Зданковіч, Павал Навара, Пётр Асіповіч, Аляксандар Лашук, Янка Сяўковіч; рэвізійная камісія: В. Міхалюк, Н. Шпіганові, Т. Лемяш.

12 — зьезд ЗБК у Таронта: Віктар Касьцюкевіч, Раіса Жук–Грышкевіч, Барыс Рагуля; рэвізійная камісія: Кастусь Акула, Антон Маркевіч, А. Ж.; сяброўскі суд: Аўген Протас, Вольга Грыцук, Людміла Рагуля.

14 — памёр Міхась Мароз, грамадзкі працаўнік у Чыкага.

15—21 — Тыдзень этнічнай спадчыны ў штаце Нью Джэрзі.

21 — канфэрэнцыя эўрапейскіх сэктараў Рады БНР у Лёндане.

22—26 — беларускі дэлегат на XII канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Асунсьёне ў Парагваі (Іван Касяк).

24 — сход Беларускай Самапомачы ў Канадзе (БСК) у Ашаве: Віктар Харэвіч, Мікола Багдан, Адам Тарасэвіч; рэвізійная камісія: Уладзімер Пасэвіч, М. Грабка, Міхась Бахар.

27—29 — беларуская дэлегацыя на кангрэсе Панэўрапейскай Уніі ў нямецкім Вісбадэне (Зьміцер і Надзея Касмовічы).

**Травень**

17.V—2.VII — побыт а. Аляксандра Надсана ў ЗША.

18 — беларуская дэлегацыя на ўгодкі бойкі пад Монтэ Касіна (Італія): а. Канстанцін Маскалік, Хведар Кажаневіч, д–р Віктар Сянькоўскі.

19 — Беларускі фэстываль у Мастацкім цэнтры ў Нью Джэрзі (выстава, паказы, спорт, беларуская кухня).

20 — выставу твораў Міхася Наўмовіча (скульптура, графіка, акварэль) ладзіў БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

23.V—10.VI — аддзел „Беларусіка“ на выставе СССР у Нью Ёрку.

26 — высьвячэньне нацыянальных сьцягоў этнічных групаў у Кліўлэндзе.

30 — калёна ЗБАВ на парадзе Дня памяці амэрыканскіх вэтэранаў у Нью Брансьвіку (Сяргей Гутырчык).

31 — памёр у ЗША сьвятар Францішак Чарняўскі, вядомы грамадзкі дзеяч з–пад часоў Заходняй Беларусі.

31.V—3.VI — удзел (беларускі стэнд і паказы) у Фэстывалі Бацькаўшчыны ў Ашаве (Канада).

**Чэрвень**

9 — даклад а. Аляксандра Надсана „Асаблівасьці беларускага хуткапісу ў XVI—XVII стагодзьдзях“ у Нью Ёрку.

11 — удзел гуртка АБАМ у паказах Фэстывалю народнага мастацтва ў Мідлсэксе (Нью Джэрзі).

19 — рэфэрат д–ра Яна Пятроўскага „Старажытная грэцкая клясыка“ ў Грамадзкім Цэнтры „Полацак“ у Кліўлэндзе.

24 — прыход Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Лёндане (УАПЦ) сьвяткаваў: 10–годзьдзе дзейнасьці, 35–годзьдзе II Усебеларускага Кангрэсу, 35–годзьдзе БКА і 50–годзьдзе сьвятарства а. В. Тарановіча.

26 — беларуская калёна ЗБАВ са сваім сьцягам на парадзе Дня памяці амэрыканскіх вэтэранаў у Нью Брансьвіку: кап. Сяргей Гутырчык.

**Ліпень**

1 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу і БКА ў Мэльбурне (Аўстралія), Чыкага, Лос Анджэласе, Саўт Рывэры і Маямі.

14 — візыт япіскапа Мікалая (Мацукевіча) у Англію.

15 — удзел беларускіх калёнаў са сваімі сьцягамі ў праграме Тыдня паняволеных народаў: багаслужба ў катэдры Сьв. Патрыка, парадзе па 5–й авэню і мітынг у Цэнтральным парку ў Нью Ёрку.

15 — беларуская калёна на парадзе Тыдня паняволеных народаў у Мэльбурне.

15—22 — беларускія калёны пад нацыянальнымі сьцягамі ўдзельнічаюць у Тыдні паняволеных народаў у Чыкага, Кліўлэндзе, Лос Анджэласе, Маямі, Дэтройце.

21 — у рамках Тыдня паняволеных народаў выстава беларускага народнага мастацтва і паказы гурткоў самадзейнасьці „Васілёк“ (Ала Орса–Рамана), „Лянок“ (В. Леўчык), жаночага беларускага хору (Ксавэры Барысавец) у Вашынгтоне.
22 — удзел беларусаў у маніфэстацыях ля статуі Свабоды ў Нью Ёрку.
22 — сьвяткаваньне Дня беларускага жаўнера на Белэр–Менск.

**Жнівень**
12 — створаны аддзел БАЗА ў Вашынгтоне.
30 — памёр у Оснабруку (Нямеччына) Сяргей Гох, былы вояк БКА.

**Верасень**
1 — XIX зьезд АБАМ у Гайлэнд Парку (Нью Джэрзі): Юрка Азарка, Юрка Кіпель, Ю. Курыла, Люда Русак, Раіса Станкевіч, Вітаўт Тумаш (мал.), Аўген Лысюк; рэвізійная камісія: Альгерд Кажура, П. Лысюк, Кастусь Мірановіч; рэд. „Беларускай Моладзі“ Раіса Станкевіч.
1—2 — XVIII кангрэс БАЗА ў Гайлэнд Парку (Нью Джэрзі). Управа: Антон Шукелойць, Вячка Станкевіч, Васіль Русак, Раіса Станкевіч, Зора Кіпель, Аляксандар Міцкевіч, Янка Запруднік, Францішак Бартуль, Юрка Азарка; рэвізійная камісія: Янка Азарка, Юрка Станкевіч, М. Каранеўскі.
2 — памёрла ў Нью Брансьвіку Вера Родзька, маці Ўсевалада Родзькі.
9 — грамадзкія памінкі па памерлых заслужаных працаўніках: Уладзімеру Клуніцкім і Янку Чурылу ў Беларускім Культурна–Грамадзкім Клюбе ў Сыднэі.
15 — даклад праф. Джэймса Дынглі „Ўтварэньне Беларускай ССР“ (па матэрыялах ангельскіх архіваў) у Нью Ёрку.
15—21 — беларуская праграма ў Тыдні славянскіх культураў у Нью Ёрку.
16 — даклад Аўгена Каханоўскага (Калубовіча) „Гісторыя вывучэньня беларускага пісьменства“ ў „Полацку“ пад Кліўлэндам.
16 — сьвяткаваньне 30–годзьдзя існаваньня прыходу Сьв. Мікалая ў Нотынгеме (Англія).
19 — паказ беларускіх народных танцаў самадзейным гуртком „Лявоніха“ па тэлебачаньні ў Адэляідзе (Аўстралія).
30 — надзвычайны сход Беларускага Грамадзка–Культурнага Клюбу ў Сыднэі. Управа: Кастусь Сіткоўскі, А. Бакуновіч, Я. Гавенчык, Міхась Зуй, Янка Калпяка, В. Ліпскі, Міхась Лужынскі, д–р Язэп Малецкі, Мікола Неўдух, Уладзімер Плахоцкі, Уладзімер Пэрл, Мікола Ціхан, І. Юхневіч; рэвізійная камісія: Аркадзь Качан, М. Мілеўскі, Л. Дзядзюля; жаночы камітэт: Надзея Лужынская і 10 сяброўак.

**Кастрычнік**
6—7 — беларускі аддзел на Этнічным фэстывалі ў Парку Свабоды ў Нью Джэрзі.
10—13 — даклад д–ра Вітаўта Тумаша „Віленскі ўнівэрсытэт у гісторыі беларускага народу“ на сэсіі Асацыяцыі Славянаведы пры Ельскім унівэрсытэце ў Нью Хэйвэне (Канэктыкут).
17 — удзел у антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Адэляідзе.
27 — сьвяткаваньне 25–х угодкаў БВФ.
28 — Дажынкі ладзіла БАЗА ў Нью Ёрку.

**Лістапад**
3—4 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Чыкага.
7 — удзел у дэманстрацыі–пратэсьце перад савецкаю амбасадай у Нью Ёрку.
14 — памёр у Ля Крэзо (Францыя) Францішак Рашкевіч, былы вояк БКА.
24 — даклад Антона Адамовіча „Купала–Коласаўскае стагодзьдзе“ на ягоным юбілейным сьвяткаваньні (70–годзьдзі), ладжаным БІНіМ у Нью Ёрку.
25 і пазьней — праходзілі ўрачыстыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ўва ўсіх беларускіх аселішчах з Багаслужбамі па загінуўшых змагарох за волю Беларусі ды адпаведнай праграмай:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем, Нотынгем;
— Аўстралія: Мэльбурн, Адэляіда, Сыднэй;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Дэтройт, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік, Пасэйк;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
30 — літаратурны вечар Веры Рыч ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

**Сьнежань**
16 — сход прыходу Сьв. Апосталаў Пётры і Паўла ў Адэляідзе: Кастусь Станкевіч, Уладзімер Акавіты, Я. Цітовіч, а. Міхал Бурнос, Аксэнт Чарнагалан, Янка Ролсан, Парфіры Трысмакаў, Адам Шараевіч.
19 — паказ беларускіх калядоўшчыкаў па 11–м канале тэлебачаньня ў Нью Ёрку.

22 — зьезд беларуска–амэрыканскіх вэтэранаў (ЗБАВ) у Саўт Рывэры: палк. Анатоль Плескачэўскі, палк. Віталь Цярпіцкі, кап. Мікалай Манцівода, палк. Я. Шымчык, палк. Пятро Нягода, кап. Антон Даніловіч, кап. Уладзімер Сітнік.

23 — удзел у канцэрце ў Музэі эміграцыі на востраве статуі Свабоды.

## 1980 год

### Студзень

6 — удзел у дэманстрацыі супраць маскоўскай агрэсіі ў Аўганістане ў Таронта.

22 — у Чыкага прыбыў з Польшчы ерадыякан Варнава Саньчык.

27 — сход прыхаджанаў царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Аляксандар Банкет, Сяргей Рагалевіч, Ігар Шчорс, Лявон Літаровіч, Міхась Сенька, Мікалай Манцівода, Мікалай Сіцько, Грыгоры Арцюшэнка, Сяргей Гайшун, Сьцяпан Навумчык, Мікалай Касьцюк, Аляксандар Цагарэнка; рэвізійная камісія: Анатоль Занковіч, Міхась Сяньковіч, Гэлена Касоўская, Цімафей Варанцоў, Іра Аўдзей; рада дырэктараў „Белэр–Менск“: Грыгоры Арцюшэнка, Мікалай Сіцько, Сяргей Рагалевіч, Міхась Сенька, Леанід Высоцкі, Мікалай Касьцюк, Сьцяпан Навумчык, Аляксей Гурын, Лявон Літаровіч, Ігар Шчорс, Мікалай Манцівода, Уладзімер Сітнік, Аляксандар Цагарэнка, Сяргей Гайшун, Міхась Бордах, Іван Аўдзей, Уладзімер Крывіцкі.

### Люты

9 — удзел у антыкамуністычнай дэманстрацыі супраць агрэсіі Масквы ў Аўганістане на Трафалгар Сквэры ў Лёндане.

9 — беларуская група ў Этнічным балі ў Мастацкім цэнтры ў Нью Джэрзі.

10 — удзел у антыкамуністычнай дэманстрацыі супраць маскоўскай агрэсіі ў Аўганістане перад ратушаю ў Таронта.

16 — вечарына, ладжаная ЗБАВ у Саўт Рывэры.

17 — сход аддзелу БАА ў Адэляідзе: Янка Ролсан, Парфіры Трысмакаў, Уладзімер Акавіты, Васіль Яновіч.

20 — даклад парыскага навукоўца Нікаля Вэрта „Сацыял–дэмакраты, нацыяналізм і рэвалюцыя ў Беларусі ў 1900—1917 гг.“ у Калюмбійскім унівэрсытэце ў Нью Ёрку.

24 — акадэмія памяці Антона і Івана Луцкевічаў, ладжаная БІНіМ у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

### Сакавік

6 — памёр Янка Лукашэвіч, дзейны грамадзкі працаўнік у Кліўлэндзе.

9 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Віктар Васілеўскі, Валя Гарох, Іна Літвінка, Г. Васілеўскі, Янка Ханенка, А. Пракаповіч, Я. Яраховіч; рэвізійная камісія: Ян Карпейка, Лёля Міхальчык, Астап Яраховіч.

15 — рукапалажэньне ў сьвятары Варнавы Сеньчыка ў царкве Сьв. Юрага япіскапам Якавосам у Чыкага.

16 — адчынена мастацкая выстава ў Беларуска–Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.

16 — паседжаньне дырэкцыі „Белэр–Менск“ вызначыла Экзэкутыву адпачынковага цэнтру: Грыгоры Арцюшэнка, Пятро Зыбайла, Мікалай Сіцько, Сяргей Рагалевіч, Міхась Сенька.

22 — аўдыенцыя Ўладыкі Часлава Сіповіча ў Папы Яна Паўла II у Ватыкане.

23 і пазьней — урачыстасьці з багаслужбамі праходзілі ўва ўсіх месцах селішча беларусаў з прыняцьцямі і адпаведнымі мастацкімі праграмамі:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Нотынгем, Бірмінгем;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Дэтройт, Балтымор;

— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;

— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

23—30 — мэрам гораду абвешчаны Тыдзень Беларусі ў Таронта.

25 — Дзень незалежнай Беларусі абвесьцілі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Ілінойс, Агаё, Мічыган, Пэнсыльванія, Мэрылэнд, Мэн, Канэктыкут, Вашынгтон, Дэлявэр і мэры гарадоў Нью Ёрк, Кліўлэнд, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Чыкага, Дэтройт, Лос Анджэлас ды некаторых іншых з узьняцьцем беларускага нацыянальнага сьцягу перад гарадзкімі ратушамі.

26 — малітва за незалежную Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне (а. Расьціслаў Войтанка).

30 — сход сяброў ЗБАВ у Гайлэнд Парку: Сяргей Гутырчык, В. Лосік, Янка Азарка, Віктар Дубяга, Пётра Кажура; кантрольная камісія: Юрка Станкевіч, Уладзімер Машонскі, Уладзімер Сьлíўка.

31 — памёр у Лексінгтане (Нью Джэрзі) Анатоль Плескачэўскі, дзейны нацыянальна–палітычны дзеяч, ад’ютант прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага

**Красавік**

3 — памёр у Стэмфардзе (Канэктыкут) Леанід Галяк, грамадзка–палітычны дзеяч, закладчык „Летапісу“, дзейны журналісты.

17 — даклад біскупа Часлава Сіповіча „Беларуская суфраганія Віленскай дыяцэзіі ў гадох 1639—1774“ у Лёндане.

27 — беларускі прадстаўнік (Часлаў Найдзюк) на Банкеце Спадчыннага дня ў г. Студыё Сіці (Каліфорнія).

29 — памёр на Зінгер Айлэнд (Флёрыда) д–р Мікалай Мінкевіч, радны БЦР, лекар Беларускіх Збройных Сілаў.

**Травень**

1—4 — беларускі дэлегат на кангрэсе Панэўрапейскай Уніі ў Пасаў (Нямеччына): Зьміцер Касмовіч.

4 — пачатак расколу БАПЦ: прыход царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці пераходзіць да япіскапа Мікалая (Мацукевіча).

8 — даклад Я. Сальнова „Радзівілаўская карта Гондзія (1633) і яе месца ў беларускай картаграфіі“ ў Лёндане.

10 — сход прыходу царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта: Мікола Ганько, Марыя Ганько, Валер Навіцкі, Уладзімер Целеш, П. Ш., Надзя Баран; рэвізійная камісія: Антон Маркевіч, Барыс Кірка, Віктар Касьцюкевіч.

16—18 — X канфэрэнцыя рэспубліканскіх нацыянальных групаў у Кліўлэндзе; беларуская дэлегацыя: Тацьцяна Кананчук, Далёрэс Мельяновіч, Кастусь Калоша, а.Расьціслаў Гарошка, Васіль Мельяновіч, Вітаўт Кіпель.

24 — беларуская дэлегацыя на Канфэрэнцыі этнічных праблемаў у Нью Брансьвіку.

25 — 25–годзьдзе беларускай уніяцкай царквы Сьв. Спаса ў Чыкага.

30 — калёна беларускіх вэтэранаў (ЗБАВ) са сваімі сьцягамі на парадзе Дня памяці ў Нью Брансьвіку: Сяргей Гутырчык.

**Чэрвень**

5 — даклад Шырын Акінэр „Сучасныя беларускія пісьменьнікі ў Польшчы“ ў Лёндане.

6 — Дзень беларускага жаўнера ладзіў ЗБАВ у Белэр–Менск.

7 — XXXIII зьезд ЗБВБ у Лёндане: Янка Міхалюк, Аляксандар Жданковіч, Павал Навара, Пётр Асіповіч, Аляксандар Лашук, Янка Сяўковіч; рэвізійная камісія: Янка Міхалюк, Мікалай Шпігановіч, Хведар Лемяшонак.

8 — 30–годзьдзе беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта.

25.VI—2.IX — беларускі стэнд на Выставе этнічнае прэсы ў Таронта.

**Ліпень**

6 — удзел групы беларускай моладзі „Лявоніха“ ў Этнічным канцэрце ў Адэляідзе.

9—13 — даклад студэнткі Олі Качан „Беларуская літаратура і нацыянальнае адраджэньне ў XIX ст.“ на кангрэсе лінгвістых дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў Канбэры.

13 — беларускія калёны ў Тыдні паняволеных народаў на службе ў катэдры Сьв. Патрыка, парадзе па 5–й авэню і на мітынгу ў Цэнтральным парку ў Нью Ёрку.

14 — даклад у Лёндане д–ра Юркі Геніюша пра жыцьцё і дзейнасьць беларусаў у Польшчы.

19 — удзел беларускай групы ў маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Дэтройце, Лос Анджэласе.

19 — беларуская калёна на супрацьмаскоўскай дэманстрацыі ў Лёндане супраць савецкай акупацыі Аўганістану.

20—21 — беларускія выставачныя стэнды падчас Тыдня паняволеных пародаў у Вашынгтоне.

24—28 — беларускія дэлегаты на 13–й канфэрэнцыі ВАКЛ у Жэнэве (Надзея і Зьміцер Касмовічы).

28 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу і БКА ў Сыднэі.

29 — памёр Іван Лебядзінскі, ваяк, грамадзкі працаўнік у Лёндане.

**Жнівень**

2 — Дзень беларускай моладзі — XVI спартовыя спаборніцтвы на Белэр–Менск.

13 — мітрапаліт БАПЦ забараніў багаслужбу сьвятара Аляксандра Яноўскага ў царкве Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку (Нью Джэрзі).

22—24 — беларуская дэлегацыя (БІНіМ) на Агульнаславянскай канфэрэнцыі ў Балтыморы.

24 — сход сяброў Беларускага Грамадзка–Культурнага Клюбу ў Сыднэі: Кастусь Сіткоўскі, Оля Тамашэўская, Г. Ольрайт, д–р Язэп Малецкі, Я. Гавенчык, І. Калпяка, В. Л., Аляксандар Смаль, А. Корзун, Міхась Зуй, А. Бакуновіч, Уладзімер Плахоцкі, Міхась Лужынскі; рэвізійная камісія: Л. Дзядзюля, М. Мілеўскі, Мікола Ціхан.

30.VIII—2.IX — XIV сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК у Кліўлэндзе.

31 — канфэрэнцыя БІНіМ па Статуце Вялікага Княства Літоўскага пры Кліўлэндзкім унівэрсытэце.

**Верасень**

13 — удзел у Этнічным фэстывалі ў парку Свабоды ў Нью Джэрзі (выстава, паказы, беларуская кухня, інфармацыя).

13 — Дажынкі на Белэр–Менск.

27 — побыт біскупа Часлава Сіповіча ў Парыжы.

28 — удзел у міжнароднай маніфэстацыі з крыжам за перасьледаваную царкву ў Вэстмінстэрскай катэдры (Лёндан): айцы Фэлікс Журня і Ян Пекарскі.

28 — прыход царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку перакінуўся да апекі япіскапа Мікалая (Мацукевіча).

**Кастрычнік**

11 — нарада Беларускай Царкоўнай Рады ў Амэрыцы (грэцкае юрысдыкцыі) у Саўт Рывэры. Прэзыдыюм: а. Павал Вялікі, Кастусь Мярляк, Міхась Сенька, справаздача а. Сьвятаслава Каўша.

12 — літаратурны вечар Віктара Швэда (з Польшчы) у Манчэстэры.

**Лістапад**

6 — памёр у Нью Ёрку д–р Станіслаў Станкевіч, рэдактар „Беларуса“, радны БНР.

8, 15, 22, 29 — удзел у дэманстрацыях перад савецкай амбасадай у Лёндане з клічам „Вольнасьць народам, паняволеным Масквою!“

9—16 — Тыдзень славянскіх культураў у Нью Ёрку.

15 — нарада Рады БАПЦ у Дораці ў справе царкоўнага адколу.

22—24 — беларускі стэнд на Міжнароднай выставе ў Чыкага.

21 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ў асяродках аселішча беларусаў з багаслужбамі за палеглых змагароў і адпаведнымі праграмамі:

— Англія: Лёндан, Нотынгем, Манчэстэр, Брэдфард;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Адэляіда, Сыднэй;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Лос Анджэлас, Дэтройт;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн, Штутгарт;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

У лістападзе адбылася сэсія Рады БНР ў Нью Ёрку.

**Сьнежань**

7 — аўтарскі вечар пісьменьніка Сакрата Яновіча (зь Беластоку) у Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

18 — даклад Гая Пікарды „Беларускія рэлігійныя гімны“ ў Лёндане.

27—29 — IV сустрэча беларусаў Аўстраліі ў Мэльбурне; створаная Фэдэральная Рада: Кастусь Станкевіч, Уладзімер Сідлярэвіч, а. Міхал Бурнос.

## 1981 год

**Люты**

1 — беларускі стэнд на Выставе славянскіх тканінаў у Бінгамтоне (Нью Ёрк).

12 — даклад а. Аляксандра Надсана „Беларускія брацтвы ў XVII ст.“ у Лёндане.

21 — удзел беларускага гуртка моладзі (АБАМ) у Балі этнічнае спадчыны ў г. Юніён (Нью Джэрзі).

22 — хіратонія ў япіскапы Ізяслава (Івана Бруцкага) у саборы Сьв. Апостала Андрэя УАПЦ у Боўд Бруку (Нью Джэрзі).

**Сакавік**

5 — памёр Мікола Лысуха, дзейны беларускі працаўнік у Парыжы.

7 — сабор Рады БАПЦ у катэдры Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне: экскамунікацыя а. Мікалая (Мацукевіча) і прыхаджаніна Ўладзімера Русака.

12 — даклад Джэймса Дынглі „Пасткі і воўчыя ямы ў беларускай гісторыі“ ў Лёндане.

22 — адчынена мастацкая выстава ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.

22 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне: Аляксандар Міцкевіч, Уладзімер Русак, Кастусь Верабей, Ала Орса–Рамана, Міхась Міцкевіч, Мікола Заморскі, Раіса Станкевіч, Юрка Касьцюкевіч; рэвізійная камісія: а. Мікалай (Мацукевіч), Марыя Войтанка, Янка Запруднік.

23.III—8.V — выстава „Беларуская літаратура ў гістарычнай пэрспэктыве“ ў бібліятэцы Рутгэрскага ўнівэрсытэту ў Нью Брансьвіку.

24 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з багаслужбамі і прыняцьцем урадавых і іншанацыянальных прадстаўнікоў і гасьцей ды мастацкімі праграмамі:
— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда;
— Бэльгія: Брусэль, Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Лос Анджэлас, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Дэтройт, Дэ Мойн;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.
25 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне.
25 і пазьней — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежнасьць Беларусі; Дзень незалежнай Беларусі абвешчаны губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Ілінойс, Агаё, Мічыган, Мэрылэнд, Канэктыкут, Пэнсыльванія, Каліфорнія, Мэн, Дэлявэр, а таксама мэрамі гарадоў Нью Ёрку, Саўт Рывэру, Дэтройту, Кліўлэнду, Нью Брансьвіку і інш. з падняцьцямі бел–чырвона–белага беларускага сьцягу перад гарадзкімі ратушамі.
У сакавіку выйшаў №1 абежніка брацтва і сястрыцтва Сьв. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) „Сьцеражы Веры“; рэд. Барыс Данілюк (Нью Ёрк).

**Красавік**
2 — даклад праф. П. Майё „Пачаткі разьвіцьця беларускай мовы“ ў Лёндане.
9—11 — даклад Яна Садоўскага пра пісьменьніка Янку Брыля на канфэрэнцыі літаратуразнаўцаў у Квэбэку (Канада).
10—11 — выстава беларускага нараднага мастацтва на Славянскім фэстывалі ў Пэнсыльванскім унівэрсытэце.
14 — памёр у Ля Крэзо (Францыя) Базыль Лагач, вайскавік, дзейны сябра беларускіх вайсковых арганізацыяў.
18 — створаная „Дарадчыцкая Камісія пры япіскапе Мікалаю (Мацукевічу) для палагоджаньня расколу ў БАПЦ“ у Кліўлэндзе: а. Аляксандар Міцкевіч, Мікола Ганько, Алекс Сільвановіч, Янка Азарка, Уладзімер Русак, Язэп Сажыч, Васіль Пляскач, Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Валер Навіцкі, Марыя Ганько.
18 — вечар памяці Ўсевалада Ігнатоўскага, 100–годзьдзе нараджэньня і 50–годзьдзе сьмерці.
19 — рукапалажэньне дыякана Міхала Страпко ў сьвятары япіскапам Мікалаем (Мацукевічам) у Кліўлэндзе.

**Травень**
2 — нарада ў Нью Ёрку беларускіх, украінскіх і чэскіх навукоўцаў аб супрацы ды вывучэньні спадчыны сваіх народаў у Амэрыцы
3 — царкоўны фэст у царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Гайлэнд Парку з багаслужбай япіскапа Мікалая (Мацукевіча).
9 — літаратурны вечар Веры Рыч ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.
9 — XXVIII зьезд ЗБК у Таронта: Віктар Касьцюкевіч, Барыс Кірка, Эва Пашкевіч, Мікола Ганько, Эдуард Буцька, Янка Сурвіла; рэвізійная камісія: Кастусь Акула, Антон Маркевіч, Аркадзь Жылік.
10 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта давыбраў Міколу Сільвановіча замест выбыўшага Валера Навіцкага.
16 — сабор БАПЦ у катэдры Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне: забарона служэньня япіскапу Мікалаю (Мацукевічу) і адлучэньне сьвятара Аляксандра Яноўскага.
16 — XXXV зьезд ЗБВБ у Лёндане: Янка Міхалюк, Аляксандар Зданковіч, Павал Навара, Пётр Асіповіч, Аляксандар Лашук, Янка Сяўковіч.

**Чэрвень**
5—7 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў у Вашынгтоне: Янка Раковіч, Васіль Мельяновіч, Андрэй Стрэчань, Вітаўт Кіпель, Раіса Станкевіч, Алеся Кіпель.
6 — памёр у Кліўлэндзе Вінцэнт Сьпічонак, дзейны грамадзкі працаўнік.
10 — лекцыя Аляксандра Баршчэўскага (Алеся Барскага) „25–годзьдзе катэдры беларускай мовы і літаратуры ў Варшаўскім унівэрсытэце“ ў Ньюёрскім унівэрсытэце.
12—19 — Тыдзень паняволеных народаў у ЗША пры дзейным удзеле беларускіх арганізацыяў у Нью Ёрку, Маямі, Лос Анджэласе ды інш.
13 — заканчэньне заняткаў у саўтрывэрскай беларускай школе (13 вучняў).
18 — лекцыя М. Паўлоўскага ў Лёндане „Максім Багдановіч і мастацтва“.
18 — зьезд Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане: Джэймс Дынглі, а. Аляксандар Надсан, Гай Пікарда, Пётр Асіповіч, д–р Шырын Акінэр, д–р Ліндсэй Г’юз, Янка Міхалюк, Павал Навара.
20 — літаратурны вечар Уладзімера Сядуры (Глыбіннага) ладзіў БІНіМ у Брукліне.

21 — дэманстрацыя і малебен за здароўе Міхася Кукабакі перад будынкам ААН у Нью Ёрку, а таксама ў Лос Анджэласе і Маямі.
27 — пасланьне япіскапа Мікалая (Мацукевіча) да вернікаў.
28 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу і БКА ў Мэльбурне.
28 — сустрэча зь пісьменьнікам Аляксандрам Баршчэўскім (Алесем Барскім) зь Беластоку ў „Полацку“ пад Кліўлэндам.

**Ліпень**
5 — Дзень беларускага жаўнера на Белэр–Менску, латжаны ЗБАВ: Кастусь Мярляк, Віталь Цярпіцкі, Аўген Протас, Уладзімер Брылеўскі.
12 — удзел самадзейнасьці беларускай моладзі ў Этнічным канцэрце ў Адэляідзе.
20 — 5–я гадавіна беларускамоўных радыёперадачаў з Сыднэю.
25 — Дзень беларускай моладзі на Белэр–Менск, спартовыя спаборніцтвы беларускіх ды іншых арганізацыяў.

**Жнівень**
2 — урачыстае сьвяткаваньне 1000–годзьдзя беларускай дзяржаўнасьці ў Сыднэі.
3 — беларуска–ўкраінскі вечар успамінаў пра Лява Акіншэвіча.
19 — сход сяброў Беларускага Культурна–Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі: А. Булаўскі, А. Дзядзюля, Мікола Ціхан, Ганна Калпяка, М. Мілеўскі, І. Галушка, С. Тамашэўская, Оля Тамашэўская.
23 — памёр Пётра Мікуліч, ваяк, дзейны працаўнік у Мэльбурне.

**Верасень**
5 — XX зьезд АБАМ у Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі: Юрка Азарка, Вера Запруднік, Раіса Станкевіч, Ю. Курыла, Альгерд Кажура, Вітаўт Тумаш (мал.); рэвізійная камісія: Ніна Русак, А. Данілюк, Віктар Тур; рэдкалегія „Беларускай моладзі“: Раіса Станкевіч, Галіна Тумаш, Ніна Русак, Вера Запруднік, Ліда Данілюк, Алеся Кіпель, Юрка Азарка, Багдан Андрусышын, Вітаўт Тумаш (мал.)
6 — урачыстае адкрыцьцё помніка па палеглых беларускіх героях на беларускіх могілках з парадам беларускіх вэтэранаў у Нью Брансьвіку.
6 — XIX кангрэс БАЗА ў Гайлэнд Парку: Антон Шукелойць, Вячка Станкевіч, Францішак Бартуль, Зора Кіпель, Васіль Русак, Янка Запруднік, Раіса Станкевіч, Юрка Азарка; рэвізійная камісія: Янка Азарка, М. Каранеўскі, Міхась Тулейка.
6 — даклад Антона Адамовіча „Іван Луцкевіч — жыцьцё і дзейнасьць“ у Гайлэнд Парку.
12 — Дажынкі на Белэр–Менск.
12—13 — беларуская група на Этнічным фэстывалі ў парку Свабоды (беларуская выстава, паказы) у Джэрзі Сіці (Нью Джэрзі).
17 — дэманстрацыя арганізацыі Міжнародная Амністыя перад будынкам савецкай амбасады ў абарону Міхася Кукабакі ў Лёндане.
26 — пачатак школьнага году ў беларускіх школах пры арганізацыях.
У верасьні:
беларуская калёна з нацыянальным сьцягам брала ўдзел у парадзе сьвята эмігрантаў у Бэрыса (Аргентына);
удзел самадзейнай групы моладзі „Васілёк“ у Этнічным фэстывалі ў Балтыморы.

**Кастрычнік**
4 — памёр біскуп Часлаў Сіповіч, ініцыятар адчыненьня Беларускай бібліятэкі і музэя імя Францішка Скарыны ў Лёндане.
11 — урачыстасьць памяці піянэраў–арганізатараў беларускага жыцьця ў Аўстраліі ў Сыднэі.
18 — перавыбарчы сход БЦК у Мэльбурне: Уладзімер Сідлярэвіч, Мікола Скабей, Павал Гуз, Міхась Шэка, Грыгор Шэйпак, Мікола Нікан, Аляксандар Калодка.

**Лістапад**
8 — традыцыйны беларускі кірмаш у „Полацку“ пад Кліўлэндам, ладжана Беларускім Жаночым Згуртаваньнем у Кліўлэндзе.
9—15 — удзел у Тыдні славянскай спадчыны (выстава, паказы, беларуская кухня і інфармацыя) у Нью Ёрку.
11 — памёрла Валянціна Васіленя (дзяв. Якубовіч), дзейная беларуская працаўніца ў Сыднэі.
14—15 — беларускі аддзел на Міжнароднай этнічнай выставе ў Чыкага.
18.XI—21.XII — візытацыя мітрапаліта Ізяслава (Бруцкага) прыходаў БАПЦ у Аўстраліі.
19 — даклад д–ра Г. Лемінда „Славянскі элемэнт у беларускім слоўніку“ ў Лёндане.
21 — высьвячэньне новае царквы БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучанікаў мітрапалітам Ізяславам (Бруцкім) у Мэльбурне.
26 — памёр Лявон Карыба ў Таронта.

28 і пазьней — праходзілі ўрачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі ды жалобнымі прыняцьцямі гасьцей і прадстаўнікоў іншых народаў:
— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Нотынгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас, Дэ Мойн;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж.

**Сьнежань**
14 — ліст дарадчае рады япіскапа Мікалая (Мацукевіча) мітрапаліту УАПЦ Мсьціславу.
21 — памёр ў Празе Чэскай Міхал Забэйда–Суміцкі, сьпявак эўрапейскай вядомасьці.
27 — сход ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА: Пётра Кажура, Міхась Тулейка, Галіна Русак, Янка Азарка, Браніслаў Даніловіч, Тамара Януш, Юрка Азарка; рэвізійная камісія Васіль Русак, Уладзімер Машанскі, Л. Стагановіч.
29.XII.81—2.I.1982 — V сустрэча беларусаў Аўстраліі ў Сыднэі.

## 1982 год

**Студзень**
14 — другі ліст япіскапа Мікалая (Мацукевіча).
21 — новы склад БСК (12 беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі): Уладзімер Сідлярэвіч, Міхась Шэка, Павал Гуз...
28 — даклад праф. Арнольда МакМіліна „Дастаеўскі і сучасная беларуская літаратура“ ў Лёндане.
28 — закладзены Беларускі каапэратыў у Мэльбурне: Уладзімер Сідлярэвіч, Павал Гуз, Аўген Груша, Міхась Шэка, а. А. Грыцук, Анна Шэка; жаночы камітэт: Оля Ольрайт, Надзея Груша, Жэня Сідлярэвіч.

**Люты**
3 — памёр Іван Муха, настаўнік, грамадзкі працаўнік у Нью Ёрку.
7 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА: Аляксандар Міцкевіч, Францішак Бартуль, Валянцін Міцкевіч, Мікола Заморскі, Кастусь Верабей; рэвізійная камісія: д–р Вітаўт Тумаш, Антон Шукелойць, Міхась Міцкевіч.
13 — удзел гуртка самадзейнасьці АБАМ у Этнічным фэстывалі ў г. Эдысан (Нью Джэрзі).
21 — сход прыхаджан царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку: Уладзімер Курыла, Расьціслаў Гарошка, Аўген Нестар, Барыс Данілюк, Міхась Міцкевіч; рэвізійная камісія: Пётра Манькоўскі, В. і З. Гарошкі.
21 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Я. Каваленка, Андрэй Стрэчань, Ірэна Каляда–Сьмірнова, Астап Яраховіч, Галіна Кананчук, Янка Ханенка, Крыстына Каваленка, А. Пракаповіч, В. Валюкевіч; рэвізійная камісія: Лёля Міхальчык, Валя Гарох, Кастусь Калоша.
25 — бібліятэка і музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане набылі рукапісы XVI і XVII стагодзьдзяў.

**Сакавік**
14 — адчынена выстава твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Беларуска–Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.
14—31 — выстава беларускага друку і этнаграфіі ў Беларускім Царкоўна–Грамадзкім Цэнтры ў Кліўлэндзе.
21 — адчыненая выстава, прысьвечаная 100–годзьдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гарадзкім Культурным Цэнтры Чыкага.
24 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне, прачытаў мітрапаліт Ізяслаў (Бруцкі) пасьля прыняцьця віцэ–прэзыдэнтам Джорджам Бушам беларускай дэлегацыі: мітрапаліт Ізяслаў, Мікола і Людміла Войтанкі, Ірына і Р. Брэндэр, А. і В. Несьцяровіч.
25 і пазьней — выступалі з прамовамі за незалежнасьць Беларусі сэнатары і кангрэсмэны ў Кангрэсе ЗША.
25 — абвясьцілі гэты дзень Днём незалежнай Беларусі губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Канэктыкут, Ілінойс, Пэнсыльванія, Мічыган, Каліфорнія, Агаё, Флёрыда, Мэн, Дэлявэр, а таксама мэры гарадоў: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Бруклін, Дэтройт і некаторых іншых з адначасным падняцьцем на мачтах перад гарадзкімі ратушамі беларускіх бел–чырвона–белых сьцягоў.
25 — сьвяткаваньні абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ўва ўсіх аселішчах беларусаў з багаслужбамі і прыняцьцямі ўрадоўцаў і гасьцей суседніх народаў:
— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Бірмінгем;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Нью Бransьвік, Саўт Рывэр, Уілмінгтон, Лос Анджэлас, Дэтройт;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

**Красавік**

4 — лекцыя праф. Томаса Бэрда пра беларускую літаратуру на канвэнцыі ў Гантэр Каледж Ньюёрскага ўнівэрсытэту.

10 — памёрла ў Нью Джэрзі Апалёнія Савёнак (дзяв. Радкевіч), настаўніца, радная БНР.

23 — Магдалена Хмара, прадусэрка на тэлевізіі, сталася ляўрэаткай журналістыкі Канады.

23—24 — IV Беларускі фэстываль у Мастацкім цэнтры Нью Джэрзі.

23—24 — беларускі стэнд на Фэстывалі славянскай спадчыны ў Пэнсыльванскім унівэрсытэце.

**Травень**

1 — ліст у кансысторыю япіскапа Мікалая (Мацукевіча) аб адрачэньні ад дзейнасьці і ўходзе на пакой.

2 — вечар, прысьвечаны 100–годзьдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа, ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

16 — паклёпны напад тэлебачаньня *CBC на* беларускіх дзеячоў II сусьветнае вайны, змайстраваны з дапамогаю КГБ Джонам Лофтусам.

17 — памёрла Ганна Дубяга (дзяв. Белаец), царкоўная працаўніца ў Нью Брансьвіку.

20 — лекцыя д–ра Шырын Акінэр „Сынтаксыс лічэбнікаў у беларускай мове“ ў Лёндане.

**Чэрвень**

6 — памёр у Сыднэі д–р Язэп Малецкі, знаны дзеяч БХД, радны БНР, грамадзкі дзеяч на эміграцыі.

6 — памёр у Саўт Рывэры Барыс Плескачэўскі, былы вайскавік, даўгалетні царкоўны стараста беларускай царквы.

10 — памёр у Канадзе Янка Садоўскі, праф. Кінгстанскага ўнівэрсытэту, аўтар „Гісторыі Беларусі“ па–ангельску.

10—12 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі Рэспубліканскіх Клюбаў Нацыянальнасьцяў у Галівудзе (Флёрыда): Лянгіна Брылеўская, д–р Лявон Трусэвіч.

12 — канец заняткаў у беларускіх прыцаркоўных школах у ЗША.

14—17 — беларуская дэлегацыя на зьезьдзе Рэспубліканскае партыі ЗША ў Ньюарку.

17 — даклад д–ра Ліндсэя Г’юза „Беларуская архітэктура і мастацтва“ ў Лёндане.

24 — памёр Васіль Падліпскі (Падлупскі), вэтэран беларускіх аддзелаў апошняе вайны ў Кліўлэндзе.

26 — удзел у славянскім канцэрце ў Карнэгі Хол у Нью Ёрку: акардэаністы і сьпявак Багдан Андрусышын (Данчык).

**Ліпень**

4 — Дзень беларускага жаўнера на Белэр–Менск.

4 — угодкі II Усебеларускага Кангрэсу і БКА ў Сыднэі.

11 — урачыстасьць 100–годзьдзя нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Мэльбурне.

13 — памёр у Саўт Рывэры Ўладзімер Каракулька, беларускі грамадзкі працаўнік.

18—25 — Тыдзень паняволеных народаў у ЗША, Аўстраліі і Англіі.

18 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі на багаслужбе ў катэдры Сьв. Патрыка, на парадзе па 5–й авэню і на мітынгу ў Цэнтральным парку ў Нью Ёрку.

18 — удзел беларускіх групаў у маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Лос Анджэласе, Сэнт Пітэрсбэргу, Чыкага.

18 — удзел беларускіх групаў у маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Брэдфардзе і Лёндане.

18 — удзел беларускіх групаў у маніфэстацыях Тыдня паняволеных народаў у Мэльбурне і Сыднэі.

22 — беларускі стэнд на Ўсеканадыйскай выставе ў Таронта.

24 — Дзень беларускай моладзі на Белэр–Менск.

25 — вызначана кіраўніцтва БІНіМ у Нью Ёрку: Вітаўт Кіпель, Антон Адамовіч, Янка Запруднік, Антон Шукелойць, Зора Кіпель.

30.VII—1.VIII — спартовыя спаборніцтвы Беларуска–Амэрыканскай Моладзі на Белэр–Менск.

**Жнівень**

22 — сход Беларускага Культурна–Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі: Міхась Лужынскі, Мікола Антух, А. Бакуновіч, Я. Гавенчык, А. Галашук, Міхась Зуй, Янка Калпяка, А. Корзун, В. Л., Уладзімер Плахоцкі, Б. Стукач, Оля Тамашэўская.

**Верасень**

1.IX—30.XI — спэцыяльная выстава, прысьвечаная 100–годзьдзю беларускіх песьняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Ньюёрскай публічнай бібліятэцы.

4—5 — беларуская дэлегацыя на Фэстывалі імігрантаў у Бэрыса (Аргентына): 6.IX у танцах (6 параў), 26.IX абед у Беларускім клюбе.

4—6 — XV сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, прысьвечаная 100–годзьдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа, у Нью Брансьвіку.

6 — нарада кіраўнікоў Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў у ЗША: Васіль Мельяновіч, Раіса Станкевіч.

11—12 — беларускі стэнд і паказы на Этнічным фэстывалі ў парку Свабоды ў Джэрзі Сіці

11 — беларускі стэнд на этнічнай выставе ў парку Свабоды на востраве Эліс (Нью Ёрк).

25 — Дажынкі на Белэр–Менск.

25 — пачатак заняткаў у беларускіх пачатковых школах пры цэрквах.

26 — беларускі стэнд на Выставе канадыйскае спадчыны ў Таронта.

27 — беларуская калёна на Парадзе імігрантаў у Бэрыса (Аргентына).

28 — памёр у Нью Брансьвіку Дзьмітры Сямёнаў, арганізатар беларускіх спартсмэнаў, грамадзкі працаўнік.

**Кастрычнік**

3 — сэмінар і вечар паэзіі, ладжаны Ангельска–Беларускім Таварыствам у Лёндане з удзелам прадстаўнікоў з шасьці краінаў і дакладамі на купала–коласаўскія тэмы.

10 — беларускі дэлегат на канфэрэнцыі „Правы чалавека і самавызначэньне“ ў Люцэрне (Швайцарыя): Уладзімер Бортнік.

16 — X кангрэс Беларуска–Амэрыканскага Кангрэсовага Камітэту ў Саўт Рывэры: Іван Касяк, Міхась Бахар, Віталь Цярпіцкі, Юрка Навумчык, Міхась Сенька, Леанід Высоцкі; рэвізійная камісія: Аляксандар Банкет, Язэп Марахоўскі, Аркадзь Евец; старшыня рады кангрэсу: Антон Даніловіч, сакратар Гэлена Касоўская.

21 — купала–коласаўскі вечар у Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў у Нью Ёрку, ладжаны прадстаўніцтвам БССР.

31 — 10–годзьдзе прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью Ёрк).

У кастрычніку адбыўся сход сяброў Беларускага Грамадзкага Цэнтру „Полацак“: Сяргей Карніловіч, А. Міраеўскі, Янка Раковіч, Кастусь Калоша, Андрэй Стрэчань, Ірэна Каляда–Сьмірнова, Я. Яраховіч; рэвізійная камісія: Астап Яраховіч, Я. Каваленка, П. Васілеўскі.

**Лістапад**

12 — беларускі вечар, прысьвечаны 100–м угодкам Янкі Купалы і Якуба Коласа ў рамках Тыдня славянскай спадчыны (ТСС) у Нью Ёрку.

13 — купала–коласаўскія ўгодкі ў Кліўлэндзе.

13—14 — беларускі аддзел на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Чыкага.

14 — паказ беларускіх народных танцаў гуртком „Васілёк“ (Ала Орса–Рамана) у Інстытуце Модаў на Мангэтэне (у рамках ТСС).

14 — купала–коласаўская выстава ў „Полацку“ пад Кліўлэндам.

20—21 — беларускі аддзел на выставе Тыдня славянскай спадчыны ў Нью Ёрку.

21 — надзвычайны сход прыхаджанаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта: Барыс Кірка, Мікола Ганько, Марыя Ганько, Н. Сільвановіч, Уладзімер Целеш; рэвізійная камісія: Віктар Касьцюкевіч, Аркадзь Жылік, Віктар Харэвіч.

27 — XVII сэсія Рады БНР: прэзыдэнтам Рады абраны Язэп Сажыч.

27 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ўва ўсіх асяродках беларускага выгнаньня:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Бірмінгем, Брэдфард;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Пэрт, Адэляіда;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Чыкага, Лос Анджэлас, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

**Сьнежань**

1 — аўдыенцыя беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Папы Яна Паўла II перадала Мэмарыял у справе стану царквы ў Беларусі.

4 — памёр у Францыі Аркадзь Качан, афіцэр БКА, грамадзкі дзеяч.

6—10 — беларуская дэлегацыя на XV аб’яднанай канфэрэнцыі ВАКЛ і XXVIII АПАКЛ у Токіё (Японія): Іван Касяк з жонкаю.

11 — памёр сьвятар Фэлікс Журня, настаяцель Дому беларускіх айцоў марыянаў у Лёндане.

12 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўлы ў Адэляідзе: Кастусь Станкевіч, Уладзімер Акавіты, а. Міхал Бурнос, Уладзімер Шамшурын, Аксэнт Чарнагалан, Янка Ролсан, Парфіры Трысмакаў, М. Рамановіч; рэвізійная камісія: М. Цітовіч, Ян Палюховіч, П. Пачопка.

12 — надзвычайны сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе ў справе суду за царкву.

18 — беларуская калядная праграма на эстрадзе Музэю навукі і Індустрыі ў Чыкага.

29.XII.82—2.I.83 — V сустрэча беларусаў Аўстраліі ў Сыднэі.

## 1983 год

### Студзень

14—20 — побыт а. Аляксандра Надсана ў Лос Анджэласе.

15 — прыняцьцё новаабранага прэзыдэнта Рады БНР Язэпа Сажыча ў Таронта.

25 — памёр Васіль Семянчук, дзейны грамадзкі працаўнік у Кліўлэндзе.

27 — даклад Янкі Запрудніка „Дакумэнтацыя падзеяў II сусьветнай вайны ў Беларусі“, ладжаны БІНіМ у Нью Ёрку.

27 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры: Міхась Бахар, Сяргей Рагалевіч, а. Алег Махнюк, Лявон Літаровіч, Міхась Сенька, Віталь Цярпіцкі, Мікалай Касьцюк, М. Дутка, Леанід Высоцкі, Сяргей Гайшун, Міхась Палюховіч; рэвізійная камісія: Людміла Махнюк, Фатыня Даніловіч, Яўгенія Цярпіцкая, Аркадзь Евец, Цімафей Варанцоў.

### Люты

5 — пастановаю сабору БАПЦ за шкодную для царквы дзейнасьць яп. Мікалай (Мацукевіч) экскамунікаваны і адлучаны ад БАПЦ, пазбаўлены сану і выкрасьлены са сьпісу духавенства БАПЦ.

6 — удзел беларускай групы ў Міжнародным фэстывалі (песьні, танцы, ручное мастацтва і беларускія стравы) у Мэльбурне.

14 — беларускі стэнд на Выставе славянскае Бібліі ў Мэльбурне.

20 — удзел беларускага гуртка моладзі ў VIII этнічным фэстывалі ў Эдысане (Нью Джэрзі).

20 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл выбраў раду дырэктараў Белэр–Менск: Аўген Протас, Поля Клінцэвіч, Крыстына Юрцэвіч, Уладзімер і А. Пялеса, Уладзімер і С. Арашкевіч, Уладзімер Лемяшэўскі, Пятро Мельяновіч, Пятро Зыбайла, Васіль Захаркевіч, Адам Горбат, Васіль Шчэцька, Сымон Жамойда, О. Накутовіч, Кастусь Мярляк.

25 — удзел беларускай групы ў Міжнацыянальным канцэрце славянскае спадчыны ў Нью Ёрку.

### Сакавік

5 — вечар памяці кампазытара Міколы Равенскага ладзіў БІНіМ у Нью Ёрку.

6 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА: Аляксандар Міцкевіч, Францішак Бартуль, Кастусь Верабей, Мікола Заморскі, А. Мацукевіч.

6 — сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Сяргей Карніловіч, Андрэй Стрэчань, Ірэна Каляда–Сьмірнова, Я. Каваленка, Валянціна Яцэвіч, Тацьцяна Кананчук, Янка Ханенка; рэвізійная камісія: Лёля Міхальчык, Астап Яраховіч, Кастусь Калоша.

6 — беларускі стэнд і ўдзел гуртка „Васілёк“ у Этнічным фэстывалі ў г. Парамус (Нью Джэрзі).

20 — паказы гуртка „Васілёк“ на Славянскім фэстывалі ў Ньюарку (Нью Джэрзі).

20.III—3.IV — гадавая мастацкая выстава ў Беларускім Рэлігійна–Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры.

23 — сымпозыюм па беларускай культуры ў Рутгэрскім унівэрсытэце.

25 — з нагоды 65–годзьдзя абвешчаньня БНР радыёперадача на СССР па „*Canada Radio International*“.

25 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне.

25 — абвешчаны Дзень Беларусі губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Мічыган, Агаё, Пэнсыльванія, Канэктыкут, Ілінойс, Дэлявэр, Мэрылэнд, Мэйн ды мэрамі гарадоў Нью Ёрк, Лос Анджэлас, Чыкага, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Кліўлэнд, Стэмфард, Дэтройт ды інш.;

Прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежнасьць Беларусі;

Урачыстасьці 65–х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі праходзілі з багаслужбамі і прыняцьцямі ў:

— Англія: Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард;
— Аргентына: Буэнас Айрэс;
— Аўстралія: Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда, Пэрт;
— Бэльгія: Лювэн;
— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Уілмінгтон, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас;
— Канада: Таронта, Вініпэг, Манрэаль;
— Нямеччына: Мюнхэн;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

30 — памерла Аўгеньня Каранеўская, дзейная грамадзкая працаўніца ў Сыднэі.

**Красавік**

4 — памёр у Сэнт Пітэрсбэргу (Флёрыда) д–р Аляксандар Багдановіч, выдатны лекар, сябра АБЛЧ.

7 — жалобны сход памяці паэткі–мучаніцы Ларысы Геніюш у Нью Ёрку.

7 — памёр у Самэрсэце (Нью Джэрзі) Аўген Кудасаў, малады беларускі працаўнік, спартсмэн.

22—24 — беларускі стэнд на Славянскім фэстывалі ў Пэнсыльванскім унівэрсытэце.

24 — даклад Віктара Сянкевіча „Праявы новага беларускага нацыяналізму“ ў Нью Ёрку.

**Травень**

21 — памёр у Кліўлэндзе мітрапаліт БАПЦ Андрэй (Крыт).

21 — XXIX зьезд ЗБК у Таронта: Віктар Касьцюкевіч, д–р Барыс Рагуля, д–р Раіса Жук–Грышкевіч, Барыс Кірка, Эва Пашкевіч, Янка Сурвіла, Мікола Буцька, Мікола Ганько; рэвізійная камісія: Кастусь Акула, Антон Маркевіч, Аркадзь Жылік; сяброўскі суд: Аўген Протас, Вольга Грыцук, д–р Людміла Рагуля.

24 — памёр у Лёндане Павал Навара, беларускі ваяк, грамадзкі працаўнік.

28—30 — Сабор БАПЦ, скліканы экскамунікаваным яп. Мікалаем (Мацукевічам) у Кліўлэндзе: яп. Мікалай, айцы Карп Старавойтаў, Аляксандар Яноўскі, Міхал Страпко, дыякан Якуб, міране ў рэзалюцыйнай камісіі: Васіль Русак, Янка Раковіч, Янка Азарка.

28 — калёна ЗБАВ са сваімі сьцягамі на парадзе Дня памяці амэрыканскіх вэтэранаў у Нью Брансьвіку: Сяргей Гутырчык.

**Чэрвень**

2—5 — беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі Нацыянальных Клюбаў Рэспубліканскае партыі ЗША ў Сірак’юз, Нью Ёрк.

4 — памёрла ў Нью Ёрку Эльза Зубковіч, кампазытарка, сябра БІНіМ.

13 — памёр у Чыкага Глеб Калтуноўскі, ваяк, грамадзкі працаўнік.

17 — купалаўскія ўгодкі ў Пэрце (Аўстралія).

20 — памёр у Брэдфардзе Станіслаў Мак (Яроцкі), ваяк, грамадзкі працаўнік.

24—26 — беларускі стэнд на Фэстывалі Бацькаўшчыны, ладжаны Радаю Народнага Мастацтва ў Атаве.

30 — памёр у Мэльбурне Антон Яновіч, афіцэр БКА, грамадзкі працаўнік.

**Ліпень**

3 — Дзень беларускага жаўнера на Белэр–Менск.

9—10 — Тыдзень славянскае спадчыны ў Нью Ёрку.

10—16 — Тыдзень паняволеных народаў у ЗША.

10 — беларускія калёны з нацыянальнымі сьцягамі ў парадзе па 5–й авэню, на багаслужбе ў катэдры Сьв. Патрыка, на мітынгу ў Цэнтральным парку ў Нью Ёрку.

14 — гадавы сход Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане: праф. Джэймс Дынглі, а. Аляксандар Надсан, Гай Пікарда, д–р Ліндсэй Г’юз, Пётр Асіповіч, д–р П. Майё, Янка Міхалюк.

17—22 — Тыдзень паняволеных народаў у Аўстраліі — удзел беларускіх групаў у мерапрыемствах Тыдня ў Мэльбурне.

30 — XIX спартовыя спаборніцтвы моладзі на Белэр–Менск.

**Жнівень**

7 — памёр у Мэльбурне Павал Яськевіч, афіцэр БКА, выдатны працаўнік і рэд. „Лучніка“.

14 — сход аддзелу БАЗА ў Кліўлэндзе: Янка Раковіч, Андрэй Стрэчань, Астап Ярахowіч, Кастусь Калоша, Я. Якавенка; рэвізійная камісія: Клаўдзія Каляда, Сяргей Карніловіч, Янка Ханенка.

20 — урачыстасьць памяці памерлай паэткі–мучаніцы Ларысы Геніюш у Мэльбурне.

28 — прыняцьцё ў міністра шматкультурнасьці ў Таронта: Сяргей Хмара, Янка Ліхач.

**Верасень**

2—25 — Фэстываль эмігрантаў у Бэрыса (Аргентына): беларуская калёна ў паходзе, сходы і сьвяткаваньні ў сваім клюбе.

3 — XX кангрэс БАЗА ў Гайлэнд Парку: Антон Шукелойць, Вячка Станкевіч, Францішак Бартуль, Уладзімер Русак, Янка Запруднік, Васіль Русак, Аляксандар Міцкевіч, Раіса Станкевіч, Уладзімер Бакуновіч, Янка Азарка; рэвізійная камісія: Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Андрэй Стрэчань.

4—6 — XV сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК у Гайлэнд Парку.

8 — урачыстая хіратанізацыя а. Уладзімера Тарасэвіча ў біскупы ў Чыкага.

10—11 — беларускі стэнд і паказы на Этнічным фэстывалі ў парку Свабоды ў Джэрзі Сіці (Нью Джэрзі).

19 — беларускі дэлегат на канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Люксэмбургу: Зьміцер Касмовіч.

21 — памёр Янка Цупрык, былы старшыня амэрыканскай Дэмакратычнай партыі ў Саўт Рывэры.
25 — беларускі стэнд на Выставе этнічнай і гістарычнай спадчыны ў Форт Ёрку (Антарыё).

**Кастрычнік**

12 — візытацыя прыходаў БАПЦ новым галавою Ізяславам (Бруцкім) у Англіі.
14 — высьвячэньне беларускага могільніку ў Кліўлэндзе.
15 — сэмінар, прысьвечаны памяці Вацлава Ластоўскага ў Лёндане: даклады Антона Адамовіча, Аляксандра Баршчэўскага, Джэймса Дынглі, Альбэрта Барташэвіча і Антона Шукелойця.
29 — вечар памяці Вацлава Ластоўскага, ладжаны БІНіМ у Нью Ёрку.
30 — архірэйскае высьвячэньне царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычманд Гіл.
30.X—5.XI — удзел у мерапрыемствах Тыдня славянскай спадчыны ў Нью Ёрку, выступленьне танцавальнага ансамблю моладзі „Васілёк“ у Інстытуце Модаў у Нью Ёрку.

**Лістапад**

3 — памёр у Аргентыне былы яп. Віцебскі і Полацкі былой БАПЦ Апанас (Мартас), аўтар гісторыі беларускай царквы.
5—6 — беларускі стэнд на выставе Тыдня славянскіх народаў у Нью Ёрку.
13 — Дажынкі супольна ладзілі беларускія арганізацыі ў Нью Брансьвіку.
19.XI.83—8.I.84 — беларускі аддзел на Міжнародным калядным фэстывалі ў Чыкага.
21—26 — зьезд беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Рыме: біскуп Уладзімер Тарасэвіч, айцы Аляксандар Надсан, Францішак Апячонак, Канстанцін Маскалік, Робэрт Патры–Тамушанскі, А. Вайцяхоўскі.
22 — спатканьне прадстаўнікоў БССР у Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі ў Нью Ёрку (з пачастункам і паказам фільмаў).
23 — аўдыенцыя біскупа Ўладзімера Тарасэвіча ў Папы ў Ватыкане.
23 — 25 год пастырства а. Аляксандра Надсана.
26 — беларускі дзень на чыкагскай міжнароднай каляднай выставе.
26 і пазьней — урачыстыя ўгодкі Слуцкага паўстаньня з багаслужбамі і адпаведнымі праграмамі ў:
— Англія: Лёндан, Бірмінгем, Манчэстэр, Брэдфард;
— Аўстралія: Адэляіда, Мэльбурн, Пэрт, Сыднэй;
— ЗША: Нью Ёрк, Кліўлэнд, Нью Брансьвік, Саўт Рывэр, Чыкага, Дэтройт;
— Канада: Таронта, Манрэаль, Вініпэг;
— Францыя: Парыж, Ля Крэзо.

**Сьнежань**

9 — сустрэча беларускай эміграцыі зь беларускім пісьменьнікам з БССР Вячаславам Адамчыкам у Нью Ёрку.
28 — памёр Мікалай Гумен, ведамы беларускі грамадзкі дзеяч у Кліўлэндзе.

## 1984 год

**Студзень**

5—9 — сустрэча беларусаў Аўстраліі ў Адэляідзе.
25 — сход актыву Беларуска–Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту ў Саўт Рывэры: а. Сьвятаслаў Коўш, Мікалай Манцівода, Мікалай Манцівода (мал.), Віталь Цярпіцкі; рэвізійная камісія: Мікалай Касьцюк, Лявон Літаровіч, Міхась Сенька.
29 — сход ньюёрскага аддзелу БАЗА: Аляксандар Міцкевіч, Францішак Бартуль, Кастусь Верабей, Мікола Заморскі, А. Мацукевіч.

**Люты**

19 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл: Уладзімер Лемяшэўскі — царкоўны стараста, Кастусь Мярляк, Уладзімер Арашкевіч, Васіль Шчэцька, Пятро Мельяновіч, Крыстына Юрцэвіч, Л. Ляўковіч, Уладзімер Пялеса.
20 — памёр у Сан Францыска (Каліфорнія) Юрка Стасевіч, выдатны грамадзка–палітычны дзеяч.
25 — памёр у Таронта Язэп Пітушка, беларускі грамадзка–палітычны дзеяч.
26 — памёр у Дэтройце Мікола Арцюх, беларускі эканаміст.
26 — памёр у Норт Бэі (Канада) Язэп Баброўскі, беларускі журналісты.
29 — сустрэча Міколы Нікана ў гатэлі „Шато“ ў Мэльбурне з прэм'ерам польскага эміграцыйнага ўраду.

**Сакавік**

11 — адчынена гадавая мастацкая выстава ў Грамадзкім Цэнтры Саўт Рывэру.
14 — першая беларускамоўная радыёперадача з Пэрту (Аўстралія).

14 — сход аддзелу БАА ў Адэляідзе: Янка Ролсан, Уладзімер Акавіты, Кастусь Станкевіч.

18 — сход прыхаджанаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе: Сяргей Карніловіч, Андрэй Стрэчань, Ірэна Каляда–Сьмірнова, Вольга Ханенка, Валянціна Яцэвіч, Тацьцяна Кананчук; рэвізійная камісія: Лёля Міхальчык, Астап Яраховіч, Кастусь Калоша.

19 — памёр Макар Аблажэй, адзін з пачынальнікаў беларускага арганізаванага жыцьця ў Чыкага.

23 — малітва за Беларусь у Кангрэсе ЗША.

23—25 — беларускі стэнд на Славянскім фэстывалі ў Пэнсыльваніі.

23 — абвешчаны Дні Беларусі губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Пэнсыльванія, Мічыган, Ілінойс, Агаё, Канэктыкут, Мэрылэнд, Мэн, а таксама мэрамі гарадоў з узьняцьцем беларускага нацыянальнага сьцягу на мачтах перад гарадзкімі ратушамі Нью Ёрку, Нью Брансьвіку, Чыкага, Кліўлэнду, Лос Анджэласу ды інш.; урачыстыя сьвяткаваньні гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі з мастацкімі часткамі і прыняцьцямі прадстаўнікоў іншых народаў прайшлі ў:

— Англія: Лёндан, Бірмінгем, Манчэстэр, Брэдфард;

— Аргентына: Буэнас Айрэс;

— Аўстралія: Мэльбурн, Пэрт, Сыднэй, Адэляіда;

— Бэльгія: Лювэн;

— ЗША: Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Дэтройт, Лос Анджэлас.

24 — прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне за незалежнасьць Беларусі.

**Красавік**

6 — памёрла Галіна Орса, дзейная працаўніца ў Нью Ёрку.

9 — сустрэча зь міністрам шматкультурнасьці ўраду Антарыё ў Таронта: Сяргей Хмара, Васіль Вір.

29 — 30–я ўгодкі Ангельска–Беларускага Таварыства ў Лёндане.

У красавіку памёрлі:

— у Бэлё Арызонтэ (Бразылія): Іван Перагуд, былы атаман беларускай партызанкі ў Заходняй Беларусі;

— Ян Панцэвіч, былы кіраўнік Саюзу Эвангельскіх Баптысцкіх Цэркваў у Беларусі, у Дэтройце.

**Травень**

5 — беларуская частка ў канцэрце Славянскай музыкі ў Карнэгі Хол у Нью Ёрку: Багдан Андрусышын (Данчык).

18—20 — беларуская дэлегацыя на канвэнце Рэспубліканскае Рады Нацыянальнасьцяў у Вашынгтоне: Васіль Мельяновіч, Кастусь Мярляк, Янка Раковіч, а. Расьціслаў Гарошка.

20 — візытацыя біскупа Ўладзімера Тарасэвіча ў Парыжы.

24 — заканчэньне школьнага году ў беларускіх прыцаркоўных школах.

25—27 — беларускія дэлегаты на Канфэрэнцыі Шматкультуралізму ў Таронта.

26—28 — III сабор БАПЦ у Манчэстэры пры ўдзеле яп. Ізяслава (Бруцкага) і 39 удзельнікаў — сьвятароў і міранаў.

27 — беларуская калёна са сваімі сьцягамі на парадзе амэрыканскіх вэтэранаў Дня памяці ў Нью Брансьвіку: Сяргей Гутырчык.

27 — вечар памяці Браніслава Эпімах–Шыпілы ў Нью Ёрку ладзіў БІНіМ.

**Чэрвень**

1 — Дзень беларускага жаўнера, успаміны пра Бацькаўшчыну ладзіў гурток „Васілёк“ у Брэдфардзе.

4 — памёр Язэп Пігулеўскі, удзельнік беларускага нацыянальна–вызвольнага руху на Палесьсі ў Таронта.

8 — сход сяброў АБРФ „Хаўрус“ у Парыжы: Міхась Наўмовіч, Лявон Шыманец, А. Данільчык; рэвізійная камісія: В. Забаўскі, В. Бут–Гусаім, Міхась Хоміч.

25 — памёр у Таронта Іван Алешка, царкоўны працаўнік.

**Ліпень**

1 — Дзень беларускага жаўнера на Белэр–Менск.

1 — сход ЗБАВ у Кліўлэндзе: Мікола Ягоўдзік (камандзір), Аркадзь Сацэвіч, Уладзімер Дунец, Я. Каваленка, Андрэй Стрэчань.

15—22 — Тыдзень паняволеных народаў ЗША. Беларускія калёны са сваімі сьцягамі на парадзе па 5–й авэню, на багаслужбе ў катэдры Сьв. Патрыка і на мітынгу ў Цэнтральным парку ў Нью Ёрку. Удзел беларускіх групаў у мерапрыемствах у Вашынгтоне, Кліўлэндзе, Лос Анджэласе, Чыкага.

21 — Дзень беларускай моладзі на Белэр–Менск.

22 — беларуская дэлегацыя на мітынгу Тыдня Паняволеных Народаў на востраве Эліс каля Статуі Свабоды (Нью Ёрк).

28 — спартовыя спаборніцтвы моладзі на Белэр–Менск.

**Жнівень**

12 — памёр Мікалай (прозьвішча не пададзена аўтарам **— рэд.**) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Згуртаваньня Беларусаў у Вальдэ (Аргентына).

**Верасень**

1—3 — XVI сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, ладжаная БАЗА і ЗБК у Кліўлэндзе.

8—9 — удзел у Этнічным фэстывалі музычнага ансамблю „Віхор“ і танцавальнага гуртка „Васілёк“ у Джэрзі Сіці (Нью Джэрзі).

21 — пачатак заняткаў у беларускіх прыцаркоўных школах.

24 — памёр у Нью Ёрку Адам Горбат, беларускі грамадзкі працаўнік.

**Кастрычнік**

5 — памёр у Лювэне (Бэльгія) а. д–р Аўген Смаршчок, ведамы беларускі грамадзкі і царкоўны працаўнік.

7 — сход прыхаджанаў царквы Сьв. Юрага ў Чыкага: І. Дзімідык, С. Гушча, Мікола Латушкін, А. Новік, К. Пут, А. Гушча, Ірына Рагалевіч; рэвізійная камісія: А. Гушча, І. Конкевіч, М. Манжула.

20—21 — 25–я ўгодкі беларускага аддзелу на Міжнароднай выставе народнага мастацтва ў Чыкага.

23 — вечар–сустрэча беларускага паэты з БССР Рыгора Барадуліна зь беларускай эміграцыяй у Нью Ёрку.

29.X—5.XI — удзел беларусаў у Славянскім фэстывалі ў Нью Ёрку.

**Лістапад**

4 — даклад праф. Томаса Бэрда аб беларускай праваслаўнай царкве на канфэрэнцыі славістаў у Нью Ёрку.

5 — беларуская дэлегацыя на закрыцьці Славянскага тыдня ў Нью Ёрку.

18 — прыход царквы Сьв. Віленскіх Мучанікаў урачыста адзначыў 3–ю гадавіну высьвячэньня свае царквы ў Мэльбурне.

23 і пазьней — праходзілі ўрачыстасьці ўгодкаў Слуцкага паўстаньня з паніхідамі і адпаведнымі мастацкімі праграмамі ў:

— Англія: Лёндан, Брэдфард, Манчэстэр, Бірмінгем;

— Аўстралія: Мэльбурн, Сыднэй, Пэрт, Адэляіда…

# *Паваенная беларуская эміграцыя і „Хроніка“ Міколы Панькова*

I

Гарачае лета 1944 г. нарадзіла парадокс. Ішло вызваленьне Эўропы ад карычневай чумы, а тысячы нашых суайчыньнікаў адступалі з Бацькаўшчыны разам зь нямецкімі войскамі. Дзясяткі тысячаў беларусаў, а таксама летувісаў, латышоў, эстонцаў, украінцаў, расейцаў абіралі невядомасьць у будучыні замест гарантаванай міскі баланды ў савецкім канцлягеры.

Яны разумелі, што савецкая ўлада не даруе службы ў збройных фармаваньнях, удзелу ў нацыянальных арганізацыях, урэшце, працу ў судзе ці адміністрацыі. Нават працу на зямлі і элемэнтарнае выжываньне на акупаванай тэрыторыі будуць кваліфікаваць як пасобніцтва ворагу. Таму ішлі, як найдалей ад чарговых „вызваліцеляў“, якія абавязкова б задалі пытаньні: „А што вы рабілі за часамі нямецкай акупацыі? Чаму не забівалі нямецкіх жаўнераў, не падрывалі цягнікі?“ Цяжка акрэсьліць лічбу ўцекачоў, што пакінулі Беларусь у 1944 г., але можна меркаваць, што іх было блізу 100 тыс.

Апрача іх, на тэрыторыі Нямеччыны ў гэты час знаходзіліся беларусы — жаўнеры польскага войска, што трапілі ў палон падчас польскай кампаніі 1939 г. (Па розных падліках іх было ад 30 да 70 тыс. чалавек.) Былыя жаўнеры працавалі на прадпрыемствах, ці былі занятыя ў сельскай гаспадарцы.

Найбольшую частку беларускай дыяспары ў Нямеччыне ў часе вайны складалі „остарбайтары“, людзі, вывезеныя на прымусовыя працы. Варта адзначыць, што частка зь іх выехала добраахвотна, паверыўшы ў нямецкую прапаганду, і з жаданьня пазьбегнуць нэндзы на Бацькаўшчыне. Гісторык Юрка Туронак ацаніў іх колькасьць у 378 тыс.[1].

Склаўшы папярэднія лічбы, можна атрымаць агульную колькасьць беларусаў на тэрыторыі Нямеччыны на 1945 г. — 500—550 тыс. чалавек.

Яшчэ з 1939 г., калі стала зразумелым, што вайна між Нямеччынай і СССР непазьбежная, Бэрлін стаўся прытулкам для часткі беларускіх палітыкаў (Фабіян Акінчыц, Мікола Шкялёнак, Мікола Шчорс, Вітаўт Тумаш, Мікола Абрамчык, Вінцэнт Гадлеўскі і інш.), што спадзяваліся скарыстаць з гэтага канфлікту дзеля адраджэньня незалежнай беларускай дзяржавы. Тут выдаваліся газэты „Раніца“, „Беларускі работнік“, працавалі Беларускае Прадстаўніцтва і Беларускі Камітэт Самапомачы[2]. З кастрычніка 1944 г. у Бэрліне знаходзілася Беларуская Цэнтральная Рада разам з падпарадкаванымі ёй структурамі: кіраўніцтвам Беларускай Самапомачы, Саюзу Беларускай Моладзі, Беларускім Навуковым Таварыствам, Беларускім Культурным Згуртаваньнем.

Пасьля капітуляцыі Нямеччына была падзеленая саюзьнікамі на чатыры акупацыйныя зоны: савецкую, ангельскую, францускую і амэрыканскую, уцекачы (акрамя былых жыхароў СССР, тут былі харваты, славакі,

мадзяры, румыны, баўгары), „остарбайтары“ і „дабраахвотнікі“ апынуліся ў лягерах для перамешчаных асобаў *(displaced persons)*. Яны былі заснаваныя *UNRRA (United Nations Relief and Rehabilitation Administration)*, фінансаваліся краінамі–пераможцамі і ствараліся паводле нацыянальнай прыкметы. Беларускіх лягераў было няшмат: Рэгенсбург, Міхэльсдорф, Віндзішбэргердорф, Розэнгайм, Остэргофэн, Шляйсгайм, Альлендорф–Мэнхэнгоф–Альтэнштат, Бакнанг, Ватэнштэт, Гановэр, Госьляр і інш.

Адразу па капітуляцыі Нямеччыны распачалася рэпатрыяцыя былых жыхароў СССР. Згодна з рашэньнямі Ялцінскай канфэрэнцыі (люты 1945 г.) абавязковай рэпатрыяцыі падлягалі наступныя катэгорыі ўцекачоў:

1) ваеннапалонныя, якія былі ўзятыя ў палон у нямецкай вайсковай форме;

2) асобы, якія належалі да савецкіх вайсковых сілаў на 22 чэрвеня 1941 г. і пасьля гэтай даты не былі належным чынам адтуль звольненыя;

3) савецкія грамадзяне, у дачыненьні да якіх на аснове дастатковых зьвестак было прызнана, што яны супрацоўнічалі з ворагам і добраахвотна дапамагалі яму[3].

Добраахвотна вярталіся тыя, хто быў прымусова вывезены, ці знаходзіўся ў нямецкім палоне. Уцекачы „лета 1944 г.“, якія ўвесну 1945 г. пакінулі савецкую акупацыйную зону і выехалі ў зоны акупацыі саюзьнікаў, вяртацца на Радзіму не хацелі. Беларускі Нацыянальны Камітэт, арганізацыя, створаная для каардынацыі дзейнасьці беларусаў у 1945 г., ацаніў іх колькасьць у 100 тыс. чалавек.

Для іх распачалося сапраўднае пекла, бо саюзьніцкія зоны слаба выратоўвалі ад прымусовай рэпатрыяцыі. Савецкія рэпатрыяцыйныя місіі езьдзілі па лягерах ДП і, карыстаючыся падтрымкай заходніх аліянтаў, адлоўлівалі былых грамадзянаў СССР, заганялі ў спэцвагоны і адпраўлялі на „Бацькаўшчыну“.

Леанід Галяк успамінаў:

*„...У пачатку лютага 1947 г. ангельскае войска з дапамогай танкаў акружыла беларускі лягер у Госьляры (Rammelsberg) і ўсіх, што не патрапілі дакумэнтальна выказаць, што яны ня ёсьць савецкія грамадзяне, пагрузілі пры дапамозе прыкладаў у аўты і перадалі савецкай рэпатрыяцыйнай місіі, а тыя, не чакаючы, безадкладна перакінулі ў савецкую зону.*

*Вывезьлі ня ўвесь лягер. Частка схавалася ў лес, іншыя вылегітымоўваліся нямецкімі дакумэнтамі, выдадзенымі на нашую просьбу, або ратаваліся тым, што не начавалі ў лягеры.*

*Раніцою недабіткі пачалі зьяўляцца ў бюро. Зараз жа пайшоў у ангельскую камэндатуру, робячы гвалт, што саветы забралі польскіх грамадзянаў. Тыя сказалі, што калі транспарт яшчэ не пераехаў граніцы зоны, дык будзе затрыманы. Аказалася аднак, што саветчыкі няпэўнасьць сваіх аліянтаў прадбачылі і транспарт, нідзе не затрымліваючыся пераехаў граніцу зоны ў Helmstadt. Сьцьвердзіўшы гэта, у камэндатуры сказалі, што яны* very sorry *і гэта ўсё. Недабіткі зарэгістраваліся пад іншымі прозьвішчамі і накіраваліся ў рожныя лягеры, частка вярнулася ў Госьляр і далей не былі турбаваныя. Камэндант ангельскі Госьляру быў зьняты за сваю лёяльнасьць да аліянтаў. Ведаю таксама аб другім выпадку вывазу лягеру ў Ухце пад Гановэрам. Адтуль вывазы былі калі або ў ангельскага камэнданта было замнога сымпатыі да аліянтаў, або папросту замнога выпіваў гарэлкі з саветчыкамі“*[4].

Рэпатрыяцыйныя камісіі сутыкнуліся зь яскравым нежаданьнем уцекачоў вяртацца. Але пільная ўвага на гэта пачала зьвяртацца толькі зь вясны 1946 г., пасьля прамовы Чэрчыля ў Фултанскім каледжы, дзе было канстатавана пра зьяўленьне жалезнай заслоны, вынікам чаго стала зьмена адносінаў да СССР і пачатак „халоднай вайны“. Было вынайдзена рашэньне: абавязковай рэпатрыяцыі ў СССР падлягаюць тыя, хто на 1 верасьня 1939 г. меў грамадзянства СССР. Пастанова выратоўвала эстонцаў, латышоў, летувісаў, палякаў.

Паводле афіцыйнай статыстыкі *IRO (International Refugee Organization)*, арганізацыі, што зьмяніла *UNRRA* і была створаная ААН для апекі над уцекачамі і трансьляцыі іх зь лягераў для перамешчаных асобаў у вольны сьвет, Нямеччыну пакінула 2500 чалавек, што запісаліся беларусамі. Астатнія эміградвалі ў большасьці „палякамі“[5].

Чаму так атрымалася? Заходнія краіны нічога ня ведалі пра існаваньне беларускай нацыі. Не было вольнай беларускай дзяржавы. Урад БНР на той час не існаваў, каб выступіць у абарону сваіх суайчыньнікаў. Назва Беларусь (*Byelorussia*) атаясамлялася выключна з Расеяй, а гэта вяло да прымусовай рэпатрыяцыі, бо ўсіх грамадзянаў СССР вярталі на радзіму. Выйсьцем было запісацца палякам, зрабіць фальшывыя дакумэнты, альбо даказаць, што ты быў грамадзянінам Польшчы, альбо Латвіі, альбо Летувы на 1 верасьня 1939 г. Толькі ў кастрычніку 1947 г. на генэральнай сэсіі ААН была прынятая пастанова, згодна зь якой выдачы ў СССР падлягалі асобы, доказы ваенных злачынстваў якіх былі неабвержнымі. Толькі тады беларусы змаглі ўздыхнуць з палёгкай.

## II

Героі „Хронікі беларускага жыцьця на чужыне“ Міколы Панькова — пераважна эмігранты 1944 г.

Яны аселі напачатку ў лягерах ДП Нямеччыны. Апрача надзённых праблемаў, галоўнай зь якіх было — выжыць, яны мусілі трымацца адзін аднога, каб не згубіцца ў поліэтнічным моры эмігрантаў і захаваць тую незалежную нацыянальную беларускасьць, якая зьнішчалася ў 20—30–х гг. камуністычнымі ўладамі, і зноў зьнішчалася ад 1944 г. Таму і засноўвалі беларускія лягеры, суполкі, ладзілі імпрэзы, чыталі рэфэраты, адзначалі нацыянальныя і рэлігійныя сьвяты.

Першай інстытуцыяй, закладзенай у паваеннай Нямеччыне, стала Беларуская Служба, заснаваная ў Мюнхэне 30 красавіка 1945 г. з дазволу амэрыканскай вайсковай адміністрацыі д–рам Баляславам Грабінскім, Янкам Станкевічам, Усеваладам Родзевічам, Лявом Гарошкам (старшыня). Служба выдавала даведкі беларусам, дзе пазначалася іхная нацыянальнасьць, рабілася гэта з мэтай унікненьня выезду ў СССР [6].

15 ліпеня 1945 г. у Браўншвайгу пачало працаваць Беларускае Бюро на Ангельскую зону Нямеччыны, якое ўзначаліў Анатоль Шкутка, ягоным заступнікам быў Анатоль Сакалоў, потым яго зьмяніў Леанід Галяк. У функцыі бюро ўваходзіла рэгістрацыя беларусаў, кантроль за харчовымі карткамі, абарона ад савецкіх рэпатрыяцыйных місій:

*„…Жылі рожна — пераважна ў падвалах разьбіных дамоў, цэлая група жыла ў спаленым замку браўншвайскіх князёў… Пры самай станцыі ў Браўншвайгу была савецкая рэпатрыяцыйная місія. На бальконе чырвоныя сьцягі і іконы правадыроў. Аднойчы ў нашым бюро зьявіўся нейкі савецкі маёр, а пры ім нейкі тып у паўвайсковай вопратцы. Сказалі, што прыйшлі пазнаёміцца з прадстаўнікамі братняй арганізацыі, якая таксама як і іхная місія працуе для дабра ДП. Асьцярожна стараліся даведацца колькасьць зарэгістраваных асобаў, мы ім адказалі, што тых, хто мае ахвоту варочацца дахаты, мы не рэгіструем, а адразу адсылаем да іх (у запраўднасьці такіх не было). Пагаварылі гэтак з паўгадзіны. Разьвітваючыся запрашалі ў госьці, каб пры шклянцы гарэлкі „обменяться мнениями“. Я падзякаваў і сказаў, што зь вялікай прыемнасьцяй зайшоў бы да іх, але баюся, што знайшоўшы ўваход, магу не знайсьці выхаду. Гэта страшэнна ўзбурыла іх, і яны пачалі крычэць, што іх, якіх паважае ўся Эўропа, зьневажаюць. Неяк аднак супакоіліся …“*[7].

Найбольш беларускіх уцекачоў было ў Амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. У Францускай зоне беларускіх ДП–лягераў не існавала, а першае згуртаваньне на чале з доктарам Віктарам Войтанкам было закладзенае толькі ў лютым 1948 г.

6 чэрвеня 1945 г. дзеля каардынацыі беларускага жыцьця ў Амэрыканскай зоне, у Рэгенсбургу быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт (Аляксандар Русак, Васіль Жданюк, Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Васіль Кендыш, Алесь Вініцкі і інш.). БНК, які дзейнічаў напачатку ў правінцыях Ніжняя Баварыя і Верхні Пфальц, зь цягам часу распаўсюдзіў дзейнасьць на ўсю Амэрыканскую зону акупацыі.

15 жніўня 1945 г. у Рэгенсбургу ў памяшканьні БНК адбыўся сход 12 беларускіх дзеячоў (сярод іншых прысутнічалі Мікола Абрамчык, Радаслаў Астроўскі, Барыс Рагуля, Аўген Каханоўскі (Калубовіч)).

На сходзе прагучала тэза (даклад Аўгена Каханоўскага) пра патрэбу стварэньня Беларускага Нацыянальнага Цэнтру (БНЦ), які б замяніў на палітычнай арэне БЦР. Радаслаў Астроўскі, прэзыдэнт БЦР, разумеў, што БЦР з–за цеснага супрацоўніцтва зь немцамі ня здолее ўзначаліць беларускую эміграцыю. Зь ягонай прапановы старшынёй БНЦ быў абраны Мікола Абрамчык. Ягоным заступнікам — Аўген Каханоўскі[8]. Радаслаў Астроўскі, палічыўшы, што існаваньне БНЦ кансалідуе беларускае грамадзтва, 23—24 верасьня на XI пленуме БЦР прыняў рашэньне пра роспуск Рады: *„…пасьля капітуляцыі Нямеччыны і Японіі ды фармальнага заканчэньня ваенных дзеяньняў Беларуская Цэнтральная Рада ўважала мэтазгодным часова спыніць сваю палітычную дзейнасьць, каб гэтым самым ня даць бальшавіком магчымасьці выкарыстаць перад заходнімі саюзьнікамі фармальна тактычнае супрацоўніцтва зь немцамі ў мэтах канчальнага зьнішчэньня супрацьбальшавіцкага актыву…“*[9].

Беларускі Нацыянальны Цэнтар ня здолеў кансалідаваць беларускі рух на эміграцыі. Увесну 1946 г. Янка Станкевіч і Антон Адамовіч прапанавалі радыкальны спосаб адмежаваньня ад Расеі (Беларусь, паводле назвы, у заходнім сьвеце трывала асацыявалася з Расеяй), прапанаваны яшчэ ў свой час Вацлавам Ластоўскім — зьмяніць назву „Беларусь“ і „беларускі“ адпаведна на „Крывія“ і „крывіцкі“. За такую зьмену выказалася кіраўніцтва БНЦ (Мікола Абрамчык, Янка Станкевіч, Станіслаў Станкевіч, Антон Адамовіч, Францішак Кушаль), пераважна беларуская інтэлігенцыя ды выхадцы з Заходняй Беларусі. Нават пачаўся паступовы перавод дакумэнтацыі, зьявіліся арганізацыі і выданьні з выкарыстаньнем слова „крывіцкі“. Але асноўная маса ўцекачоў, галоўным чынам з Усходняй Беларусі, не ўспрыняла гэтую ідэю.

Канфлікт паступова зь лінгвістычнага стаў палітычным. У 1946 г. япіскапы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы падпісалі заяву з просьбай прыняць іх у „лона“ Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы (РЗПЦ). „Крывічы“ рэзка асудзілі здрадніцтва япіскапаў, і паспрабавалі нанова разыграць аўтакефальную карту. Тыя, хто не асудзіў „здрадніцтва“, атрымаў мянушку „зарубежнікі“. Паступова да іх далучыліся колішнія прыхільнікі Беларускай Цэнтральнай Рады. Рэлігійная назва займела палітычны сэнс. Як вынік, ад восені 1946 г. паплечнікі Радаслава Астроўскага сталі звацца „зарубежнікамі“, тады як прыхільнікі Абрамчыка — „крывічамі“.

Паступова Беларускі Нацыянальны Цэнтар, які павінен быў каардынаваць дзейнасьць усіх беларускіх арганізацый, поўнасьцю патрапіў пад уплыў прыхільнікаў Абрамчыка. 29 сьнежня 1947 г. на зьезьдзе ў Остэргофэне было абвешчана пра аднаўленьне Рады БНР на чале з прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам. Падстава выводзілася з тэстамэнту прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі, які перад сьмерцю ў сакавіку 1943 г. пераказаў паўнамоцтвы М. Абрамчыку, як старшыню Рады БНР.

Радаслаў Астроўскі 31 сьнежня 1947 г. выдаў адозву пра стварэньне Цэнтральнага Беларускага Прадстаўніцтва, а 25 сакавіка 1948 г. у лягеры Ватэнштэт абвясьціў пра рэарганізацыю Беларускай Цэнтральнай Рады, спасылаючыся на пастановы II Усебеларускага Кангрэсу, згодна зь якімі беларускі народ даверыў БЦР рэпрэзэнтаваць увесь беларускі народ.

Ад гэтага часу канчаткова аформіўся раскол сярод беларускай эміграцыі. Адныя сталі на бок Рады БНР, другія БЦР. Прыхільнікі Астроўскага даводзілі пра нелегітымнасьць адноўленай Рады БНР, спасылаючыся на пастановы Бэрлінскай Канфэрэнцыі (1925 г.), дзе прэм’ер–міністар Аляксандар Цьвікевіч абвясьціў пра самароспуск Рады БНР і пераказаньне паўнамоцтваў Ураду БССР. Прыхільнікі Рады БНР абвінавачвалі БЦР у супрацоўніцтве зь нямецкімі акупантамі. Нягледзячы на тое, што абедзьве Рады выступалі за вольную і незалежную Беларусь і збольшага прапаноўвалі тыя самыя рэцэпты для дасягненьня мэты, яны былі разьведзеныя па розныя бакі барыкадаў.

Гэты раскол паўплываў на эміграцыйнае жыцьцё беларусаў. Заміж супольных сьвятаў і імпрэзаў ладзіліся паасобныя мерапрыемствы. Гэта тычылася амаль усіх краінаў, дзе асела беларуская эміграцыя: Нямеччыны, Вялікабрытаніі, ЗША, Канады, Аўстраліі… І без таго кволая беларуская эміграцыя была вымушаная абіраць той ці іншы лягер. Газэты, кантраляваныя Радай БНР, даводзілі сваю праўду, выданьні БЦР — сваю.

Падзел быў ня толькі па восі БНР—БЦР, дзяліліся на праваслаўных і каталікоў, праваслаўныя дзяліліся між сабой, згодна царкоўнай юрысдыкцыі і прыхільнасьцям і т.д. Юрка Віцьбіч тады заўважыў: *„Беларус беларусу — воўк“*.

Эмігранты жылі ня толькі падзеламі. У 1945—1949 гг. у Нямеччыне было створана багата беларускіх арганізацыяў, не зважаючы на палітычныя падзелы ды рэлігійныя прыхільнасьці: Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў, Аб'яднаньне Беларускіх Лекараў на Чужыне, Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне, Цэнтраль Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў, Беларускае Праваслаўнае Аб'яднаньне, Ліга Палітычных Вязьняў, Перасяленчае Таварыства, колькі скаўцкіх арганізацый[10]. Трэба было вучыць падрастаючае пакаленьне, якое мусіла ў будучыні замяніць „старых" (і пасьпяхова ў далейшым замяніла). У лягерах былі арганізаваныя школы, дзе настаўнічалі, з–за адсутнасьці вышэйшых навучальных установаў, лепшыя выкладчыцкія кадры. Найбольш вядомая — Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, закладзеная ў Рэгенсбургу, а потым памяняўшая некалькі адрасоў: Міхэльсдорф — Віндзішбэргердорф — Розэнгайм.

Пакрысе было наладжанае і культурніцкае жыцьцё на эміграцыі. 9 красавіка 1946 г. у Міхэльсдорфе з ініцыятывы Юркі Віцьбіча і Натальлі Арсеньневай было заснаванае літаратурнае аб'яднаньне „Шыпшына".

*„Недзе над шпаркаю Дзьвіною, а можа над ціхаю Ясельдаю схілілася шыпшына. Восень абскубе зь яе лісьце, але нават зіма ня здолее абдзерці зь ейных галінак чырвоныя ягады. Нібы паходня, гарыць яна над закутай ракой. Увясну падмінае пад сябе шыпшыну крыгаход. І здаецца, як зьнікае паміж жорсткімі жорнамі зерне, таксама зьнікне і яна паміж важкімі крыгамі. Але сплыве паводка і гордая расьліна зноў выпраствае свой стан.*

*Хто адважыцца ўзяць шыпшыну галаруч? Сотні дзідаў бароняць яе ад ворагаў. І нарэшце паміж дзідамі і лісьцем зьяўляюцца адна за адной чырвоныя кветкі. Яны нагадваюць сьвятую кроў суродзічаў, што аддалі ці аддадуць яе да апошняй кроплі за Беларускі Народ.*

*Беларускае Літаратурнае Згуртаваньне „Шыпшына", якое стварылася 9 красавіка 1946 г. у Рэгенсбургу, мае за мэту:*

*1) згуртаваць беларускіх актыўных і творча–дасьпелых пісьменьнікаў — паэтаў, белетрыстых, драматургаў і крытыкаў, што знаходзяцца на эміграцыі;*

*2) працаваць над стварэньнем вялікай літаратуры, годнай нашага вялікага народу.*

*„Шыпшына" стаіць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў, але для ейных сяброў зьяўляецца абавязковым крытэры высокай мастацкасьці літаратурнага твору, імкненьне да ідэёвае насычанасьці і арыгінальнасьці, глыбокая пашана да нашае літаратурнае спадчыны і пачуцьцё спадкаемства да ўсяго лепшага ў ёй, узаемная пашана да творчасьці адзін аднаго, а ў галіне ідэёвай самаахвярная адданасьць Найвышэйшаму Ідэалу нашага Народу. „Шыпшына" заклікае братоў–пісьменьнікаў далучыцца да яе, каб супольна тварыць на карысьць нашае Маці–Беларусі.*

*Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Мікола Вярба, Янка Золак, Хвёдар Ільляшэвіч, Аўген Кавалеўскі, Уладзімер Клішэвіч, Алесь Салавей, Масей Сяднёў, Уладзімер Сядура, Анатоль Чэслаўскі"*[11].

„Шыпшына" (такую ж назву займеў і літаратурны часопіс) згуртавала літаратурныя сілы, расьцярушаныя па Нямеччыне ды ўсёй Заходняй Эўропе, і сталася першай прыступкай для ўзьнікненьня будучых творчых арганізацый. У Нямеччыне выдаваліся „Ведамкі", „Зьвіняць званы сьвятой Сафіі", „Крывіцкі сьветач", распаўсюджваліся выданыя ў Парыжы „Беларускія навіны". Ад кастрычніка 1947 г. у Мюнхэне распачалося выданьне газэты „Бацькаўшчына", якая на нейкі час стала асноўным пэрыёдыкам на эміграцыі.

Здавалася, беларусы ў Нямеччыне зажылі паўнавартасным, калі можна так казаць пра выгнаньніцкія рэаліі, жыцьцём. Аднак пачатак эканамічных рэформаў у 1948—1949 гг. і спыненьне *IRO* ад 1950 г. фінансаваньня ДП–лягераў прымусіла *displaced persons* пакінуць Нямеччыну. Яшчэ ад 1945 г. першай краінай, абранай для эміграцыі, сталася Вялікабрытанія, дзе пасяліліся тысячы жаўнераў–беларусаў польскіх збройных сілаў. Зь Нямеччыны ехалі ў Францыю, Бэльгію, найчасцей у Канаду, ЗША, Аргентыну, Аўстралію. Тыя, хто ваяваў у беларускіх вайсковых антыкамуністычных фармацыях імкнуліся паехаць як найдалей ад СССР, у Паўдзённую Амэрыку і Аўстралію.

Кожная зь пералічаных арганізацыяў, плыняў, жыцьцё беларускай дыяспары ў розных краінах заслугоўвае асобнай кнігі, бо мэнталітэт беларусаў ЗША розьніцца ад нашых „канадыйцаў", „брытанцаў", „аўстралійцаў" ці „аргентынцаў". Нью Ёрк, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Таронта, Вініпэг, Манрэаль, Лёндан, Манчэстэр, Брэдфард, Лювэн, Буэнас Айрэс, Сыднэй, Мэльбурн, Адэляіда — найбольш значныя аселі беларускіх эмігрантаў.

## IV

На жаль, да гэтага часу няма кнігі, якая б апісвала грунтоўна гісторыю паваеннай беларускай эміграцыі. Крыніцамі для вывучэньня служыць прэса. Найбольш тыражнымі выданьнямі былі „Бацькаўшчына", што выдавалася ў 1947—1967 гг. у Мюнхэне, і „Беларус", выдаваны ў 1950—2000 гг. у Нью Ёрку. Пра жыцьцё эміграцыі можна даведацца з выданьняў „Беларускія навіны" (Парыж, 1945—1948), „Ведамкі" (Рэгенсбург, 1946—1947), „Беларус на чужыне" (Лёндан, другая палова 40–х), „Беларуская трыбуна" (Нью Ёрк—Саўт Рывэр, 1950—1953), „Беларускі голас" (Таронта, 1953—1993), „Беларускае слова" (Заходняя Нямеччына, 1948—1956), „За волю" (Парыж, 1951—1954), „Беларускі эмігрант" (Таронта, 1948—1954), „Зважай" (1974—1998). Выданьні, прысьвечаныя рэлігійнаму жыцьцю: „Беларуская думка" (Саўт Рывэр, выдаецца ад 1960 г.), „Божым шляхам" (Парыж—Лёндан, 1947—1980), „Зьніч" (лацінкай, Рым, 1950—1975), „Голас царквы" (Нью Ёрк, выдаецца ад 1965 г.) „Беларуская царква" (Чыкага, 1956—1965), „Голас часу" (Лёндан, выдаецца з 1989 г.). Ад 1952 г. выдаюцца „Запісы Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва", якія сярод іншага зьмяшчаюць дасьледчыцкія артыкулы пра розныя бакі жыцьця дыяспары.

Першай кнігай па гісторыі беларускай эміграцыі была манаграфія амэрыканскага дасьледчыка Нікаласа Вакара „Belorussia: The Making of a Nation" (Cambridge. Massachussets, 1956). Кніга выклікала нараканьні ў асяродку беларускіх выгнанцаў, бо аўтар паставіў пад сумненьне правільнасьць дзеяньняў беларускіх дзеячоў па вайне і сьцьвердзіў пра слабасьць нацыянальнай эміграцыі.

Алесь Вініцкі дасьледваў дзейнасьць беларусаў у Нямеччыне[12]. Ён падрабязна спыніўся на падзеях 1939—1945 гг., праблеме рэпатрыяцыі і жыцьці ў ДП–лягерах; кніга напісаная на падставе перапіскі зь дзеячамі, што бралі ўдзел у тых падзеях, то бок зь першых вуснаў.

Эміграцыйнае жыцьцё ў Нямеччыне ў 40–х гг., аспэкты далейшага канфлікту між БЦР і Радай БНР, рэлігійную дзейнасьць раскрыў Іван Касяк у сваёй працы „Другая сусьветная вайна і паваенны час“, надрукаванай разам з працай Язэпа Найдзюка „Беларусь учора і сяньня“[13]

Дасьледаваньнем жыцьця беларусаў у ЗША займаўся Вітаўт Кіпель. А ягоную працу „Беларусы ў ЗША“ можна назваць энцыкляпэдыяй беларускага жыцьця ў Злучаных Штатах[14]. Паваеннай беларускай эміграцыі прысьвечаны нарыс Аўгена Калубовіча „Нашы папярэднікі“[15]

Беларуская дыяспара ў Канадзе знайшла сваё адлюстраваньне ў працах Вінцэнта і Раісы Жук–Грышкевічаў, Яна Садоўскага і дасьледчыка Джона Кайе[16]. Жыцьцё беларусаў Аргентыны асьвятляецца ў працах Кастуся Мерляка (псэўд. Конрад Мацкевіч)[17]. Тыя, хто цікавіцца культурным і літаратурным жыцьцём беларускай эміграцыі, шмат карыснага знойдзе ў зборніку Лявона Юрэвіча „Камэнтары“[18]. Пры адсутнасьці гістарычных працаў для вывучэньня беларускага жыцьця на чужыне, найперш у Канадзе, Аўстраліі, Бэльгіі, Нямеччыне, можна выкарыстоўваць і мэмуарную літаратуру[19].

Беларускія савецкія гісторыкі глядзелі на эміграцыйнае жыцьцё праз ідэалягічныя акуляры, і, адпаведна, кнігі складаліся з абвінавачваньняў у „махровым нацыяналізьме“ і антысаветызьме. Дастаткова толькі згадаць назвы кніг: „Саўдзельнікі ў злачынствах“ Васіля Раманоўскага, „Жывыя прывіды“ Алеся Бажко. У гэтым жа рэчышчы напісаў кнігу „Беларускі сакрэт“ амэрыканскі юрыст Джон Лофтус, дзе абвінавачваў беларускіх эмігрантаў у генацыдзе беларускага народу ў часе апошняй вайны. За савецкім часам шмат зрабіла для ганьбаваньня эмігрантаў новай, ды і старой хвалі газэта „Голас Радзімы“. Нават Барыс Сачанка ў сваёй кнізе „Сьняцца сны аб Беларусі“, выдадзенай напрыканцы „перабудовы“, ня здолеў адысьці ад старых штампаў, і вінаваціў герояў сваёй кнігі ў супрацоўніцтве з фашыстамі[20].

Нармалёвае вывучэньне беларускай эміграцыі ў Беларусі пачалося толькі з пачатку 90–х. Артыкулы, што тычацца эміграцыі, пачалі ўключацца ў падручнікі па гісторыі для вышэйшых навучальных установаў і школаў. Аднак, за выключэньнем некаторых публікацый[21], большасьць беларускіх дасьледчыкаў, маючы слабую базу крыніцаў і мэтадалёгіі, займаюцца паўтарэньнем ужо зробленага на эміграцыі.

V

Большасьць падзеяў, апісаных у „Хроніцы“ Міколы Панькова, спачатку адбываліся ў Нямеччыне: сьвяткаваньні, імпрэзы, мэмарандумы. З часам беларускае жыцьцё зьмясьцілася ў ЗША, Канаду, Аргентыну, Аўстралію, Вялікабрытанію. Ад канца 50–х гг. актыўна стала дзейнічаць маладое пакаленьне. Выдаюцца ня толькі часопісы, газэты, але і кнігі. „Маладзейшыя“, зарабіўшы грошы, засноўвалі беларускія дамы адпачынку, набывалі памяшканьні для цэркваў. Гэткім жа чынам былі створаныя Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва і Скарынаўская бібліятэка ў Лёндане.

Мікола Панькоў, нягледзячы на прыхільнасьць да Рады БНР, а пасьля да Камітэту Незалежнай Беларусі, паспрабаваў сумленна занатаваць усе падзеі, што адбываліся на эміграцыі. Аднак ня ўсё ўдалося, частка падзеяў сьвядома замоўчана, пра штосьці Панькоў папросту ня ведаў.

Адметнасьць гэтага выданьня — увядзеньне ва ўжытак сотні новых імёнаў беларускіх эмігрантаў. Пайменны паказальнік налічвае больш за 1900 асобаў, у большасьці невядомых раней шараговых жаўнераў беларушчыны. У арыгінале „Хронікі“ амаль не было імёнаў — Мікола Панькоў пазначаў толькі прозьвішчы зь ініцыяламі. Рэдактар кнігі паспрабаваў „расшыфраваць“ імёны, але, на жаль, гэта не ўдалося зрабіць цалкам.

Дзесьці Панькоў памыляўся ў падзеях і датах, аднак каштоўнасьць кнігі ў тым, што да М. Панькова ніхто не займаўся падрабязным натаваньнем падзей беларускай эміграцыі. Рукапіс абрываецца на лістападзе 1984 г., на адзначэньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня — у 73–гадовым узросьце цяжка сачыць за ўсімі падзеямі, тым больш, калі праца незапатрабаваная.

Кніга станецца адмысловым помнікам Міколе Панькову і верне імя, амаль невядомае ў Беларусі. Апрача таго, будзем спадзявацца, што „Хроніка беларускага жыцьця на чужыне“ паслужыць базай для напісаньня дасьледаваньняў па гісторыі беларускай эміграцыі, ці нават складаньня ейнай энцыкляпэдыі.

*Алег Гардзіенка*

[1] Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Пер. з польскай В. Ждановіч. Мінск, 1993. С. 192.
[2] Ліст д–ра Вітаўта Тумаша да Алеся Вініцкага ад 5 жніўня 1968 г. Захоўваецца ў прыватным архіве А. Гардзіенкі.
[3] Вініцкі А. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Менск, 1994. С. 63—64.
[4] Ліст Леаніда Галяка да Алеся Вініцкага ад 9 кастрычніка 1966 г. Захоўваецца ў прыватным архіве А. Гардзіенкі.
[5] Максімюк Я. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. 1945—1950. Нью Ёрк—Беласток, 1994. С. 28.
[6] Ліст айца Лява Гарошкі да Алеся Вініцкага ад 24 траўня 1965 г.
[7] Ліст Леаніда Галяка да Алеся Вініцкага ад 28 верасьня 1966 г. Захоўваецца ў прыватным архіве А. Гардзіенкі.
[8] Максімюк Я. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы... С. 83.
[9] Вініцкі А. Матар’ялы да гісторыі... С. 95.
[10] Вініцкі А. Матар’ялы да гісторыі... С. 91
[11] Шыпшына. №2, 1946 г.
[12] Вініцкі А. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Т. I—III. Лёс Анджэлес, 1968.
[13] Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Менск, 1993.
[14] Kipel V. Byelorussian Past and Present in America //Byelorussian Times. New York. 1978. №16—18; The early Byelorussian presence in America // Запісы. 17. Нью Ёрк, 1983. С. 113—131; Kipel V. Byelorussians in New Jersey. New Brunswick, 1964—1965; Byelorussian Americans and Their Communities of Cleveland. Cleveland, 1982; Byelorussians in the United States // Ethnic Forum, 1989. Vol. 9. №1—2; Кіпель В. Беларусы ў ЗША. Менск. 1993.

